## ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ ІНСТЫТУТУ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР

## 1950—1960

У 1950 г. 8 ліпеня група ў складзе васьмі вучоных эмігрантаў з Савецкага Саюзу сустрэлася ў Мюнхэне й зарганізавала Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР, перайменаваны пасьлей у Інстытут вывучэньня СССР. У сьнежані таго-ж году Інстытут быў легалізаваны як карпарацыя вучоных у Нямеччыне.

Асноўнай мэтай Інстытуту ў часе яго арганізацыі было кіраваць як дасьледваньнем тэорыі й практыкі розных відаў дзяржаўнага й грамадзкага парадку ў СССР, так і дасьледваньнем праблемаў народаў, што ўваходзяць у яго склад.

Для ажыцьцяўленьня гэтае праграмы трэба было арганізаваць бібліятэку, пашырыць штат супрацоўнікаў, кіраваць навуковымі дасьледваньнямі, падтрымліваць кантакты з іншымі навуковымі арганізацыямі, наладжваць канфэрэнцыі, падрыхтоўваць і пашыраць публікацыі — агулам рабіць усё, каб забясьпечыць сьвет, што знаходзіцца вонках савецкага ўплыву, а таксама ў магчымай ступені й савецкі сьвет, надзейнымі інфармацыямі адносна падзеяў у Савецкім Саюзе.

Пад кіраўніцтвам першага дырэктара Інстытуту Барыса А. Якаўлева было знойдзена скромнае памешканьне на Augustenstr. 46, быў падабраны невялікі штат супрацоўнікаў для дасьледвальнай і канцылярскай працы ў колькасьці 12 чалавек ды было пачатае камплектаваньне бібліятэкі, якая ў сакавіку 1951 году налічвала 119 кніжак, а таксама было праведзена некалькі публічных лекцыяў. У 1951 г. Інстытут зарганізаваў канфэрэнцыю на тэму мэтадаў вывучэньня Савецкага Саюзу, а пасьля выдаў даклад аб канфэрэнцыі, сем маленькіх брашураў, і першы выпуск інстытуцкага «Весьніка».

З гэтых малых пачаткаў Інстытут да дня свайго дзесяцігодзьдзя ў ліпені 1960 г. вырас у моцна зарганізаваную дасьледвальную ўстанову. У

меру яе пашырэньня колькасьць сяброў узрасла да 46, а для вядзеньня навуковай дзейнасьці была створана Навуковая Рада.

Першым старшынём Навуковай Рады быў праф. Барыс Н. Мартос, пасьля яго — сп. Мірза Бала й др. Станіслаў Станкевіч. Наступнікамі сп. Якаўлева, як дырэктара, быў праф. Уладзімер С. Мерцалаў і др. Генадзі Э. Шульц.

У 1956 г. Інстытут быў пераведзены ў больш прасторны будынак на Mannhardtstr. 6, які ён займае й цяпер. Асноўныя мэты й дзейнасьць Інстытуту засталіся тыя самыя, што іх паставілі перад сабой у свой час яго фундатары, аднак сфэра яго працы значна пашырылася за пэрыяд яго дзесяцігадовага йснаваньня.

Бібліятэка складаецца галоўным чынам з савецкіх крыніц, налічвае цяпер 45 000 томаў і зьяўляецца аднэй з найбольш буйных бібліятэк Эўропы, што спэцыялізуюцца на савецкіх крыніцах.

Для наведвальнікаў, што займаюцца дасьледвальнай працай, ахвотна даецца дазвол карыстацца бібліятэкай. Ёю карыстаюцца ня толькі дасьледвальнікі Інстытуту, але таксама навукоўцам зь іншых краінаў даецца магчымасьць карыстацца ейнымі крыніцамі тэрмінам ад некалькіх дзён да сэмэстру.

На працягу дзесяцігадовае гісторыі свайго йснаваньня Інстытут разьмясьціў і падрыхтоўваў штат, які вырас зь першапачатковае групы 12 чалавек да 70 чалавек, у асноўным эмігрантаў, якія ведаюць жыцьцё ў Савецкім Саюзе асабіста. Веданьне моваў і крыніцаў матар'ялаў вывучаней імі галіны робяць іх асабліва кваліфікаванымі дасьледнікамі ў гэтай адумысловай сфэры іхнай дзейнасьці.

Штат супрацоўнікаў Інстытуту дапаўняецца некалькімі сотнямі сталых няштатных супрацоўнікаў-навукоўцаў эмігрантаў, раськіданых па ўсім сьвеце вонках Савецкага Саюзу.

Галіна дасьледвальнай дзейнасьці пашырылася й із збольшаньнем дасьветчаньня 17 сяброў штату дасьледнікаў у стане сяньня вясьці бягучае вывучэньне шматлікіх найбольш важных аспэктаў жыцьця ў Савецкім Саюзе. У дапаўненьне да дасьледвальнай працы, праводжанай штатам, Інстытут стаўся настолькі ведамым сярод навукоўцаў эмігрантаў, што ён кажны год атрымоўвае сотні манускрыптаў звонку. Кантакт зь іншымі навуковымі ўстановамі ўзрос на працягу апошнім гадоў, асабліва пасьля таго, як навукоўцы пазнаёміліся зь бібліятэкай Інстытуту і яго дасьледвальным штатам, прыймаючы ўдзел у канфэрэнцыях Інстытуту.

Інстытут вядзе ў шырокім маштабе карэспандэнцыю з навукоўцамі, журналістымі й іншымі асобамі, якія чытаюць яго публікацыі. Сябры інстытуцкага штату, што займаюцца дасьледваньнямі, стала прыймаюць удзел у канфэрэнцыях на савецкія тэмы, арганізаваных іншымі навуковымі ўстановамі. Сам Інстытут правёў дванаццаць больш важных канфэ-

рэнцыяў, уключаючы рэгулярныя гадавыя канфэрэнцыі ў Мюнхэне, адумысловую канфэрэнцыю й дзьве канфэрэнцыі ў Нью Ёрку.

Тэмы канфэрэнцыяў былі самыя розныя — ад мэтадаў дасьледваньня савецкай рэальнасьці да такіх спэцыфічных тэмаў, як «Дваццаты партыйны зьезд і савецкая запраўднасьць», або больш шырокіх тэмаў такіх як «Сорак год Савецкага рэжыму» ці «Праблемы савецкай вонкавай палітыкі». Працы канфэрэнцыяў публікуюцца на ангельскай і расейскай мовах. Публікацыя вынікаў інстытуцкіх дасьледваньняў ажыцьцяўляецца, галоўным чынам, у пэрыядычных выданьнях і манаграфіях, публікаваных самым Інстытутам ці супольна з аўтарытэтнымі выдавецтвамі. Гэтая выдавецкая дзейнасьць дайшла да вялікіх памераў на працягу апошніх дзесяці год.

Бюлетэнь, выдаваны шосты год на ангельскай мове зь вялікім пашырэньнем яго ўва ўсім сьвеце, публікуе кароткія аўтарытэтныя артыкулы аб бягучым разьвіцьці падзеяў у Савецкім Саюзе.

Іншыя інстытуцкія пэрыядычныя выданьні зьяўляюцца на ангельскай або такіх іншых мовах як арабская, турэцкая, нямецкая, француская і (у стадыі падрыхтоўкі) гішпанская; выдаюцца яны, каб ахапіць большую колькасьць асобаў у розных частках сьвету, якія цікавяцца атрымаць надзейны матар'ял аб Савецкім Саюзе, і для якіх ангельская мова не зьяўляецца роднай мовай.

Агляды, прысьвечаныя паасобным падзеям, выдаюцца на расейскай, або на аднэй з больш важных моваў Савецкага Саюзу для выкарыстаньня іх навукоўцамі эмігрантамі або неэмігрантамі, для якіх важна чытаць матар'ялы дасьледваньняў у арыгінале.

Пэрыядычныя выданьні, якія насьвятляюць галоўным чынам агульныя савецкія праблемы, дапаўняюцца больш спэцыфічнымі аглядамі такіх паасобных краін і народаў як Украіна, Беларусь, народаў Каўказу, народаў савецкага Туркестану й Ідэль-Уралу, галоўным чынам магамэтанаў.

Публікацыя манаграфічных дасьледваньняў і даведнікаў таксама разьвіваецца. Каля 50 надрукаваных кніжак і 75 манаграфічных дасьледваньняў былі апублікаваныя на працягу мінулага дзесяцігодзьдзя, уключаючы такую больш важную даведніцкую працу як «Біяграфічны Даведнік для СССР» (на ангельскай мове) з больш чымся 2 000 біяграфіяў вядучых савецкіх асабістасьцяў.

Наступныя манаграфіі, выданыя Інстытутам, заслугоўваюць найбольш увагі: М. Мільлер — «Археалёгія ў СССР»; А. Лебедзь і Б. Якаўлеў — «Савецкія водныя шляхі»; А. фон Кульчыцкі — «Марксістоўска-савецкая канцэпцыя чалавека ў сьвятле заходня-эўрапэйскай псыхалёгіі»; А. Адамовіч — «Апазыцыя саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917—1957)»; Галубнічы — «Статыстычны даведнік прамысловай прадукцыі Украіны»; «Генацыд у СССР»; і А. Аўтарханаў — «Сталін і савецкая камуністычная партыя».

Дзьве карысныя ўслугі для журналістых і іншых публіцыстых прыносяць тыднёвік «Аналіз бягучых падзеяў у СССР» (на ангельскай і расейскай мове) і выданьне, якое выходзіць два разы на месяц — «Партрэты перадавых асабістасьцяў у Савецкім Саюзе» (на нямецкай мове).

Публікацыі Інстытуту шырока цытуюцца, перадрукоўваюцца й рэцэнзуюцца.

На аснове дзесяцігадовага дасьветчаньня Інстытут глядзіць наперад у наступнае дзесяцігодзьдзе зь верай, што яго ўклад у пазнаньне падзеяў, якія адбываюцца ў Савецкім Саюзе й далей будзе каштоўны.

*Г. Паланевіч*

# *Нацыянальная тэорыя й практыка бальшавізму ў Беларусі*

## УВОДЗІНЫ

Агульныя прынцыпы бальшавіцкай інтэрпрэтацыі нацыянальнай праблемы, тарнаваныя да ўсіх народаў, у васноўным аднолькавыя. Мяняліся толькі мэтады тарнаваньня гэтых прынцыпаў у залежнасьці ад розных канкрэтных этапаў разьвіцьця дадзенага народу й самога бальшавізму.

У сувязі з гэтым і агульны тэарэтычны падход бальшавізму да разьвязаньня нацыянальнага пытаньня зь яго практычнай палітыкай, сфармуляваны ў розных выказваньнях г. зв. «клясыкаў марксізму-ленінізму» й практычных дзеячоў бальшавізму, павінен знайсьці належнае асьвятленьне ў уступе да гэтае працы.

Нам трэба асьвятліць па магчымасьці паўней дачыненьні бальшавізму да беларускага пытаньня й нацыянальную палітыку бальшавікоў у Беларусі, як часьць канкрэтных зьяваў вышэй паказанага агульнага прынцыпу.

У сучасны мамэнт у БССР пануе афіцыяльная тэорыя аб тым што камуністычная партыя і ўрад РСФСР, «улічваючы векавыя імкненьні беларускага народу, вялі вялізарную работу ў кірунку падгатаваньня да стварэньня БССР [1], а ўся гісторыя бальшавізму ў Беларусі, згодна з гэтай тэорыяй, зьяўляецца «гісторыяй змаганьня беларускага народу пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі Леніна-Сталіна за ўтварэньне й замацаваньне ўзапраўды незалежнай беларускай савецкай дзяржаўнасьці», а не «гісторыяй змаганьня бальшавізму за ўстанаўленьне й умацаваньне сваей кантролі над Беларусяй»,[2] як гэта было ў запраўднасьці.

У запраўднасьці-ж, яшчэ да рэвалюцыі 1917 году «бальшавізм наагул у прынцыпе й фактычна адразу-ж заняў пазыцыю палітыкі дэнацыяналізацыі, канкрэтна — русыфікацыі, сфармуляваную Ленінам ... (ліст да Шаўмяна з 1913 г.) [3].

---

[1] В. А. Кикоть. Вступление БССР в состав СССР. «Известия Академии Наук БССР», № 1, 1954, бач. 4.

[2] Н. Недасек. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Мюнхэн, 1954, б. 7.

[3] Тамсама, б. 121.

РСДРП, фракцыяй якой зьяўляўся бальшавізм, аж да свайго IV зьезду (красавік 1906 г.) у практыцы ў дачыненьні да Беларусі карысталася «выключна афіцыяльнай адміністрацыйнай тэрміналёгіяй, якая прызнавала толькі Северо-Западный Край» і навет у дачыненьні да партыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады доўгі час трымалася вельмі агрэсыўна, апрача гэтага, «ня прызнавала ўжываньня беларускае роднае мовы й трымалася пагляду, які адкідаў фэдэральны лад» [4].

Фактычнае афармленьне бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі й практыкі ў Беларусі пачалося пасьля рэвалюцыі 1917 году ў Расеі, калі бальшавізм лоб у лоб сутыкнуўся зь беларускім нацыянальна-вызвольным рухам.

25 сакавіка 1917 г. у Менску адбыўся зьезд беларускіх нацыянальных арганізацыяў і партыяў. Аснаўным заданьнем зьезду было пытаньне дзяржаўнасьці Беларусі. Зьезд выказаўся за рэспубліканска-дэмакратычны лад у Беларусі, якая павінна была ўвайсьці ў склад Расейскай фэдэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі на прынцыпе аўтаноміі. Зьезд выбраў дэлегацыю для ўстанаўленьня дачыненьняў Часовага расейскага ўраду да пытаньня дзяржаўнасьці Беларусі. У пачатку з дэлегацыяй не хацелі навет гаварыць, але калі прыйшло да перагавораў, Часовы ўрад нічога канкрэтнага не сказаў, ссылаючыся на тое, што будучае ўстаноўчае Сабраньне займецца разьвязаньнем нацыянальнага пытаньня. Адмова Часовага ўраду ад выразнай пазыцыі ў пытаньні дзяржаўнай будучыні беларускага народу нацыянальнымі арганізацыямі й партыямі Беларусі была ўспрынятая як нежаданьне браць на ўвагу нацыянальных патрабаваньняў.

Зьезд выбраў Беларускі Нацыянальны Камітэт, як кіруючы нацыянальны ворган. Стварэньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту «было небясьпечным для бальшавікоў, — гаварыў ведамы нацыянал-камуністы А. Чарвякоў, пазьнейшы даўгалетні старшыня ЦВК БССР, — дзеля наступных прычынаў:

> «1. Камітэт адразу заявіў, што ён абараняе агульна-беларускія інтарэсы і зьяўляецца прадстаўніком усяго беларускага народу, ад імя якога ён усюды пачаў даваць свае заявы.
>
> 2. Існуючыя ў Беларусі агульна-расейскія буржуазна-дэмакратычныя арганізацыі праводзілі й пасьля рэвалюцыі старую чыста расейскую палітыку ў Беларусі, лічучы Беларусь «Северо-Западным Краем». Гэта давала ў рукі Беларускага Камітэту козыр, так як ён мог паказваць на новыя рэвалюцыйныя расейскія элементы й цьвердзіць, што пакуль Беларус, як Беларус, ня возьмецца сам за справу свайго жыцьця, яму нічога не чакаць ад Расейцаў.
>
> 3. Сярод камуністых, працуючых у Беларусі ў першы час рэвалюцыі, было вельмі мала мясцовых элемэнтаў, і гэта давала магчымасьць нацыяналістычным элементам абараняць сваю нацыянал-дэмакратычную плятформу, цьвердзячы, што з бальшавікамі не па дарозе, яны чужыя ў Беларусі, ня ведаюць умоваў жыцьця, патрабаваньняў і г. д. беларускага насельніцтва й дзеля гэтага ня могуць правільна кіраваць далейшым развіцьцём Беларусі . . . » [5].

На другім нацыянальным зьезьдзе 8—12 ліпеня Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску ў ролі кіруючага краёвага нацыянальнага цэнтру быў заменены Цэнтральнай Радай Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў, а на сваей

---

[4] Протоколы конференции национально-социалистических партий 16-20 апреля 1907 г., СПБ, 1908, б. 95.

[5] А. Червяков. За советскую Белоруссию, Менск, 1927, б. 33.

другой сэсіі 14—25 кастрычніка 1917 г. Рада перайменавалася ў Вялікую Беларускую Раду [6]. Да яе прылучылася й Цэнтральная Беларуская Ваенная Рада, створаная ў сярэдзіне кастрычніка на нацыянальных салдацкіх зьездах. Такім чынам, слабыя яшчэ тады й чужыя бальшавіцкія сілы сутыкнуліся з моцным нацыянальным праціўнікам.

Сутычка мясцовага бальшавізму зь беларускім нацыянальным рухам моцна праявілася ў галіне распаўсюджаньня свайго ўплыву на аснаўную масу беларускага народу — на сялянства. Ужо на першым сялянскім зьездзе Менскай губэрні, «калі на яго паседжаньні было закранутае нацыянальнае пытаньне, прэзыдыюм зьезду (зьездам кіравалі староньнікі бальшавізму) пастараўся перад сялянскай масай скампрамітаваць беларускі рух і спыніць яго абмеркаваньне. Падобныя выпады супраць Беларусаў былі й на Віцебскім губэрнскім зьезьдзе сялянскіх дэпутатаў».[7]

Бальшавіком удавалася ўплываць на сялянства, карыстаючыся дэмагагічнымі патрабаваньнямі безадкладнага й самачыннага разьдзелу зямлі, не чакаючы на Ўстаноўчае сабраньне, але бальшавікі не даацэньвалі ў той час нацыянальнага мамэнту, і ў гэтым кірунку, паводля прызнаньня В. Кнорына, «зь беларускім пытаньнем у пачаткавую пару ягонага існаваньня наша партыя ня справілася» [8]. Н. Недасек у сваей працы «Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией» паказаў, што «ні беларускай работай, ні хаця-бы нацыянальнай беларускай дэмагогіяй армейскі захфронтаўскі бальшавізм зусім не займаўся. Яго варожыя напады на беларускі рух, як на быццам «панскую інтрыгу», толькі паўтараючыя афіцыяльную дарэвалюцыйную ацэну таго-ж руху, як «польскай інтрыгі», і фактычна русыфікацыйная практыка толькі ўмацоўвалі пазыцыі беларускіх арганізацыяў, калі не для беспасярэднай сучаснасьці, бык для бліжэйшай будучыні».[9] Кнорын намагаецца згладзіць русыфікацыйную практыку бальшавізму спасылкай на тое, што летам 1917 г. ад імені Менскага Савету было выпушчана цэлы рад заклікаў на беларускай мове, але Н. Недасек спасылку гэтую адкідае той акалічнасьцяй, што «ні музэі, ні памяць сучасьнікаў не захавалі чамусьці тут проста нічога».[10] Калі навет дапусьціць, што падобныя заклікі на беларускай мове й існавалі, дык гэта яшчэ анічуць не абазначала-б, што бальшавікі былі тады зацікаўленыя ў пазытыўным для беларускага народу разьвязаньні ягоных нацыянальных імкненьняў.

> «. . . у 1812 годзе і француское камандаваньне, — як правільна заўважвае А. Чарвякоў, — і расейскі ўрад пісалі заклікі да беларускага сялянства пабеларуску, каб гэтым лягчей прыцягнуць на свой бок сялян. Тое самае было й у часы паўстаньня 1831, 1863 гадоў. У 1905 годзе расейскія ўрадавыя ўстановы выпусьцілі рад кніг, адозваў і інш. на беларускай мове» [11],

але гэта не перашкаджала праводзіць русыфікацыі й адмаўляць існаваньня Беларусаў, як нацыі наагул. Навет і сам Кнорын вымушаны прызнацца, што

> «нязначнае распаўсюджаньне гэтых адозваў, адсутнасьць работнікаў у партыі, уладаючых беларускай мовай, прывялі да таго, што ў далейшым гэтая практыка была закінутая, і партыя зьярталася да

---

[6] Зборнік «Беларусь», выд. ЦВК БССР, Менск, 1924, б. 197.
[7] Тамсама, б. 185.
[8] Тамсама, б. 218.
[9] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 50.
[10] Тамсама, б. 49.
[11] А. Червяков. Цыт. праца, б. 69.

вёскі на працягу даўшэйшага часу амаль вылучна на расейскай мове. Дзякуючы гэтаму, на працягу году спэцыфічная беларуская праца праходзіла паміма партыі й сталася справай чужых для партыі элемэнтаў» [12].

«Чужымі» элемэнтамі для бальшавіцкай партыі былі беларускія нацыянальныя арганізацыі ў такой-жа ступені, як чужымі, наезнымі элемэнтамі ў Беларусі былі й самі бальшавікі. Гэта ўзноў такі пацьвярджае Кнорын, паказваючы, што «ў дробна-рамесьніцкім і мяшчанскім Менску, дзе ніколі бальшавіцкіх традыцыяў ня было, людзям закінутым зь Піцера й Масквы, адразу стварыць беларускую арганізацыю было вельмі цяжка» [13].

Бальшавіком цяжка было ня толькі стварыць сваю арганізацыю але й зразумець нацыянальныя імкненьні краіны, заўладаць якой яны намагаліся. Навет тады, калі ім удалося склікаць сваю першую партыйную канфэрэнцыю, дык і яе назвалі «Першай Паўночна-Заходняй Абласной Канфэрэнцыяй», дзе быў выбраны Паўночна-Заходні Абласны Камітэт РСДРП (бальшавікоў) [14]. Гэта быў адварот да царскай антыбеларускай тэрміналёгіі, на аснове якой Беларусь уважалася не як нацыянальная адзінка, але як геаграфічнае паняцьце вобласьці.

Бальшавізм у той час пранік у нацыянальны беларускі рух толькі вонках Беларусі. Нацыянальны рух пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ахапіў значныя масы ўцекачоў зь Беларусі ўва ўсіх буйнейшых мясцовасьцях іхнага расьсяленьня ў Расеі. Значная іх частка апынулася ў цэнтры ўсіх рэвалюцыйных падзеяў імпэрыі — у Петраградзе. Там, як ведама, дзеіла Беларуская Сацыялістычная Грамада. У радох Грамады, пад уплывам цэнтральнага бальшавізму, які заіграваў на нацыянальных пачуцьцях і ў вадарваньні ад беспасярэднага нагляду антынацыянальнай практыкі Захфронтаўскага бальшавізму ў краіне, паяўляюцца настроі «сваясаблівага беларускага нацыянал-бальшавізму» [15].

Другая канфэрэнцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая адбылася летам 1917 г. у Петраградзе, ужо выявіла гэтыя настроі, якія прывялі ў кастрычніку 1917 г. на 3-яй канфэрэнцыі да падзелу Грамады. Меншыня канфэрэнцыі прылучылася да бальшавікоў [16] і стварыла Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Работніцкую Партыю (бальшавікоў), якой кіраваў А. Чарвякоў. Як сьцьвярджае Н. Недасек,

> «Партыя гэтая й прадстаўляе сабой зараджэньне першай фармацыі беларускага нацыянал-бальшавізму . . ., праяўляць сваю дзейнасьць гэтая фармацыя пачынае ўжо ў пасьлякастрычніцкі пэрыяд, паклаўшы асновы беларускаму нацыянал-камунізму. Гэтаму зьявішчу было суджана ў рэзультаце расьцьвісьці ўжо й на груньце Беларусі і там-жа канчальна адцьвісьці й быць пахароненым» [17].

---

[12] Зборнік «Беларусь», б. 217.
[13] В. Кнорин. 1917 год в Белоруссии и на Западном Фронте, Менск, 1925, б. 19.
[14] Зборнік «Беларусь», б. 216.
[15] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 50.
[16] С. Агурский. Октябрь в Белоруссии. Менск, 1927, б. 131.
[17] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 51.

## АД КАСТРЫЧНІЦКАГА ПЕРАВАРОТУ ДА АБВЕШЧАНЬНЯ БНР

25-га кастрычніка паводля старога стылю, а 7-га лістапада паводля новага, бальшавікі захапілі ўладу ў Петраградзе. Даведаўшыся аб гэтым, бальшавіцкі прэзыдыюм Менскага савету 26-га кастрычніка выдае загад № 1, на аснове якога ўлада пераходзіць у іхныя рукі. У той-жа дзень творыцца Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт на чале зь Мясьніковам, як найвышэйшы ворган улады краіны й фронту. Нечаканасьць гэтага кроку прыводзіць у суматоху камандаваньне Заходняга фронту, якое прыймае бальшавіцкіх камісараў у якасьці кантралёраў. Калі-ж выясьнілася, што бальшавікі ня маюць ніякай ваеннай апоры, франтавы камітэт пры Галоўным камандаваньні паклікаў для змаганьня з Рэўкомам Камітэт ратаваньня рэвалюцыі. Тады бальшавікі ўнесьлі праект увайсьці ў склад Камітэту. Праект быў прыняты. Пад прыкрыцьцём гэтага Камітэту бальшавікі «зь бліскавічнай хуткасьцяй прадпрыймаюць крокі для здабыцьця неабходных ім узброеных сілаў».[18] 2-га лістапада для падтрыманьня Менскага савету прыбыў браніраваны цягнік і быў падцягнуты 60-ы Сібірскі полк. У гэты-ж дзень бальшавікі пакідаюць Камітэт выраватаваньня рэвалюцыі, аб'яўляючы змаганьне зь ім а вечарам, на паседжаньні Менскага савету, паўторна абвяшчаюць аб пераварoце. Франтавы камітэт скапітуляваў [19].

Беларускі народ у гэтых тыпова бальшавіцкіх мэтадах захопу ўлады г. зв. «рэвалюцыйным шляхам» ніякага ўдзелу ня прыймаў. Наадварот, беларускія арганізацыі, як Беларуская Сацыялістычная Грамада, Беларуская Народная Партыя Сацыялістых, Беларускі Выканаўчы Камітэт Заходняга Фронту, Часовая Цэнтральная Беларуская Ваенная Рада й Вялікая Беларуская Рада 27-га кастрычніка 1917 г. выдалі маніфэст п. н. «Грамата к Беларускаму Народу», дзе заклікалі:

> «У гэтыя дні нам неабходна ўзапраўды паказаць, што змучаная цярпеньнямі беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусьціць, каб гінула нашая сьвятая нацыянальная справа абароны вольнасьцяў і правоў беларускага народу... Задзіночвайцеся ў вадну згодную сям'ю вакол Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы заклікі нязгоды» [20].

Каб не дапусьціць да задзіночаньня Беларусаў у вадну згодную сям'ю, бальшавікі такім-жа «рэвалюцыйным шляхам», бяз удзелу беларускіх вайсковых часьцяў або беларускіх саветаў сялянскіх і работніцкіх дэпутатаў, у лістападзе 1917 г., на франтавым зьезьдзе салдат у Менску, творацъ Выканаўчы Камітэт Заходняй Вобласьці.

> «Гэтая арганізацыя ўзьнікла ў праціўвагу тэй арганізацыі, якая вырастала ў васобе Вялікай Беларускай Рады й мела тэндэнцыю захопу ўлады ў свае рукі з абвешчаньнем БНР» [21].

---

[18] Я. Менскі. Чаму й як была створаная Беларуская ССР. «Беларускі Зборнік № 1 Інстытуту Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1955, б. 12.

[19] Тамсама, б. 13.

[20] С. Агурский. Цыт. праца, б. 131—133; А. Зюзькоў Крывавы шлях беларускай нац.-дэмакратыі. Менск, 1931, б. 55.

[21] Е. Канчер. Белорусский вопрос. Петроград, 1919, б. 96.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 году, зьнішчыўшы царскае самадзяржаўе ў Расеі, дала моцны штуршок для нарастаньня й умацаваньня вызвольных імкненьняў ня толькі беларускага народу. Аднак усе народы ў васобе Часовага ўраду бачылі прадаўжэньне папярэдняй вялікадзяржаўніцкай палітыкі. Бальшавізм у сваей агітацыйнай практыцы стараўся выкарыстаць гэтае палажэньне, а прапагандуючы свой лёзунг «права нацыяў на самавызначэньне», імкнуўся выкарыстаць і нацыянальныя рухі, з тым, каб дасягнуўшы сваей мэты — устанаўленьня дыктатуры, улучыць у вадпаведную «інтэрнацыянальную супольнасьць і нацыянальныя рухі. Сваю тэорыю Ленін выясьняў наступным чынам:

> «... прызнаючы раўнапраўе й роўныя правы на нацыянальную дзяржаву, пралетарыят вышэй за ўсё цэніць і ставіць саюз пралетараў усіх нацыяў, ацэньваючы пад кутом гледжаньня клясавага змаганьня работнікаў усякае нацыянальнае патрабаваньне, усякае нацыянальнае аддзяленьне...
>
> Калі мы ня выставім і не правядзём у агітацыі лёзунга права на аддзяленьне, мы зыграем на руку ня толькі буржуазіі, але й фэадалам і абсалютызму прыгнятаючай нацыі...
>
> Палажэньне справы ставіць перад пралетарыятам Расеі дваякае або, правільней, двубаковае заданьне: змаганьне з усякім нацыяналізмам і ў першую чаргу з нацыяналізмам вялікарускім; вызнаньне ня толькі поўнага раўнапраўя ўсіх нацыяў наагул, але й раўнапраўя ў дачыненьні да дзяржаўнага ладу, г. зн. права нацыяў на самавызначэньне, на аддзяленьне; — а радам з гэтым, і іменна ў інтарэсах пасьпяховага змаганьня з кажным нацыяналізмам усіх нацыяў: абарона адзінства пралетарскага змаганьня і пралетарскіх арганізацыяў, цясьнейшага зьліцьця іх у інтэрнацыянальную супольнасьць наперакор буржуазным імкненьням да нацыянальнай адасобленасьці» [22].

Далёка йдучага значаньня Ленінскай «інтэрнацыянальнай супольнасьці» яшчэ тады не зразумелі да канца й беларускія нацыянал-камуністыя, якія ў значнай ступені спрычыніліся да стварэньня БССР. Для іх тады й быў зарганізаваны г. зв. Беларускі Нацыянальны Камісарыят (Белнацком) пры г. зв. Камітэце Нацыянальнасьцяў РСФСР, як «аддушына, куды ўліліся-б прабальшавіцка настроеныя беларускія элемэнты», дзеля таго што шырокі беларускі нацыянальны рух бальшавікі ўважалі « няспрыяльным сымптомам», апрача таго, бралася на ўвагу «паралізацыя дзейнасьці Вялікай Беларускай Рады, як нацыянальнай арганізацыі й расчышчэньне шляху для работы інтэрнацыяналу» [23]. Цытаваны тут аўтар Е. Канчар ачольваў тады г. зв. рух «абласьнікоў» (Беларускі Абласны Камітэт арганізаваўся із сяброў 1-га Ўсерасейскага Зьезду сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе), будучы праціўнікам аддзяленьня Беларусі ад Расеі, а так-жа й праціўнікам беларускага нацыянальнага руху, які гуртаваўся вакол Вялікай Беларускай Рады. Але ня быў ён.і асаблівым прыхільнікам бальшавікоў, «ня верыў у магчымасьць будаўніцтва сацыялізму» [24] дзеля таго, што будучы пасвойму патрыётам Беларусі, разумеў тады больш А. Чарвякова, што

> «... на аснове дэклярацыі (аб раўнапраўнасьці народаў у Расеі — Г. П.) дзяржаўная нацыя ў Расеі адмяняецца, а на ейнае месца становіцца канглямэрат, які ахоплівае сабою згрупаваньне нацыяў,

---

[22] В. И. Ленин. Собрание сочинений, т. XVII, выд. 3-яе, б. 473—474.
[23] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 97.
[24] А. Червяков. Цыт. праца, б. 36.

увасобленых працоўным народам. Запраўднасьць паказала, што навет у такім выпадку дзяржаўная нацыя ня зьнішчаецца і, такім чынам, ня зьнікае пытаньне нацыянальных меншыняў. Выясьняецца гэта тым, што сярод работнікаў і сялян, як і сярод кажнае клясы, ніколі й пры ніякіх умовах не замірае сьведамасьць сваей нацыянальнасьці [25].

Такая ўстаноўка Е. Канчара дае нам магчымасьць карыстацца ягоным сьветчаньнем аб падзеях таго часу з большым даверам, чымся бальшавіцкімі жароламі.

Ня ўходзячы ў дэталі ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі пасьля кастрычніцкага перавароту ў Расеі, задзержымся трохі больш на мамэнтах сутычак бальшавізму із сфармаванымі ў канцы 1917 году палітычнымі сіламі. Мамэнты гэтых сутычак якраз раскрываюць галоўную мэту тактыкі націскаў і некаторых адступленьняў бальшавізму ў працэсе практычнага тарнаваньня сваей нацыянальнай палітыкі. А. Чарвякоў, адзін з найбольш актыўных удзельнікаў таго часу, гаварыў:

«Галоўным пунктам змаганьня паміж рэвалюцыйнымі й супрацьрэвалюцыйнымі сіламі Беларусі за далейшыя шляхі рэвалюцыі было нацыянальнае пытаньне (пад «рэвалюцыйнымі сіламі» А. Чарвякоў разумее тут толькі бальшавіцкія сілы — Г. Н.) . . .

Кастрычніцкая рэвалюцыя прысьпешыла канчальнае афармленьне палітычных плятформаў. Супраць камуністычнай партыі й саветаў староўча выступілі, паклаўшы ў васнову свайго змаганьня нацыянальнае пытаньне, два цэнтры: Беларускі Абласны Камітэт, як ідэйны кіраўнік і арганізацыйна-палітычны цэнтар расейскай і зрусыфікаванай буржуазіі, дробна-буржуазных, мяшчанскіх, інтэлігенцкіх і сацыял-угодніцкіх зрусыфікаваных элемэнтаў, з патрабаваньнем краёвай (абласной) аўтаноміі, і Беларуская Рада, Беларускі Нацыянальны Камітэт і іншыя блізкія ім арганізацыі, як ідэйныя кіраўнікі й арганізацыйна-палітычныя цэнтры нацыянальных дэмакратычных беларускіх элемэнтаў з праграмай «дэмакратычнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі» [26].

«Абласьнікі» прыдзержываліся пазыцыі, што Беларусь, як неразрыўная частка Расеі, павінна пры ўсякіх умовах уваходзіць у склад Расеі ў якасьці «вобласьці», у крайнім выпадку, на фэдэратыўных асновах . . .

«Радаўцы» . . . займалі пазыцыі «незалежнасьці». Яны імкнуліся давесьці, што Беларусь ня мае нічога супольнага з Расеяй, што Беларусы павінны пайсьці самастойным шляхам у кірунку стварэньня дэмакратычнай незалежнай рэспублікі» [27].

У дапаўненьне да гэтай нацыянал-бальшавіцкай характарыстыкі расстаўленьня палітычных сілаў неабходна схарактарызаваць перш за ўсё бальшавіцкую г. зв. «аблвыкамзахаўскую» (ад Абласны Выканаўчы Камітэт Заходняй вобласьці) арыентацыю й арыентацыю групы «Белнацкому», да якой належыў і сам А. Чарвякоў. «Аблвыкамзахаўцы», будучы элемэнтам чужым і варожым беларускаму народу, не дапускалі тады навет і думкі аб якім-небудзь паслабленьні папярэдняй русыфікацыйнай палітыкі. Іхную русыфікатарскую практыку і ўстаноўкі пацьвярджае бальшавіцкі гісторык В. Шчарбакоў, цытуючы з В. Кнорына:

---

[25] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 110.
[26] А. Червяков. Цыт. праца, б. 34—35.
[27] Тамсама, б. 43.

«... нашая партыя ў гэты пэрыяд не зрабіла тыхывадаў, якія яна ў беларускім пытаньні павінна была зрабіць. Яна абмежавалася абвешчаньнем раўнапраўя нацыяй, але не пастаралася аб тым, каб фактычна ўзапраўды прыцягнуць да працы мясцовы элемэнт. Яна не зразумела так-жа значаньня пэрыядычнага друку ў беларускай мове. Высунутае некаторымі таварышамі пытаньне аб асыгнаваньні сяродкаў на выданьне газеты ў беларускай мове было адхіленае із заўвагай, што народныя масы Меншчыны амаль што ня ўмеюць чытаць пабеларуску і ўва ўсякім выпадку даюць пяршынство расейскім выданьням перад беларускімі (В. Кнорын. Коммунистическая Партия в Белоруссии».[28]

Кнорын уважаў, што недастатковае зьвяртаньне бальшавікамі ўвагі на беларускае пытаньне «прынесла нам некаторыя няпрыемнасьці».[29] Аднэй з такіх «няпрыемнасьцяў» было пытаньне выдзяленьня беларускіх вайсковых часьцяў. Дзякуючы таму, што

«на чале гэтае справы стаялі далёкія ад работнікаў і сялян людзі (трэба разумець — далёкія ад бальшавікоў — Г. Н.), дык бальшавікі мелі поўную падставу аднесьціся да гэтых фармацыяў зь недаверам і перашкаджаць іхнаму расшырэньню. Такой установкі й прыдзержывалася камандаваньне фронту».[30]

Е. Канчар паўней раскрывае сутнасьць бальшавіцкага лёзунгу «самавызначэньня» ў прытарнаваньні да Беларусі, паказваючы, што

«даўшы беларускаму народу права на самавызначэньне, урад Народных Камісараў не дазволіў фармаваць беларускіх народна-нацыянальных рэвалюцыйных палкоў, а вядучы мірныя перагаворы ў Берасьці, г. зн. аб заходніх межах Беларусі, ён адмовіў Беларусам мець у складзе мірнай дэлэгацыі сваіх прадстаўнікоў».[31]

Бальшавікі ня зьбіраліся выпускаць з пад сваей кантролі нацыянальных калёніяў, выходзячы із сваей асноўнай дактрыны, што

«права нацыяў на самавызначэньне не зьяўляецца абавязкам аддзяляцца. Марксыстыя заўсёды былі супраць драбленьня буйных прагрэсыўных дзяржаваў, якія, як правіла, больш адказваюць інтарэсам народаў, чымся малыя дзяржавы. Камуністыя падтрымліваюць ня кажны нацыянальны рух, калі навет ён прыкрываецца сьцягам змаганьня за незалежнасьць, і ня ўсякія патрабаваньні нацыянальнага руху... Пралетарскі нацыяналізм патрабуе падпарадкаваньня нацыянальнага руху ў кажнай краіне інтарэсам перамогі дэмакратыі й сацыялізму ўва ўсім сьвеце».[32]

Сярэднюю пазыцыю паміж Аблвыкамзахам і Вялікай Беларускай Радай займаў Беларускі Нацыянальны Камісарыят (Белнацком). Ён адносіўся варожа да Вялікай Беларускай Рады й быў у апазыцыі да Аблвыкамзаху. Дзяржаўна-палітычны лад Беларусі ён прадстаўляў сабе ў відзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў складзе Расейскай рэспублікі.[33]

Белнацком заснаваўся ў Маскве пры цэнтральных уладах, а Аблвыкамзах у Смаленску, адрэзаўшы першаму шлях для беспасярэдняга ўплыву на беларускую вёску. Пад уплывам ідэяў Белнацкому, а перадусім пад нацыс-

---

[28] В. Щербаков. Октябрьская революция в Белоруссии и белопольская оккупация. Менск, 1930, б. 89.

[29] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 73.

[30] Тамсама, б. 74.

[31] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 56.

[32] А. М. Ларьков. Теория и программа коммунистической партии по национальному вопросу. Масква, 1955, б. 20.

[33] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 97.

кам беларускага руху й з палітычных меркаваньняў Аблвыкамзах свае абласьнічныя ідэі замяніў ідэяй фэдэратыўнага камунізму, ідэяй Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.[34]

Пры такім расстаўленьні сілаў, расчараваўшыся ў нявыразнай і нестаноўчай палітыцы Часовага ўраду, скінутага бальшавікамі, не спадзяючыся нічога лепшага ад новых уладаў на падставе ўжо былога дасьветчаньня практыкі гэтых уладаў, каб не дапусьціць да канчальнага заўладаньня краінай бальшавікамі, Вялікая Беларуская Рада сумесна з Выканаўчым Камітэтам ваенных беларускіх арганізацыяў «зусім самастойна, бяз згоды й дамоўленасьці з савецкім арганізацыямі, назначыла на 5-га сьнежня Беларускі Кангрэс для вырашэньня будучыні Беларусі».[35]

Абласьнікі на чале зь Е. Канчаром і Караткевічам таксама намецілі ў Менску на 8-га сьнежня Беларускі Кангрэс,[36] але, каб перамагчы ўплыў Радаўцаў і запэўніцца падтрыманьнем бальшавікоў, павялі перад імі цераз Караткевіча стараньне аб гэтым. Яны забавязаліся перад урадам РСФСР забясьпечыць непарушнасьць саветаў Беларусі. Караткевіч навет даў падпіску што «беларускі кангрэс будзе весьціся ў савецкім кірунку».[37]

> «Сталін, як адзін зь кіраўнікоў камуністычнай партыі й савецкай улады ў сьнежні, 1917 г., дамовіўся зь Беларускім Абласным Камітэтам сялянскіх дэпутатаў аб тым, што трэба склікаць Беларускі Кангрэс для разьвязаньня пытаньня аб самавызначэньні Беларусі, забясьпечыўшы савецкую форму дзяржаўнасьці. І ня толькі дамовіўся, але й адпусьціў грошы на зьезд і загадаў, каб арганізатарам зьезду далі поўную магчымасьць карыстацца тэлефонам, тэлеграфам і інш.».[38]

Пераход бальшавікоў ад ігнараваньня беларускага пытаньня да спробаў яго разьвязаньня наступіў у выніку немагчымасьці далейшага затрыманьня расшырэньня й умацаваньня беларускага нацыянальна-вызвольнага руху мэтадамі папярэдняй безьзьмястоўнай агітацыі або простага ігнараваньня. Аднэй із такіх спробаў і было прадстаўленьне беларускаму народу магчымасьці «самавызначыцца», але так, каб гэтае самавызначэньне, бяз выразнага націску звонку, само прайшло паводля бальшавіцкай схэмы. Калі-б намечаны бальшавікамі плян дзеяньня ўдалося правесьці, дык у выніку «ня трэба было-б даводзіць усяму сьвету, што самі беларускія масы на падставе собскага дасьветчаньня прыйшлі да савецкай улады, што ад іх самых цалкам залежыў іх лёс, і што Савецкая Расея не навязала ім разьвязаньня гэтага пытаньня сілаю аружжа».[39]

Падзеі, аднак, разгортваліся па іншаму. Абласьнікі зьмянілі свой курс. Як толькі іхны камітэт «атрымаў ад савецкай улады грошы на зьезд, — гаворыць А. Чарвякоў, — і калі ён выехаў зь Петраграду, дык абвесьціў дэклярацыю аб тым, што ён ня верыць у будаўніцтва сацыялізму, што ён супраць грамадзянскай вайны, супраць саветаў».[40]

Вялікая Беларуская Рада, «каб не дапусьціць дэзарыентацыі й адурманьваньня Абласьнікамі шырокіх масаў, пачынае зь імі перагаворы, у выніку

---

[34] Тамсама, б. 98; М. Гуткоўскі. Стварэньне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Зборнік «Беларусь», Менск, 1924, б. 222.

[35] А. Червяков. Цыт. праца, б. 41.

[36] Тамсама, б. 41.

[37] Тамсама, б. 42.

[38] Тамсама, б. 49.

[39] С. Агурский. Цыт. праца, б. 279.

[40] А. Червяков. Цыт. праца, б. 42.

якіх дасягаецца кампраміс у пытаньні скліканьня супольнага зьезду — Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску».[41]

Фактычна гэты кампраміс меў наступную форму: абодвы зьезды ўжо былі абвешчаны з дакладнай датай, усюды праходзілі выбары, а ў умовах таго часу перамяніць дату зьезду ня было магчымасьці. Такім чынам, зьезд Вялікай Беларускай Рады сабраўся 5-га сьнежня й пачаў працу, а зьезд Абласнікоў сабраўся 8-гасьнежня й прылучыўся да пачатай ужо працы. Аб складзе Кангрэсу ягоны ўдзельнік А. Бурбіс пісаў наступнае:

> «Зьехалася 1872 дэлегаты, у тым ліку 716 вайсковых прадстаўнікоў. На зьезьдзе былі, апрача прадстаўнікоў салдат і матросаў усіх фронтаў і флётаў, прадстаўнікі работніцкіх арганізацыяў, валасных земстваў, гарадоў, чыгуначнікаў, пачтова-тэлеграфных служачых, сацыялістычных партыяў ад бальшавікоў да меншавікоў і ад максімалістых да правых эсэраў, Усерасейскага Савету Сялянскіх дэпутатаў, Савету работніцкіх і сялянскіх дэпутатаў, уцекачоў, каапэратываў, беларускіх сацыялістычных і нацыялістычных партыяў і арганізацыяў. З прадстаўнікоў кадэцкай партыі й памешчыкаў ня было ніводнага».[42]

Няўдача з Абласьнікамі прымусіла бальшавікоў прадпрыняць новыя крокі. Ад Віцебскага губэрнскага зьезду саветаў пасылаюцца на Кангрэс прадстаўнікі з наказам:

> «Мы — староньнікі нацыянальнага самавызначэньня аж да адзяленьня, але... пытаньне гэтае можа разьвязаць толькі зьезд Саветаў Работніцкіх, Сялянскіх, Чырвонагвардзейскіх і Батрацкіх дэпутатаў, скліканы ад усіх нацыянальнасьцяў... Віцебскі зьезд прапануе сваім прадстаўніком абвесьціць на Кангрэсе волю работнікаў, сялян, і батракоў Віцебшчыны й пакінуць Кангрэс, прапануючы ўсім работнікам і сялянам зрабіць тое самае».[43]

Апрача гэтага, бальшавікі паслалі яшчэ собскую дэлегацыю ў ліку 10-ёх чалавек зь Петраграду, але «яна была на столькі слабая, што не адваждвалася навет выступаць для выкананьня дадзенага ёй у цэнтры заданьня».[44] Гэтае заданьне А. Чарвякоў абазначаў наступным чынам: бальшавікоў «паслала партыя, каб згуртаваць рэвалюцыйныя элемэнты Кангрэсу, каб выбіць ініцыятыву з рук Рады й Абласнога Камітэту».[45]

Аб тым, якое значаньне тады меў Усебеларускі Кангрэс і як бальшавікі стараліся павярнуць яго ў свой бок, сьветчаць яшчэ й наступныя бальшавіцкія мерапрыемствы:

> «у часе Берасьцейскіх перагавораў тав. Сталін па тэлеграфу запэўніў прадстаўніка Кангрэсу Савіча, што «Савет Народных Камісараў будзе абараняць інтарэсы беларускіх працоўных масаў». 14-га сьнежня тав. Троцкі, як старшыня Савецкай дэлегацыі ў Берасьці, прыслаў тэлеграму на імя ўдзельніка Кангрэсу Вярбіцкага: «Савецкі ўрад у поўнай згодзе із сваей праграмай уважае, што ніхто, апрача Беларусі, ня мае права вырашаць лёсу Беларусі. Гэтую пазыцыю нашая дэлегацыя будзе абараняць і ў далейшых перагаворах».[46]

---

[41] Н. Недасек. 1917—1947 г. Выд. «Бацькаўшчына», Остэргофэн, 1947, б. 11.
[42] А. Червяков. Цыт. праца, б. 45—46.
[43] Тамсама, б. 46.
[44] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 15.
[45] А. Червяков. Цыт. праца, б. 47.
[46] Тамсама, б. 49—50.

Аднак Кангрэс аставаўся на нацыянальна-незалежнай плятформе, праводжанай Вялікай Беларускай Радай, якая мела падтрыманьне бальшыні дэлегатаў. У пытаньні аб дзяржаўным ладзе Беларусі бальшыня абараняла нацыянальную дзяржаўную незалежнасьць. Абласьнікі далей абласной аўтаноміі ў складзе адзінай непадзельнай Расеі ня йшлі. Кангрэс, ня гледзячы на тое, што бальшыня была нацыянальна настроеная, усё-ж пайшоў на кампраміс, дзеля таго, што «хаця ... Абласьнікі ўсё больш і больш трацілі ў вачох шырокіх масаў, але, з другога боку, гэтыя масы яшчэ далёка не дарасьлі й не дасьпелі да нацыянальна-незалежнай пазыцыі».[47]

Кампраміс быў знойдзены ў форме фэдэралізму — перабудовы Расеі ў фэдэрацыю нацыянальных адзінак-рэспублік. Апіраючыся на абвешчанае рэвалюцыяй права на нацыянальнае самавызначэньне, Кангрэс прыняў першы пункт сваей рэзалюцыі, які абвяшчаў рэспубліканска-дэмакратычную ўладу ў краіне ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, сфэдэраванай з такімі-ж рэспублікамі суседніх народаў у Расейскай Дэмакратычнай Фэдэратыўнай Рэспубліцы.[48]

Гэта была яшчэ толькі часовая пераходная ступень, неабходная база для далейшай дзейнасьці, але яна, ужо цяпер, рабіла немагчымым ажыцяўленьне бальшавіцкай мэты.

> «Камуністычная партыя, — гаворыць А. Чарвякоў, — прадстаўляла пытаньне аб самавызначэньні, як часьць агульнага пытаньня аб сацыялістычнай рэвалюцыі. Адсюль вынікае, што бальшавіцкая партыя не магла стаць і ніколі ня стане на пазыцыю буржуазна-дэмакратычнага разуменьня незалежнасьці Беларусі, яна супраць стварэньня Беларусі, як дэмакратычнай рэспублікі — аўтаномнай, свабоднай і г. д. і г. д.».[49]

Дзеля гэтага, ноччу з 30-га на 31-ае сьнежня, бальшавікі сілаю аружжа разагналі Кангрэс. Днём 31-га сьнежня, для афармленьня сваей працы, дэлегаты Кангрэсу сабраліся ўзноў, але ўжо ў Менскім чыгуначным дэпо, дзе пад ахаронай чыгуначнікаў і перадалі свае паўнамоцтвы да мамэнту магчымых вольных выбараў у будучыні выбранай раней Радзе Кангрэсу. Рада адразу-ж выдзяліла Выканаўчы Камітэт.

На Ўсебеларускім Кангрэсе 1917 г. нацыянальны беларускі рух упяршыню ўвайшоў у вадкрыты канфлікт з маскоўскім бальшавізмам. Як сьцьвярджае Н. Недасек, «у гістарычнай роўніцы гэты факт аказаўся вельмі сыптаматычным, навет, можна сказаць — сымбалічным. Ён адразу-ж і назаўсёды вызначыў усе далейшыя дачыненьні бальшавізму да Беларусі».[50]

Разгон Кангрэсу здэмаскаваў дэмагогію абвешчанай бальшавікамі «Дэклярацыі правоў народаў Расеі», якая гаварыла аб роўнасьці й сувэрэннасьці народаў, аб іхных правох на самавызначэньне. Гэты крок бальшавікоў навет «нажаль, — як цьвердзіў Е. Канчар, — параліжаваў дзейнасьць і Беларускага Абласнога Камітэту»[51] да такой ступені, што Абласьнікі «зусім адыйшлі ад працы, яны пайшлі шукаць работу па ўсей «матушцы Расеі».

---

[47] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 15—16. **Увага:** Гэтая праца Г. Паланевіча была напісана ў расейскай мове й тут друкуецца намі ў рэдакцыйным перакладзе на беларускую мову. Дзеля гэтага ўсе ў ёй цытаты з выданьняў у беларускай мове пададзеныя ў нашым рэдакцыйным перакладзе з расейскае на беларускую мову. **Рэд.**

[48] Тамсама, б. 16.

[49] А. Червяков. Цыт. праца, б. 50.

[50] Н. Недасек. Цыт. праца, б. 20.

[51] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 52.

Галоўны ўплыў у нелегальных супрацьрэвалюцыйных (трэба разумець — супрацьбальшавіцкіх — Г. Н.) нацыяналістычных арганізацыях атрымалі Радаўцы, незалежнікі».[52]

Усебеларускі Кангрэс пераканаў і бальшавікоў, што беларускі народ «собскім дасьветчаньнем» ня прыйдзе да савецкай улады. Дзеля гэтага:

> «партыя павінна была паставіць пытаньне аб разгоне Беларускага Ўстаноўчага Сабраньня, разагнаць яго так-жа, як пазьней было разгнанае Ўсерасейскае Ўстаноўчае Сабраньне. Толькі гэтак яна магла й была павінна ўмацаваць дыктатуру пралетарыяту ў Беларусі». —[53]

прызнаеца В. Кнорын.

Разгледжаныя тут падзеі першых ста дзён савецкай улады ў Беларусі прымусілі бальшавікоў перагледзець свае нэгатыўныя дачыненьні да беларускага нацыянальнага руху і беларускіх нацыянальна-дзяржаўніцкіх імкненьняў.

---

[52] А. Червяков. Цыт. праца, б. 44.

[53] В. Кнорин. Заметки к истории диктатуры пролетариата в Белоруссии. Менск, 1934, б. 13.

## АБВЕШЧАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ БНР І БАЛЬШАВІЦКАЙ БССР

У пачатку 1918 году Рада Кангрэсу із свайго кансьпірацыйнага падпольля выпусьціла першы заклік, у якім называла сябе адзіным праўным носьбітам сувэрэннага права беларускага народу. Беларуская Цэнтральная Ваенная Рада атрымлівае ад Рады Кангрэсу заданьне падгатоўкі да заваяваньня ўлады ад бальшавікоў. Увага засярэджваецца на фармаваньні й канцэнтрацыі ў Менску нацыянальных ваенных адзінак. У пачатку году ўдаецца перацягнуць у Менск 289-ы запасны пяхотны полк, які складаўся ў ў 75 % зь Беларусаў.

Бальшавікі ў гэты час фармуюць Чырвоную армію. Сябры Беларускай Ваеннай Рады прабавалі гэта выкарыстаць і пачалі перагаворы з бальшавіцкім галоўнакамандуючым Крыленкам аб фармаваньні Беларускай Нацыянальнай Чырвонай Арміі. Перагаворы не ўкаранаваліся пасьпехам: бальшавікі разгадалі імкненьне Беларусаў і ня толькі не згадзіліся з прапазыцыяй Беларускай Ваеннай Рады, але загадалі 20 студзеня 1918 г. апору БВР — 289-ы запасны полк — перавесьці зь Менску, а ноччу з 31-га студзеня на 1-ае лютага 1918 г. арыштавалі выдатнейшых кіраўнікоў Рады Кангрэсу й Цэнтральнай Ваеннай Рады.[54] У гэты час наступае разрыў у Берасьцейскіх мірных перагаворах, і Немцы пераходзяць у наступленьне. Бальшавіцкі фронт рассыпаецца, а іхныя ўлады 18-га лютага 1918 г. на чале з галоўным камісарам Заходняй вобласьці Ляндэрам уцякаюць зь Менску. Аб сваіх уцёках Ляндэр расказвае наступнае:

> «У горадзе пачаўся рух «Беларусаў», прыгатаўляючых выступленьне супраць нас. На вуліцах пачаліся дробныя схваткі, чуваць была страляніна. Калі тав. Пятроў, камендант Савету, вечарам выводзіў мяне із савету чорным ходам, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне й таварышаў».[55]

19-га лютага арыштаваныя дзеячы Беларускай Ваеннай Рады — К. Езавітаў, Я. Мамонька, В. Захарка й іншыя зарганізавалі ўцёкі з турмы. Яны й былі арганізатарамі ўстанаўленьня ўлады Рады Кангрэсу. Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу цяпер абвесьціў сябе часовым урадам, а выканаўчую ўладу паручыў створанаму Народнаму Сакратарыяту Беларусі. Гэта быў першы нацыянальны ўрад Беларусі. Адразу-ж быў створаны Менскі Беларускі полк і гарадзкая міліцыя. Узноўленыя мірныя перагаворы ў Берасьці заканчываюцца 3-га сакавіка падпісаньнем мірнага дагавору, на аснове якога бальшавікі, наперакор сваім ранейшым абяцанкам вуснамі Сталіна й Троцкага « абараняць пазыцыі Беларусаў», згаджаюцца на разьдзел Беларусі між суседнімі дзяржавамі.

Тады, 9-га сакавіка 1918 г., Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу выдаў Другую Ўстаўную Грамату, якой абвяшчалася Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) на тэрыторыі ўсей этнаграфічнай Беларусі, а 19-га сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу перайменаваўся ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі з Прэзыдыюмам у складзе: старшыні д-ра І. Серады

---

[54] Н. Недасек. 1918—1948 гг. Выд. «Бацькаўшчына», Остэргофэн, 1948, б. 5.
[55] Журнал «Вперед», № 1, Менск, 1922.

(старшыня Кангрэсу), сябры — Я. Варонкі й сакратара — К. Езавітава. Расшыранае паседжаньне Рады БНР 25-га сакавіка 1918 г. абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай, аб чым была выдадзеная Ўстаўная Грамата, якая ўвайшла ў гісторыю беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, як Акт 25-га Сакавіка.

Бальшавікі, каб не дапусьціць да распаўсюджаньня ідэі нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці ў масах, у прысьпешаным парадку праводзяць розныя зьезды, канфэрэнцыі, мітынгі ў кантраляванай імі часьці Беларусі. Прыймаюцца рэзалюцыі, якія абзываюць ўрад БНР «буржуазнай замежнай агентурай» з патрабаваньнем уключэньня Беларусі ў склад Расеі. У гэтым духу былі прынятыя рэзалюцыі 2-ім зьездам саветаў Заходняй вобласьці ў красавіку 1918 г., шматколькаснымі валасьнымі мітынгамі і Ўсерасейскім зьездам уцекачоў Беларусаў у Маскве ў чэрвені 1818 г. Як сьцьвярджае Я. Менскі «уся зьездаўска-мітынговая кампанія мела на мэце давесьці, што масы йдуць за бальшавікамі, падтрымліваюць толькі савецкую ўладу й ейную палітыку».[56]

Летам 1918 г. бальшавікі стварылі свой цэнтр для ўсей кантраляванай імі тэрыторыі Беларусі, названы ўжо Беларускім Краёвым Камітэтам РКП(б), дзеля таго, што:

> «Гэты назоў выходзіў з таго, што ўжо ў пэрыяд існаваньня нямецкай акупацыі масам, ня ўсвоіўшым асноўных бальшавіцкіх лёзунгаў аб зямлі, аб савецкай уладзе, неабходна было даць пэрспэктыву будучага нацыянальнага ўпарадкаваньня краіны», а, «выкідаючы за борт стары адміністрацыйны назоў Паўночна-Заходняга Краю й пераходзячы да названьня краіны беларускай, партыя павінна была дабіцца мабілізацыі дадатковых яшчэ кадраў супраць акупацыі, за савецкую ўладу».[57]

Адгэтуль вынікае, што «нацыянальнае ўпарадкаваньне краіны» было масам важней, чымся бальшавіцкія лёзунгі «аб савецкай уладзе». Бальшавікі перш за ўсё імкнуліся «выбіць грунт з пад ног Рады БНР і ўзяць беларускае нацыянальнае пытаньне ў рукі кампартыі».[58] На небясьпеку з боку «буржуазных нацыяналістых» увесь час паказвалі й беларускія нацыянал-бальшавікі зь Белнацкому ў сваіх сутыкненьнях з Аблвыкамзахаўцамі. Камісар Белнацкому І. Лагун у верасьні 1918 г. навет падаваў даклад Заходняму Абласному Камітэту РКП(б) ў Смаленску з прапановай перайменаваць Заходнюю вобласьць у Беларуска-Літоўскую. На думку Лагуна, гэтым была-б спараліжаваная дзейнасьць незалежнікаў-нацыяналістых, але

> «пленум Заходняга Абласнога Камітэту РКП(б) у складзе Мясьнікова, Кнорына, Пісьменьніка, Эйдэльсона, Турэвіча, Новікава, Яркіна, Пікеля, Алібекава, Рэйнгольда, Калмановіча, якія йгралі першую скрыпку ў Аблвыкамзаху, 13-га верасьня 1918 г. адкінуў прапанову Лагуна й перайменаваў Заходнюю вобласьць у Заходнюю Камуну.»[59]

У склад Заходняй Камуны ўвайшлі кантраляваныя бальшавікамі Віцебшчына й Смаленшчына. Новы назоў зьяўляўся фактычна адыходам ад старога царскага назову краіны з адначасовым абходам нацыянальнага назову пад прыкрыцьцём «інтэрнацыянальнасьці». Гэты назоў, аднак, пась-

---

[56] Я. Менскі. Цыт. праца, б. 20.

[57] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 22.

[58] У. Ігнатоўскі. Вялікі Кастрычнік у Беларусі. Зборнік «Беларусь», б. 204.

[59] Е. С. Канчер. Цыт. праца, б. 98.

пеху ня меў, ды й самому Аблвыкамзаху прышлося мяняць свае папярэднія абласьнічныя пазыцыі.

Начынаецца абмеркаваньне беларускага пытаньня. Сталін, які ачольваў тады Камісарыят Нацыянальнасьцяў, прыймае дэлегацыю беларускай сэкцыі РКП(б)[60] і Абвыкамзаху. Беларускія нацыянал-бальшавікі настойваюць на стварэньні БССР. 23-га сьнежня 1918 ЦКРКП(б) слухае інфармацыю аб неабходнасьці стварэньня Беларускай савецкай рэспублікі. 25-га верасьня ў Маскве Першая Ўсерасейская Канфэрэнцыя беларускіх сэкцыяў РКП(б) таксама абмяркоўвала гэтае пытаньне.

Лістападаўская рэвалюцыя ў Нямеччыне выклікала адыход нямецкіх акупацыйных збройных сілаў зь Беларусі. Немцы раніцай 10 сьнежня 1918 г. пакідаюць Менск, а за імі, у той-жа дзень, уваходзяць савецкія войскі і ў горад пераяжджае губэрнскі рэўком, назначаны Паўночна-заходнім Камітэтам партыі ў Смаленску.

> «Адным зь першых актаў рэўкому быў загад, на аснове якога ўрад беларускіх памешчыкаў і нацыяналістых — Беларуская Рада — абвяшчаўся распушчаным і вонках права».[61]

Рада БНР сваячасова выэмігравала ў Летуву. Тымчасам V-ая Абласная Канфэрэнцыя РКП(б) Заходняй вобласьці, адкрытая 30-га сьнежня 1918 г. у Смаленску, прышла да вываду, што «нельга праходзіць міма беларускага пытаньня ў мэтах бальшавізацыі беларускіх працоўных работніцка-сялянскіх масаў»[62] і абвесьціла сябе І-ым Зьездам КП(б) Беларусі. Апрача гэтага, «прымаючы пад увагу далейшы посьпех змаганьня за савецкую ўладу, канфэрэнцыя абвесьціла, што яна за стварэньне незалежнай Беларускай Рэспублікі»[63].

Беларуская «незалежная» БССР абвяшчалася ня толькі для заспакаеньня жаданьняў і імкненьняў «праўцоўных масаў» Беларусі, але галоўным чынам дзеля таго, што:

> «1-ы зьезд КП(б)Б у сьнежні 1918 г. абвяшчаючы БССР, перадусім апіраўся на... пэрспэктыве перасоўваньня савецкай улады на Захад... Задзіночаньне працоўных масаў Беларусі для далейшага змаганьня за сьветавую пралетарскую рэвалюцыю супраць капіталістых і памешчыкаў — вось гэта першы лёзунг і першае заданьне абвешчаньня БССР 1-га студзеня 1919 г.»[64]

Такім чынам пэрспэктыва «перасоўваньня на Захад» падказвала бальшавіком неабходнасьць тварэньня нацыянальных савецкіх рэспублік; але ўжо тады выявілася, што гэтыя новаўтварэньні, як БССР, паводля свайго зьместу й формы, чужыя, сілай навязаныя ня толькі народу, але й тым, хто йшоў за бальшавікамі. БССР была абвешчана не народным прадстаўніцтвам, а абласной канфэрэнцыяй Расейскай Камуністычнай Партыі бальшавікоў на загад з цэнтру — Масквы, а ўжо пасьля таго, калі паводля на-

---

[60] Е. Канчер у цытаванай працы (б. 102) зьвяртае ўвагу на тое, што «дзеля таго, каб ня даць нацыяналістым «буржуазнага» самавызначэньня, нацыянальны рух узяты быў пад кантролю. З гэтай мэтай былі створаныя нацыянальныя сэкцыі камуністычнай партыі».

[61] С. Агурский. Цыт. праца, б. 275.

[62] У. Ігнатоўскі. Камуністычная партыя Беларусі і Нацыянальнае пытаньне. Зборнік «Беларусь», б. 231.

[63] У. Ігнатоўскі. Вялікі Кастрычнік у Беларусі. Зборнік «Беларусь», б. 231.

[64] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 19.

значэньня творыцца «беларускі ўрад», склікаецца Ўсебеларускі Зьезд Саветаў, які фармальна пацьвярджае акт абвешчаньня.

Характэрны для бальшавікоў і спосаб тварэньня першага «незалежнага» часовага ўраду БССР. Аб гэтым у Кнорына знаходзім наступнае:

> «Важнейшае значаньне мае пытаньне канструкцыі Часовага Работніцка-Сялянскага Ўраду БССР, якая павінна адбыцца на аснове задзіночаньня дзьвёх груп работнікаў: 1. работнікаў Паўночна-Заходняга Абласнога Камітэту РКП(б), цесна зьвязаных з кастрычніцкім змаганьнем у Беларусі, якія мелі дасьветчаньне савецкага будаўніцтва й ня былі зьвязаныя з нацыянальным рухам, а часамі й недацэньваючыя важнасьці нацыянальнага пытаньня ў БССР, і 2. работнікаў Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, пераважна зьвязаных з нацыянальным рухам, якія ставяць на чале нацыянальнае пытаньне, але ў бальшыні сваей мала зьвязаных зь кіруючай партыйнай работай і ня маючых дасьветчаньня савецкай работы.
>
> Заданьнем Аблвыкамзахаўскай групы павінна было быць палітычнае выхаваньне першых савецкіх кадраў, забясьпечаньне ім у далейшым магчымасьці самастойнага кіраўніцтва краем, забясьпечаньне ў урадзе палітыкі бальшавіцкай партыі, правядзеньне прынцыпаў інтэрнацыяналізму й непарушэньня дыктатуры пралетарыяту»[65]:

Да гэтага трэба дадаць, што яшчэ «Сталін, сам асабіста, падбіраў кандыдатуры сяброў ураду БССР, а ЦК РКП(б) зацьвярджаў іх»[66]

Пасьля такога падбору Часовы Ўрад Беларусі меў наступны склад: ад Белнацкаму — З. Жылуновіч (старшыня ўраду), А. Чарвякоў — камісар асьветы, Дыла — камісар працы, Чарнушэвіч — камісар сацыяльнага забясьпечаньня, Фальскі — камісар замежных справаў, Шантыр — камісар нацыянальных справаў, Пузыроў — камісар аховы здароўя, Квачанюк — камісар юстыцыі; ад Аблвыкамзаху: Мясьнікоў — камісар ваенных спраў, Райнгольд — камісар фінансаў, Калмановіч — камісар харчаваньня, Пікель — камісар народнае гаспадаркі, Андрэяў — камісар земляробства, Іваноў — камісар нутраных справаў, Савіцкі — камісар шляхоў зносінаў, Розэнталь — камісар пошты й тэлеграфаў, Яркін — Надзвычайная камісія, Бергсон — Дзяржаўная кантроля, Найдзенкаў — Справы ваеннапалонных і ўцекачоў[67].

Такім чынам асноўныя становішчы былі перададзеныя прадстаўнікам Аблвыкамхазу, якія фактычна й кіравалі ўсей палітыкай Беларусі, адціснуўшы на задні плян Белнацкомаўцаў, якім цэнтр не даваяраў, дзеля таго што яны, ставячы «на чале нацыянальнае пытаньне», маглі-б хутка адарвацца ад цэнтру. Бальшавіцкі недавер да тых нямногакалькасных яшчэ тады беларускіх нацыянал-бальшавікоў абасноўваўся на тым, што яны толькі нядаўна прыйшлі ў камуністычную партыю зь некамуністычных нацыянальных арганізацыяў і толькі таму, што ў ёй «бачылі перадумовы разьвязаньня нацыянальнага пытаньня»[68]

> «У сваім перакананьні яны ймкнуліся злучыць нацыянальнае адраджэньне з камуністычнай ідэялёгіяй, якое афіцыяльна падносілася толькі ў бальшавіцкай інтэрпрэтацыі, злучыць нацыянальную творчасьць з даслоўна разуметым «пралетарскім інтэрнацыяналізмам», які для бальшавіцкіх палітыкаў старой дзяржаўнай нацыі

---

[65] Тамсама, б. 25—26.
[66] Н. В. Каменская. Создание Белорусской ССР. Менск 1946, б. 146.
[67] У. Ігнатоўскі. Цыт. праца, б. 205.
[68] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 33.

быў прыкрыцьцём іхнага вялікадзяржаўя й дзеля гэтага нацыянальныя рухі прыгнечаных народаў ужо загадзя абвяшчаў рухамі буржуазнымі і ў канчальным выніку контррэвалюцыйнымі».[69]

Пазьнейшая практыка бальшавізму давяла і беларускім нацыянал-бальшавіком, што яны былі выкарыстаныя бальшавізмам, як падстаўныя фігуры для ажыцьцяўленьня бальшавіцкіх мэтаў, што ўся бальшавіцка-савецкая сыстэма была навязаная Беларусі звонку, і не дарма Кнорын у 1934 г. цьвердзіў, што «яшчэ да цяперашняга часу некаторыя таварышы не пазбыліся зусім няправільнае думкі аб тым, што абвешчаньне БССР і ўвесь акт 1-га студзеня быў падгатоўлены звонку». Некалькімі радкамі далей: «умацаваньне такіх паглядаў... азначала-б прызнаньне, што абвешчаньне БССР нашай партыяй было навязана сілай, што выходзіла ад нацыянальна-рэвалюцыйнага руху»[70].

---

[69] J. Mienski. The Establishment of the Belorussian SSR. „Belorussian Review" of the Institute for the Study of the USSR, № I, Munich, 1955, p.23.

[70] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 20.

## СПАЧАТНАЯ ПРАКТЫКА БАЛЬШАВІЗМУ Ў НОВАСТВОРАНАЙ БССР

Створаны ў Смаленску Часовы Ўрад БССР 5-га студзеня 1919 г. пераехаў у Менск, а на 1-га лютага быў скліканы Першы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў. Зьезд, як «народнае прадстаўніцтва», павінен быў аформіць і замацаваць ужо праведзеныя й загадзя падгатоўленыя пастановы. Ажыцьцявіць гэта было ня цяжка, бо зь ліку 230 дэлегатаў зьезду 213 чалавек былі бальшавікі. Зьезд зацьвердзіў канстытуцыю БССР, у якой канстатавалася, што «Беларуская Рэпубліка зьяўляецца вольным сацыялістычным таварыствам усіх працоўных Беларусі»[71].

Паколькі БССР, згодна канстытуцыі, «вольнае таварыства», дык дэлегаты Магілеўскай, Віцебскай і Смаленскай губэрняў абвесьцілі пастанову сваіх губэрнскіх зьездаў саветаў аб аддзяленьні гэтых губэрняў ад Беларусі й прылучэньні іх да Расеі. Атрымалася ўражаньне, што працоўныя Беларусі не жадаюць аддзяляцца ад Расеі навет у форме БССР.

Памылковасьць такога прадстаўленьня раскрывае Кнорын. Ён гаворыць:

> «З адкрыцьцём фронту, з пачаткам ваенных дзеяньняў выявілася слабасьць маладога савецкага ўраду БССР. Знаходзячыся на новай, яшчэ незарганізаванай тэрыторыі, урад выявіўся няздольным кіраваць старымі тэрыторыямі Заходняй вобласьці. Смаленскі, Віцебскі й Магілёўскі губкомы РКП(б) і губвыканкомы апынуліся фактычна бязь кіраўніцтва... Апрача гэтага, агульныя ўмовы РСФСР, якая задзіночвала ўсе рэспублікі, вымагалі, каб сілы й запасы гэтых трох губэрняў былі выкарыстаныя для паўдзённага й усходняга фронтаў»[72]

У далейшым выкладзе Кнорын аб'ясьняе, што БССР, будучы створанай, як фарпост савецкай улады на захадзе, ператвараючыся ў сяродак тэрытарыяльнага расшырэньня гэтае ўлады, не павінна абцяжарвацца вялікімі й ужо ссаветызаванымі тэрыторыямі. Апрача гэтага, «трэба было не забываць так-жа магчымасьці пераходу Беларусі, як палітычнага фактара, у антысавецкія рукі; маючы наўвеце такую магчымасьць, нельга было рызыкаваць старымі савецкімі тэрыторыямі»[73].

Адсюль вынікае, што бальшавікі дапускалі тады яшчэ магчымасьць утраты Беларусі, у якой магла-б узнавіцца дзейнасьць БНР, і дзеля гэтага трымаліся моцна ўсходніх тэрыторыяў, ня меўшых яшчэ «нацыяналістычных» бээнэраўскіх уплываў, больш ссаветызаваных, чымся Меншчына, у якой устанавілася БНР. Якраз у сілу гэтага й былі высунутыя «патрабаваньні» ўсходніх губэрнскіх зьездаў саветаў аб прылучэньні да РСФСР. Бальшавіцкі гісторык В. Шчарбакоў, у 1930 г., калі пачынаўся паход супраць «нацдэмаў», аб'ясняў гэтыя факты, як «памылкі ў нацыянальнай палітыцы»[74].

---

[71] М. Гуткоўскі. Цыт. праца, б. 224.
[72] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 28.
[73] Тамсама, б. 29.
[74] В. Щербаков. Цыт. праца, б. 9.

З гледзішча запраўдных мэтаў бальшавізму, вышэйпададзеныя факты ў запраўднасьці не зьяўляліся памылкай. Кнорын тут шмат бліжэй праўды, калі выражае боязь страты бальшавіцкіх пазыцыяў у выніку падтрымліваньня нацыянальных патрабаваньняў. Магчымасьць узьнікненьня падобнага няпрыемнага для бальшавізму палажэньня тады існавала. Навет беларускія камуністыя праяўлялі сваю ненадзейнасьць й пацьвярджалі правільнасьць, з партыйнага гледзішча, разгледжанага вышэй спосабу камплектаваньня Часовага Ўраду БССР.

Жылуновіч, старшыня Часовага Ўраду БССР, карыстаючыся абвешчаньнем БССР, прапанаваў стварыць самастойную беларускую камуністычную арганізацыю й беларускія сэкцыі ў вагульных партыйных арганізацыях, што супярэчыла ўсей сыстэме бальшавіцкага цэнтралізму. Дзеля таго, што «яны (Жылуновіч і ягоныя аднадумнікі — Г. Н.) пачалі арыентавацца супраць партыйнага кіраўніцтва» і «сталіся цэнтрам для арганізацыі нацыянал-дэмакратычнай апазыцыі»[75], на 1-ым Зьездзе Саветаў БССР З. Жылуновіч быў змушаны выйсьці із складу ўраду, а на ягонае месца быў уведзены ведамы праціўнік беларускага руху з Аблвыкамзахаўцаў — Мясьнікоў, а трохі пазьней, у час г. зв. «лістападаўскага крызісу», былі выключаныя з ураду Дыла, Фальскі й іншыя.

Прайшло ўсяго толькі 25 дзён ад 1-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, які ўрачыста абвесьціў незалежнасьць і «дабравольны саюз з Савецкай Ресеяй», як 27-га лютага 1919 г., у Вільні, мінаючы зацьверджаньні губэрнскіх або Ўсебеларускага Зьезду, на загад «саюзнай Расеі», зьбіраюцца Выканаўчыя Камітэты Беларусі й Летувы й абвяшчаюць стварэньне г. зв. Летувіска-Беларускай савецкай рэспублікі (ЛітБел-у). Кнорын аб'ясьняе гэта проста: «задзіночаньне зь Летувай было так-жа стратэгічным манэўрам дзеля перасоўваньня рэвалюцыі на Захад, дзеля ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі й Летуве» [76].

ЛітБел абыймаў толькі Віленшчыну й Меншчыну, меў супольны ЦК партыі й супольны ўрад, на чале якога, замест Жылуновіча, быў пастаўлены летувіскі камуністы Міцкевіч-Капсукас. Удзел Беларусаў у гэтым новым «урадзе» быў зьведзены да аднаго толькі чалавека.

> «Ёсьць падставы, — гаворыць Я. Менскі, — прыпушчаць, што бальшавікі хапіліся за ідэю ЛітБел-у ня прыпадкова... У мінуўшчыне — гэта Вялікае Княства Літоўскае, у якім супольна жылі беларускі й летувіскі народы, да гэтай мінуўшчыні часта зьвярталіся беларускія адраджэнцы, даводзячы законнасьць і няўхільнасьць змаганьня народу за адраджэньне калісьці страчанай дзяржаўнасьці. Ідэя адраджэньня дзяржаўнага саюзу гэтых двух народаў папулярызавалася некаторы час паасобнымі беларускімі дзеячамі падчас першай сьветавай вайны... І, напасьледак, такая блізкая ў часе зьява, як заключэньне ў 1918 г. паміж урадамі БНР і летувіскай Тарыбай умовы аб узаемадапамозе».[77]

Для заспакаеньня сваіх захопніцкіх плянаў, бальшавікі й пазьней няраз карысталіся тварэньнем нацыянальных «урадаў». Прыкладам могуць служыць польскі рэўком зь Дзяржынскім і Мархлеўскім у часе паходу Чырвонай арміі на Варшаву ў 1920 г., або «урад» Куусінена ў часе збройнага канфлікту зь Фінляндыяй у 1939 г. і болей сьвежы «Люблінскі ўрад» Польшчы

---

[75] Тамсама, б. 33.
[76] В. Кнорин. Цыт. праца, б. 33.
[77] J. Mienski. Цыт. праца, б. 25.

ў вапошнюю вайну. Усе гэтыя ўрады ня мелі ніякай папулярнасьці сярод насельніцтва. ЛітБел-ам былі незадаволеныя навет беларускія нацыянал-бальшавікі, якія прыймалі актыўны ўдзел у тварэньні БССР.

Пасьля таго, як «кампартыя прыняла ўсе меры, каб накіраваць у Беларусі нацыянальны рух на шлях Кастрычніцкай рэвалюцыі» і «спроба гэтая не ўдалася» [78], бальшавізм заняў выразна варожую пазыцыю ў дачыненьні да беларускага нацыянальна-незалежніцкага руху. Далейшая, аднак, вялікадзяржаўніцкая практыка бальшавізму не магла цалком заспакоіць і палітычных асьпірацыяў навет блізкіх да бальшавікоў беларускіх нацыянал-камуністых. У дачыненьні-ж да народных сялянскіх масаў, у галіне найбольш ім блізкай — аграрнай, выклікала недавер, байкот і навет збройныя выступленьні. Справа ў тым, што да рэвалюцыі 1917 г. распадзел зямельных уладаньняў насіў ненармальны характар. Зямельныя ўладаньні былых Менскай, Магілеўскай, Віцебскай і Горадзенскай губэрняў у 1915 г. раздзяляліся наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| памешчыцкія земляўладаньні | 8.274 тыс. дзесяцін | або 37 % |
| сялянскія „ | 10.383 „ „ | „ 46 % |
| дзяржаўныя, царкоўныя й інш. | 3.571 „ „ | „ 17 % |

У Беларусі было каля 200 тысячаў батракоў, а ў 1893 г. каля 8 % безьзямельных [79]. Сялянскія гаспадаркі былі пераважна малазямельныя і бесьперарыўна, пры значным прыросьце насельніцтва, драбіліся, а пры адсутнасьці ў краіне разьвітай прамысловасьці, у сяле награмаджвалася значная колькасьць незанятых людзей. Некаторай разьвязкай палажэньня была эміграцыя. За пэрыяд ад 1896 г. да 1915 г. толькі з чатырох беларускіх губэрняў перасялілася ў Сібір 642 тыс. чалавек, а ў Амэрыку да вайны выехала каля 800 тысяч [80].

Вайна й рэвалюцыя спыніла гэты адліў сваборнай работніцкай сілы. Зразумела тады, што сялянства жадна чакала разьвязаньня зямельнага пытаньня. Бальшавікі выкарыстоўвалі гэтыя жаданьні ў сваей агітацыйнай дзейнасьці. Калі з мамэнту абвешчаньня БССР на беларускіх землях пачала ўстанаўлівацца бальшавіцкая ўлада й нацыяналізацыя памешчыцкіх, дзяржаўных і царкоўных земляўладаньняў ,дык сялянства чаканай ім зямлі не атрымала. Замест абяцанага разьдзелу двароў, бальшавікі пачалі насаджваць саўгасы, камуны й сельска-гаспадарскія арцелі. У існаваўшых сялянскіх гаспадарках праводзілася рэквізыцыя збожжа, а тых гаспадароў, якія мелі больш 5-ці дзесяцін зямлі, пазбаўлялі выбарных правоў. Настроі сялянства таго часу ілюструюць наступныя выказваньні: «Агульнае дачыненьні да куманаў, — пісала «Жизнь национальностей» № 19, — недаверлівае й варожае. Цёмныя народныя масы баяцца, што камуны зьяўляюцца адраджэньнем прыгоньніцтва. Рэдакцыі савецкіх газет, прапагуючыя ідэю камунальнага землякарыстаньня, атрымліваюць масу лістоў з пратэстамі й пярэчаньнямі» [81].

У лістападзе 1919 г. у Смаленскай губэрні налічвалася 150 камун, у Магілеўскай у канцы лютага было зарэгістравана 117 камун.

---

[78] Даклад У. Ігнатоўскага на XVI зьездзе КП(б)Б. Зборнік «Два года национальной работы в БССР», Менск, 1929, б. 11. Ігнатоўскі мае тут наўвеце ўсе бальшавіцкія мерапрыемствы, накіраваныя на прыцягненьне на свой бок Усебеларускага Кангрэсу.

[79] А. Червяков. Цыт. праца, б. 88—89.

[80] В. Щербаков. Цыт. праца, б. 9.

[81] Тамсама, б. 91.

«У радзе мясцовасьцяў у гэты час пачаліся фармальныя кулацкія паўстаньні... Робяцца напады на саўгасы, камуны, адбываюцца падпалы... У паўстаньні ў Старобінскай воласьці Слуцкага павету 14-га сакавіка кулацтву шмат памагала жыдоўская буржуазія» [82].

Такім чынам пачалося ўсенароднае незадаваленьне палітыкай новага бальшавіцкага рэжыму. Тым часам, перасоўваньне саветаў на захад спатыкае моцны супраціў з боку адроджанай Польскай дзяржавы. Пачынаецца яшчэ адзін збройны канфлікт. Слабыя тады яшчэ бальшавіцкія арміі, рассыпаныя на многіх фронтах, церпяць апаражаньні.

20-га траўня 1919 г. у Менску склікаецца надзвычайная нарада Саўнаркому, ЦВК ЛітБел-у й Менскага савету з удзелам прадстаўнікоў прафсаюзаў, якая прыняла рэзалюцыю «Аб мабілізацыі сілаў партыі і ўсяго народу для адпору ворага». Нарада зьвярнулася да сялянства з заклікам выдзяліць ад кажнай воласьці па 20 чалавек у армію. Ведаючы настроі вёскі, бальшавікі не адважыліся абвесьціць мабілізацыі, а заклік іх астаўся бяз рэха. Навет салдаты Беларусы, якія апынуліся раней у бальшавіцкай арміі, цяпер, пры адступленьні, кідалі аружжа й ішлі дамоў.

[82] Тамсама, б. 92.

## ПАЎТОРНАЕ АБВЕШЧАНЬНЕ БССР І ЎЛУЧЭНЬЕ ЯЕ Ў СССР

8-га жніўня 1919 г. польская армія заняла Менск. Заняцьце Беларусі польскімі войскамі зьяўлялася фактычна новай акупацыяй краіны, ня гледзячы на запэўненьне Пілсудскага, як галавы польскае дзяржавы, у ягоных закліках аб тым, што Беларусы могуць разьвязваць свае пытаньні самі, бяз націску з боку Польшчы. Праўда, польскія ўлады дазволілі былі скліваць у сьнежні 1919 г. сэсію Рады БНР у Менску, але, калі сэсія не падтрымала акупацыі краіны, дык прэм'ера ўраду БНР і некалькіх сяброў кабінэту Палякі арыштавалі, Урад БНР узноў пайшоў на выгнаньне — у сталіцу Летувы Коўна.

Сялянства не атрымала ніякіх палёгкаў. Замест саўгасаў і камун пачалі адраджацца былыя памешчыцкія маёнткі з карнымі расправамі. У краі шырыцца партызанскі рух, накіраваны супраць усіх чужанацыянальных акупацыяў пад лёзунгам «ні паноў, ні маскоўскіх камісараў» [83]. Камуністычная партыя ЛітБел-у намагаецца выкарыстаць антыакупацыйныя настроі, але пераважна ў гарадох, дзеля таго што ў вёсцы бальшавіцкія лёзунгі ўжо былі скампрамітаваныя папярэдняй практыкай. Незадаваленьне тэрарыстычна-шавіністычнай палітыкай польскіх акупацыйных уладаў у Беларусі выкарыстоўвалі нацыянал-камуністыя лева-эсэраўскага паходжаньня. Пад іхным уплывам, радам з кампартыяй Літ-Бел-у, вырастае ў падпольлі Беларуская Камуністычная Арганізаыя. [84].

Узьнікненьне Беларускай Камуністычнай Арганізацыі можна ўважаць другой фазай беларускага нацыянал-камунізму ў вадрозьненьне ад першай фазы эсдэкаўска-меншавіцкага паходжаньня (А. Чарвякоў, З. Жылуновіч). Найвыдатнейшую ролю ў Беларускай Камуністычнай Арганізацыі іграў У. Ігнатоўскі, якому, як кіраўніку Менскага Вучыцельскага Інстытуту, лёгка было ўплываць цераз сваіх былых студэнтаў — сельскіх настаўнікаў на сялянства (Беларуская Камуністычная Арганізацыя падчас польскай акупацыі дзеіла пераважна ў вёсцы).

Няўдачы бальшавікоў у іхнай нутранай палітыцы ў Беларусі й на франтох, пры ўсё большым насіленьні нацыянальнае сьведамасьці народу, прымушаюць іх мяняць тактыку. Дзеля перацягненьня на свой бок сялянства, вясной 1920 г., у Смаленску, пленум ЦК ЛітБел-у пастанавіў нацыяналізаваць ня болей адней трэйцяй адабранай у памешчыкаў і цэркваў зямлі, а дзьве трэйція перадаць у карыстаньне безьзямельнага й малазямельнага сялянства [85].

У гэты час бальшавікі прабуюць устанавіць кантакт і з аб'яўленым у свой час вонках права Урадам БНР. За пасярэдніцтвам савецкага пасла ў Латвіі Ракоўскага, у чэрвені 1920 г., у Маскву запрашаюцца прадстаўнікі

---

[83] Т. Грыб. Беларусь. «Знамя барацьбы», Бэрлін, сакавік, 1924, б. 18.

[84] У. Ігнатоўскі. Камуністычная партыя Беларусі і нацыянальнае пытаньне. Зборнік «Беларусь», б. 231.

[85] Тамсама ,б. 231.

Рады БНР для перамоваў аб стварэньні буфэрнай беларускай дзяржавы паміж Польшчай і Савецкай Расеяй, бязумоўна пад пратэктаратам апошняй [86]. Калі ваеннае палажэньне паправілася ў карысьць бальшавікоў, а Чырвоная армія, прарваўшы фронт на Ўкраіне, 11-га ліпеня заняла ўзноў Менск і пасоўвалася на Варшаву, бальшавікі перарвалі перамовы. Цяпер гэты буфар ім быў непатрэбны.

Правал польскай кампаніі (разгром савецкіх войск пад Варшавай) прымусіў бальшавікоў пачаць мірныя перамовы з Польшчай. Адначасна робяцца спробы ўпарадкаваньня беларускага пытаньня. 1-га жніўня 1920 г. паўторна абвяшчаецца БССР, але толькі на тэрыторыі 6-ёх паветаў былой Менскай губэрні. Творыцца ўзноў Ваенна-рэвалюцыйны Камітэт зь пяцёх сяброў: А. Чарвякова, В. Кнорына, Я. Адамовіча (ад кампартыі Літ-Бел-у), У. Ігнатоўскага (прадстаўнік ад падпольнай Беларускай Камуністычнай Арганізацыі) і А. Вайнштэйна (прадстаўнік БУНД-у) [87]. У справе другога абвешчаньня БССР Я. Менскі робіць наступныя заўвагі:

> «Характэрна, што аб паўторным абвешчаньні БССР чамусьці гаварыць няпрынята: ці таму, што факт сам сабой няпрыемны, ці таму, што ўжо вельмі-ж абмежаванай гэтым разам была рэспубліка й адзін успамін аб паўторным ейным абвешчаньні выклікае нязручнае зьдзіўленьне з прычыны такіх нечаканых тэрытарыяльных зьменаў у параўнаньні з БССР з 1-га студзеня 1919 г. Параўнаньне было не на карысьць рэжыму й яно выяўляла ўсю залганасьць афіцыяльнага лёзунгу аб свабодным самавызначэньні народаў. Вось чаму прынята гаварыць ня інакш, як аб вызваленьні Беларусі з пад польскай акупацыі 11-га ліпеня 1920 г. Дата 1-га жніўня не ўспамінаецца».[88]

Із спыненьнем ваенных дзеяньняў з Польшчай, спынілася й «перасоўваньне на захад» бальшавізму, а дзеля гэтага й Літ-Бел быў ужо непатрэбны, правільней немагчымы (існавала незалежная Летува, аддзеленая ад Саветаў Польшчай). ЛітБел фактычна страціў сваю актуальнасьць у часе вайны й ліквідаваўся паўторным абвешчаньнем БССР; аставалася толькі яшчэ кампартыя ЛітБел-у, а 23-га верасьня 1920 г. распускаецца й яна, а «Менская тройка, пасьля перамоваў з ЦК РКП(б), творыць зь сябе Цэнтральнае Бюро КП(б)Б». Як перадае У. Ігнатоўскі, Лістападаўскі 2-гі зьезд КП(б)Б выбраў Цэнтральнае Бюро ў складзе 13-ёх чалавек. Ніякіх, аднак, практычных крокаў дзеля заспакаеньня нацыянальных патрэбаў ня было зроблена, навет у культурнай галіне жыцьця краю. У г. зв. незалежнай Савецкай Беларускай Рэспубліцы Народны Камісарыят Асьветы вёў сваю дзейнасьць у расейскай мове і меў толькі «беларускую сэкцыю», якой было падпарадкавана ў сталіцы Рэспублікі ўсяго толькі 12 школ І-ай ступені й адна школа ІІ-ой супені.[89]

Абядненьне ў выніку ваенных дзеяньняў з заўсёднымі г. зв. «прадразьвёрсткамі» ў сяле й мізэрнымі пайкамі ў горадзе, у дапаўненьне да ўсяго вышэй успомненага, яшчэ больш умацоўвала незадаваленьне насельніцтва бальшавікамі. Гэта быў пэрыяд найбольшага насіленьня беларускага нацыянальнага антыбальшавіцкага руху з масавымі арганізаванымі й стыхій-

---

[86] В. Трембіцький. В семьі вільних народив. Газэта «Націоальна трибуна», № 11, Нью Ёрк, 25 сакавіка 1951.

[87] У. Ігнатоўскі. Цыт. праца, б. 231.

[88] J. Mienski. Цыт. праца, б. 28.

[89] J. Mienski. Цыт. праца, б. 35.

нымі дробнымі й буйнейшымі паўстаньнямі. Адным з найбольш буйных паўстаньняў, кіраваных органамі БНР, было Слуцкае паўстаньне ў канцы 1920 г. Тады дзесяцітысячная беларуская армія каля месяца змагалася зь пераважаючымі сіламі бальшавікоў за рэстаўрацыю Беларускай Народнай Рэспублікі.

У другіх часьцях акупаванай бальшавікамі Беларусі лясы запаўняліся паасобнымі ўзброенымі аддзеламі, называнымі бальшавікамі «зялёнымі бандамі». У лясы йшлі й няўзброеныя людзі, хаваючы там сваю маемасьць, быдла ад рэквізыцыяў і самых сябе ад карных аддзелаў, вылаўліваючых дэзэртыраў. Дэзэртырамі зьяўлялася пагалоўна ўся беларуская моладзь, не жадаючая служыць у Чырвонай арміі, ня веруючы ў даўгавечнасьць бальшавіцкага рэжыму. Па ўсёй краіне шырыўся тэрор ВЧК (Усерасейскай Надзвычайнай Камісіі дзеля змаганьня з контррэвалюцыяй).

Пасьля некаторага часу бальшавікі робяць новы паварот у сваей палітыцы, бо палажэньне ў самой Расеі мала чым розьнілася ад палажэньня ў нацыянальных рэспубліках. Загроза цэласьці новай савецкай дзяржавы прымусіла бальшавікоў зьмяніць іхныя ўстаноўкі ў дачыненьні да нацыянальнага пытаньня. Неабходна было сур'ёзна лічыцца з нацыянальнымі імкненьнямі нерасейскіх народаў, зь сілай іхнага нацыянальнага руху, патрэбныя былі якіясьці ўступкі ўва ўсім дзяржаўным жыцьці, каб утрымаць кантролю ў сваіх руках. З гэтай мэтай, па агульнай лініі абвяшчаецца новы эканамічны курс — Новая Эканамічная Палітыка (НЭП), які адмяняе прадразьвёрстку, уводзіць замест яе прадпадатак (продналог), які рэгулюе аграрнае пытаньне (надзяленьне сялян зямлёй, права арэнды й найму дадатковай работніцкай сілы), а ў гарадох дапускаючы прыватны гандаль, разьвіцьцё дробных рамесьніцкіх прадпрыемстваў, а навет і замежныя канцэсіі.

У Беларусі, яшчэ ў сьнежні 1920 г. на II-ім зьезьдзе саветаў БССР быў прыняты заклік да народу аб тым, што зьезд сабраўся для замацаваньня незалежнасьці краю. У запраўднасьці-ж нельга было сур'ёзна гаварыць аб незалежнасьці, калі паўторна абвешчаная бальшавікамі БССР абыймала толькі невялікую часьць этнаграфічных беларускіх земляў (6 паветаў былой Менскай губэрні з тэрыторыяй мала большай чымся 52 тыс. квадратных кілямэтраў і насельніцтвам звыш 1.500 тыс. чалавек) [90].

16-га студзеня 1921 г. былі афіцыяльна аформленыя ўзаемадачыненьні паміж БССР і РСФСР дагаворам паміж урадамі абедзьвюх рэспублік. Першы пункт дагавору гаварыў, што БССР і РСФСР твораць «ваенны й гаспадарскі саюз», а ў 3-ім пункце пастанаўлялася, што «з гэтай мэтай творацца задзіночаныя камісарыяты: ваенных і морскіх справаў, найвышэйшы савет народнае гаспадаркі, вонкавага гандлю, фінансаў, працы, шляхоў зносін, пошты й тэлеграфаў» [91]. Арыгінал дагавору быў зрэдагаваны ў двух экзамплярах — на беларускай і расейскай мовах з заўвагай, што «дагавор павінен быць ратыфікаваны адпаведнымі законадаўчымі органамі абедзьвюх рэспублік».

Вонкава — поўная сувэрэннасьць, у запраўднасьці-ж кіраўніцтва й кантроля задзіночаных камісарыятаў ускладаліся на Ўсерасейскі Зьезд Саветаў і Ўсерасейскі ЦВК.

> «Згодна дагавору з 16. 1. 1921 г. Беларусь, як і іншыя падпісаўшыя дагаворы рэспублікі, не павінны былі прыймаць актыўнага

---

[90] А. Червяков. Цыт. праца, б. 59.
[91] М. Гуткоўскі. Цыт. праца, б. 226.

ўдзелу ў Усерасейскіх Зьездах. ЦВК запрашаў прадстаўнікоў саюзных рэспублік на Ўсерасейскія Зьезды (VII—IX) толькі як гасьцей» [92].

Натуральна, што падобная інтэрпрэтацыя сувэрэнасьці БССР нікога, навет беларускіх нацыянал-камуністых не магла задаволіць. Апазыцыйныя настроі ў дачыненьні да цэнтру растуць ня толькі ў Беларусі, дзе бальшавікі тарнавалі рэзкія мерапрыемствы, як расстрэл Фабіяна Шантыра ў часе ўспамінанага Кнорынам «лістападаўскага крызісу» ўраду й чысткі партыі, праводжанай летам 1921 г.» [93], але і ў іншых рэспубліках. На IX Зьезьдзе Саветаў прадстаўнікі саюзных рэспублік патрабавалі права пастанаўляючага голасу, а пазьней «прадстаўнікі Беларусі, Украіны, Грузіі, Армэніі й Азэрбайджану выказалі жаданьне прыймаць удзел і ў Усерасейскім ЦВК», — пісаў А. Гуткоўскі.

ЦК КП(б)Б у верасьні—лістападзе 1921 г., пад націскам нутрапартыйнай апазыцыі, разглядае пытаньне стварэньня эканамічнага абласнога аб'еднаньня, «куды ўвайшлі-б губэрні: Смаленская (паветы — Мсьціслаўскі, Горацкі, Красьненскі, Парыцкі), Віцебская, Гомельская й палітычная Беларусь». Цэнтрам вобласьці павінен быў быць Менск. «Гэта былі першыя шагі на шляху да ўзбуйненьня Беларусі» [94]. Праект гэты астаўся без належнага водкліку ў Маскве. Ленін у мэтах ажыцьцяўленьня сваей ідэі заўладаньня ўсім сьветам імкнуўся ўсякімі спосабамі стрымаць дэцэнтралістычныя імкненьні. Ён даводзіў, што:

> « .. прызнаючы фэдэрацыю пераходнай формай да поўнага адзінства, неабходна ймкнуцца да ўсё больш і больш цясьнейшага фэдэрацыйнага саюзу, маючы наўвеце, папершае, немагчымасьць абараніць існаваньня савецкіх рэспублік, акружаных непараўнальна больш сільнымі ў ваенным дачыненьні імпэрыялістычнымі дзяржавамі ўсяго сьвету; падругое неабходнасьць цеснага эканамічнага саюзу савецкіх республік, без чаго ня можа быць ажыцьцёўленая рэканструкцыя разбураных імпэрыялізмам вытворчых сілаў і забясьпечаньне дабрабыту працоўных; патрэйцяе, тэндэнцыю да стварэньня адзінае, паводля супольнага пляну рэгуляванае пралетарыятам усіх нацыяў, сьветавае гаспадаркі як целасьці» [95].

Маючы наўвеце гэта, 10-га жніўня 1922 г. палітбюро ЦК РКП(б) прыймае пастанову аб стварэньні камісіі з прадстаўнікоў ЦК РКП (б), камуністычных партыяў Азэрбайджану, Армэніі, Бухары, Беларусі, Грузіі, Далёкаўсходняй рэспублікі [96], Украіны й Харэзны для распрацаваньня пытаньня далейшых узаемадачыненьняў між савецкімі рэспублікамі.

Пачаткавы праект тэзаў у пытаньні аб'еднаньня апрацаваў Сталін. «Яны (тэзы) выходзілі зь неабходнасьці ўлучэньня незалежных савецкіх рэспублік у склад РСФСР. 23—24 верасьня тэзы былі прынятыя камісіяй ЦК РКП(б)» [97]. Аднак, супраціў рэспублік ня даў магчымасьці правядзеньня гэ-

---

[92] Тамсама, б. 226.

[93] Камуністычная партыя Беларусі ў лістападзе 1920 г. налічвала ўсяго 2 000 сяброў. Гл. В. Щербаков. Цыт. праца, б. 124.

[94] У. Ігнатоўскі. Камуністычная партыя Беларусі і нацыянальнае пытаньне. Зборнік «Беларусь», б. 238.

[95] В. И. Ленин. Сочинения, т. 31, выд. 4-ае, б. 125.

[96] Створаны бальшавікамі ў красавіку 1920 г. буфар, на падабенства якога мяркавалася стварэньне «незалежнай» Беларусі ў перамовах між урадамі РСФСР і БНР у часе савецка-польскай вайны 1920 г.

[97] «Вопросы истории», № 3, Масква, 1956, б. 17.

тага сталінскага пляну. Летам 1922 г. Прэзыдыюм ЦВК БССР паклікаў сваю камісію ў складзе прадстаўнікоў Народнага Камісарыяту Юстыцыі й Народнага Камісарыяту Замежных справаў з удзелам прадстаўнікоў іншых органаў, якой даручыў падгатаваць для Ўсебеларускага Зьезду Саветаў матарыялы аб формах дзяржаўных узаемадачыненьняў з РСФСР [98].

16-га верасьня 1922 г. ЦК РКП(б), заслухаўшы інфармацыю прадстаўніка Беларусі ў камісіі ЦК РКП(б), запрапанаваў замест намечанага камісіяй ЦК РКП(б) праекту «аб'яднаньня» пакінуць лепш існуючыя ўзаемадачыненьні. Ленінскае жаданьне «больш цеснага фэдэрацыйнага саюзу», а фактычна поўнай цэнтралізацыі, падпарадкаванай Маскве, спаткалася з супрацівам. Пад націскам, аднак, цэнтру рэспублікі змушаныя былі згадзіцца на стварэньне СССР. Такую пастанову прыняў IV-ы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў БССР 17 сьнежня 1922 г. і зьезды саветаў іншых рэспублік, а ўжо прадстаўнікі гэтых рэспублік, назваўшы сваё сабраньне 30 сьнежня 1922 г. I-ым Зьездам Саветаў СССР, абвесьцілі й дэклярацыю аб стварэньні СССР. Праект канстытуцыі СССР, адобраны ЦК РКП(б), павінен быў быць зацьверджаны пасьля абмеркаваньня яго ў саюзных рэспубліках на чарговым зьезьдзе саветаў. «Буржуазныя нацыяналістыя, пранікшыя ў партыйныя й савецкія органы, прабавалі сарваць аб'еднаньне савецкіх рэспублік», — цьвердзіў В. Кікаць з Акадэміі Навук БССР [99].

Вясной 1923 г. ЦВК УССР запранаваў контрпраект канстытуцыі СССР, апрацаваны «ўкраінскімі буржуазнымі нацыяналістымі й трацкістымі», — як аб'ясьняў Кікаць, — якія

> «зводзілі саюзную ўладу да фікцыі замест стварэньня магутнага фэдэрацыйнага саюзу сацыялістычных рэспублік. Такім-жа быў праект канстытуцыі СССР, апрацаваны канстытуцыйнай камісіяй ЦВК БССР, дзе верхаводзілі ворагі партыі й народу — трацкістыя, бухарынцы, буржуазныя нацыяналістыя. Успамінаючы мясцамі аб аб'еднаньні чатырох савецкіх рэспублік у вадну саюзную дзяржаву, праект гэты ўсяляк абмяжоўваў кампэтэнцыю саюзных органаў дзяржаўнай улады й дзяржаўнага кіраўніцтва» . . . [100].

Падтрыманьне прынцыпу адноснай незалежнасьці навет абмежаванай БССР з гледзішча бальшавіцкай навукі ў Акадэміі Навук БССР уважаецца й цяпер праяўленьнем дзейнасьці «ворагаў народу». Аб'ясьняецца гэта тым, што тагачасная нутранапартыйная апазыцыя адважвалася рабіць папраўкі ў выпрацаваным у цэнтры праекце «саюзнай канстытуцыі», накіраваныя да дэцэнтралізацыі «кіраўніцтва эканамічнага жыцьця, што, у ўмовах НЭП-у, прывяло-б да цераразьмернага разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў краіны». Вельмі важным зьяўляецца прызнаньне Кікаця і Акадэміі Навук БССР у 1954 г., што г. зв. дабравольны Ленінска-Сталінскі саюз народаў быў накінуты зьверху. Кікаць гаворыць:

> «Вымушанае фармальнае прызнаньне фэдэрацыйнага, а не канфэдэрацыйнага характару об'еднаньня савецкіх рэспублік павінна было маскаваць імкненьні трацкістых, бухарынцаў і буржуазна-нацыяналістычных двурушнікаў да аслабленьня магутнасьці дзяржаўнага апарату СССР» [101].

---

[98] Тамсама, б. 15.
[99] В. А. Кикоть. Цыт. праца, б. 14.
[100] Тамсама, б. 14.
[101] Тамсама, б. 15.

Г. зв. канстытуцыйная камісія ЦВК СССР «канчальна адкінула ўсе нацыяналістычныя папраўкі да першапачаткавага тэксту «Дэклярацыі» й «Дагавору аб стварэньні СССР». Праект, прадстаўлены камісіяй ЦВК БССР, — цьвердзіць Кікаць, — быў таксама адхілены». 16-га чэрвеня 1923 г. камісія закончыла сваю працу й перадала ў ЦК РКП(б) і ЦВК СССР праект канстытуцыі. Абасноўваўся ён на першапачаткавым праекце, у якім была «трохі расшыраная кампэтэнцыя саюзных органаў» [102]. Пасьля зацьверджаньня гэтага праекту Цэнтральным Камітэтам партыі, усесаюзна «сувэнныя» сэсіі ЦВК павінны былі яго бязумоўна прыняць.

Апынуўшыся ў складзе СССР, Беларусь на гэты раз мела невялікі выйгрыш — беларуская мова, хаця й фармальна, была прызнаная аднэй зь дзяржаўных моваў СССР. Да гэтага часу, навет у самой БССР, пераважала расейская мова. Орган першага беларускага савецкага ўраду З. Жылуновіча «Весьці», які паявіўся ў беларускай мове, быў закрыты. Праўда, 21-га сакавіка 1919 г. «Дэкрэт аб правох нацыянальнасьцяў насельніцтва Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Летувы й Беларусі» прызнаваў роўнае права ў ліку пяцёх дзяржаўных моваў і беларускай мове, аднесенай у Дэкрэце на самае апошняе месца [103].

У новастворанай СССР старшыні ЦВК саюзных рэспублік па чарзе выконвалі абавязкі старшыняў ЦВК СССР. Гэтак было да зацьверджаньня новай г. зв. Сталінскай канстытуцыі ў канцы 30-ых гадоў.

---

[102] Тамсама, б. 15.

[103] Журнал «Школа и культура Советской Белоруссии», № 1, красавік, 1919 г., б. 19.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА БАЛЬШАВІКОЎ У ПАЧАТКУ НЭП-у

НЭП быў перш за ўсё ўступкай сялянству, стыхійнае незадаваленьне якога бальшавізмам пачало прыймаць войстрыя формы ня толькі на нацыянальных акраінах РСФСР, але й у самой Расеі (Антонаўскае сялянскае паўстаньне). Такой-жа ўступкай сялянству была й зьмена курсу ў нацыянальнай палітыцы бальшавізму ў пэрыяд НЭП-у. «Нацыянальнае пытаньне неразрыўна зьвязанае зь сялянскім пытаньнем. Нацыянальнае пытаньне ў сутнасьці зьяўляецца сялянскім пытаньнем», — паўтараюць Ленінска-Сталінскія цьверджаньні пасьляваенныя бальшавіцкія гісторыкі[104]. Якраз дзеля гэтага зьвярталася гэтак шмат увагі нацыянальнаму й сялянскаму пытаньням VIII-ым і X-ым зьездамі бальшавіцкай партыі ў пэрыяд найвышэйшага завайстрэньня змаганьня за панаваньне над краінай.

X-ы зьезд РКП(б) у сакавіку 1921 г. прыймае цэлы рад пастановаў, накіраваных да заваяваньня даверу нерасейскіх народаў; абвяшчаецца наступленьне на «вялікадзяржаўніцкі расейскі шавінізм», а трохі пазьней, у пэрыяд спрэчак вакол формаў стварэньня Савецкага Саюзу, у красавіку 1923 г., XII-ы зьезд РКП(б) узноў вяртаецца да нацыянальнага пытаньня. Тады Сталін і вызначыў сутнасьць бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі наступнымі словамі:

> «Для таго, каб савецкая ўлада сталася й для іншанацыянальнага сялянства роднай, неабходна, каб яна была яму зразумелай й функцыянавала ў роднай мове, каб школы й ворганы камплектаваліся зь мясцовых людзей, ведаючых мову, абычаі й быт».[105]

Наступленьне на вялікадзяржаўніцкі расейскі шавінізм пастанова XII-га зьезду РКП(б) матывавала наступным чынам:

> ... «паколькі перажыткі нацыяналізму зьяўляюцца своясаблівай формай абароны ад вялікадзяржаўнага шавінізму, станоўчае змаганьне зь вялікадзяржаўным шавінізмам зьяўляецца найпэўнейшым сяродкам дзеля змаганьня з нацыяналістычнымі перажыткамі»[106]:

У пачатку НЭП-у, у 1921 г. яшчэ гэтай пастановы ня было, а й пазьней у Беларусі даўжэйшы час тарнавалі яе й разумелі толькі як сяродак супраць запраўдных шавіністычных нацыянальных перажыткаў, не прадбачучы, што значна пазьней, у 30-ых гадох яна зьвернецца якраз супраць тых, хтоператвараў савецкую ўладу ў «родную» для беларускага народу ў ягонай роднай мове. Цяпер-жа, каб прыстасаваць пастановы X-га зьезду РКП(б) «да мясцовых умоваў жыцьця ў Беларусі», а з другога боку, пад націскам нацыянал-камуністычнай апазыцыі, у кастрычніку й лістападзе 1921 г. была

---

[104] Игнатьев. VIII сьезд коммунистической партии и его историческое значение в дальнейшем укреплении союза рабочего класса и трудового крестьянства. Масква, 1955 г., б. 16.

[105] Стэнаграма XII зьезду РКП(б). Выд. «Красная новь», б. 442.

[106] Трайнин. СССР и национальная проблема. Масква, 1924, б. 29.

праведзеная дыскусія аб беларускім пытаньні «сярод адказных работнікаў». У выніку дыскусіі былі выпрацаваныя тэзы «у беларускім пытаньні, зацьверджаныя ЦК КП(б)Б й апублікаваныя 5-га сьнежня 1921 г.» [107].

Апублікаваныя 13 тэзаў п. н. «Беларускае нацыянальнае пытаньне і камуністычная партыя» давалі накіраваньне камуністычнай партыі Беларусі ў рэалізацыі нацыянальнай палітыкі амаль да самага пагрому «нацдэмаў».

Для лепшага разуменьня пазьнейшай практыкі бальшавізму ў беларускім нацыянальным пытаньні неабходна затрымацца на найбольш характэрных месцах паасобных тэзаў. Гэтак, наперакор сучасным цьверджаньням бальшавіцкіх гісторыкаў аб бесьперапынным культурным узьдзейваньні Масквы на Беларусь, 2-ая тэза, гаворачы аб гісторыі Беларусі ў пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага й высокай узроўні культуры таго часу, адцемлівала, што «Маскоўская дзяржава ў XVII стагодзьдзі пераняла гэтую культуру ад Літоўска-Беларускай дзяржавы для насаджэньня яе на Ўсходзе» [108].

Эпоху царызму 4-ая тэза характарызавала наступнымі словамі:

> «Праводзілася русыфікацыя краіны, якая зьяўлялася як-бы калёніяй імпэрыі... Пануючы прыгнятальнік імкнуўся канчальна абтрэсьціся ад няпрыемнай яму культуры, насіўшай у сабе зародак і факты палітычна-сацыяльнага пратэсту» [109].

Тэза 6-ая ўстанаўлівала бясклясавасьць беларускага народу. Яна цьвердзіла, што

> «... палітычна-сацыяльнае вызваленьне зьявілася для Беларусі адначасна й нацыянальным вызваленьнем, дзеля таго што клясавы й нацыянальны склад Беларусаў амаль што адказвае адзін другому. Беларус даўно перастаў быць памешчыкам і купцом, ня быў хвабрыкантам, ня быў навет і кулаком» [110].

Тэза 10-ая, ссылаючыся на пастанову X-га зьезду РКП(б), дае наступную характарыстыку вялікадзяржаўнага ўхілу:

> «Гэты ўхіл... вядзе ад камунізму ў бок імпэрыялістычнай вялікадзяржаўнасьці, калянізатарства й вялікарасейскага шавінізму. З асаблівай сілай ухіл гэты праяўляецца сярод тых элемэнтаў, якія зьяўляюцца выхаджэнцамі зь беларускіх нетраў, настолькі падпадалі пад асыміляцыю расейскай школы, казармы й мяшчанскага патрыятызму, прывыкшы ўва ўсім нерасейскім бачыць варожае й чужое. Зьяўляючыся ў мінулым найлепшымі прадстаўнікамі запраўднага расейскага чыноўніцтва й адміністрацыі, яны улучыўшыся ў рады камуністычнай партыі, уносяць у яе няпрымірнасьць у дачыненьні да ўсякай праявы самабытнай беларускай культуры [111]

Характэрнай асаблівасьцю тэзаў было зьмякчэньне пунктаў, якія датычылі г. зв. мясцовага буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму, і мацнейшае акцэнтаваньне небясьпекі вяліка-дзяржаўнага расейскага шавінізму ў прыраўнаньні да такіх-жа пунктаў пастановаў X-га зьезду РКП(б). Гэтак, прыкладам, тэза 12-ая найвялікшую небясьпеку бачыла ў вялікадзяржаўным расейскім шавінізьме, які

---

107 У. Ігнатоўскі. Цыт. праца, б. 233.
108 Часапіс «Вольны сьцяг», № 6 (8), Менск, 25. 12. 1921, б. 38.
109 Тамсама, б. 39.
110 Тамсама, б. 39.
111 Тамсама, б. 40.

«... у бальшыні выпадкаў, а магчыма й заўсёды зьяўляецца прычынай і другога ўхілу. Гэта ён выклікае ўжо зьнішчаны прывід нацыянальнага прыгнечаньня сярод камуністых Беларусі й піхае іх да другога ўхілу. Толькі пасьля зьнішчэньня першага ўхілу — ухілу ў бок вялікадзяржаўя, калянізатарства й вялікарасейскага шавінізму — можа быць зьнішчаны ўхіл у бок буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму» [112].

Выпрацаваныя ў такім відзе пад беспасярэдным уплывам тадышніх беларускіх нацыянал-камуністых тэзы адкрывалі даволі шырокія магчымасьці для нацыянальнай беларускай дзейнасьці, калі ня ў шырокіх палітычных дачыненьнях, дык у культурных, а навет, з часам, у эканамічных (сельская гаспадарка).

Першапачаткава ўсю беларускую работу ЦК КП(б) паручыў Народнаму Камісарыяту Асьветы, на чале якога ізь сьнежня 1920 г. знаходзіўся праф. У. Ігнатоўскі. Пачалі масава адкрывацца беларускія школы, розныя курсы, хаты-чытальні, тэхнікумы, навучальныя ўстановы. Беларускія нацыянал-камуністыя (У. Ігнатоўскі, З. Жылуновіч, А. Адамовіч, А. Чарвякоў і інш.), будучы паводля сваіх настрояў і пераканаааньняў перш за ўсё беларускімі патрыётамі, а ўжо потым камуністымі, цалком аддаліся творчай нацыянальнай дзейнасьці, прыцягваючы да яе найвыдатнейшых патрыётаў і былых удзельнікаў небальшавіцкіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў, як Я. Лёсік, С. Некрашэвіч і іншыя, хто мог і хацеў сваей дзейнасьцяй прылажыцца да разьвіцьця беларускай культуры. Усе захапліваліся магчымасьцю выкарыстаньня НЭП-у для нацыянальнай дзейнасьці, а перш за ўсё — для падгатаваньня новых нацыянальных сьведамых кадраў.

Пэрыяд НЭП-у быў успрыняты, як сваяасаблівая, выражаючыся пазьнейшай тэрміналёгіяй, адліга. Ніхто не хацеў тады ўдумлівацца ў ленінскую дыялектыку «двуклясавых культур у кажнай нацыянальнай культуры» [113]. Разгледжаная намі вышэй 6-ая тэза сама сабой супярэчыць гэтай лінінскай установцы. Вось чаму й адражэнская нацыянальная дзайнасьць магла праходзіць тады па шляху разьвіцьця агульнанародных культурных цэннасьцяў, хаця й было ведама, што ў разуменьні бальшавікоў «нацыянальнае пытаньне зьяўляецца часьцю агульнага пытаньня рэвалюцыі», а ягоны характар і заданьні «мяняюцца ў залежнасьці ад характару й заданьняў рэвалюцыі, адпаведна з гэтым мяняецца й палітыка партыі ў нацыянальным пытаньні» [114].

І тады ў пэрыяд НЭП-у бальшавікі не давалі магчымасьці нацыянальным рэспублікам ісьці далей некаторай моўнай незалежнасьці, незалежнасьці пад лёзунгам «нацыянальнай формы й сацыялістычнага зьместу». Каб абясьпечыць гэты сацыялістычны зьмест» і затрымаць агульную кантролю ўва ўсіх найгалаўнейшых галінах жыцьця Беларусі, маскоўскі бальшавіцкі цэнтр на становішчы фактычнага гаспадара краю — першага сакратара ЦК КП(б)Б заўсёды стараўся мецfolь сваю даверaную асобу і, як правіла, паводля нацыянальнасьці, не Беларуса. Гэтак першым сакратаром ЦК партыі ад 1921 да 1924 г. быў Паляк Вацлаў Багуцкі, ад 1924 да 1927 г. Крыніцкі, не Беларус, у 1928 г. Ян Гамарнік (Чэх), у 1929 г. Эстонец Гей і г. д.

---

[112] Тамсама, б. 40.

[113] Гл. Ленин. Сочинения, т. XVII, выд. 3-яе, б. 137 і 143.

[114] В. К. Козлов. О формировании и развитии социалистической нации в СССР. Масква, 1954, б. 8.

Улічваючы значэньне й ролю камуністычнай партыі ў БССР, лідары тагачаснага нацыянальнага руху ў Беларусі, згодна сьветчаньняў аднаго з удзельнікаў гэтага руху,

> «... у вузкім коле прыйшлі да несамавітага напершы пагляд вываду: ня перашкаджаць сьвядомай маладой інтэлігенцыі ўступаць у камуністычную партыю, навет падштурхоўваць да гэтага, а ў некаторых выпадках і забавязваць быць сябрамі партыі. Было ўзята на ўвагу ,што Беларусы, асабліва інтэлігенцыя, будучы ў партыі, хутчэй зоймуць кіруючае палажэньне ў партыі й адміністрацыйным апараце. Разьлічвалася цераз партыю хутчэй і больш пасьпяхова дасягнуць ажыцьцяўленьня нацыянальных заданьняў» [115].

Бальшавіцкае кіраўніцтва таго часу змушанае было часова пагадзіцца з заіснаваўшым палажэньнем у Беларусі, бо

> «У значнай сваей часьці, ня маючы такой першачарговай прадпасылкі сумеснага будаўніцтва разам з працоўным сялянствам савецкай нацыянальнай дзяржавы, як беларуская мова, пралетарыят БССР павінен быў, не адмаўляючыся й ні на крок не адступаючы ад сваіх мэтаў і прынцыпаў, разам зь перацягненьнем на свой бок асноўных масаў найбольш блізкай нам інтэлігенцыі, выкарыстоўваць і нацыяналістычную, вельмі навет часта буржуазную інтэлігенцыю для помачы ў будаўніцтве нацыянальнай формы сацыялістычнай культуры, чым яшчэ больш памагаць дыфэрэнцыяцыі ў радох інтэлігэнцыі.., пралетарыят у БССР... каб прысвоіць самому нацыянальную форму культуры, павінен быў выкарыстаць нацыяналістычную дробнабуржуазную й навет буржуазную інтэлігенцыю... Неабходна было й разьбіць адзіны беларускі эміграцкі фронт, зьнішчыць БНР, якая ў сваіх мэтах заўсёды мела-б магчымасьць выкарыстоўваць капіталістычныя ўрады ў падгатаваньні новай інтэрвэнцыі» [116].

Гэта была асноўная прычына тэй сваясаблівай нэпаўскай адлігі ў Беларусі. Быў патрэбны некаторы час перадышкі, на працягу якога, пры помачы «буржуазнай інтэлігенцыі», мець магчымасьць стварэньня адданых бальшавізму сваіх собскіх кадраў інтэлігенцыі на мясцох.

Даючы магчымасьць развіцьця нацыянальнай дзейнасьці, заданьнем бальшавікоў было пранікненьне ў працэс самога разьвіцьця нацыянальнага руху з тым, каб адтуль раскладаць («дыфэрэнцыяваць») яго й тым самым ствараць уражэньне самастойнасьці пераходу беларускага нацыянальнага руху на пазыцыі бальшавізму. Найважнейшым заданьнем было імкненьне давесьці перад сьветам, што толькі бальшавіцкая сыстэма дае магчымасьць Беларусам разьвіваць сваю культуру, а гэтым тактычным ходам хутчэй «разьбіць адзіны фронт БНР» і канчальна яго зьнішчыць. Ліквідацыя органаў БНР, якія мелі мандат ад праўнага народнага прадстаўніцтва — Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, дзеілі на выгнаньні й былі вызнаныя многімі сувэрэннымі дзяржавамі або дэ-юрэ або дэ-факто, была ў той час адным з найгалаўнейшых заданьняў бальшавізму ў Беларусі. Ажыцьцяўленьне гэтага заданьня мела-б ня толькі вонкавае, але й нутранае значаньне. Тады можна было-б паказаць беларускаму народу, што ўсё перадавое, навет органы БНР сьхіляюцца ў бок бальшавіцкага спосабу разьвязаньня беларускай нацыянальнай праблемы.

---

[115] С. Крушинский. Белоруский коммунизм и национализм. Выд. Research Program on the USSR, New York, 1953, б. 4

[116] А. Зюзькоў. Цыт. праца, б. 47.

Пад уплывам бальшавіцкай тактыкі лібэралізацыі сярод некаторай часьці беларускай эміграцыі, не азнаёмленай із сутнасьцяй бальшавізму, стваралася ўражаньне, што ў БССР, паводля ейнага выражэньня, узапраўды «будуецца нацыянальны беларускі дом», хай сабе пакуль што й пад савецкім шыльдам, але ўсё-ж такі свой, беларускі. Узьнікненьне такіх настрояў сярод эміграцыі было не малым дасягненьнем бальшавізму. Цяпер трэба было толькі знайсьці спосаб выкарыстаць гэтыя настроі.

Разбураныя вайной, слаба абсталяваныя собскія друкарні Беларусі, заваленыя замоўленьнямі на прапагандную літаратуру, не маглі справіцца з выдаваньнем падручнікаў для беларускіх народных школаў і мастацкай літаратуры. Пастаноўлена было друкаваць падручнікі заграніцай — у Нямеччыне, а часткава ў Вільні. Бальшавікі, карыстаючыся гэтай нагодай, афіцыяльна, дзеля арганізацыі работы ў сувязі з выдаваньнем кніжак заграніцай, высылаюць на гэтую работу З. Жылуновіча. Неафіцыяльна — Жылуновіч атрымаў заданьне навязаць асабістыя кантакты з прадстаўнікамі беларускай палітычнай эміграцыі й адпаведным чынам уплынуць на больш няўстойлівую яе часьць, а сваім пісьменьніцкім і ранейшым грамадаўскім аўтарытэтам, а таксама й асабістымі знаёмствамі, сьхіліць, калі ня ўсіх, дык часьць дзеячоў з ворганаў БНР да павароту ў БССР.

Пасьля некалькіх паездак Жылуновіча й іншых бальшавіцкіх высланьнікаў заграніцу ім удаецца пераканаць некалькіх дымісіяваных сяброў ураду БНР аб нямэтазгоднасьці іх прабываньня заграніцай у той час, калі ў краіне кіпіць вялікая творчая культурная дзейнасьць. Зь імі й была праведзеная г. зв. «Другая канфэрэнцыя беларускай палітычнай эміграцыі» ў кастрычніку 1925-га году ў Бэрліне. У запраўднасьці-ж гэта была прыватная сустрэча бальшавіцкіх прадстаўнікоў з трыма чалавекамі, якія згадзіліся вярнуцца ў БССР. Карыстаючыся тым, што гэтыя людзі былі нядаўна сябрамі ўраду БНР, ім запрапанавалі падпісаць пратакол аб «самароспуску» ўраду БНР зь перадачаю мандатаў ураду БНР у рукі ўраду БССР і вызнаньнем савецкага Менску за «адзіны цэнтр нацыянальнага будаўніцтва».

Канфэрэнцыя гэтая была шырока рэклямаваная ў савецкай прэсе БССР, дзе насельніцтва не магло ведаць усей праўды. Справа ў тым, што А. Цьвікевіч, Заяц і Пракулевіч, падпісаўшыя ўспомнены пратакол, яшчэ да канфэрэнцыі, якая праходзіла 12—16 кастрычніка 1925 г., 4-га кастрычніка 1925 г. падалі пісьмовую адстаўку перад Прэзыдэнтам БНР, і адстаўка гэтая была прэзыдэнтам П. Крэчэўскім 10-га кастрычніка 1925 г. прынятая [117]. Прэзыдэнт БНР П. Крэчэўскі ў сваей заяве з 16-га студзеня 1926 г. зьвяртаў увагу на тое, што

> «Усёроўна пры адстаўцы й навет без адстаўкі, пратакол аб ліквідацыі беларускага Ўраду, а тым болей, перадача мандатаў без зацьверджаньня Старшыні Рады, ніякай вагі мець ня мог і зьяўляецца хвальсыфікатам і спэкуляцыяй з аднаго боку, і юрыдычным абсурдам, разьлічаным на неасьвядомленасьць, калі так сказаць, і на дурнату, як сваю, гэтак і тых, каму гэтыя пастановы й мандаты падгатаўляліся» [118].

Тым ня меней, прарыў у вадзіным эмыграцыйным фроньце бальшавіком удалося зрабіць. Пасьля выявіліся й іншыя, што наважыліся вярнуцца ў БССР з эміграцыі, як В. Ластоўскі, У. Жылка й інш. Усе яны прытрымліваліся наступнай думкі:

---

[117] «Бюлетэнь Рады БНР» за студзень 1926 г.
[118] Тамсама.

«... калі... нельга ажыцьцявіць «незалежнай Беларусі» сяньня, дык гэта ня значыць, што яна не ажыцьцявіцца заўтра; калі нельга правесьці сваей праграмы «ударам у лоб», дык трэба праводзіць яе ў вабход. Важна, каб правільны быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык усё астальное зьяўляецца толькі пытаньнем часу, умелай тактыкі й наагул змаганьня. Дзеля гэтага трэба быць толькі цярплівым, спакойным і ўпорыстым» [119].

Далейшае разьвіцьцё БССР паказала, што супрацоўніцтва з бальшавізмам немагчымае, што некаторыя актыўныя ўдзельнікі беларускага нацыянальнага руху балюча памыліліся ў сваіх разьліках правядзеньня нацыянальнай праграмы «ў вабход». Тым ня меней, ужо ў навейшы час, спробы падобнага супрацоўніцтва паўтараліся й часта паўтараюцца й сярод іншых народаў з адным і тым-жа нязьменным вынікам — поўным падпарадкаваньнем гэтых народаў бальшавіцкай кантролі. Ведама, чым кончылася спроба супрацоўніцтва з бальшавікамі ў супольным зь імі ўрадзе ў пасьляваеннай Польшчы былага прэм'ера ўраду Польскай Рэспублікі С. Мікалайчыка й спробы кааліцыі з бальшавікамі іншых краінаў, улучаных у выніку такой кааліцыі ў савецкую арбіту.

Агульны ўздым нацыянальнай культурна-адраджэнскай дзейнасьці пасьля абвешчаньня тэзаў і актыўнага ўлучэньня ў гэтую дзейнасьць сьведамых нацыянальна-культурных сілаў Беларусі пачынае непакоіць бальшавіцкіх гаспадароў краю. ХХІІ-ая Ўсебеларуская партыйная канфэрэнцыя бальшавікоў у сакавіку 1923 г. адводзіць спэцыяльную ўвагу гэтай праблеме й прымае адпаведную рэзалюцыю, у якой адзначае:

«... з аднаго боку заўважваецца ў нашых культурна-асьветных установах засільле некамуністычных дробна-буржуазных нацыяналістычных элемэнтаў, выкарыстоўваючых права свабоднага разьвіцьця нацыянальнай культуры з мэтаю адхіленьня гэтай работы ў бок разьвіцьця вузкага нацыяналізму й ажыцьцяўленьня нацыяналістычных ідэялаў адраджэньня буржуазна-дэмакратычнай дзяржаўнасьці... Прыдаючы асаблівае значаньне правільнаму разьвіцьцю работы на беларускай мове й недапушчэні ў ёй нездаровых ухілаў, канфэрэнцыя падчыркваe, што кіраўніцтва гэтай работай павінна быць узложанае на партыйныя арганізацыі... Неабходна падгатаваць камуністых цераз савпартшколы, пэдтэхнікумы й пад. для заўсёднай замены імі цяперашніх работнікаў на ўсей лініі культурна-асьветнай работы» [120].

Бальшавікі, ня ўсьпеўшы яшчэ выхаваць дастатковай колькасьці сваіх камуністычных кадраў,баяліся, што ў выніку шырокага тарнаваньня тактыкі лібэралізацыі могуць выпусьціць із сваіх рук кіраўніцтва нацыянальным беларускім рухам, дзе пераважалі ненадзейныя ім элемэнты — выхаджэнцы зь іншых, небальшавіцкіх нацыянальных партыйных арганізацыяў.

ЦК РКП(б) у чэрвені 1923 г. склікае ў Маскве спэцыяльную нараду мясцовых партыйных работнікаў у пытаньні правядзеньня нацыянальнай палітыкі партыі. На гэтай нарадзе:

«...з дакладу дэлегата КП(б)Б выявілася, што канчальнае й поўнае разьвязаньне беларускага пытаньня ў Беларусі немагчымае, бо яна ўлучае ў сябе толькі нязначную часьць Беларусаў. Значная

[119] Ц. Цьвікевіч. Бэрлінская Канфэрэнцыя. «Полымя», № 4, 1926, б. 85.
[120] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. I. Белоруссизация. Менск, 1927, б. 89—90.

бальшыня Беларусаў жыве ў Гомельшчыне, Віцебшчыне й некаторых паветах Смаленшчыны. Каб разьвязаць поўнасьцю беларускае пытаньне, неабходна ў склад Беларускай рэспублікі ўлучыць усе беларускія тэрыторыі»[121].

Як ведама, БНР была абвешчаная ў этнаграфічных межах Беларусі, а ў процiўвагу БНР створаная бальшавікамі ў 1919 г. БССР спачатку таксама ў этнаграфічных беларускіх межах, пазьней разьдзеленая з Польшчай, а ў 1920 г. была абмежаваная да 6-ці паветаў. Гэта выклікала недавер да бальшавікоў ня толькі насельніцтва, але й тых, хто памагаў тварэньню БССР у 1919 г.

Пытаньне аб тэрыторыі БССР неаднаразова падымалася мясцовымі прадстаўнікамі ў цэнтры, аднак на заспакаеньне законных патрабаваньняў «сувэрэннай» рэспублікі бальшавіцкі цэнтр ісьці не хацеў. І апошняя нарада не адклікнулася ніводнай практычнай пастановай на даклад дэлегата КП(б)Б. Магчыма, каб адвярнуць увагу ад няпрыемных настойлівых патрабаваньняў, нарада абмеркавала пытаньне аб арганізацыі ў паасобных нацыянальных рэспубліках «нацыянальных вайсковых часьцяў». У дачыненьні Беларусі было пастаноўлена арганізаваць на ейнай тэрыторыі адну міліцыйную дывізію. Створаная была яна ў ліпені 1923 г. п. н. «Беларуская міліцыйная дывізія». Пры дывізіі была адкрытая школа для падгатаўленьня каманднага складу. У дывізію заклікаліся з усяго Саюзу ваенныя спэцыялістыя, ураджэнцы Беларусі.

> «Нарада ЦК КП(б)Б у кастрычніку 1923 г. пастанавіла ўважаць міліцыйную дывізію што знаходзілася на тэрыторыі Беларусі, базай для фармаваньня беларускай нацыянальнай часьці. Папоўніць дывізію навабранцамі нараджэньня 1902 г., папоўніць камандны і палітычны склад дывізіі Беларусамі, уладаючымі беларускай мовай. Укамплектаваць дывізійную школу мясцовымі ўраджэнцамі і ўвесьці ў школе выкладаньне мясцовых моваў і камандаваньне на беларускай мове. У далейшым лічыць неабходным перабудову 6-ых пехатных курсаў у школу каманднага складу мясцовай беларускай вайсковай часьці. Адпаведна з гэтым перааформіць курсы паводля моўнай і нацыянальнай азнакі. Паступова, у працягу году перавесьці ўсе органы Наркамваенкамату на беларускую мову ў канцылярскім і ваенным дачыненьні»[122].

Гэтыя мерапрыемствы былі разьлічаныя як для заспакаеньня нутранага імкненьня да незалежнасьці, гэтак і для вонкавага процiўдзеяньня органам БНР на міжнароднай арэне, якія дабіваліся сваімі мэмарандумамі да ўрадаў Захаду й Лігі нацыяў направы несправядлівасьці, зробленай беларускаму народу разьдзелам ягонай тэрыторыі зь перадачай большай ейнай часьці бальшавіком. У ваенна-стратэгічным дачыненьні, пры арганізацыйнай і пастачальнай цэнтралізацыі, адна дывізія не магла мець ніякага значаньня, навет у выпадку (зусім немагчымым у тых умовах) спробы БССР выйсьці із падпарадкаваньня Маскве. Пры гэтым, дывізія не зьяўлялася кадравай адзінкай, а толькі міліцыйна-тэрытарыяльнай, г. зв. пераменнага складу (прызыўнікі дывізіі на працягу ўсей сваей службы ў радох арміі знаходзіліся дома на сваіх гаспадарках ці хвабрыках і толькі ў працягу некалькіх год склікаліся на міжсэзонныя ў сельска-гаспадарскай працы лягерныя зборкі).

---

[121] У. Ігнатоўскі. Кампартыя Беларусі і беларускае пытаньне. Зборнік «Беларусь», б. 238.

[122] Тамсама, б. 240.

Каб яшчэ больш перацягнуць на свой бок насельніцтва, спыніць дзейнасьць збройнага супраціву паасобных партызанскіх групаў і напасьледак разьбіць беларускую палітычную эміграцыю, у трэйцюю гадавіну вызваленьня Менску ад Палякаў Прэзыдыюм ЦВК СССР і Прэзыдыюм ЦВК БССР 11-га ліпеня 1923 г. абвяшчаюць амнэстыю:

> «1. Удзельнікам антысавецкіх нацыянальных беларускіх фармацыяў пэрыяду 1918, 1919 і 1920 гг., якія паходзяць з працоўных.
>
> 2. Усім беларускім палітычным і культурным дзеячом, былым удзельнікам беларускіх нацыянальных супрацьсавецкіх арганізацыяў і сябром г. зв. беларускіх нацыянальных урадаў (Вялікая Беларуская Рада, Найвышэйшая Рада, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларуская Ваенная Камісія й інш.), ня прыймаўшым актыўнага ўдзелу ў змаганьні з савецкай уладай у Савінкаўскіх, Балаховічаўскіх і іншых белагвардзейскіх арганізацыях і не знаходзіўшымся на службе ў ворганах контрразьведкі й палітычнай ахароны буржуазных дзяржаваў, і публічна задэкляраваўшых аб сваей ляяльнасьці да савецкай улады.
>
> 3. Тым былым сябром беларускіх партыяў сацыялістых рэвалюцыянэраў і іншых беларускіх партыяў, хто публічна аб'явіў аб сваім выхадзе з партыі і аб ляяльнасьці да савецкай улады.
>
> 4. Усім беларускім сялянам, па сваей несьвядомасьці ўцягнутых арганізацыямі расейскай контррэвалюцыі й беларускімі агентамі, служачымі чужаземным дзяржавам, у бандыцкія шайкі або памагаўшым апошнім, у тым ліку й уцёкшым за межы СССР.
>
> **Заўвага** — амнэстыя не пашыраецца на арганізатараў бандаў і на іхны камандны склад» [123].

Колькі чалавек адклікнулася на гэтую амнэстыю й выявіла сябе, сказаць цяжка, астаецца бяспрэчным адно, што ўсе яны былі ўзятыя на спэцыяльны ўлік у ворганах ГПУ і ў працэсе наступных чыстак паступова тым ці іншым спосабам былі зьліквідаваныя.

Новы паварот курсу ў нацыянальнай палітыцы бальшавікоў у Беларусі, ведамы пад папулярным назовам «Нацыянальнага НЭП-у», датуецца з сакавіка 1923 г., калі ўспамінаная вышэй Усебеларуская Камуністычная Канфэрэнцыя ў сваей рэзалюцыі адцеміла, што

> «Даўгавяковае прыгнечаньне нацыянальнасьцяў і русыфікацыйная палітыка царскага ўраду не давала беларускай культуры магчымасьці для нармальнага разьвіцьця. Камуністычная партыя, у поўнай згодзе зь ейнай палітыкай у дачыненьні да пытаньня нацыянальнасьцяў, мусіла прыймаць усе меры для аблягчэньня працы ў беларускай мове й тварэньня нармальных умоваў для разьвіцьця беларускай культуры» [124].

У сакавіку 1923 г. нацыянальнае пытаньне займала цэнтральнае месца й на XII-ым зьезьдзе ВКП(б). Такім чынам праграма «нацыянальнага НЭП-у» прыймала ўсеагульнае значаньне. Праўда.

> «...гэтыя рэзалюцыі больш заахвочвалі да ўжываньня нацыянальнай мовы, чымся да разьвіцьця нацыянальнай культуры. Прыкладам, рэзалюцыя VI-ай сэсіі ЦК ВКП(б) сьцьвярджала, што ка-

---

[123] Сборник действующих законов БССР за 1921—1924 гг. Выд. Наркомюст БССР, Менск, 1927, б. 58.

[124] A. Adamovich. Opposition to Sovietization in Belorussian Literature (1917—1957), Munich, 1958, p. 71.

муністы ў акраінных раёнах павінен помніць, што, як камуністы, ён павінен рабіць некаторыя ўступкі для нацыянальных элемэнтаў, якія могуць працаваць ляяльна ў рамах савецкай сыстэмы» [125].

Ня гледзячы на ўсе паказаныя мерапрыемствы як з цэнтру, гэтак і мясцовых бальшавіцкіх органаў, незадаваленьне з прычыны абрэзкі тэрыторыі БССР аставалася.

Посьпех беларускага нацыянальнага руху ў першых парляманцкіх выбарах у 1922 г. у Польшчы прыцягвае ўвагу бальшавікоў, якія пачынаюць вывучаць магчымасьць прыцягненьня Заходняй Беларусі на свой бок. Аднак прэса Заходняй Беларусі падчырквае, што праблема Беларусі ня можа быць разьвязаная да таго часу, пакуль Саветы ня перастануць лічыць часьць беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, няўлучанай у БССР, «чыста расейскімі землямі». XII-ая партыйная канфэрэнцыя Беларусі таксама ўвяла ў сваю рэзалюцыю пункт, які прызнаваў неабходнасьць улучэньня суседніх раёнаў у склад БССР.[126]

Да патрабаваньняў із сталіцы БССР Менску й галасоў з Заходняй Беларусі пачалі прылучацца патрабаваньні Беларусаў адарваных тэрыторыяў аб прылучэньні іх да БССР. Тады, 4-га лютага 1924 г., Усесаюзны Цэнтральны Выканаўчы Камітэт змушаны быў прыняць пастанову аб прылучэньні да БССР Віцебскага, Гарадоцкага, Дрысенскага, Лепельскага, Аршанскага, Полацкага, Сененскага, Сураскага паветаў Віцебскай губэрні; Магілеўскага, Рагачоўскага, Быхаўскага, Клімавіцкага, Чэрыкаўскага і Чаўскага паветаў Магілеўскай губэрні, Горацкага й часьці Мсціслаўскага павету Смаленскай губэрні. Гомельшчына й надалей аставалася ў складзе РСФСР.

З нагоды ўзбуйненьня БССР была скліканая надзвычайная сэсія ЦВК БССР, на якую былі запрошаныя мнагалікія прадстаўнікі насельніцтва й Чырвонай арміі. На сэсію прыбыў і прадстаўнік ЦВК РСФСР і СССР М. Калінін, а як пачэсныя госьці, прадстаўнікі польскай сэкцыі Камінтэрну — Фэлікс Кон і Тамаш Домбаль.

З прылучэньнем новых тэрыторыяў была праведзеная рэформа адміністрацыйнага падзелу БССР. З гэтага мамэнту БССР складалася з 10-ёх акругаў, а кажная акруга мела ад 7-мі да 12-ці раёнаў. Усяго раёнаў было 100 (насельніцтва ў раёнах ад 25 да 50 тысяч). Спачатку раёны былі разьдзеленыя на 1202, а пазьней — на 1243 саветы, зь іх — 1195 сельскіх і 48 местачковых [127].

БССР, тэарэтычна сувэрэнная дзяржава, мела сваё прадстаўніцтва пры ўрадзе СССР. Зацьверджанае ЦВК і СНК БССР 10-га кастрычніка 1924 г. «Палажэньне аб сталым прадстаўніцтве БССР пры ўрадзе Саюзу ССР» устанаўлівала як адно з найважнейшых заданьняў дакладваньне «пратэстаў ураду БССР, прадстаўляных на дэкрэты й пастановы СНК й Савету Працы й Абароны СССР і на распараджэньні Народных Камісараў СССР».

«Адначасна з гэтымі афіцыяльнымі мерапрыемствамі быў высунуты срога сакрэтны праект. Ён стаўся ведамы пад назовам «Мангольскага праекту», дзеля таго што бальшавікі праўдападобна прыабяцалі ператварыць БССР у Беларускую Народную Рэспубліку на ўзор Мангольскай Народнай Рэспублікі, якая тэарэтычна

---

[125] Тамсама, б. 71.

[126] Ш. А. Будзін. Нацыянальнае пытаньне. Менск, 1932, б. 257.

[127] Белорусская Советская Социалистическая Республика. Выд. СНК БССР, Менск, 1927, б. 501.

была незалежнай дзяржавай, зарганізаванай пад пратэктаратам Савецкага Саюзу. Пляны былі такія, што, пры савецкай дапамозе, беларускі нацыянальны рух зарганізаваў-бы «паўстаньне» ў польскай часьці Беларусі; у гэты-ж час выбухнула-б «паўстаньне» і ў Савецкай Беларусі. Савецкая Беларусь выкарыстала-б тады сваё права «свабоднага выхаду» із Савецкага Саюзу, і абедзьве часьці Беларусі ўтварылі-б тэарэтычна незалежную дзяржаву, падобную да Мангольскай Народнай Рэспублікі.

Цяжка сказаць, ці бальшавікі мелі паважныя намеры зрэалізаваць гэты «Мангольскі праект», ці гэта была толькі форма правакацыі; увесь нацыянальны НЭП эвэнтуальна быў таксама формай правакацыі. У сяньняшні час увесь сакрэт Мангольскага праекту ўзмацняе ўражаньне аб ягонай аўтэнтычнасьці, але сяньня цяжка знайсьці дакумэнтальнае пацьверджаньне ягонага існаваньня. Нявялікая колькасьць нацыянальных дзеячоў, якія мелі беспасярэдныя інфармацыі аб ім, пазьней былі зьліквідаваныя» [128].

З мамэнту ўзбуйненьня БССР у 1924 г. прайшло каля трох год, і Крэмль уважаў, што беларускія тэрытарыяльныя прэтэнсіі закончыліся, але ў гэты час паяўляюцца настойлівыя патрабаваньні прылучэньня да БССР і Гомельшчыны. Вялікую ролю ў пастаўленьні патрабаваньняў далейшых тэрытарыяльных паправак на карысьць БССР згуляў сталы прадстаўнік БССР пры ўрадзе СССР Паўлюкевіч. Будучы беларускім патрыётам, ён настойліва дамагаўся ад Крамля прылучэньня да БССР Гомельшчыны.

Вялікім праціўнікам гэтага прылучэньня быў сябра Палітбюра й Старшыня ЦВК СССР М. Калінін. Прычынаю гэтага было: Гомельшчына эканамічна была моцнай і багатай, а ейны цэнтр — Гомель важным чыгуначным вузлом, зьвязваючым Захад церазь Менск—Гомель з Украінай. Другі чыгуначны шлях проходзіў цераз Гомель на Маскву. Па суднаходным прытоку Дняпра—Сожы ўся паўночная й сярэдняя Беларусь цераз Гомель зьвязвалася з Украінай. Параходы з Гомеля даходзілі беспасярэдна да Кіева й ніжэй. Гомальшчыну пераразала некалькі шасэйных дарог, а ў горадзе Гомелі было шмат прадпрыемстваў буйнай прамысловасьці. У Гомельшчыне было шмат запалкавых хвабрык, а лясныя багацьці з высокаякаснымі цэннымі пародамі дрэў знаходзіліся на выгодных шляхох транспартаваньня на экспарт. Апрача гэтага, у 18-ёх кілямэтрах ад самога Гомеля, у Добрушы знаходзілася найбуйнейшая ў той час у СССР папярова-цэлюлёзная хвабрыка [129].

Каб знайсьці выхад зь няпрыемнага палажэньня й не завайстраць канфлікту зь Беларусамі, быў абвешчаны спэцыяльны плебісцыт. З гэтай мэтай была створаная камісія на чале з камандантам Крамля Пэтэрсам, якая павінна была аб'ехаць Гомельшчыну, прыслухацца да мовы насельніцтва, застэнаграфаваць усе размовы, а потым прааналізаваць стэнаграмы й на гэтай аснове ўстанавіць, якой мовай карыстаецца Гомельшчына. Уважалася, што Беларусы Гомельшчыны ўжо даўно забыліся сваю родную мову й гавораць парасейску. Аналіза стэнаграмы паказала, аднак, адваротнае — Беларусы не абруселіі [130]. Прыйшлося вылучыць Гомельшчыну із складу РСФСР і перадаць БССР. Афармленьне гэтага ўжо праходзіла бяз тэй урачыстасьці, якая мела месца ў часе першага ўзбуйненьня БССР. На аснове

---

[128] A. Adamovich. Цыт. праца, б. 72.

[129] В. Б. Разьдзел і зьбіраньне беларускіх земляў. «Змаганьне», ворган Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту, № 2, Мюнхэн, 1952, б. 6.

[130] Тамсама, б. 6.

звычайнай пастановы ЦВК СССР з 6-га сьнежня 1926 г. Гомельшчына ўвайшла ў склад БССР, але ўсё-ж ня цалкам. Неаддзельныя часьці Гомельшчыны — хвабрычны пасёляк Злынка з запалкавай прамысловасцю, горад Навазыбкаў, таксама з запалкавымі хвабрыкамі, горад Клінцы з буйнай суконнай прамысловасьцю, увесь Старадубскі й Мглінскі паветы — асталіся ў межах РСФСР.

## ПЭРЫЯД БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Практычныя мерапрыемствы бальшавікоў ў рэалізацыі нацыянальнай палітыкі ў створанай БССР першапачаткава йшлі па лініі народнае асьветы зь пераводам школ і ўстановаў, падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР, на беларускую мову. Гэтага, аднак, было недастаткова, бо пралетарыят Беларусі «бязь веданьня беларускай мовы ў кіраўніцтве бальшынёй насельніцтва БССР — сялянствам і ў прыбліжэньні да яго апарату савецкай улады адчуваў-бы значныя цяжкасьці» [131], а дзеля гэтага, пасьля ўзбуйненьня БССР, ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б у 1924 г. пастанавіў:

> «... у мэтах умацаваньня кіруючай ролі работніцкай клясы, падняцця актыўнасьці шырокіх працоўных масаў дзеля палітычнага, культурнага й гаспадарскага будаўніцтва, а так-жа ў мэтах кіраўніцтва культурным будаўніцтвам і разьвіцьцём нацыянальнай культуры ... цераз прыстасаваньне дзяржаўнага апарату, школы, мастацтва й літаратуры ... да абслугоўваньня асноўнай масы насельніцтва ў ейнай роднай беларускай мове камуністычная партыя Беларусі й высоўвае лёзунг беларусізацыі» [132].

Пад беларусізацыяй у шырокім значаньні гэтага слова тады падразумлявалася:

> «1. Разьвіцё беларускай культуры (школы, ВУЗ-ы на беларускай мове, беларуская літаратура, выдавецтва беларускіх кніг, навукова-дасьледавальная дзейнасьць у кірунку ўсебаковага вывучэньня Беларусі й г. д.);
>
> 2. Высоўваньне Беларусаў на партыйную, савецкую, прафсаюзную й грамадзкую работу;
>
> 3. Перавод партыйнага, дзяржаўнага, прафсаюзнага, кааперацыйнага апарату й часьцяў Чырвонай арміі на беларускую мову» [133].

Пленум ЦК КП(б)Б «... для ўмацаваньня ўплыву камуністычнай партыі на масы» прыняў пастанову аб тым, што «ўся КП(б)Б павінна гаварыць пабеларуску» [134], і даручыў ураду БССР правесьці цераз ЦВК БССР абмеркаваньне на пленуме практычных мерапрыемстваў правядзеньня нацыянальнай палітыкі. II-ая сэсія ЦВК БССР VI-га скліканьня 15-га ліпеня 1924 г. прыняла наступныя практычныя мерапрыемствы (прыводзяцца тут важнейшыя пункты — Г. П.):

1. Мовы нацыянальнасьцяў, насяляючых тэрыторыю БССР (беларуская, жыдоўская, расейская й польская), зьяўляюцца раўнапраўнымі.

---

[131] Як ведама, бальшавікі надзялялі й надзяляюць пралетарыят мэсыяністычнай роляй, уважаючы яго найбольш успрыймальнай групай бальшавіцкіх праўдаў. Фактычна-ж тут пад пралетарыятам разумелася камуністычная партыя. Уступ да выданьня «Практическое разрешение национального вопроса в БССР», ч. I. «Белоруссизация». Менск, 1927, б. 10.

[132] Тамсама, б. 9.

[133] Тамсама.

[134] Тамсама, б, 11.

2. Дзякуючы значнай перавазе ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасьці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважаючая для зносінаў паміж дзяржаўнымі, прафсаюзнымі й грамадзкімі ўстановамі й арганізацыямі.

5. Мовай зносінаў ворганаў БССР з ворганамі СССР і іншых саюзных рэспублік зьяўляецца расейская мова.

6. На зьездах, канфэрэнцыях, розных паседжаньнях, мітынгах і на ўсіх зборках наагул кажнаму грамадзяніну забясьпечваецца права свабоднага карыстаньня сваёй роднай мовай.

7. У вадпаведнасьці з пададзенымі вышэй прынцыпамі ўсе савецкія, прафсаюзныя й грамадзкія арганізацыі й установы павінны прыстасоўваць свае апараты да запраўднага абслугоўваньня нацыянальных асаблівасьцяў насельніцтва.

З гэтай мэтай Народныя Камісарыяты БССР пераводзяць сваё справаводзтва на беларускую мову ў наступныя тэрміны: на працягу аднаго году а) упраўленьне справамі ЦВК, б) упраўленьне справамі СНК, в) Народны Камісарыят Асьветы, г) Народны Камісарыят Земляробства. Астальныя камісарыяты павінны перайсьці на беларускую мову на працягу 2—3 гадоў.

Кажны супрацоўнік савецкіх прафсаюзных і грамадзкіх арганізацыяў і ўстановаў забавязваўся да веданьня беларускае й расейскае моваў, а неабходная колькасьць супрацоўнікаў павінна была ведаць дадаткова жыдоўскую або польскую мову. Па лініі Камісарыяту Народнае Асьветы БССР для заканчэньня беларусізацыі й пераводу наагул усіх культурна-асьветных установаў на родныя мовы групаў насельніцтва пастанова прадбачвала наступныя тэрміны: а) для ўстановаў сацыяльнага выхаваньня — тры гады; б) для ўстановаў прафэсыянальна-тэхнічнага выхаваньня й палітычна-асьветных — пяць год. Для нагляду за выкананьнем пастановаў ураду ў нацыянальным пытаньні, вывучэньні й распрацаваньні практычных мерапрыемстваў правядзеньня нацыянальнай палітыкі ЦВК БССР у 1924 г. стварыў Камісію для ажыцьцяўленьня нацыянальнай палітыкі ў БССР. Гэтая Камісія мела свае аддзелы пры Акруговых Выканаўчых Камітэтах.

Усебаковую дзейнасьць у культурным будаўніцтве разгарнуў Народны Камісарыят Асьветы. Першачарговымі крокамі ў гэтым кірунку быў перавод навучаньня ўва ўсіх школах на родную мову, а ў сувязі з гэтым была разгорнутая й вялізарная дзейнасьць па ўкладаньні й выданьні неабходных падручнікаў і падгатоўцы вучыцялёў. У Менску й іншых гарадох былі адкрытыя пэдагагічныя тэхнікумы. Для падгатаўленьня выкладчыкаў беларускае мовы ў сярэдніх школах і тэхнікумах Народны Камісарыят асьветы адкрыў аднагадовыя Вышэйшыя Курсы Беларусаведы, камплектаваныя настаўнікамі з пэдагагічным стажам, якія зарэкамандавалі сябе адданай нацыянальнай працай. Гэтыя курсы йснавалі да мамэнту першых рэгулярных выпускаў Пэдагагічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, заснаванага ў 1921 г.

На арганізацыю й разьвіцьцё БДУ й Сельска-Гаспадарскага Інстытуту (адкрыўся ў 1921 г., а ў 1925 г. быў рэарганізаваны ў Сельска-Гаспадарскую Акадэмію) зьвярталася асаблівая ўвага. Сюды запрашаліся выдатныя прафэсарскія сілы зь іншых унівэрсытэцкіх гарадоў, але асноўнай групай былі беларускія вучоныя, як прафэсары У. Ігнатоўскі, Я. Лёск, А. Смоліч, М. Пятуховіч, М. Шчакаціхін і інш.

З Навукова-Тэрміналягічнай Камісіі пры НКА БССР вырас у 1922 г. Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт), які разгарнуў ўсебаковую навукова-дасьледвальную дзейнасьць ува ўсіх галінах. Інбелкульт у канцы 1928 г. быў рэарганізаваны ў Беларускую Акадэмію Навук.

Разьвіцьцю беларускай культуры многа памаглі й тыя беларускія нацыянал-камуністыя, якія тады яшчэ ігралі значную ролю ў савецкім урадзе БССР, і, адныя зь іх шчыра, іншыя — для здабыцьця большага аўтарытэту ў народзе, стараліся накіроўваць усе мерапрыемствы ў нацыянальнай палітыцы цэнтру на карысьць Беларусаў. Трэба адцеміць, што правядзеньне беларусізацыі незаўсёды праходзіла так, як прадугледжвалі дэкрэты ўраду. Адно з урадавых выданьняў БССР ў сувязі зь дзесяцігодзьдзем савецкай улады пералічала наступныя важнейшыя цяжкасьці ў нацыянальнай працы ў БССР:

а) астаткі русыфікатарскіх, шавіністычных настрояў і паглядаў на беларускую мову, як на мову штучна створаную;

б) пасыўны супраціў, а часта й варожыя дачыненьні з боку былога чыноўніцтва, якое атрымала ў спадчыне дзяржаўны апарат;

в) вялікі недахоп масавай літаратуры на беларускай мове й мовах іншых нацыянальнасьцяў БССР, а так-жа абмежаваная колькасьць як беларускіх культурных працаўнікоў, так і культурных працаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, як спадчына царскай палітыкі, калі беларуская й іншыя нацыянальнасьці былі ў загоне, і іхная культура паступова сьхілялася да ўпадку (у васаблівасьці беларуская);

г) павярхоўны ў многіх выпадках характар беларусізацыі ўстановаў і школаў, у выніку недахопу падручнікаў і падгатоўленых працаўнікоў ды бяссыстэмнасьць вывучэньня беларускай мовы працаўнікамі ўстановаў і арганізацыяў. Пералічаныя цяжкасьці і ў 1927 г., як цьвердзіла выданьне, «і на сяньняшні дзень канчальна ня зьліквідаваныя».[135]

Паказаўшы гэтыя запраўдныя цяжкасьці, афіцыяльнае выданьне ўраду БССР змушанае было яшчэ й застрахавацца перад цэнтрам у вабвінавачаньні яго ў «нацыяналістычным ухіле» наступнай агаворкай, узятай з рэзалюцыі ЦК КП(б)Б із студзеня 1925 г. аб «Чарговых заданьнях КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы»:

> «Асноўнай цяжкасьцяй і небясьпекай правядзеньня нацыянальнай палітыкі ў БССР зьяўляецца нязначная колькасьць слою пралетарыяту, цераз прадстаўнікоў якога нацыянальная палітыка праводзілася-б найбольш настойліва й вытрымана, перамагаючы дробнабуржуазныя ўплывы» [136].

Галоўнай перашкодай у свабодым разьвіцьці беларускай нацыянальнай культуры была бесьперапынная кантроля й умешваньне ўва ўсе жыцьцё краю экспазытуры Крамля — ЦК КП(б)Б, але аб гэтым афіцыйнае выданьне ўраду БССР замоўчвае. Крэмль не асабліва добразычліва адносіўся да шырокага нацыянальнага ўздыму ў Беларусі, выкліканага НЭП-ам. Для Крамля было важным не разьвіцьцё й узбагачэньне культуры беларускага народу. Для яго было

> «. . . асабліва важна ўсю работу й мерапрыемствы ў галіне змаганьня з нацыяналістычнымі й рэлігійнымі забабонамі праводзіць

---

[135] Белорусская Советская Социалистическая Республика, выд. СНК БССР, Менск, 1927, б. 490.

[136] Тамсама.

> ад імя партыі рукамі прадстаўнікоў дадзенай нацыянальнасьці або, у скрайнім выпадку, тых, хто гаворыць на мове дадзенай нацыянальнасьці» [137].

Тым часам, прадстаўнікі беларускай нацыянальнасьці, навет камуністыя, пачалі захопліваацца «нацыянальнай культурай наагул із шкодай для клясавай пастаноўкі пытаньня»[138], гэта значыць, што на думку бальшавікоў, беларускія прадстаўнікі, замест таго, каб змагацца супраць «нацыяналістычных забабонаў», самі пападалі пад іхны ўплыў. Вось чаму ЦК КП(б)Б так часта вяртаўся да разгляду нацыянальнага пытаньня ў БССР і ўвесь час даваў у гэтай справе новыя дырэктывы. Гэтак, прыкладам, заўважыўшы шырокі размах навуковай дзейнасьці Інбелкульту з тэндэнцыяй да самастойнасьці навуковага дасьледваньня, пленум ЦК КП(б)Б у студзені 1925 г. пастанавіў:

> «З прычыны недахопу камуністых-Беларусаў уцягнуць у дзейнасьць Інбелкульту камуністых іншых нацыянальнасьцяў, прыцягваючы да працы ў Інбелкульце ў такіх пытаньнях, як распрацаваньне папулярна беларускай літаратурнай мовы, лепшых прадстаўнікоў нізавой інтэлігенцыі з работнікаў і сялян» [139],

а ў кастрычніку таго-ж году пленум ЦК даручыў бюро ЦК КП(б)Б «узмоцніць» Інстытут «партыйнымі работнікамі, а акруговым камітэтам зьвяртаць больш увагі на краязнаўчыя таварыствы й на вэрбаваньне карэспандэнтаў для Інбелкульту» [140]. Гэты-ж пленум у дачыненьні да культурнага будаўніцтва наагул падчыркнуў, што заданьнем партыі зьяўляецца «забясьпечаньне камуністычна-пралетарскага зьместу нацыянальных культураў» [141]. Аб прычынах недастатковасьці забясьпечаньня таго зьместу гавораць пункты 6-ай і 7-ай рэзалюцыі кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б)Б 1925 г., якія прыводзім тут поўнасьцю:

> «6. Канстатуючы недастаткова дакладнае разуменьне лініі партыі ў нацыянальным пытаньні з боку часьці партыйнай арганізацыі, у тым ліку й часьці партактыву, пленум уважае неабходным узмоцніць выясьненьні як тэарэтычных асноваў, гэтак і бягучай практыкі нацыянальнай палітыкі партыі й устанавіць больш частыя й шырокія абмеркаваньні пытаньняў гэтай галіны на партыйных зборках і ў друку.
>
> 7. Небясьпека выкрыўленьня партыйнай лініі ў нацыянальным пытаньні ўскладняецца тым, што ў склад актыву КП(б)Б уваходзіць вялікая колькасьць таварышаў, якія выйшлі з нацыяналістычных партыяў, існаваўшых у Беларусі, і што пры ўсей суб'ектыўнай шчырасьці гэтых таварышаў старыя традыцыі ня ўсімі імі яшчэ выжытыя да канца. У сувязі з гэтым пленум даручае Істпарту прыступіць да прыгатаваньня крытычнай гісторыі гэтых партыяў і для асьвятленьня мінулага рэвалюцыйнага змаганьня ў Беларусі з бальшавіцкага гледзішча» [142].

На долю крамлёўскага кантрольнага воргану — ЦК КП(б)Б і выпала тады цяжкае заданьне лявіраваньня ў тарнаваньні бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі.

---

[137] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, б. 96.
[138] Тамсама, б. 109.
[139] Тамсама, б. 95.
[140] Тамсама, б. 102.
[141] Тамсама, б. 109.
[142] Тамсама, б. 109—110.

Легалізаваныя магчымасьці творчай нацыянальнай беларускай дзейнасьці выклікалі небясьпечныя імкненьні да самастойнасьці нацыянальнага разьвіцьця, паўстрымаць якіх войстрымі мерамі тады было яшчэ немагчыма. Дыктатура яшчэ не пасьпела пранікнуць ува ўсе галіны народнага жыцьця, ня мела яшчэ дастатковай колькасьці сваіх кадраў, навет на версе, дзе заўважалася «недастаткова выразнае разуменьне лініі партыі ў нацыянальным пытаньні, што асабліва шкодна праяўлялася ў «камуністых расейскага паходжаньня», якія «часта недаацэньваюць нацыянальных асаблівасьцяў у партыйнай і савецкай рабоце або зусім ня лічацца зь імі, што прыводзіць іх да ўхілу ад камунізму ў бок вялікадзяржаўнасьці, калянізатарства, вялікарасейскага шавінізму» [143].

Калянізатарства ў запраўднасьці ніколі не адкідалася, але яно, як ужо падчырквалася намі, павінна было ў штодзённым жыцьці праводзіцца рукамі самых Беларусаў. Дзеля гэтага ЦК КП(б)Б прымушаны быў часова абмежавацца толькі стрымліваючымі крокамі ў дачыненьні да «нацыянальных элемэнтаў», калі яны пачыналі моцна адхіляцца ад агульна ўстаноўленых нормаў, бо «. . . ў нашых умовах дробна-буржуазны нацыяналізм і нацыянал-дэмакратызм асабліва небясьпечны яшчэ й таму, што ў сваім мінулым ён быў прагрэсыўнай зьявай, змагаўся з самадзяржаўем і даваў адпор прыгнечаньню расейскага царызму» [144]. Такім чынам ствараласяі зачараванае кола: з аднаго боку, інтарэсы захаваньня бальшавіцкай расейскай імпэрыі вымагалі недапушчэньня прагрэсаваньня й умацаваньня дэцэнтралістычных тэндэнцыяў, а з другога — выразнае стрымліваньне імкненьняў да самастойнасьці стварала ўражаньне адражэньня царскага прыгнёту.

У той час у Заходняй Беларусі Сялянска-Работніцкая Грамада вырасла да нябывалых размераў у гісторыі беларускіх палітычных партыяў.

> «Былы прэм'ер міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандар Цьвікевіч вярнуўся ў Савецкую Беларусь разам зь іншымі прадстаўнікамі. Вярхоўныя кіраўнікі ўраду рэспублікі на выгнаньні на чале з прэзыдэнтам Пётрам Крэчэўскім асталіся ў Празе, аднак былі гатовыя пераехаць у незалежную Беларусь. У кастрычніку 1926 г. была скліканая ў Менску Акадэмічная канфэрэнцыя дзеля рэформы беларускага правапісу. Да ўдзелу ў ёй былі запрошаныя амаль усе беларускія нацыянальныя дзеячы з паза Савецкага Саюзу. За кулюарамі Канфэрэнцыі гэтыя нацыянальныя дзеячы былі старанна перакананыя аб дасягненьнях і пэрсэктывах беларускага нацыянальнага разьвіцьця й аб Мангольскім праекце. У гэты-ж час нацыянальныя дзеячы выкарысталі гэтую нагоду дзеля апрацаваньня ўзгодненай лініі дзейнасьці ў нацыянальным руху. Некаторыя зь іх, як «рэвівалісты» У. Жылка й В. Ластоўкі пастанавілі астацца ў БССР» [145].

Эфэктыўнасьць беларусізацыі, аднак, нівэлявалася з аднаго боку «нацыянал-дэмакратызмам», ужо перарастаючым, згодна тагачаснага перакананьня кіруючых бальшавіцкіх колаў, у «контррэвалюцыйную зьяву, накіраваную супраць савецкай улады»,[146] а з другога боку — расейскім шавінізмам, які меў падтрыманьне ў таго-ж пралетарыяту, які «незалежна ад сваей нацыянальнасьці (Беларусы, Жыды), моцна русыфікаваўся ў мінулым, што

---

[143] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, 1929, б. 14.
[144] Тамсама, б. 16.
[145] A. Adamovich. Цыт. праца, б. 77.
[146] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, 1929, б. 17.

значна перашкаджае прасоўваньню беларусізацыі» [147]. Такім чынам і пры такім палажэньні й дэкрэт ураду аб беларусізацыі ажыцьцяўляўся няпоўнасьцю. У сувязі з гэтым ЦВК БССР 18-га верасьня 1926 г. прыняў пастанову аб парадку праверкі выкананьня пастановаў II-ой сэсіі ЦВК VII-га скліканьня з 15-га ліпеня 1924 г. у часьці правядзеньня беларусізацыі апаратаў савецкіх і каапэратыўных арганізацыяў і ўстановаў БССР. Важнейшымі пунктамі гэтай пастановы былі:

> «1. Праверыць у двухмесячны тэрмін фактычнае выкананьне пастановы II-ой сэсіі ЦВК БССР VII-га скліканьня аб пераводзе на беларускую мову справаводзтва ўва ўсіх тых цэнтральных установах і арганізацыях і іншых мясцовых органах, тэрмін пераводу якіх на беларускую мову ўжо прайшоў.
>
> «2. Да 1-га студзеня 1927 г. праверыць падгатаванасьць да пераводу тых установаў, тэрмін якіх канчаецца 15-га ліпеня 1927 г.
>
> «5. Праверцы веданьня беларускай мовы падлягаюць усе бяз выключэньня работнікі умысловае працы, незалежна ад становішча, працуючыя ў установах, гаспадарскіх арганізацыях, гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах БССР» [148].

ЦК КП(б)Б із свайго боку на кастрычніцкім пленуме 1926 г. пастанаўляе ўсю дзейнасьць партыйнага й камсамольскага апарату да 1-га студзеня 1927 г. перавесьці на беларускую мову й запрапанаваць усім акруговым камітэтам зьвяртаць больш увагі на дзейнасьць акруговых нацыянальных камісіяў, умацоўваючы іх адпаведным складам працаўнікоў і ўстанаўляючы для іх становішча аднаго платнага адказнага працаўніка [149].

Яшчэ да гэтага, 27-га жніўня 1926 г. ЦК КП(б)Б пастанавіў свой друкаваны ворган «Зьвязда» з 1-га студзеня 1927 г. перавесьці на беларускую мову.

Праверка ўстанавіла, што да беларусізацыі ўстановаў адмоўна адносілася зрусыфікаваная часьць служачых, у васаблівасьці былое старое расейскае чыноўніцтва (за адмову вывучаць беларускую мову было іх звольнена 27 чалавек),[150] а таксама й не асабліва памаглі гэтаму й тыя кіруючыя асобы з розных цэнтральных установаў, якія, ня гледзячы на ўсе пастановы, зацягвалі справу беларусізацыі сваіх апаратаў або адносіліся да яе толькі фармальна. Узноў наступіла ўмяшаньне ЦК КП(б)Б, які 25-га верасьня 1928 г. на паседжаньні свайго бюро пастанавіў, што «рад цэнтральных і акруговых установаў (ВСНХ, Дзяржплян, Наркамфін, Наркамгандаль, ЦСУ, некаторыя аддзелы Акрвыканкомаў, Камгас, Ваенкамат і Інспэктарыят Аховы Здароўя) ня выканалі дырэктывы партыі й пастановы ўраду БССР аб поўнай беларусізацыі апаратаў ня толькі да жнівеня 1927 г., але й да сяньняшняга мамэнту» [151]. Кіраўнікам Беларускага папяровага трэсту Белдзяржторгу, Скуртрэсту, Прадтрэсту, Белкаапсаюзу, Лесбелу за недапушчальна слабую беларусізацыю былі вынесеныя вымовы і ім было запрапанавана ў працягу 6-цёх месяцаў поўнасьцю перавесьці працу сваіх апаратаў на беларускую мову.

Пасьля прылучэньня Гомельшчыны ў 1926 г. да БССР, ЦВК БССР 17-га лістапада 1927 г. устанавіў наступныя тэрміны беларусізацыі ўстановаў Гомельскай акругі: перавесьці поўнасьцю на беларускую мову да 1-га ліста-

---

[147] Тамсама, б. 26.
[148] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, б. 142—143.
[149] Тамсама, б. 116.
[150] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 62.
[151] Тамсама, б. 137.

пада 1928 г. Акруговы Выканаўчы Камітэт, Акруговы Зямельны Аддзел, Інспэктарыят Народнай Асьветы, Акруговую Пракуратуру й судовыя ўстановы, Адміністрацыйны Аддзел, усе раённыя выканаўчыя камітэты; да 1-га чэрвеня 1929 г. — Інспэктарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня, паштовую кантору й паштовыя аддзелы, Акруговы Інспэктарыят Аховы Здароўя, Акруговы Ваенкамат, каапэратыўныя арганізацыі і ўсе астальныя савецкія ўстановы. У трохгадовы тэрмін павінны былі канчальна зьбеларусізавацца ўсе беларускія навучальныя ўстановы сацыяльнага выхаваньня, палітычнае асьветы й прафэсыянальнае асьветы [152].

Адначасна з націскам на беларусізацыю паяўляюцца першая сыгналы, азначаючыя пачатак узмацненьня абмежаваньня беларускага нацыянальнага руху.

> «... бяссумлеўна, раптоўны разгон Грамады ў студзені 1927 г. польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі выклікаў вялікае ўражаньне. Правакацыйная й здрадлівая роля бальшавікоў у гэтай справе беспасярэдна ў той час не заўважвалася, але было ясна, што гэтая катастрофа абазначала канец усіх спадзяваньняў, ускладаных на нацыянальны рух у Заходняй Беларусі ўлучна з наіўнай надзеяй на несамавіты Мангольскі праект» [153].

Ужо ў 1926 г. кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б ў сваей рэзалюцыі папярэджваў беларускі нацыянальны актыў, што «часьць беларускай інтэлігенцыі сваю актыўнасьць у нацыянальным пытаньні накіравала на іншы, чужы партыі й работніцкай клясе шлях, імкнучыся заўладаць дасягнутым палажэньнем і ажыцьцявіць свае запаветныя нацыянал-дэмакратычныя ідэялы» [154]. Падобныя папярэджаньні пасьля 1926 г. паяўляюцца ўсё часьцей, улучна да пачатку 30-ых гадоў, калі й пачаўся генэральны паход супраць усіх нацыянальных праяваў у Беларусі, але аб гэтым будзе мова пазьней.

Русафільскія элемэнты, прадбачучы ў гэтых напамінках партыі прыбліжэньне канца нацыянальнага НЭП-у, пачынаюць узмоцніваць свой супраціў беларусізацыі, што, бязумоўна, тады яшчэ ня супадала з галоўным заданьнем бальшавізму, накіраваным на «ўмацаваньне нашага камуністычнага кіраўніцтва ўсімі формамі беларускай культурнай дзейнасьці» [155].

Каб спыніць перадчасныя спробы затрыманьня ходу беларусізацыі (яшчэ ня ўсе формы беларускай дзейнасьці былі ахопленыя камуністычным кіраўніцтвам) і пераканаць беларускі народ, што партыя толькі адпіхае «буржуазных нацыяналістых», а ў запраўлнасьці стаіць на старожы ягоных нацыянальных інтарэсаў, ЦК КП(б)Б у кастрычніку 1929 г. узноў вяртаецца на сваім пленуме да пытаньня беларусізацыі й прызнае «нездаровым, антыпартыйным» тое, што

> «Заўважваецца рад выпадкаў фармальнага дачыненьня да беларусізацыі, супраціў і навет паасобныя выпадкі адкрытых выступленьняў супраць беларусізацыі... Найслабей зьбеларусізаванае студэнцтва й навуковыя працаўнікі мэдыцынскага факультэту БДУ, факультэту права й гаспадаркі і асабліва Віцебскага Вэтэрынарнага Інстытуту ... у прафэсыянальных саюзах ... бываюць выпадкі пераходу зь беларускай мовы на расейскую (саюз транспартнікаў), вя-

[152] Тамсама, б. 144.

[153] A. Adamovich. Цыт. праца, б. 88.

[154] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, б. 112.

[155] В. Кнорын. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні. «Асьвета», № 3, Менск, 1928, б. 5.

дзеньня ўсей работы на расейскай мове (саюз гарбароў), практычная работа ЦСПСБ, ЦП Саюзаў на палавіну вядзецца на расейскай мове і ў апаратах яшчэ ёсьць значная колькасьць працаўнікоў, якія не ўладаюць беларускай мовай» [156].

Найбольш поўны абраз рэальных вынікаў часовай бальшавіцкай лібэралізацыі ў дачыненьні да нацыянальна-культурнага й гаспадарскага разьвіцьця Беларусі даюць публікацыі пэрыяду НЭП-у ў прэсе БССР. Гэтак веданьне беларускае мовы працаўнікамі розных установаў БССР ад пачатку беларусізацыі да 1927 г. прадстаўлялася наступным чынам:

| Гады | Цэнтральныя ўстановы | Акруговыя й раённыя |
|---|---|---|
| 1925 | 21,9 % | 36,2 % |
| 1926 | 54,0 % | 42,0 % |
| 1927 | 80,0 % | 70,0 % |

У 1927 г. былі зьбеларусізаваныя: школы сацыяльнага выхаваньня на 100 %, тэхнікумы — на 63,2 %, прафэсыянальныя школы — на 62,2 %, ВНУ — на 17 %, хаты-чытальні — на 100 % [157], апарат ЦВК — на 100 %, апарат СНК — на 100 %, Народны Камісарыят Асьветы — на 100 %, Наркамзем — на 50 %, Народны Камісарыят Нутраных Справаў — на 30 %, Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня — на 30 %, усе астальныя — ад 30 % да 50 %; прафсаюзы: Асьветы — на 100 %, Зямлі й лесу — на 75 %, Савецкіх і гандлёвых служачых — на 50 % [158].

Сябры саветаў паводля нацыянальнага складу ў 1957 г. разьдзяляліся ў наступнай прапорцыі:

| | Беларусы | Жыды | Палякі | Расейцы | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Сельскія саветы | 92,3 % | 2,3 % | 2,4 % | 1,5 % | 1,0 % |
| Гарадзкія саветы | 52,0 % | 30,0 % | 2,3 % | 12,0 % | 4,0 % |
| Местачковыя саветы | 52,9 % | 41,9 % | 2,1 % | 2,6 % | 1,0 % [159] |

Беларусізацыя «нацыянальных часьцяў Чырвонай арміі»: Аб'еднаная Беларуская Ваенная Школа імені ЦВК БССР была ўкамплектаваная курсантамі чырвонаармейцамі на 75 % зь Беларусаў, камандна-палітычны й выкладчыцкі склад на 50 % уладаў беларускай мовай, нутраная перапіска й часткава перапіска зь мясцовымі органамі вялася ў беларускай мове. Кампалітсклад 2-ой Беларускай тэрытарыяльнай дывізіі ўладаў беларускай мовай на 50 %, усе плякаты, лёзунгі, сьценгазэты й пад. выпускаліся на беларускай мове. У складзе кадравых беларускіх часьцяў чырвонаармейцаў Беларусаў было 73,2 %, а ў пераменным складзе — 85,2 %. Ваенная камісія Інбелкульту забясьпечыла беларускія ваенныя часьці баёвым статутам, трымя часьцямі стралковага статуту й часовым дысцыплінарным статутам на беларускай мове. Быў прыгатаваны на беларускай мове сьпеўнік і слоўнік ваеннай тэрміналёгіі на 3.000 слоў.[160]

У 1927 г. працавала беларуская кінахвабрыка «Белдзяржкіно», якая выпусьціла да таго часу рад фільмаў на беларускую тэматыку, як «Лясная быль» («Грышка сьвінапас») — з пэрыяду польска-савецкай вайны 1920 г., «Кас-

---

[156] Сборник партийных и советских постановлений, резолюций и циркуляров в области советского строительства. Менск, 1929, выд. СНК БССР, б. 113—114.

[157] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 21.

[158] А. Червяков. За советскую Белоруссию, б. 73.

[159] Тамсама, б. 74.

[160] Доклад СНК БССР Совнаркому СССР — Материалы к докладу т. Адамовича. Менск, 1926, б. 158.

тусь Каліноўскі» і «Гірш Лекарт». З чатырох дзяржаўных тэатраў найбольш папулярным быў найстарэйшы Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр у Менску. З самага пачатку свайго існаваньня гэты тэатр запраўды высунуўся на першае месца, падгатаваўшы высокамастацкія нацыянальныя пастаноўкі, як: «На Купальле», «Кастусь Каліноўскі», «Машэка» й інш. У Першым тэатры працавалі таленавітыя акторы, беларускія патрыёты, як Крыловіч, Ждановіч, Крыніца, Грыгоніс і інш. Другі Беларускі Тэатр знаходзіўся ў Віцебску й паўстаў на базе студыі.

Вялізарнай папулярнасьцяй цешыўся Беларускі Аб'езны Тэатр пад кіраўніцтвам ведамага тэатральнага дзеяча й драматурга Ўладыслава Галубка. У. Галубок із сваім тэатрам даў мноства высокамастацкіх пастановак ня толькі ў мястэчках і вёсках БССР, але і ў тых часьцях беларускіх земляў, якія асталіся ў складзе РСФСР, як Бранск, Навазыбкаў, Клінцы, Старадуб і інш.

У 1924 г. на базе выдавецтва «Адраджэньне» і «Белтрэсдрук» паўстала Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, якое займалася выпускам падручнікаў, навуковай, тэхнічнай і мастацкай літаратуры ў беларускай мове і ў мовах нацыянальных мяншыняў БССР.

Апрача ВНУ і тэхнікумаў, у БССР у той час і да 1927 г. добра разгарнулі працу Інбелкульт (з 1928 г. Беларуская Акадэмія Навук), Беларуская Дзяржаўная Бібліятэка (з аддзеламі ў Віцебску й Магілеве), Беларуская Кніжная Палата, Беларускі Дзяржаўны Музэй (з аддзеламі ў Віцебску й Магілеве), краязнаўчыя музэі, рэспубліканскія навуковыя таварыствы, Беларускі Навукова-Дасьледавальны Інстытут Сельскае й Лясное Гаспадаркі.

Беларускія патрыёты, якія працавалі ў пэрыяд НЭП-у ў БССР, пастараліся выкарыстаць НЭП для найбольш карыснага для сялянства разьвязаньня зямельнага пытаньня. Вялізарную ролю сыграў у гэтай справе З. Прышчэпаў, які быў тады Народным Камісарам Земляробства Беларусі. Сельская гаспадарка Беларусі, разбураная вайной і акупацыямі, знаходзілася ў пачатку НЭП-у ў поўным заняпадзе. Яшчэ II-гі Ўсебеларускі Зьезд Саветаў 15—20 сьнежня 1920 г. прыняў адпаведныя крокі для разьвязаньня сельска-гаспадарскага крызысу. Зьезд пастанавіў: 1. працоўнай гаспадаркай лічыць такую гаспадарку, якая вядзецца самым гаспадаром без карыстаньня сталай наёмнай работніцкай сілай; 2. для арганізацыі саўгасаў можа быць пакінута ня больш 25 % усей былай памешчыцкай зямлі, а 75 % разьдзяліць між безьзямельнымі й малазямельнымі сялянамі; 3. надзяленьне зямлёй сялян правесьці як можна хутчэй, з тым, каб закончыць гэтую дзейнасьць да восені 1921 г. Аднак, як сьцьвярджае А. Чарвякоў:

> «Недахопам гэтага часу было тое, што, як і ў Савецкай Расеі, няясна разьвязвалася пытаньне аб сялянскай гаспадарцы, ейнай форме, пасьлядоўнасьці ў пераходзе да больш высокіх формаў землякарыстаньня. Страх перад «камуніяй» у Беларусі ня быў разьвеяны, тым болей, што ў Беларусі ня было абшчыны, і беларускі селянін выхаваўся на падворна-участкавым землякарыстаньні» [161].

У красавіку 1922 г. Прэзыдыюм ЦВК БССР абвесьціў пастанову аб свабодным выбары формаў землякарыстаньня (хутарская, абшчынная, участкавая, зьмешаная), як часьць закону аб «працоўным землякарыстаньні» [162]. Закон дазваляў карыстацца наёмнай працай пад умовай, што ўсе праца-

---

[161] А. Червяков. Цыт. праца, б. 94.
[162] Тамсама, б. 94.

здольныя сябры сям'і працуюць на гаспадарцы. Перадача зямлі сялянству праходзіла арганізавана цераз дзяржаўны апарат. Было перададзена сялянам каля 1.300.000 дзесяцін зямлі; 209.115 дзесяцін, або 3,7 % былі пакінутыя ў якасьці дзяржаўнае маемасьці. Усіх сялянскіх гаспадарак у 1925 г. было звыш 677 тысяч, а сельскага насельніцтва 3.706.900, такім чынам на адну гаспадарку выпадала 8,05 дзесяцін, а на аднаго чалавека — 1,478 дзесяціны. Закон устанаўліваў максімальную норму зямлі на адну гаспадарку ў 9,2—13,7 дзесяцін, мінімальную — у 4,6—6,8 дзесяцін.

У 1925 г. мела зямлі: ніжэй нормы — 258 тысяч сельскіх гаспадарак, звыш нормы — каля 30 тысяч гаспадарак; 38 % гаспадарак патрабавала прырэзкі зямлі[163]. Зямельны голад у Беларусі ня быў новым зьявішчам. Сялянства да рэвалюцыі ратавалася ад зямельнага голаду часткава эміграцыяй у Сібір і Амэрыку. Ведаючы гэта, савецкі ўрад БССР пастанавіў, перш за ўсё, стварыць дадатковы зямельны фонд і памагаць перасяленьню ў Сібір, на Волгу й Крым.

Апрача гэтага, Прышчэпаў, разумеючы прычыны адсталасьці сельскае гаспадаркі (яму прыйшлося наведаць Данію і Нямеччыну для азнаямленьня зь сельскай гаспадаркай у гэтых краінах), пачаў праводзіць земляўпарадкаваньне. У васнову земляўпарадкаваньня была пакладзеная хутарская форма й пасялковая — ад 12 да 20 гаспадарак. Кажная пасялковая гаспадарка надзялялася зямлёй у залежнасьці ад колькасьці ядакоў у гаспадарцы. Для сялібаў адводзілася ня менш аднаго гэктара, каб можна было пабудавацца, завесьці сад, гарод, пасеку й кураводзтва. Зямля знаходзілася беспасярэдна пры сялібе й разьбівалася ня менш, як на пяць палёў. Прышчэпаў імкнуўся яшчэ стварыць і шырокую дзяржаўную агранамічную помач, садзейнічаў і ўспамагаў арганізацыю розных таварыстваў (мэльярацыйных, малочных), спэцыялізаваных сельскагаспадарскіх каапэратываў для закупкі сельскагаспадарскай прадукцыі й збыту інвэнтара.

У кажным раёне былі створаныя агранамічныя дасьвятчальныя пункты. Кажнага году ў кастрычніку арганізаваліся «дні ўраджаю» — сельскагаспадарскія выстаўкі, дзе за лепшыя экспанаты сяляне атрымлівалі прэміі з дыплёмамі й пахвальнымі граматамі. Арганізаваліся таксама й акруговыя выстаўкі. Народны Камісарыят Земляробства БССР, пад кіраўніцтвам З. Прышчэпава, усьпеў правесьці земляўпарадкаваньне толькі на запасных зямельных фондах, якія знаходзіліся ў часовым карыстаньні бяднейшага сялянства і ў некаторай колькасьці большых вёсак. Калі НЭП быў адменены й пачалася калектывізацыя, Прышчэпаў за паказаную вышэй дзейнасьць быў арыштаваны, а так-жа арыштоўваліся й многія пасялчане, якія ўсьпелі ўжо стаць на ногі й папасьці ў катэгорыю «кулакоў».

163 Тамсама, б. 98—99.

## ПАЛІТЫКА БАЛЬШАВІКОЎ У ДАЧЫНЕНЬНІ ДА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЯНШЫНЯЎ БССР

Дадзеныя найбольш поўнага й бестароннага перапісу насельніцтва БССР, праведзенага ў 1926 г., паказвалі, што Беларусаў было 80,62 % [164], Жыды, Расейцы й Палякі былі найбольш шматколькаснымі нацыянальнымі мяншынямі.

Усе гэтыя нацыянальныя мяншыні, за выключэньнем, зразумела, Расейцаў, да рэвалюцыі знаходзіліся пад такім-жа нацыянальным і рэлігійным прыгнечаньнем, як і Беларусы. Асаблівыя цяжкасьці перажывала жыдоўскае насельніцтва. Сярод яго былі моцна распаўсюджаныя, хаця й рэвалюцыйныя, але з нацыяналістычнай ахварбоўкай уплывы Бунду й рэлігійна-нацыяналістычныя настроі. Сацыялістычныя настроі зь перавагаю польскага патрыятызму, пад моцным уплывам каталіцкага касьцёлу (духавенства было амаль пагалоўна польскае нацыянальнасьці), заўладалі былі ня толькі нязначнай польскай мяншынёй, але й значнай колькасьцяй Беларусаў каталіцкага веравызнаньня.

Ранейшае эканамічнае, сацыяльнае, нацыянальнае й рэлігійнае прыгнечаньне спрычынялася да ўмацаваньня нутранай салідарнасьці й нацыянальнага адзінства гэтых мяншыняў, што, бязумоўна, ня было ў інтарэсах бальшавізму. Заваяваньне сымпатыяў сярод некаторых мяншыняў ускладнялася йснаваньнем радам з БССР самастойных нацыянальных дзяржаваў, зусім нязьвязаных і непадпарадкаваных бальшавіцкай імпэрыі. Дзеля таго, каб разьбіць нацыянальнае адзінства і «рукамі самых-жа нацыяналаў» (Ленінскае выражэньне — Г. П.), раскладаць іх з нутра й перацягваць на свой бок, яшчэ недастаткова было аднаго абвешчаньня раўнапраўнасьці чатырох «дзяржаўных моваў БССР». Неабходна было правесьці якія-небудзь больш канкрэтныя мерапрыемствы.

Бальшавікі перш за ўсё зьвярнулі ўвагу на жыдоўскае насельніцтва, на зьменшаньне галіты мястэчак. ЦКВ БССР яшчэ ў 1924 г. выдаў дэкрэт аб земляўпарадкаваньні «працоўных Жыдоў» і пры ЦВК была створаная спэцыяльная Беларуская Камісія Земляўпарадкаваньня Працоўных Жыдоў, у скарачэньні й згодна беларускай савецкай тэрміналёгіі — Белкамзет. Была праведзеная спэцыяльная рэгістрацыя жадаючых перайсьці ў сельскую гаспадарку, ахапіўшая 65 % усяго жыдоўскага насельніцтва (201 населены пункт, а ў тым ліку 146 мястэчак) і выявіўшая 20,5 % ахопленага рэгістрацыяй жыдоўскага насельніцтва, якое жадала перайсьці ў сельскую гаспадарку [165].

У выніку таго, што Беларусь перажывала зямельны голад і пры слаба разьвітай прамысловасьці не магла заспакоіць зямлёй асноўнага сельскага насельніцтва, цяжка было таксама заспакоіць і ўсіх жадаючых перайсьці ў

---

[164] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. II. Работа среди национальных меншинств. Менск, 1928, б. 21—165.

[165] Тамсама, б. 44.

сельскую гаспадарку. Некаторую часьць жыдоўскага насельніцтва мястэчак бальшавікі ўсё-ж перавялі на зямлю, і ўжо ў 1931 г. налічвалася 103 нацыянальных жыдоўскіх калгасаў і 313 інтэрнацыянальных з колькасьцю жыдоўскіх сем'яў каля 9.000 або 49.296 чалавек [166].

Іншых, жадаючых займацца сельскай гаспадаркай, Белкамзет перасяляў на свабодныя землі ў Крым, пазьней пачалося перасяленьне ў г. зв. аўтаномную жыдоўскую вобласьць Бірабіджан. Гэтыя мерапрыемствы не маглі цалкам разьвязаць ненармальнага палажэньня перанаселеных мястэчак. Дзеля гэтага ў 1927 г. быў прыняты спэцыяльны закон аб гаспадарскім упарадкаваньні мястэчак. Быў распрацаваны 5-ці гадовы плян упарадкаваньня 56 мястэчак, які пачаў ажыцьцяўляцца з 1927/28 г.

Да 1931 г. гэтымі мерапрыемствамі было ахоплена 27 мястэчак. З 14.728 сем'яў гэтых мястэчак патрабавала ўпарадкаваньня 7.345 або 50 %. Па лініі самакаапэрацыі гаспадарска-ўпарадкаваных на 1-га красавіка 1930 г. было каля 3.000 беднаты й рамесьнікаў [167]. Апрача мерапрыемстваў эканамічнага характару былі й іншыя, накіраваныя на хутчэйшае г. зв. «расслаеньне» й «клясавую дыфэрэнцыю» мястэчак. Бальшавікі перш за ўсё ймкнуліся адарваць моладзь ад уплыву рэлігійных «хадэраў» цераз арганізацыю нацыянальных жыдоўскіх школаў з забаронай навучаньня рэлігіі, тварэньнем піянэрскіх і камсамольскіх арганізацыяў. У мэтах прыцягненьня больш шырокіх колаў жыдоўскага насельніцтва да савецкай бальшавіцкай работы арганізаваліся нацыянальныя пасялковыя й местачковыя саветы, стваралася нацыянальная прэса, выдавецтва, пісьменьніцкія й навуковыя арганізацыі.

Пры пэдагагічным факультэце БДУ была створаная Жыдоўская сэкцыя (216 студэнтаў у 1928 г.); пры Беларускай Сельскагаспадарскай Акадэміі ў Горках існавала жыдоўская катэдра, прыгатаўляючая сярод жыдоўскай моладзі «будучых працаўнікоў, будаўнікоў сельскае гаспадаркі, якія памогуць у ўпарадкаваньні працоўных Жыдоў у сельскай гаспадарцы» [168], а ў сакавіку 1926 г. быў створаны Жыдоўскі аддзел пры Інбелкульце.

Шмат Жыдоў займала адказныя становішчы ў цэнтральных савецкіх, гаспадарскіх, партыйных, прафэсыянальных і іншых арганізацыях. Прадстаўленьне аб працэнтным удзеле ня толькі Жыдоў, але і ўсіх нацыянальнасьцяў у цэнтральных савецкіх установах дае наступная табліца:

**Нацыянальны склад працаўнікоў цэнтральных савецкіх установаў БССР**

**Адказныя працаўнікі**

| Установы | Нацыянальны склад у працэнтах на 1927 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расейцы | Жыды | Палякі | Іншыя |
| Адміністрацыйныя | 51,3 | 18,0 | 24,8 | 0,1 | 5,8 |
| Гаспадарскія | 30,8 | 13,1 | 49,3 | 1,1 | 5,7 |
| Судовыя | 26,3 | 21,1 | 42,1 | — | 11,5 |
| Зямельныя | 59,5 | 24,1 | 10,1 | — | 6,3 |

[166] Матарыялы да справаздачы ўраду Х-му зьезду Саветаў БССР. Менск, 1931, б. 12.

[167] Тамсама, б. 12—13.

[168] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 80.

**Тэхнічныя працаўнікі**

| Установы | Нацыянальны склад у працэнтах на 1927 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | Расейцы | Жыды | Палякі | Іншыя |
| Адміністрацыйныя | 64,0 | 5,4 | 22,9 | 2,6 | 5,1 |
| Гаспадарскія | 39,6 | 11,2 | 42,7 | 1,4 | 5,1 |
| Судовыя | 40,6 | 16,3 | 35,1 | — | 8,0 |
| Зямельныя | 59,6 | 12,9 | 16,9 | 2,4 | 8,2 [169] |

Ня меншую ўвагу зьвярнулі бальшавікі й на польскую мяншыню ў БССР, колькасны склад якой у запраўднасьці далёка не адказваў дадзеным навет перапісу насельніцтва 1926 г. Некаторая часьць карэннага польскага насельніцтва ў выніку перамяшчэньня насельніцтва, выкліканага Першай сьветавай вайной, грамадзянскай і савецка-польскай 1919—20 г., асела ў гарадох Беларусі, але бальшыня яго пасьля заканчэньня савецка-польскай вайны і ў часе яе эвакуавалася ў Польшчу. Сярод аселага, сталага насельніцтва, пераважна сельскага, была толькі нязначная частка польскае мяншыні, якая ў канцы XIX і пачатку XX стг., у сувязі зь зямельным голадам у карэннай Польшчы, перасялілася ў Беларусь. Гэтыя польскія сяляне-перасяленцы арэндавалі тады або пры дапамозе банкаў адкуплялі зямлю ў памешчыкаў і сяліліся цэлымі вёскамі (Пушча Лепельскага раёну) [170].

Астальная часьць «статыстычных» Палякаў зьяўлялася ў запраўднасьці беларускім насельніцтвам, але каталіцкага веравызнаньня, якое ўтоесамлівалася ня толькі пры царскім рэжыме, але часта і ў той час з польскай нацыянальнай прыналежнасьцяй. У штодзённым жыцьці гэтая часьць насельніцтва карысталася таксама, як і астальная маса, беларускай мовай, як сваей роднай, і адно ў рэдкіх выпадках, пераважна стыкаючыся з каталіцкім польскім духавенствам, паразумлявалася ломанай польскай мовай, якой не ўладала.

Гэтая група насельніцтва адрозьнівалася ад астальной беларускай сялянскай масы толькі тым, што яна захавалася як дробна-шляхоцкая група з часоў Вялікага Княства Літоўскала, жыла ня ў вёсках, але ў невялікіх засьценках або «аколіцах», часамі мела малыя хвальваркі й хутары, а часамі й вялікую колькасьць зямлі й лепшы спосаб вядзеньня гаспадаркі. Усе народныя беларускія звычаі й традыцыі якраз у гэтай групе найбольш моцна й устойліва захаваліся. Дзеля гэтага КП(б)Б ў сваей дзейнасьці сярод Палякаў, куды была аднесеная й паказаная група, паставіла сабе галоўным заданьнем «расслаеньне ў шляхоцкім і польскім кулацкім сялянстве . . , збліжэньне найбольш савецкай і серадняцкай часьці шляхоцтва з польскім і беларускім сялянствам» [171], бо «фікцыя нацыянальнага польскага адзінства тармазіла разьвіцьцё клясавага змаганьня ў радох польскага насельніцтва» [172].

Першым крокам да ўзмацненьня «клясавага змаганьня» быў дэкрэт у 20-ых гадох аб высяленьні зь Беларусі былых памешчыкаў, якія з тых ці

---

[169] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. I, Белоруссизация, б. 13.
[170] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. II, б. 10.
[171] Тамсама, б. 95.
[172] Тамсама, б. 11.

іншых прычынаў асталіся на тэрыторыі Беларусі, а наступным — «абрэзка» больш багатай шляхты й за кошт гэтай абрэзкі надзяленьне зямлёй бяднейшага сялянства.

У часы НЭП-у на адказных становішчах у Менску знаходзілася навялікая, але даволі энэргічная група польскіх камуністых, якія ймкнуліся ўзяць у свае рукі кіраўніцтва практычнага ажыцьцяўленьня нацыянальнай палітыкі партыі сярод польскага насельніцтва Беларусі. Дзеля таго, што запраўднага польскага насельніцтва было мала ,гэтая група зьвярнула ўвагу на беларускую шляхту каталіцкага веравызнаньня й пачала сярод яе палянізацыйную акцыю. Выдатнымі адзінкамі гэтай групы былі: вышэй успамінаныя Багуцкі, Славінскі (працаваў у Менску зь першых дзён арганізацыі Камінтэрну, кіраваў падпольным рухам у Заходняй Беларусі), Бэнэк, заступнік старшыні СНК Беларусі, Вансоўскі — сябра Прэзыдыюму ЦВК БССР, Гэльтман — рэктар Камуністычнага Ўнівэрсытэту ў Менску, і іншыя меншага значаньня.

Дзеля таго, каб паказаць «росквіт нацыянальных культур» насельніцтву суседняй Польшчы, дзе ў той час закрываліся ўладамі беларускія школы, бальшавікі ня перашкаджалі ў праводжаньні палянізацыйнай дзейнасьці сярод беларускага каталіцкага насельніцтва. Нутранай прычынай гэтай акцыі была неабходнасьць хутчэйшага адрыву каталіцкага насельніцтва ад рэлігіі, паралізаваньне ўплываў каталіцкага духавенства пры помачы тэйжа польскай мовы. Масавыя выступленьні й дэманстрацыі салідарнасьці каталікоў у сувязі з канфіскацыяй касьцельных цэннасьцяў і судовым працэсам каталіцкага духавенства ў Менску выявілі вялізарную сілу каталіцызму, якую бальшавіком неабходна было зламаць. Дзеля гэтага ў сёлях з каталіцкім насельніцтвам пачалі адкрывацца польскія савецкія працоўныя школы, хаты-чытальні, клюбы, бібліятэкі. У гэтыя ўстановы трэба было накіраваць шмат працаўнікоў, адпаведна прыгатаваных, могучых быць праваднікамі новых камуністычна-бальшавіцкіх ідэяў. Першапачаткава, із-за адсутнасьці неабходнай колькасьці такіх працаўнікоў, выкарыстоўваліся наяўныя вучыцельскія кадры, а зь ініцыятывы Палітбюра пры ЦК КП(б)Б у Менску адкрыліся польскія Пэдагагічныя курсы, рэарганізаваныя хутка ў Польскі Пэдагагічны Тэхнікум. На курсы былі накіраваныя спэцыяльна выбраныя, пераважна з выхаванцаў дзіцячых дамоў Менску, першыя польскія камсамольцы ў Беларусі, якіх памяшчалі ў інтэрнаце пры курсах. На ўзгадавальна-навучальную дзейнасьць былі назначаныя актыўныя й ярыя камуністыя, як Ч. Дамброўскі (выдатны матэматык, прафэсар БДУ), Я. Клыс, Ст. Асташэўскі й іншыя, якія пазьней падбіралі найбольш ляяльныя пэдагагічна-выкладчыцкія сілы ў Тэхнікум.

Першы многакалькасны выпуск Тэхнікуму ў 1923 г. і ў сотай чэсьці ня мог заспакоіць патрэбаў на кадры. Тады былі зробленыя палёгкі ў умовах прыйма ў Тэхнікум — дапускаліся выпускнікі сярэдніх школаў і не камсамольцы, але адпаведнага «сацыяльнага паходжаньня» (дзеці работнікаў, сялян-беднякоў і сераднякоў), з мэтаю прыцягненьня большае колькасьці кандыдатаў — пры Тэхнікуме быў створаны двухгадовы прыгатаваўчы курс для нямаючых сярэдняе асьветы.

Другі выпуск у 1926/27 г. даў 22-ух чалавек. Гэтага было таксама недастаткова. Тады пры Тэхнікуме былі зарганізаваныя дадаткова 2-хгадовыя Пэдагагічныя Курсы, а што году на працягу летніх канікулаў, сельскіх настаўнікаў склікалі на 4-х—6-цітыднёвыя курсы перападрыхтоўкі.

Для абслугоўваньня бальшавіцкай прапагандай польскага насельніцтва ўва ўсіх часьцях СССР, ужо ў усесаюзным маштабе, было створанае спэцыяльнае выдавецтва «Культура» ў Маскве, кніжны магазын зь філіяй у Менску і папаўнялі школы, клюбы, хаты-чытальні й бібліятэкі агітацыйнымі брашурамі, спэцыяльнымі школьнымі й антырэлігійнымі падручнікамі й творамі рэвалюцыйных пісьменьнікаў у польскай мове. У Менску выдавалася штодзенная газэта «Млот» і двутыднёвік «Гвязда Млодзежы» [173]. Пры Інбелкульце, за прыкладам жыдоўскага, быў створаны й Польскі Аддзел, а пры пэдагагічным факультэце БДУ — польская катэдра.

Не малаважным мамэнтам бальшавіцкага пранікання ў масы было й тварэньне польскіх нацыянальных саветаў, якія пачалі паўставаць з 1925 г. і штогадова павялічаць сваю колькасьць. Падобная практыка праводзілася на Ўкраіне і ў РСФСР, з тэй толькі розьніцай, што ў РСФСР не тварылі нацыянальных польскіх саветаў, затое ў Ленінградзе існаваў Польскі Пэдагагічны Тэхнікум, Польскі сэктар пры Дзяржаўным Пэдагагічным Інстытуце ім. А. Гэрцэна, польскія школы й клюбы ў Ленінградзе, Лугу і Кранштаце, а ў Маскве, апрача школ і клюбу, польскі аддзел пры Маскоўскім Унівэрсытэце й польскі аддзел пры Камуністычным Унівэрсытэце Народаў Захаду. Гэтыя ўстановы дадаткова прыгатаўлялі кадры для «нацыянальнай польскай» дзейнасьці ўва ўсіх рэспубліках Саюзу, а таксама патэнцыяльныя кадры на выпадак рэвалюцыі ў Польшчы.

Неабходна мець на ўвазе, што тады яшчэ аднэй із найбольш актыўных сэкцыяў Камінтэрну зьяўлялася польская сэкцыя. У Маскве гуртаваліся ўсе дэканспіраваныя або засуджаныя ў палітычных працэсах Польшчы камуністычныя падпольныя працаўнікі, уцёкшыя ў Маскву нелегальна або прыбылыя ў парадку абмены палітычнымі вязьнямі, якая практыкавалася ў той час. Сярод іх знаходзіліся такія асобы, як Ланцуцкі, Гжэгожэўскі, Каменскі-Домскі, Бабінскі й інш. Знайшлі былі тут прыпынішча й рэвалюцыйныя польскія пісьменьнікі Бруно Ясенскі, Рышард Стандэ, Вітаўт Вандурскі (хутка пасьля свайго паяўленьня ў СССР пасяліўся ў Кіеве, дзе стварыў Польскую Тэатральную Майстэрню). Часта бываў у Маскве і галоўны кіраўнік польскай камуністычнай партыі Ленскі, які выступаў у 1922 г. разам зь Пяткоўскім у ролі абвінавальніка ў Менскім бальшавіцкім працэсе каталіцкага духавенства. Часьць гэтых эмігрантаў разьдзялялася на працу ў рэспублікі — у Беларусь і на Ўкраіну, часьць уладжвалася пры рэдакцыях газэт, выдавецтвах, клюбах, бібліятэках, навуковых установах, у нацыянальных саветах, а ўсе разам узятыя — мелі моцнае падтрыманьне й уплыў у цэнтральных дзяржаўных і палітычных установах.

У гэтых установах знаходзілася ў той час значная колькасьць выдатных камуністычных дзеячоў Палякаў або польскага паходжаньня, як Фэлікс Кон (былы закладчык польскай рэвалюцыйнай партыі «Пралетарыят» у канцы мінулага стагодзьдзя), С. Уншліхт (заступнік Народнага Камісара Ваенных Справаў СССР), Тамаш Домбаль (Сялянскі інтэрнацыянал, пазьней — віцэ-прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук), Менжынскі (ГПУ), Балеслаў Пшыбышэўскі (сын ведамага пісьменьніка Станіслава Пшыбы-

---

[173] «Młot» быў закрыты ў сакавіку 1926 г. і заменены двутыднёвікам «Orka», прызначаным для сялян. «Gwiazda Młodzieży» была закрытая 1-га студзеня 1923 г. з тым, што «Orka» павінна была абслугоўваць і моладзь, у сувязі з чым пачала паяўляцца два разы ў тыдзень. У саюзным маштабе, у Маскве, пачала тады выдавацца штодзённая газэта «Trybuna Radziecka», а трохі пазьней, пры ёй, і літаратурны часапіс «Kultura mas».

шэўскага, дырэктар Маскоўскай Кансэрваторыі), Карл Радэк і іншыя. Якраз яны праявілі моцны ўплыў на цэнтральнае партыйнае кіраўніцтва ў Маскве й давялі неабходнасьць расшырэньня польскай дзейнасьці сярод каталіцкага насельніцтваСССР у проціўвагу палітыцы грубой прымусовай асыміляцыі нацыянальных мяншыняў у Польшчы. Асабліва падчырквалася неабходнасьць арганізацыі польскіх савецкіх адміністрацыйных адзінак у прыгранічных раёнах Беларусі з Польшчай.

Для большай пераконлівасьці довадаў карыснасьці падобнай акцыі, якая павінна была яшчэ больш памагаць жаданаму бальшавікамі «расслаеньню» вёскі й адрыву мас ад каталіцкага касьцёлу, былі ўмела выкарыстоўваныя наступныя фактары: пад уплывам пагрозаў і розных абяцанак некалькі мала ўстойлівых каталіцкіх сьвятароў перайшло на бок бальшавікоў, публічна адракліся ад духоўнага званьня й пачалі весьці антырэлігійную прапаганду (Віткоўскі, Шчоновіч, Пэрковіч — за свой крок былі ўладжаныя на працу ў польскім аддзеле Інбелкульту, а пазьней, у часы разгрому «нацдэмаў», зьліквідаваныя); камуністыя й камсамольцы, тарнуючы пагрозы, хвальшаваньні й карыстаючыся ўслугамі здэклясаваных элемэнтаў, прадставілі ўладам неабходную колькасьць подпісаў насельніцтва, якое «патрабавала» закрыцьця Менскага чырвонага касьцёлу й касьцёлаў у іншых мясцовасьцях рэспублікі.

Аб ролі польскіх камуністых, што знаходзіліся ў цэнтры, у Маскве, сьветчыць гісторыя перайменаваньня беларускага каталіцкага Койданаўскага раёну ў польскі нацыянальны раён Дзяржынскі. Заступнік адказнага рэдактара польскай газэты ў Маскве «Трыбуна Радзецка», энэргічны камуністы Мазэпус, разам зь некаторымі супрацоўнікамі Польскага Пэдагагічнага Тэхнікуму ў Менску (Кукелко) і мясцовымі польскімі камуністымі, зарганізаваў аб'езд польскіх пасяленьняў з каталіцкім беларускім насельніцтвам Койданаўшчыны, даводзячы ім, што яны, як Палякі, маюць поўнае права патрабаваць ад уладаў перайменаваньня іхнага раёну ў нацыянальную адміністрацыйную адзінку, дзеля чаго неабходна толькі сабраць адпаведную колькасьць рэзалюцыяў агульных сходак. Рэзалюцыі былі сабараныя й прастаўленыя ўраду БССР, але яны ахоплівалі толькі каля 25 % фактычнае колькасьці каталіцкага насельніцтва раёну (ад 35-ці тысячнай масы ўсяго насельніцтва раёну). Ня гледзячы на гэта, Мазэпус вярнуўся ў Маскву і там, пры помачы выдатных камуністых Палякаў, а так-жа працаўнікоў польскай сэкцыі Камінтэрну, давёў прапагандную карыснасьць намечанага мерапрыемства. Цэнтр, пад уплывам гэтых довадаў даў загад камуністычнаму кіраўніцтву БССР, і ўрад БССР змушаны быў назначыць перадчасна перавыбары саветаў на тэрмін ад 25 сакавіка 1932 да 20-га красавіка 1932 г., а на 25-га красавіка — раённы зьезд саветаў [174].

Для правядзеньня выбараў ізноў накіраваўся ў раён Мазэпус, а зь ім брыгады агітатараў камсамольцаў і камуністых Палякаў з Масквы й Менску. Звышчарговы зьезд саветаў Койданаўшчыны быў праведзены вельмі ўрачыста. На зьезд прыбылі першы сакратар ЦК КП(б)Б Гікала, старшыня СНК БССР Галадзед, сябры ўраду, карэспандэнты газэт, прадстаўнікі розных арганізацыяў, а з Масквы — прадстаўнік польскай сэкцыі Камінтэрну Гжэгожэўскі, удава Ф. Дзяржынскага, імем якога намечана было назваць новастворáны польскі нацыянальны раён, і інш. На зьездзе ўсе аратары выражалі сваё захапленьне «мудрай ленінска-сталінскай нацыянальнай палі-

---

[174] «Зборнік законаў ураду БССР», № 19, 1932, пастанова з 15. 3. 1932, № 74.

тыкай», абураліся нацыянальнымі абмежаваньнямі ў суседняй Польшчы. Падобныя мерапрыемствы, толькі ў меншых разьмерах тарнаваліся й у дачыненьні да іншых, больш дробных нацыянальных групаў БССР, як Латышы [175], Летувісы, Немцы й інш.

Агульныя статыстычныя дадзеныя таго часу даюць прадстаўленьне аб разьмеры практычных мерапрыемстваў бальшавікоў у дачыненьні да нацыянальных мяншыняў БССР. Гэтак, прыкладам, разьмяшчэньне школ паводля нацыянальных азнакаў у 1926/27 г. прадстаўлялася наступным чынам:

| Школы | Беларускія | | Жыдоўскія | | Польскія | | Расейскія | | Іншыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | колькасьць | % | колькасьць | % | колькасьць | % | колькасьць | % | колькасьць | % |
| 4-охгад. | 4190 | 85,3 | 147 | 3,01 | 122 | 2,6 | 407 | 8,4 | 31 | 0,7 |
| 7-мігад. | 197 | 66,3 | 53 | 18,2 | 11 | 3,8 | 32 | 11,0 | 1 | 0,4 |

У «іншыя» ўвайшла 21 латыская чатырохгодка, 1 сямігодка й 10 летувіскіх школаў [176]. З 4-ох дзяржаўных тэатраў адзін быў жыдоўскі. Нацыянальных народных судоў было 10 (жыдоўскіх — 6, польскіх — 3, латыскіх — 1 [177].

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва ў 1927 г. павінна было прыдзержывацца наступнай прапорцыі: выданьні ў беларускай мове — 70 %, у жыдоўскай — 15 %, польскай — 5 %, расейскай — 8 %, у латыскай і іншых — 2 %. Газэт выдавалася 17, зь іх: у беларускай мове — 9, расейскай — 4, жыдоўскай — 2, польскай — 1 [178], а пасьля 1927 г. пачала яшчэ выходзіць і летувіская газэта «Раўдонасіс Артояс» [179].

**Рост нацыянальных саветаў**

| Гады | Жыдоўскія | Польскія | Нямецкія | Латыскія | Расейскія | Украінскія | Літувіскія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | 7 | — | — | 2 | 1 | — | — |
| 1925 | 11 | 2 | 1 | 5 | 1 | — | — |
| 1926 | 18 | 3 | 2 | 4 | 1 | — | — |
| 1927 | 24 | 29 | 2 | 5 | 16 | 2 | 1 |
| 1931 | 27 | 22 | 2 | 5 | 15 | 3 | 1 [180] |

**Заўвага:** Як відаць з вышэй пададзенай табліцы, у 1927 г. адбываецца павялічэньне колькасьці сельсаветаў за кошт прылучэньня да БССР Гомельшчыны.

У 1926 г. нацыянальныя саветы абслугоўвалі 69.495 чалавек, а ў тым ліку: Жыдоў — 25.629, Палякаў — 18.491, Расейцаў — 3.679, Латышоў —

---

[175] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. II, б. 63 паказвае агульную колькасьць латыскіх пасяленьняў у БССР 67, зь якіх у Віцебскай акрузе 44, Полацкай — 7, Магілеўскай — 6.

[176] «Савецкае будаўніцтва», № 10, 1927, б. 56.

[177] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 89.

[178] Практическое разрешение национального вопроса в БССР, ч. II, б. 78.

[179] Тамсама, б. 93.

[180] Тамсама, б. 96 і 98.

1.971, Немцаў — 2.167, Беларусаў — 9.379, іншых — 1.221 [181]. У працэсе арганізацыі нацыянальных саветаў у БССР бальшавікі дасягнулі стварэньня «значнай шчэліны ў нацыянальным адзінстве, якое яшчэ да гэтага часу мясцамі спатыкалася» [182], іншымі словамі, ім удалося накіраваць адну групу сялянства — «беднату» супраць другой — «кулакоў».

Рэзалюцыя Бюра ЦК КП(б)Б з 19-га ліпеня 1929 г. ужо магла адцеміць, што ў выбарнай кампаніі саветаў 1928/29 г. у БССР «у большай ступені, чымся ў мінулую кампанію, выявілася групаваньне нацыянальных меншыняў паводля клясавай, а не нацыянальнай азнакі» [183]. Гэта-ж і зьяўлялася галоўнай мэтай бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі ў дачыненьні да нацыянальных меншыняў.

---

[181] Тамсама, б. 100.
[182] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 34.
[183] Зборнік партыйных і савецкіх пастановаў, б. 23.

## ПЭРЫЯД ДЭБЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Абвешчаньне Першага Пяцігадовага Пляну ў пачатку кастрычніка 1928 г. абазначала канец НЭП-аўскай адлігі ў цэлым жыцьці СССР і ліквідацыю «Нацыянальнага НЭП-у», дзеля таго, што «ў умовах існаваньня дыктатуры пралетарыяту формы разьвязаньня нацыянальнага пытаньня залежаць ад характару таго пэрыяду, які мы перажываем у нашым гаспадарскім будаўніцтве».[184] Перажываны тады пэрыяд вымагаў бязумоўнай цэнтралізацыі, нясумеснай з устаноўленым некаторым самакіраўніцтвам адміністрацыйных нацыянальных адзінак рэспубліканскага маштабу, якія пачыналі пераходзіць у апазыцыю да цэнтру й навет да самога рэжыму.

У той час у БССР старшыня СНК Язэп Адамовіч праводзіў яўную акцыю, накіраваную на вызваленьне ад залежнасьці ад Крэмлёўскага намесьніка ў Беларусі — першага сакратара ЦК ВК(б)Б. Беларуская навука амаль поўнасьцю была вызвалілася ад гэтай залежнасьці. 26 травеня 1926 г. паўстала незалежная беларуская нацыянальна-літаратурная арганізацыя «Узвышша», якая заняла апазыцыйную пазыцыю ў дачыненьні да рэжыму.

Пісьменьнік Міхась Зарэцкі ў сваім рамане «Крывічы» бальшавіцкую беларусізацыю схарактарызаваў наступным чынам:

> «Навучыцца ўладаць беларускай мовай, каб лягчэй было згаварыцца зь сялянамі, скажам, пры сьцягваньні падаткаў, ня будзе разьвязаньнем нацыянальнага пытаньня. Гэта будзе адно толькі замена калянізацыйнай палітыкі «салдацкай» на калянізацыйную палітыку «езуіцкую« ... Гэта палітыка гандляроў з рынку, якія (спэцыяльна гэта назіраў) зварочваюцца заўсёды ў іхнай роднай мове, каб ... лягчэй іх адурманіць.»

Аб адным із сваіх гэрояў раману Зарэцкі гаварыў:

> «Прыехаў зь вёскі ў Менск шукаць Беларусь. Зь ліхтаром у руках, як некалі Дыяген — чалавека. І вось ... шукаў Беларусь, а знайшоў бе-ла-ру-сі-за-цы-ю ... Ха ... ха ...»

і далей:

> «а ці ведаеце вы, што такое бе-ла-ру-сі-зацыя? А? Хо-хо-хо ... Гэта, брат, хітрая штука ... Гэта стаўка на форму. Так, на форму ... Аўладаць формай, аддзяліць ад яе зьмест, выкастраваць яго, выціснуць, высушыць ... і вькінуць вон ... Ха-ха-ха ... Што, хітра, а? Тонка! Ха-ха.»[185]

Зусім натуральна, што падобныя праяўленьні самастойнасьці павінны былі занепакоіць бальшавіцкі рэжым, прымушаючы яго шукаць новых шляхоў разьвязаньня нацыянальнага пытаньня. Адныя бачылі гэтае разьвязаньне ў «далейшым максімальным зьвяртаньні ўвагі на павялічэньне ядра беларускіх работнікаў за кошт сельскай беднаты й батрацтва і ў беларусізацыі зрусыфікаванай часьці беларускага пралетарыяту», дзеля таго «што будаваць запраўдную беларускую пралетарскую культуру можа толь-

---

[184] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 3.
[185] «Навука» на службе наццэмаўскай контррэвалюцыі. Менск, 1931, б. 65.

кі беларускі пралетарыят пад кіраўніцтвам сваей камуністычнай партыі»,[186] іншыя — у стварэньні сваіх собскіх марксістаўскіх сілаў, бо:

«Найбольш небясьпечным фронтам у Беларусі, зь яе маладой разьвіванай культурай, зьяўляецца літаратурны фронт. Цераз каналы літаратуры, асабліва мастацкай літаратуры, лягчэй за ўсё пранікаюць нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі й пагляды. Адсюль — вялізарнае значаньне ў умовах Беларусі здабывае пастаноўка марксістаўскай крытыкі.

Першая арганізацыя марксістаўскіх сілаў Беларусі ўзьнікла была ў 1923 г. Тады зарганізавалася Беларускае Марксістаўскае Таварыства, якое зрабіла некалькі дакладаў, але, з прычыны адсутнасьці, галоўным чынам, кадраў, яно памерла натуральнай сьмерцяй».[187]

Многія бальшавіцкія тэарэтыкі амаль даслоўна разумелі тады выказваньні Сталіна аб тым, што першы пэрыяд сьветавай дыктатуры пралетарыяту будзе пэрыядам поўнага зьнішчэньня нацыянальнага прыгнечаньня, пэрыядам «росквіту сацыялістычных нацыяў, нацыянальных моваў і культураў» і дзеля гэтага не адважваліся яшчэ безапэляцыйна асуджаць усіх праяваў нацыянальнай самабытнасьці.

Тым часам XIII-ы Зьезд КП(б)Б абвесьціў «галоўную небясьпеку на дадзеным этапе нацыянал-дэмакратызм» замест ранейшай галоўнай небясьпекі ў форме «вялікадзяржаўнага шавінізму». З гэтага мамэнту пачынаецца тварэньне г. зв. грамадзкай апініі, накіраванай супраць ідэі «беларускай самабытнасьці», носьбітамі якой павінны быць «нацдэмы» й «нацыянал-апартуністыя» (беларускія нацыянал-камуністыя). Напады супраць адных і другіх у прэсе, на розных зборках, мітынгах і ў школах ідуць у пары з што раз часьцейшымі звальненьнямі з адказных становішчаў непапраўных з афіцыяльнага гледзішча.

Старшыня СНК БССР — Язэп Адамовіч, яшчэ да гэтага, 7-га травеня 1927 г., быў адкліканы ў Маскву на другараднае становішча дырэктара Цукратрэсту (пазьней быў арыштаваны). Бальшавікі разумелі, што ажыцьцяўленьне іхнага пляну г. зв. рэканструкцыі народнай гаспадаркі СССР залежыць ад наяўнасьці кадраў. Існуючыя тады кадры не адказвалі бальшавіцкім вымаганьням, асабліва ў галіне ідэялягічнага ўзьдзейваньня на масы. У сувязі з гэтым абвяшчаецца «чыстка савецкага апарату», а ВЦК(б) у канцы 1929 г. ставіць усім партыйным арганізацыям заданьне «зьвярнуць асаблівую ўвагу на ачышчэньне органаў народнае асьветы ад ідэялягічна чужых элемэнтаў, якія выкрыўлялі пралетарскую клясавую лінію».[188]

З народнай асьветай цесна зьвязаныя накуковыя ўстановы і наагул усе культурныя ўстановы, а там — ідэялягічна «чужыя элемэнты» перш за ўсё «нацдэмы». Назначаны Народным Камісарам Асьветы БССР, сябра ЦК КП(б)Б А. Платун на месца звольненага «нацыянал-апартуністага» А. Баліцкага (звольнены пастановай ЦК КП(б)Б з 31 жніўня 1929 г.) атрымаў заданьне «ачышчаць» усе ўспомненыя ўстановы, аб чым і заявіў у сваім дакладзе «Аб падгатоўцы кадраў» у Доме Камуністычнай Асьветы: «ёсьць дырэктыва аб узмацненьні чысткі ВНУ і тэхнікумаў ад варожых элемэнтаў».

---

[186] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 4.

[187] Сенкевич. О работе белорусских марксистских организаций. «Весник Коммунистической Академии», № 32 (2), 1929, б. 239—240.

[188] «Правда», 5. 11. 1929.

З назначаньнем новага наркома Асьветы пачынаюцца звальненьні выдатнейшых прадстаўнікоў нацыянальнага руху ў Беларусі зь кіраўнічых становішчаў у Беларускай Акадэміі Навук (С. Некрашэвіч і В. Ластоўскі), Народным Камісарыяце Земляробства (З. Прышчэпаў) і інш., ад уплыву на нацыянальную дзейнасьць адхіляецца так-жа З. Жылуновіч, які, як ведама, згуляў не малую ролю ў стварэньні БССР.

Звальненьне з адказных становішчаў зьявілася толькі прэлюдыяй да арыштаў, якія пачаліся ў лютым 1930 г. і да лета прынялі масавы характар. Адзін за адным пападаюць у падвалы ГПУ буйнейшыя нацыянальныя дзеячы: А. Цьвікевіч, В. Ластоўскі, А. Смоліч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, Б. Эпімах-Шыпіла, М. і Г. Гарэцкія (Беларуская Акадэмія Навук), рэктар БДУ У. Пічэта, былы нарком Асьветы А. Баліцкі, былы нарком Земляробства З. Прышчэпаў, а сьледам за імі й пісьменьнікі — У. Дубоўка, Я. Пушча, А. Бабарэка, У. Жылка й інш., а так-жа цэлы рад выдатных навуковых працаўнікоў, пэдагогаў, студэнтаў, агульным лікам каля 300 чалавек.

У гэты час, 26-га чэрвеня 1930 г., праходзіць XVI-ы Ўсесаюзны Зьезд партыі, які канчальна замацаваў дыктатуру Сталіна. Зьезд, з мэтай адвярненьня ўвагі ад распачатага паходу супраць нацыянальных вольнасьцяў у саюзных рэспубліках, узноў высунуў папярэднюю тэзу аб «вялікадзяржаўным расейскім шавінізьме, як галоўнай небясьпецы на дадзеным этапе». XII-ы Зьезд КП(б)Б, як ведама, галоўную небясьпеку ўгледжваў у беларускім нацыянал-дэмакратызьме, што ня зусім адказвала пазьнейшай пастанове XVI-га Ўсесаюзнага Зьезду Камуністычнай партыі. Заіснаваўшае палажэньне ЦК КП(б)Б, цераз урад БССР, стараецца тэарэтычна апраўдаць наступным аб'ясьненьнем:

> «У БССР, як нацыянальнай рэспубліцы, змаганьне на ідэялягічным фроньце прыймае спэцыфічныя формы й праяўляецца ў вялікадзяржаўным шавінізьме, беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызьме й шавінізмах жыдоўскім, польскім і інш.»[189]

Дзеля гэтага арыштаваных не звальняюць, а ўсіх іх абвінавачваюць у контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз Вызваленьня Беларусі», які быццам меў заданьне «адарваць БССР ад СССР і стварыць буржуазна-памешчыцкую рэспубліку» і з гэтай мэтай быццам меў сувязь з «Саюзам Вызваленьня Ўкраіны», паказовы працэс якога быў падгатоўлены ГПУ на Ўкраіне. Пасьля таго, калі ў выніку дапросаў, ГПУ ўдалося змусіць свае ахвяры да прызнаньня ў «контррэвалюцыйнай дзейнасьці», можна было цьвердзіць, што «раскрытая ГПУ група беларускіх нацыянал-дэмакратаў імкнулася зьвярнуць БССР із шляху сацыялістычнага будаўніцтва на шлях капіталістычнай рэстаўрацыі»,[190] а СНК БССР, у газэце «Советская Белоруссия» за 18 сьнежня 1930 г., абвесьціў пастанову аб выключэньні із складу Беларускай Акадэміі Навук цэлага раду акадэмікаў, як «ворагаў народу».

Праектаваўся працэс «Саюзу Вызваленьня Беларусі» падобна працэсу «Саюзу Вызваленьня Ўкраіны». З гэтай мэтай пачалася апрацоўка публічнай апініі ў прэсе й на мітынгах. А. Сенкевіч у артыкуле «За Ленінскую лінію ў нацыянальнай палітыцы» даводзіў, што

> «Выкрытая ворганамі ГПУ контррэвалюцыйная група на чале з былымі міністрамі й дзеячамі Беларускай Рады — Ластоўскім, Цьві-

---

[189] Матарыялы да справаздачы ўраду Х-му зьезду Саветаў БССР. Менск, 1931, б. 13.

[190] Тамсама, б. VI.

кевічам, Лёсікам, Некарашэвічам і інш., якая акапалася ў Беларускай Акадэміі Навук, прасунула адтуль свае шчупальцы на рад адрэзкаў эканамічнага й культурнага фронту, Наркамзем, Народны Камісарыят Асьветы, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва й інш ... Контррэвалюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмакратаў падтрымлівала сувязь зь яфрэмаўшчынай або з г. зв. Саюзам Вызваленьня Украіны й разам з апошнім арыентавалася на адну й тую-ж імпэрыялістычную дзяржаву».[191]

Цяпер усе няўдачы сацыялістычнага будаўніцтва знаходзілі сваё апраўданьне. Яны прыпісваліся дзейнасьці контррэвалюцыйнай групы. Апрача гэтага, дасягалася й другая, ня менш важная кампрамітацыя былых дзеячоў ворганаў БНР, а гэтым самым і ўсей БНР у цэласьці, як «прадажнай агентуры». Ахрысьціўшы асновы сельска-гаспадарскага ўкладу, які абапіраўся на прыватнай ініцыятыве, «прышчэпаўскай кулацкай зямельнай палітыкай», бальшавікі ў 1929 г. прыступаюць у БССР да «земляўпарадкаваньня, накіраванага да ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі — стварэньня саўгасаў і калгасаў.»[192]

Пачалася чыстка навукова-дасьледвальных установаў БССР (Беларуская Акадэмія Навук, Беларуская Акадэмія Сельскай і Лясной Гаспадаркі і інш.) і кіраўнічых ворганаў культурна-асьветнай дзейнасьці, куды «прасачылася дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў».[193]

У гэты час ГПУ намагаецца

«зьвязаць Янку Купалу із справай Саюзу Вызваленьня Беларусі. Было так, што два «нацыянал-дэмакраты», Краскоўскі й Некрашэвіч, былі намечаныя, як лідэры ўсей «канспірацыі»; ня было іншага выхаду й мясцовыя ўлады хісталіся ў выбары. Дзеля гэтага быў прысланы з Масквы ў Менск спэцыяльны агент прозьвішчам Аргаў з мэтаю разьвязаньня гэтае справы. Ён адкінуў абодвых кандыдатаў на лідэра з прычыны іхнай недастатковай важнасьці, і выбар паў на больш эфэктыўную й рэпрэзэнтатыўную асобу ,якой быў Янка Купала. Тады Купала быў арыштаваны, але па дарозе ў турму пасягнуў на сваё жыцьцё пры помачы нажа, які меў з сабой. У сваіх намерах паўстрымаць яго ад самагубства, агенты ГПУ зрабілі памылку, што заклікалі да помачы некаторых праходзячых людзей. Вестка аб арышце Купалы й спробе самагубства выклікала цэлую сэнсацыю, дасягнуўшы навет «буржуазны Захад». Сталін асабіста прыслаў загад вылячыць за ўсякую цану зраненага паэту і, пакідаючы ўсе спробы ўцягненьня яго ў гэтую «справу», паставіць Купалу й ягоную творчасьць «на службу сацыялізму». Пазьней у афіцыяльным партыйным воргане «Зьвязда» быў надрукаваны «пакаяльны ліст» Купалы, які, судзячы паводля яго стылю, ня мог быць напісаны самым паэтам. У кажным выпадку Купала быў вылечаны фізычна й «ідэялягічна». Ён стаўся «афіцыйным» паэтам, хаця часамі й «грашыў» і ў 1942 г. ён усё-ж пакончыў самагубствам.

Аргаў у міжчасе прадаўжаў шуканьне эфэктыўнага й рэпрэзэнтатыўнага лідэра для СВБ. Цяпер ён выбраў прафэсара У. Ігнатоўскага, у той час прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук. І гэтым разам няўдачна. Перасьцярэжаны Ігнатоўскі застрэліўся ў сваім га-

---

[191] «Полымя», кн. XI-ая і XII-ая 1930, б. 170 і 172.

[192] Матарыялы да справаздачы ўраду X-му зьезду Саветаў БССР, б. 134.

[193] Тамсама, б. 14. З аднаго толькі Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі былі «вычышчаны» 24 супрацоўнікі й замененае ўсё кіраўніцтва.

бінэце якраз перад самым арыштам (20-га лютага 1931 г.). Магчыма з прычыны няўдачаў Аргава, а магчыма з прычыны непахіснай паставы малодшых вязьняў, уся старэйшая група адклікала свае паказаньні, якія перад гэтым імі былі дадзеныя. Аргаў быў адкліканы ў Маскву, і ОГПУ СССР спыніла ўсю справу бязь ніякага суду».[194]

З мэтаю нэўтралізацыі нацыянальных пачуцьцяў бальшавікі пачалі прапагаваць тэорыю супольнай «савецкай радзімы» й новага тыпу сацыялістычнага чалавека-грамадзяніна — «савецкага патрыёта». Сацыялістычны чалавек — савецкі патрыёт прадстаўляўся, як чалавек вольны ад усякіх «перажыткаў капіталізму», у тым ліку й ад нацыянальнай «абмежаванасьці», а адгэтуль і лёзунг: «выкараніць астаткі капіталізму з эканомікі й сьведамасьці людзей». Выкараняць «перажыткі» ў эканоміцы было шмат прасьцей, чымся ў сьвядомасьці людзей, у васаблівасьці г. зв. нацыянальную абмежаванасьць. Улічваючы гэтую акалічнасьць, Сталін у свой час навучаў:

> «. . . трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца й разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у вадну супольную культуру з аднэй супольнай мовай. Росквіт нацыянальных паводля формы й сацыялістычных паводля зьместу культур у ўмовах дыктатуры пралетарыяту ў ваднэй краіне для зьліцьця іх у вадну супольную сацыялістычную (паводля формы й паводля зьместу) культуру з аднэй супольнай мовай, калі пралетарыят пераможа ў цэлым сьвеце й сацыялізм увойдзе ў быт, — у гэтым якраз і заключаецца дыялектычнасьць ленінскага пастаўленьня пытаньня аб нацыянальнай культуры . . . росквіт нацыянальных культур (і моваў) у пэрыяд дыктатуры пралетарыяту ў ваднэй краіне ў мэтах прыгатаваньня ўмоваў для адміраньня й зьліцьця іх у вадну агульную сацыялістычную культуру (і ў вадну супольную мову) ў пэрыяд перамогі сацыялізму ў цэлым сьвеце».[195]

Прыведзеная інструкцыя зьявілася толькі тактычным ходам, які падводзіў базу пад русыфікацыю нерасейскіх народаў, насяляючых СССР. Бальшавізм улічваў, што асыміляцыя нацыянальных моваў напатыкае на «каласальныя супрацівы», якія заключаліся ў тым, што «лёс мовы разьвязваюць граматычныя пабудовы й асноўны слоўнікавы фонд.»[196]

Трэба дапускаць, што ў сувязі з гэтым і «ў мэтах падгатаваньня ўмоваў для адміраньня» мовы, у БССР, на аснове дэкрэту СНК БССР з 28-га жніўня 1933 г. і былі праведзеныя «зьмены і ўпрашчэньні беларускага правапісу», якія выкінулі зь беларускай мовы каля 30-ёх ня толькі артаграфічных, але фанэтычных і марфалягічных тыпова беларускіх асаблівасьцяў, замененых чыста расейскімі, чужымі паводля характару й пабудовы беларускай мовы, якія ў ёй і дагэтуль не спатыкаліся.[197]

Такое палажэньне існавала, выражаючыся Сталінскай тэрміналёгіяй, у «ўмовах дыктатуры пралетарыяту ў ваднэй краіне», але ў выніку 2-ой сьветавай вайны паявіліся й іншыя краіны з паказанымі ўмовамі. Тады Сталін дапоўніў сваю тэорыю наступным:

---

[194] A. Adamovich. Цыт. праца, б. 163—164.

[195] И. Сталин. Марксизм и национально-колониальный вопрос. Партиздат ЦК. ВКП(б), 1935, б. 195.

[196] В. К. Козлов. Цыт. праца, б. 193.

[197] Больш падробна аб гэтай рэформе ў артыкуле д-ра Я. Станкевіча «Бальшавіцкая моўная палітыка ў Беларускай ССР». «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня ССР, № 1, Мюнхэн 1955.

«...мы будзем мецъ справу не з 2-мя мовамі..., а із сотнямі нацыянальных моваў, зь якіх у выніку доўгага эканамічнага, палітычнага й культурнага супрацоўніцтва нацыяў **будуць выдзяляцца спачатку найбольш узбагачаныя адзіныя занальныя мовы, а потым занальныя мовы зьліюцца ў вадну супольную міжнародную мову** (падчыркнута намі — Г. П.)..., якая ... будзе новай мовай, увабраўшай у сябе найлепшыя элемэнты нацыянальных і занальных моваў».[198]

Інтэрпрэтуючы прыведзенае вышэй сталінскае палажэньне, цытаваны ўжо В. К. Казлоў прыходзіць да вываду, што

«... да супольнай для ўсіх сьветавай мовы чалавецтва пяройдзе на 3-ім этапе пэрыяду сьветавай дыктатуры пралетарыяту, калі дасьветавая сацыялістычная сыстэма гаспадаркі ўзмоцніцца ў дастатковай ступені й сацыялізм увойдзе ў быт народаў, **а нацыі пераканаюцца ў практыцы ў перавагах супольнай мовы перад нацыянальнымі мовамі»** (падчыркнута намі — Г. П.).[199]

Дык ясна, што народы, якія знаходзяцца ў сыстэме СССР, як «адзінай сацыялістычнай гаспадаркі», паралельна із сваей нацыянальнай мовай, ужо даўно змушаныя карыстацца й супольнай міжнацыянальнай мовай, якой зьяўляецца расейская мова. Згодна з бальшавіцкай інтэрпрэтацыяй, найбольш перадавым носьбітам усіх рэвалюцыйных і сацыялістычных традыцыяў і прагрэсу наагул зьяўляўся, цяпер зьяўляецца і, хіба, застанецца толькі расейскі народ. Прыродна з гэтым, што бальшавікі й у сучасны мамэнт імкнуцца нутрасаюзнае «занальнае» значаньне расейскае мовы распаўсюдзіць і на ўсе «сацыялістычныя краіны».

У сваім наступе на нацыянальныя асаблівасьці беларускага народу бальшавікі не абмежаваліся толькі разгледжанымі тут мерапрыемствамі. Ударам па нацыянальным руху ў палавіне 1930 г. яны толькі «зьліквідавалі» старэйшую нацыянальную эліту таго часу, але канчальна яшчэ тады не замацавалі сваіх пазыцыяў, ня выкаранілі із сьвядомасьці ўсей інтэлігенцыі й народу нацыянальных пачуцьцяў. Яшчэ, ня гледзячы на рэпрэсіі, працавала шмат выхаванкаў гэтай эліты — былых студэнтаў БДУ, пэдтэхнікумаў, Беларускай Сельска-Гаспадарскай Акадэміі, а так-жа маладых пісьменьнікаў, настаўнікаў, журналістых. Давяраць гэтым кадрам бальшавікі не маглі, але й ізаляваць усіх адразу й замяніць сваімі было фізычна немагчымым.

І ў самой бальшавіцкай партыі адбывалася ў той час войстрае змаганьне з апазыцыяй да сталінскага рэжыму, з г. зв. трацкістымі й бухарынцамі. Вынікам гэтага й зьявілася на кажным кроку тая «клясавая пільнасьць», якая ў умовах БССР прыняла звыраднелыя формы. Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б 1933 г. узноў зьвяртаў увагу на тое, што

«...ў дадзены мамэнт у Беларусі галоўную небясьпеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які зьвязваецца зь імпэрыялістычнымі элемэнтамі. Неабходна ў васаблівасьці мецъ наўвеце новую тактыку расейскіх вялікадзяржаўных шавіністых і беларускіх нацыяналістых, падтрымліваных усей контррэвалюцыяй, у тым ліку й трацкістаўскай, якія на сучасным этапе блякуюцца між сабою на супольнай плятформе адрыву ад СССР для аслабленьня СССР і ўмацаваньня пазыцыяў капіталізму».[200]

---

198 И. Сталин. Марксизм и вопросы языкознания. Масква 1950, б. 111—112.
199 В. К. Козлов. Цыт. праца, б. 134.
200 «Камуністычнае выхаваньне», № 3—4, 1934, б. 18.

Гэтая пастанова зьявілася апраўданьнем новай хвалі арыштаў, ахапіўшай інтэлігенцыю Беларусі. Ахвярамі яе былі перадусім усе былыя беларускія паслы польскага сойму, якія супрацоўнічалі, будучы ў Заходняй Беларусі, з камуністымі й уцяклі адтуль або апынуліся ў БССР у парадку вымены палітычных вязняў, а так-жа многія беларускія паэты, пісьменьнікі й настаўнікі. Абвінялiся яны цяпер у стварэньні паўстанскай дывэрсыйна-шпіёнскай арганізацыі пад назовам Беларускага Нацыянальнага Цэнтру, які, быццам-бы супрацоўнічаў з польскім вайсковым штабам і ўкраінскай арганізацыяй, а восеньню 1933 г. або летам 1934 г. намерваўся выклікаць паўстаньне ў БССР.[201]

Адначасна з арыштамі праводзіцца шырокі наступ і на цэлым ідэялягічным фроньце. Патрабуецца ад школаў, каб яны справу выхаваньня маладога пакаленьня паставілі так, каб мець упэўненасьць, што «кажны вучань дасьць станоўчы адпор усякаму праяўленьню нацыяналізму, у якіх-бы толькі ўмовах з гэтымі праяўленьнямі не спаткаўся»;[202] ад навуковых працаўнікоў — вызваліцца ад шавіністычных «настрояў, дзеля таго што ёсьць у навуковым асяродзьдзі» . . . прыхільнікі й носьбіты вялікадзяржаўнага шавінізму, нацыянал-дэмакраты й жыдоўскія нацыяналістыя. «Вялікадзяржаўныя шавіністыя імкнуцца нажыць сабе капітал на арыштах беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў . . . прыхільнікі нацыянал-дэмакратаў усяляк спачуваюць арыштаваным нацдэмам»,[203] а ў выніку — «не даюць ніякай навуковай прадукцыі», ня маюць «навуковага марксістаўска-ленінскага» светагляду. Наймацней націскаюць на бальшавізацыю Беларускай Акадэміі Навук, дзе з 1931 г. гаспадарыў спэцыяльны назначэнец Крамля — Горын, які праводзіў «чысткі».[204]

У гэтым часе ўзаемадачыненьні з суседнімі дзяржавамі (Польшча, Прыбалтыка) пагоршваюцца. Правакацыйная бальшавіцкая дывэрсія ў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе ў Заходняй Беларусі правалілася яшчэ ў 1928 г., а ўсе беларускія дзеячы Заходняй Беларусі, апынуўшыся ў БССР, хутка вызваліліся ад сваіх ранейшых прасавецкіх сымпатыяў і рабіліся «нацдэмамі».

Бальшавікі прызнаюцца цяпер, што твораныя імі польскія нацыянальныя саветы ахопліваюць «у пераважнай бальшыні беларускае насельніцтва» і што «праца ў гэтых саветах вядзецца на беларускай мове», дзеля таго што насельніцтва «польскай мовы ня ведае».[205] Пачынаецца адваротная кампанія —ператварэньне польскіх нацыянальных саветаў у беларускія. На аснове прыведзеных матываў былі рэарганізаваныя Нова-Малыніцкі, Рудня-Насімкаўскі й Падасоўскі нацыянальныя польскія саветы Чэчэрскага раёну (пастанова з 29-га кастрычніка 1934 г.). Тое самае, толькі без падачы прычынаў, адбылося і ў дачыненьні да Пакрашаўскага сельсавету Слуцкага раёну, Любавінскага Буда-Кушалёўскага раёну й Балашэўскага Рэчыцкага раёну (пастанова з 20-га лістапада 1934 г.), а 21-га лістапада 1934 г. Уноўскі

---

201 Я. Найдзюк. Беларусь учора й сяньня. Менск, 1944, б. 222.

202 «Камуністычнае Выхаваньне», № 5—6, 1934, б. 11.

203 «Савецкая краіна», № 1, 1931, б. 39.

204 Падробна аб бальшавізацыі Беларускай Акадэміі Навук гл. у працы Г. Няміга. Інстытут Беларускай Культуры-Беларуская Акадэмія Навук-Акадэмія Навук Беларускай ССР. Выд. Інстытуту Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1958.

205 «Зборнік законаў БССР», № 45, 1934, пастанова 217.

латыскі нацыянальны савет быў злучаны з Уноўскім беларускім у вадзін беларускі савет.[206]

У вапраўданьне няўдачаў і тэрору была высунутая тэорыя «абвайстрэньня клясавага змаганьня», у працэсе якога, у помач нутраным «ворагам народу», быццам масава засылаліся з «капіталістычнага акружэньня» агенты-дывэрсанты»; адсюль лёзунг: «граніца на замок». Усё пачынае ўважацца «дзяржаўнай тайнай», навет месца працы кажнага. Пад катэгорыю ворагаў народу падводзяцца апазыцыйныя элемэнты ўнутры самой бальшавіцкай партыі, як — трацкістыя, бухарынцы, розныя «апартуністыя» і, бязумоўна, «буржуазныя нацыяналістыя». Абвешчаны новы лёзунг — «калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць» — апраўдвае ўсе акты насільля й тэрору. Праводзяцца бяспрэцэдэнтныя дасюль паводля свайго характару чысткі партыі, савецкага апарату, атэстацыі настаўнікаў;[207] паказовыя працэсы й г. п., з адначаснымі арыштамі, ссылкамі, дэпартацыямі, расстрэламі.

> «У часе яжоўшчыны былі арыштаваныя ўсе тыя беларускія інтэлігенты, якія ніякай нацыянальнай дзейнасьці не вялі, але падазраваліся ў магчымасьці самастойнага думаньня; былі арыштаваныя і ўсе тыя камуністыя-Беларусы, якія таксама былі далёкія ад якіх-небудзь нацыянальных ухілаў, але іхнай віной было тое, што яны не займаліся цікаваньнем і даносамі на пазьнейшыя ахвяры ГПУ» [208].

Вельмі войстрае перасьледваньне праводзілася супраць насельніцтва, супраць польскіх і іншых нацыянальных адміністрацыйных адзінак, асабліва ў прыгранічных з Польшчай і Прыбалтыкай раёнах, адкуль высяляліся цэлыя вёскі. Ранейшая нацыянальная практыка была прызнаная «шкодна-дывэрсыйнай» акцыяй. Дзяржынскі (Койданаўскі) нацыянальны польскі раён, вельмі ўрачыста створаны, пастановай з 31-га чэрвеня 1937 г.,[209] «як самастойная адміністрацыйная адзінка» быў зьліквідаваны й разьдзелены між Заслаўскім, Узьдзенскім і Менскім раёнамі, а ўсе адказныя працаўнікі раёну й бальшыня вучыцялёў былі арыштаваныя, як «ворагі народу».

Гэтая акцыя, зь ліквідацыяй польскай сэкцыі Камінтэрну, пацягнула за сабой ліквідацыю ўсіх польскіх адміністрацыйных адзінак, школаў, клюбаў, хатаў-чытальняў, навуковых установаў, бібліятэк, выдавецтваў і масавыя арышты іншых працаўнікоў польскае нацыянальнасьці на ўсей тэрыторыі СССР. 4-га жніўня 1937 г. за адным замахам адразу было зьліквідавана 19 апошніх нацыянальных саветаў. Пасьля 1937 г. у БССР не асталося й сьледу ад якіх-небудзь наагул нацыянальна-адміністрацыйных або культурна-асьветных адзінак. Праблема нацыянальных меншыняў у БССР перастала для ЦК КП(б)Б існаваць і займаць ягоную ўвагу. Адначасна з гэтым перастала йснаваць і праблема беларусізацыі.

Із урадавых і савецкіх установаў мясцовы беларускі элемэнт выкідаўся із заменай чужым, прысыланым з цэнтру. Першы, і да гэнага часу адзіны Беларус на становішчы першага сакратара ЦК КП(б)Б (прабыў на гэтым ста-

---

[206] Тамсама, № 47, пастанова 234 і 237.

[207] Аб мэтадах правядзеньня атэстацыі вучыцялёў у БССР гл. Г. Няміга «Школьніцтва БССР у няволі бальшавіцка-камуністычнай дактрыны». «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 5, Мюнхэн, 1956.

[208] Ст. Станкевіч. Нацыянальная палітыка Крэмля ў Беларусі, «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 1, Мюнхэн, 1955, б. 46.

[209] «Зборнік законаў», № 1, 1937, пастанова 22.

новішчы ўсяго паўгода), В. Шаранговіч, быў абвінавачаны ў сувязі із справай бухарынскай групы й пасьля працэсу гэтай групы расстрэлены. Мнагагодні старшыня ЦВК БССР і ЦВК СССР — А. Чарвякоў, для ўхіленьня ад арышту, у часе разгляду ягонай справы ў Доме Ўраду ў Менску незаўважліва адлучыўся ў свой кабінэт і там пакончыў самагубствам. Ведаючы вялізарную папулярнасьць у масах А. Чарвякова, бальшавіцкае кіраўніцтва не адважылася адразу падаць да ведама запраўднае прычыны ягонага самагубства, а абмежавалася толькі кароткай зацемкай пэтытам на апошніх бачынах менскіх газэт аб тым, што А. Чарвякоў зрабіў самагубства «на груньце сямейных непаразумленьняў». Становішча Чарвякова заняў Стакун (прабыў на ім усяго 3—4 месяцы й быў арыштаваны), а пазьней — Наталевіч.[210] Сталіся частымі выпадкі, калі беларускія школы, астаючыся беларускімі паводля назову, фактычна праводзілі навучаньне ў расейскай мове або цалком і афіцыйна рэарганізаваліся ў расейскія. Дзяржаўныя, прафсаюзныя й грамадзкія арганізацыі пераводзілі сваю працу таксама на расейскую мову.

Русыфікаваная беларуская мова аставалася часткава ў прэсе, вышэйшых школах, некаторых выданьнях, у тэатры й дапускалася ў паказава-дэманстрацыйных урачыстых публічных выступленьнях, а таксама ў узаемадачыненьнях з калгасным сялянствам. Газэта «Савецкая Беларусь», орган ЦВК БССР, перайшла на расейскую мову, толькі ворган ЦК КП(б)Б — «Зьвязда» й ворган ЦК ЛКСМБ — «Чырвоная Зьмена» выходзілі на беларускай мове. Наагул, пабеларуску выдавалася перадусім прапагандная літаратура й творы беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, прысьвечаныя «сацыялістычнаму будаўніцтву». Працы вучоных Беларускай Акадэміі Навук друкаваліся парасейску ў зборніку «Труды АН БССР», а сам назоў Беларуская Акадэмія Навук у 1936 г. быў заменены на Акадэмія Навук БССР. Гэтая замена падчырквала пяршынства «сацыялістычнага» зьместу.

Разьмер вынішчэньня беларускага народу, як нацыі, у пэрыяд яжоўшчыны дае аснову для цьверджаньня, што ён быў толькі аднэй з праяваў бальшавіцкага гэнацыду. Адным із пацьверджаньняў такога палажэньня можа служыць тайны пратакол з 29-га ліпеня — 2-га жнівеня 1939 г. цэнтральнай «Кантрольнай Камісіі НКВД», якая выяжджала ў Менск і праводзіла праверку дзейнасьці былога пракурора Беларускай Ваеннай Акругі А. Кісялёва. Камісія праверыла толькі акты, якія знаходзіліся ў вадным толькі Менску — у спэцыяльнай першай сэкцыі НКВД БССР і ўстанавіла, што ў працягу двух год яжоўшчыны (1937—38) у Беларусі было нявінна рассрэленых 13 325 чалавек.[211] Сюды не ўвайшлі тыя, якія былі прызнаныя вінаватымі, расстрэленымі або вывезенымі на савецкую катаргу.

Пасьля ўпадку Яжова ў Беларусі наступіла некаторае зацішша. Імкненьне да нацыянальнай самастойнасьці й супраціў бальшавіцкаму націску былі зломленыя. Астаткі ўцалелай беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі губляліся ў масе новавыхаваных і адданых рэжыму кадраў, для якіх ужо зрэфармаваная ў 1933 г. беларуская мова зьяўлялася толькі формай агульнасавецкага бальшавіцкага зьместу. Цяпер фармаваньне «савецкага народу» на ўсей тэрыторыі СССР не спатыкала папярэдняга супраціву. Больш выразна пачынае раскрывацца й сутнасьць гэнага «агульнасавецкага», як раней усяго расейскага.

---

[210] С. Крушинский, цыт. праца.
[211] Гл. М. Abramtchik. I accuse the Kremlin of the genociding of my Nation. Toronto, 1950.

Новым маладым кадрам, пазбаўленым доступу да жаролаў аб'ектыўнага пазнаваньня мінуўшчыны сваей краіны, прывіваецца перакананьне, што свабоднае разьвіцьцё беларускага народу й фактычная гісторыя Беларусі, як самастойнага краю, пачынаецца толькі з мамэнту Кастрычніцкай рэвалюцыі й дзякуючы клопатам камуністычнай партыі й помачы «вялікага расейскага народу». Укараненьнем гэтай тэорыі ў масы ўзмоцнена займаецца прэса, радыё, літаратура, школы. Акадэмія Навук БССР намагаецца падмацаваць гэтыя адкрыцьці «навукова», унікаючы арыгінальных, аб'ектыўных навуковых працаў зь гісторыі Беларусі, этнаграфіі, літаратуры, мовазнаўства.

Вонкава-фармальнае аслабленьне русыфікацыі наступіла ў канцы 1939 г. Тады бальшавікі, на аснове тайнага дагавору зь Гітлерам, узяўшы «пад сваю апеку адзінакроўных Беларусаў і Ўкраінцаў», прылучылі Заходнюю Беларусь і Заходнюю Ўкраіну, што ўваходзілі ў склад Польшчы, да БССР і УССР.

На нова прылучаных землях бальшавікі пачалі адкрываць беларускія школы, пераважна пачатковыя. Сярэднія школы (былыя гімназіі) імкнуліся ў вялікай меры замяніць расейскімі з выкладаньнем беларускай мовы, як прадмету. На ўсе важнейшыя кіраўнічыя становішчы ў Заходняй Беларусі прысылаліся праверанныя й надзейныя ідэялягічна кадры з БССР, хаця й незаўсёды адпаведнае агульнае й культурнае ўзроўні.

Ранейшая дзяржаўная мяжа паміж БССР й новапрылучанымі тэрыторыямі фактычна захавалася. Афіцыяльна ніякай розьніцы паміж гэтымі часьцямі БССР не рабілася, але сакрэтныя аддзелы НКВД прыгатаўлялі сьпіскі на высылку нацыянальна-сьведамых і ўсіх клясава-ненадзейных элемэнтаў занятай тэрыторыі. У Менску пачала выдавацца для прылучаных земляў польская камуністычная газэта «Штандар Вольносьці», а ў Беластоку працаваў польскі драматычны тэатр. У самой БССР трохі прыціхлі злосныя выпады супраць «нацдэмаў» і «ворагаў народу». Гэтую перадышку выкарысталі вучоныя. Яны маглі цяпер, хоць і на «аснове марксістаўска-ленінскай мэтадалёгіі», усё такі асьвятляць гістарычнае разьвіцьцё «нашай нацыянальнай літаратуры».[212]

Праблескі НЭП-у ў Заходняй Беларусі былі, акнак, кароткатрывалыя. Адразу-ж пасьля г. зв. вызваленьня пачалася калектывізацыя зь ідучымі ў пары зь ёй высылкамі насельніцтва.

З пачаткам вайны зь гітлераўскай Нямеччынай Крэмль узноў зьмяніў тактыку. Цяпер нанава робяцца спробы выкарыстаньня нацыянальных патрыятычных пачуцьцяў беларускага народу. У акупаваную Немцамі Беларусь перакідваюцца дывэрсыйна-партызанцкія групы із заданьнем выступаць перад беларускім насельніцтвам у якасьці абаронькікаў радзімы-Беларусі. Газэта «Советская Белоруссия» ўзноў пераходзіць на беларускую мову й ськіваецца з самалётаў за лініяй фронту (пасьля сканчэньня вайны ўзноў вярнулася на расейскую мову).

12-га сакавіка 1942 г. у Казані склікаецца сэсія Акадэміі Навук БССР, на якой раздаюцца заклікі да вучоных «напісаць рад працаў, паказваючых адвечнае змаганьне беларускага народу разам з расейскім народам супраць

---

[212] Гл. выступленьне заступніка старшыні СНК БССР І. Крупені на сэсіі Акад. Навук БССР. «Материалы мартовской сесии АН БССР», 1924, б. 111.

Немцаў, якія неаднаразова намагаліся іх заняволіць, паказаць брацкую дружбу беларускага народу з расейскім і іншымі народамі СССР».[213]

Былы рэктар БДУ праф. У. Пічэта, арыштаваны ў 1930 г. і высланы на 5 год у Вятку як «нацдэм» і выключаны із складу Беларускай Акадэміі Навук, як «вораг народу», але пазьней выпушчаны й вернуты да навуковай працы яшчэ ў 1934 г., толькі цяпер узноў аднаўляецца ў званьні акадэміка АН БССР.

Сам-жа факт скліканьня сэсіі АН БССР у час, калі «сацыялістычная радзіма» была ў вялікай небясьпецы, павінен быў сьветчыць аб бесьперапынным клопаце, падтрыманьні й апецы бальшавікамі інтарэсаў «братняй нацыянальнай рэспублікі». У прэсе й радыё прыводзіліся падробныя справаздачы з сэсіі, з заклікамі ад воінаў з фронту да ўдзельнікаў сэсіі натужыць усе сілы ў супольным змаганьні фронту й заплечча. Усе гэтыя мерапрыемствы, як і ўвядзеньне афіцэрскіх рангаў і пагонаў у арміі, распаўсюджаньне слухаў аб роспуску калгасаў пасьля заканчэньня вайны мелі перад сабой адну мэту: прыцягнуць насельніцтва акупаваных Немцамі тэрыторыяў, у тым ліку й Беларусі, да ўзмацненьня супраціву гітлераўскім акупантам і аказаньня помачы былому бальшавіцкаму акупанту.

Успамагальнай акалічнасьцяй у гэтай бальшавіцкай акцыі была палітыка Немцаў на занятых тэрыторыях, зь іхнымі газавымі камэрамі, каральнымі экспэдыцыямі, масавымі экзэкуцыямі закладнікаў, фізычным нішчэньнем палонных, паленьнем вёсак зь мірным насельніцтвам і недапушчэньнем разьвіцьця нацыянальных формаў жыцьця.

---

[213] Тамсама, б. 19.

## ПАСЬЛЯВАЕННАЯ ПАЛІТЫКА БАЛЬШАВІЗМУ Ў БССР

Пераможнае для бальшавікоў заканчэньне Другой сьветавай вайны ня прынесьла нічога новага ў сэньсе аблягчэньня рэжыму разбуранай ваеннымі падзеямі й нямецкай акупацыяй Беларусі. Спадзяваньні насельніцтва на зьмякчэньне ў нутраных узаемадачыненьнях бальшавізму з насельніцтвам ня збыліся. Узноў, за прыкладам першых год калектывізацыі, і яшчэ ў шмат горшых эканамічных умовах (сялянства, разьдзяліўшы калгасы за гады вайны й ня ўсыпеўшы яшчэ дастаткова ўмацавацца ў гаспадарскай галіне ў выніку церазьмерных паставак нямецкім уладам і рабаўніцтву з боку партызанскіх групаў, у канцы вайны асталося амаль пойнасьцю бяз жывёлы) пачынае ўстанаўлівацца калгасная сыстэма. Да гэтага прыходзяць новыя перасьледваньні, гэтым разам — за супрацоўніцтва з «ворагам-акупантам», а ў выніку — новыя ператасоўкі насельніцтва: высылкі ў Сібір і перасяленьні ў Усходнюю Прусію. На месца карэннага беларускага насельніцтва пачалі прыбываць новыя пасяленцы з глыбіні Расеі.

Атрымаўшы пад сваё ўладаньне палавіну Эўропы, бальшавікі перасталі сур'ёзна лічыцца зь якімі-небудзь нацыянальнымі інтарэсамі разбуранага духова й матарыяльна беларускала народу. Апусьцелая нацыянальная форма навонкі ўсё-ж такі захоўваецца, а ілюзарычна навет расшыраецца. Розныя Казловы, Панамарэнкі й іншыя, ня маючы нічога супольнага ні зь Беларусяй, ні зь беларушчынай, атрымліваюць партфэлі беларускіх міністраў і рэпрэзэнтуюць краіну ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Гэтае прадстаўніцтва ня было, аднак, прадстаўленьнем бальшавікамі больш шырокіх правоў беларускаму народу, а толькі прапагандным сяродкам і спосабам прыдбаньня большай колькасьці галасоў у міжнароднай арганізацыі. Для большага перакананьня вонкавага сьвету ў «самастойнасьці» рэспублікі Беларусі й Украіны, ім прысвойваюцца асобныя ад СССР собскія «нацыянальныя» гімны й дзяржаўныя сьцягі.

Унутры СССР пасьля заканчэньня вайны культ Сталіна, як звышчалавека-гэнія ня толькі «савецкага народу», але й усяго чалавецтва, дасягае свайго апогэю. Сталін у 1945 г. раскрывае запраўднае разуменьне катэгорыі савецкага народу. Гэта перш за ўсё — «вялікі расейскі народ», які зьяўляецца «найбольш выдатнай нацыяй із усіх нацыяў», уваходзячых у склад Савецкага Саюзу. Цяпер бальшавікі пачалі прадстаўляць расейскі народ як дамінуючую з кажнага гледзішча нацыю, з прыроднымі правамі на перабудову ўсяго сьвету згодна быццам з бытуючым у гэтым народзе і ўжо ім ажыцьцёўленым вялікім камуністычным прынцыпам — сацыялізацыяй усяго гаспадарскага жыцьця, зьнішчэньнем клясаў і эксплятацыі чалавека чалавекам.

> «Нацыі СССР усё цясьней задзіночваюцца вакол расейскай сацыялістычнай нацыі — найбольш выдатнай нацыі СССР... Расейскі народ, кіраваны камуністычнай партыяй, згуляў выдатную ролю ў пабудове сацыялізму ў СССР, у фармаваньні сацыялістычных на-

цыяў і йграе вядучую ролю ў іхным далейшым разьвіцьці ад сацыялізму да камунізму»,[214] —

цьвердзяць бальшавіцкія тэарэтыкі.

Савецкая навука ўлучаецца ў вабаснаваньне рознымі спосабамі дзяржаўна-сьветавых правоў расейскага народу, карыстаючыся мэтадам хвальшаваньня гістарычных фактаў. Пры пасярэдніцтве прэсы, радыя, школы — заўсёды і ўсюды, дзе толькі магчыма, укараняецца ўсім перакананьне, што ўсюды й ува ўсім праяўляецца прыярытэт расейскага народу, які раней за іншыя быў на чале амаль усіх найвялікшых адкрыцьцяў і вынаходніцтваў.

Бальшавікі зляжылі ў архіў сваю пастанову пэрыяду расшырэньня й умацаваньня іхнага ўплыву на загнаныя ў СССР народы аб тым, што «гутаркі аб перавазе расейскай культуры й высоўваньне палажэньня аб неабходнасьці перамогі вышэйшай расейскай культуры над культурамі адсталых народаў зьяўляюцца нічым іншым, як спробай замацаваньня панаваньня вялікарейскай нацыянальнасьці».[215] Афіцыяльна тады яшчэ бальшавікі стараліся прыкрываць праводжаную імі палітыку ў дачыненьні да падпарадкаваных сабе народаў. Яны тады цьвердзілі аб небясьпецы «вялікадзяржаўнага шавінізму», які стаўся цяпер азнакай патрыятызму. Цяпер, як сьветчыць бальшавіцкая практыка, праўдападобна наступіў прадбачаны Сталінам пэрыяд, калі «занальная» расейская мова мае тэндэнцыю да перарасту ў «супольную для ўсіх сьветавую мову»:

> «Вялікая расейская мова сталася другой роднай мовай для кожнага з народаў СССР . . . Паказваючы ўсясьветна-гістарычнае значаньне расейскае мовы, тав. Чэрвенкаў пісаў: «Расейская мова — гэта мова савецкай культуры, найбольш багатай, вядучай культуры сьвету».[216]

Беларусы, аднак, як сьветчыць бальшавіцкая прэса, яшчэ ня выкаранілі сваіх «нацыянальных перажыткаў». У верасьні 1951 г. ворган ЦК КП(б)Б «Зьвязда» ўзноў вярнуўся да, здавалася-б, ужо даўно пахаванай бальшавікамі тэмы, і прысьвяціла цэлых шэсьць нумароў «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай дзейнасьці» ворганаў БНР пэрыяду 1917—1920 гг.

Адначасна з гэтым узнавілася й крытыка прадстаўнікоў беларускай савецкай літаратуры за няглыбокі падход да праблемаў сучаснасьці, за адход у сваей творчасьці ў якіясьці «сінія далі мінулага» (Канстанцыя Буйла), за касмапалітызм і пад., бо

> «Ніякага ўмацаваньня нацыяналізму пралетарыят падтрымліваць ня можа, — наадварот, ён падтрымлівае ўсё, што памагае сьціраньню нацыянальных розьніц, разрушэньню нацыянальных перагародак, усё, што робіць сувязі між нацыянальнасьцямі цясьнейшымі й цясьнейшымі, усё, што вядзе да зьліцьця нацыяў».[217]

Як намі ўжо адцемлівалася, для прыспешаньня «сьціраньня нацыянальных перагародак», у 1933 г. беларускі правапіс і граматыка былі прыбліжаныя да расейскіх узораў, але гэтага аказалася недастаткова. У 1953 г. Інстытут Моваведы Акадэміі Навук БССР выдаў «Руска-Беларускі Слоўнік». Русыфікацыйная «рэформа» беларускай практычнай граматыкі, правапісу,

---

[214] В. К. Козлов. Цыт. праца, б. 127.
[215] Два гады нацыянальнай работы ў БССР, б. 19.
[216] В. К. Козлов. Цыт. праца, б. 128.
[217] В. И. Ленин. Сочинения, т. XVII, выд. 3-яе, б. 146.

праведзеная бальшавікамі ў 1933 г. ня толькі палажыла поўнасьцю сваю пячатку на гэтым слоўніку, але значна пайшла наперад. Праф. Я. Станкевіч сьцьвярджае:

> «Няма сумлеву, што пад гэтым-жа націскам у беларускай часьці слоўніка ўведзена ня меней дзьвюх трэйціх словаў расейскіх, перапісаных беларускім ды часта запсаваным менаванаю «рэформай» правапісам. Навет вельмі часта калі ў беларускай часьці слоўніка, слова перакладзенае на беларускае, дык пры ім стаіць адпаведнае слова расейскае. З другога боку, чужаземныя словы, якія ўжываюцца ў расейскай мове, зьяўляюцца перанесеныя і ў беларускую часьць слоўніка замест увядзеньня адпаведнага беларускага слова або іншага чужаземнага слова, што ў гэтым значаньні ўжываецца ў беларускай мове».[218]

Русыфікацыя беларускай лексыкі пацьвярджаецца і ў уступе да слоўніка:

> «перад рэвалюцыяй 1917 г. беларуская мова разьвівалася пад дабрадзейным уплывам вялікарасейскай мовы й пры помачы выдатных расейскіх пісьменьнікаў і грамадзкіх дзеячоў». Далей цьвердзіцца, што пасьля рэвалюцыі беларуская мова «значна папоўніла лексычны запас за кошт слоў роднае ёй расейскай мовы». І яшчэ далей цьвердзіцца, «што ў беларускай часьці слоўніка й ставілася заданьне — найбольш поўна выкарыстаць гэтыя памножаныя багацьці (г. зн. запазычаныя з расейскае мовы) беларускае мовы».[219]

У 1954 г., пасьля нязьлічоных абмеркаваньняў, паправак і зьменаў у розных інстанцыях, паявіўся ў расейскай мове першы том «Гісторыі Беларускай ССР» пад фірмай Акадэміі Навук БССР. Гэты першы том перадае гістарычныя падзеі ад паўстаньня Полацкага княства да першай сьветавай вайны 1914 г., г. зн. пэрыяду, які ня меў ніякага дачыненьня да будучай БССР. Характэрная асаблівасьць гэтае працы ня ў гэтым аднак, а ў ейным падыходзе да разгляду гістарычнага матарыялу. Гэтак, захоп беларускіх тэрыторыяў царскай Расеяй і з вынікаючай з гэтага забаронай ужываньня самога нацыянальнага імʼя краіны й заменай яе адміністрацыйным назовам «Северо-Западный Край», з забаронай друкаванага беларускага слова і ўжываньня беларускае мовы ў культурным і грамадзкім жыцьці, з палітычнымі карамі (Мураўёў — вешацель) і із стварэньнем для забранага краю палажэньня глухога акраіннага закутка імпэрыі (прамысловы патэнцыял выражаўся дробнымі кустарна-рамесьніцкімі прадпрыемствамі тыпу прымітыўных гарбарняў і бравароў дарэвалюцыйнага Менску), навуковая гістарычная праца Акадэміі Навук БССР называе «задзіночаньнем», якое «памагала **эканамічнаму, палітычнаму й культурнаму разьвіцьцю беларускага народу»** ( падчыркнута намі — Г. П.).[220]

Наступным выданьнем такога тыпу зьявілася кніга п. н. «Нарысы гісторыі беларускай савецкай літаратуры», таксама ў расейскай мове. У гэтых нарысах з агляду разьвіцьця літаратурнага працэсу ў Беларусі ўжо ў савецкі пэрыяд выпала цэлая група пісьменьнікаў «нацдэмаў» і нацдэмаўскага кірунку, сярод іх навет пачынальнік «савецкай пралетарскай» беларускай літаратуры Цішка Гартны (Зьмітра Жылуновіч).[221]

---

218 J. Stankievič. Russian-Belorussian Dictionary. «Belorussian Beview», № 5, Munich, 1957, p. 136.

219 Тамсама, б. 137.

220 История Белорусской ССР, т. I, Менск, 1954, б. 205

221 Пасьля дэтранізацыі Сталіна Жылуновіч, як і цэлы рад іншых, быў пасьмертна рэгабілітаваны.

Распачатае яшчэ ў часе існаваньня Беларускай Акадэміі Навук выданьне гістарычных жаролаў, цяпер выходзіць у вадпаведным партыйным падборы матарыялаў і ў расейскай мове. Акадэмія Навук БССР ўсё больш камплектуецца навуковым пэрсаналам расейскай нацыянальнасьці, а свае працы, прызначаныя да ролі асноўных дапаможнікаў пры вывучэньні гісторыі краю й яго культуры студэнтамі ВНУ і «шырокімі коламі працоўных Беларусі», выдае ў расейскай мове, з тэндэнцыяй прыніжэньня ролі й значаньня беларускага народу й ягоных культурных вартасьцяў і зьмяншэньня культурных уплываў на суседнія народы ў гістарычным мінулым. Спэцыяльныя сэсіі АН БССР склікаюцца пераважна для ўшанаваньняў падзеяў культурнага й рэвалюцыйнага мінулага расейскага народу, прыкладам, — сэсія, прысьвечаная 50-годзьдзю з дня сьмерці А. П. Чэхава (6-га чэрвеня 1954 г.), 85-годзьдзю з дня нараджэньня У. І. Леніна (12-га красавіка 1955 г.), 50-годзьдзю першай расейскай рэвалюцыі (лістапад 1955 г.) і інш. Урад БССР ня можа самастойна навет адкрыць на сваей тэрыторыі вышэйшай навучальнай установы. Гэта за яго Міністэрства вышэйшае асьветы СССР, пастанавіла ў 1952 г. адкрыць у Полацку Пэдагагічны Інстытут.[222]

Пэрыяд дэсталінізацыі ня вызначыўся якімі-небудзь значнейшымі зрухамі ў кірунку прадстаўленьня больш шырокіх магчымасьцяў самастойнага нацыянальнага разьвіцьця, бо ў запраўднасьці ён быў толькі пэрыядам

> «... пасьлясталінскай фундамэнталізацыі, г. зн. створанай пасьля сьмерці Сталіна рухомай раўнавагі між тэндэнцыямі дэсталінізацыі й рэасталінізацыі, які разьвіваўся ў кірунку ачышчэньня ад нерацыянальных і часамі проста такі дзікіх крайнасьцяў сталінізацыі пры рэзэрвацыі дасягнутых ёй зусім рацыянальных і пазытыўных для ўсяго савецкага панаваньня асноўных, фундамэнтальных для яго вынікаў».[223]

Паранейшаму прызнаюцца цэннымі «навуковыя й дасьледвальныя» працы, выйшаўшыя ў СССР, «па гісторыі асобных народаў» і «поўнасьцю правільнае падчыркваньне савецкімі гісторыкамі прагрэсыўнага значаньня прылучэньня народаў да Расеі».[224] Паранейшаму друкаваныя выданьні на беларускай мове выцясьняюцца выданьнямі на расейскай мове. Гэтак, за першых восем месяцаў 1956 г. толькі адно Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выпусьціла 49 кніг на расейскай мове з амаль двухмільённым тыражом. Творы беларускіх аўтараў выдаюцца шмат меншымі тыражамі, чымся творы расейскіх аўтараў. Сярэдні тыраж кнігі беларускага аўтара на беларускай мове — 8 500 экзэмпляраў; расейскага аўтара ў перакладзе на беларускую мову 12 900; расейскага аўтара на расейскай мове — 24 900. Апрача гэтага, Дзяржаўнае вучэбна-пэдагагічнае выдавецтва БССР за гэты пэрыяд выпусьціла 8 кніжак расейскіх аўтараў на расейскай мове агульным тыражом 445 тысяч экзэмпляраў і толькі адну кнігу на беларускай мове.[225]

Бальшавіцкая практыка паказвае, што пасьлясталінская фундамэнталізацыя, як такая, зьяўляецца далейшым замацаваньнем прынятага сталінскага афіцыяльнага палажэньня аб тым, што нацыянальнае пытаньне ў

---

[222] «Зьвязда», 18. 2. 1952.

[223] А. Адамовіч. Общие контуры сороколетней истории литературы и искусства в СССР. «IX-ая Конференция Института по Изучению СССР», Мюнхэн, 1957, б. 86.

[224] «Правда», 20. 2. 1956.

[225] А. Г. Яшчэ адзін паказьнік русыфікацыі. «Бацькаўшчына», № 41 (323), Мюнхэн, 7. 10. 1956.

СССР разьвязанае поўнасьцю й канчаткова і што «асноўным зьместам нацыянальнай палітыкі зьяўляецца далейшае збліжэньне нацыяў СССР і разьвіцьцё ўва ўсіх савецкіх людзей савецкай нацыянальнай гордасьці, гордасьці за нашую супольную сацыялістычную Радзіму й не вялікія сусьветна-гістарычныя дасягненьні».[226]

У працэсе дэсталінізацыі аднак выявілася, што прымусова насаджаная «савецкая (бальшавіцкі сынанім паняцьця — расейская) нацыянальная гордасьць» да апошняга часу не змагла вытравіць із сьведамасьці беларускага народу ягонай собскай нацыянальнай гордасьці й нацыянальных імкненьняў. Праяўленьнем гэтага зьявіліся выступленьні часьці беларускай інтэлігенцыі ў БССР супраць русыфікацыі, у вабарону культуры беларускае мовы. Першым падняў голас зрэгабілітаваны пісьменьнік Янка Скрыган,[227] які паставіў на ўсю шырыню пытаньне неабходнасьці ачышчэньня беларускае мовы ад накінутых ей русыцызмаў. Думкі Я. Скрыгана былі хутка падхопленыя цэлым радам іншых, і такім чынам на бачынах савецкіх газэт у БССР — «Літаратура і Мастацтва» і «Зьвязда» — разгарнулася нябывалая пасьля 30-х гадоў шырокая дыскусія.

У ходзе дыскусіі выявілася, што найбольш сільнае русыфікацыйнае ўзьдзейваньне накіроўваецца на культурную галіну жыцьця краіны, у васаблівасьці на асьвету. Гэтак, у сталіцы БССР — Менску з 58 сярэдніх школаў толькі 10 беларускіх, а такое-ж палажэньне назіраецца і ў Гомелі, Берасьці, Магілеве й іншых гарадох.[228] Ня лепш і ў сельскіх мясцовасьцях, прыкладам, у Крупскім раёне ў 79 школах зь беларускай мовай навучаньня вялізарная бальшыня вучыцялёў вядзе лекцыі (апрача самой беларускай мовы) на расейскай мове.[229] Аўтары шматлікіх выступленьняў у прэсе, цытуючы выказваньні Леніна й іншых бальшавіцкіх аўтарытэтаў і ссылаючыся на розныя партыйныя дырэктывы, гарантуючыя права беларускай мове й беларускай культуры, даводзілі, што дырэктывы гэтыя асталіся адно пустымі словамі.

Дапушчэньне падобнай дыскусіі на бачынах бальшавіцкай прэсы можна выясьніць толькі мамэнтам «ачышчэньня ад крайнасьцяў» сталінізму, якія выразіліся ў дадзеным выпадку ў церазьмерным русыфікацыйным націску, аслабіўшым у вачох беларускага народу тэарэтычную вартасьць бальшавіцкіх нацыянальных лёзунгаў. Гэтай тэндэнцыяй «ачышчэньня ад крайнасьцяў» выясьняецца так-жа й праведзеная рэгабілітацыя звыш трыццацёх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія ў свой час былі «зьліквідаваныя» ў якасьці «нацдэмаў», «буржуазных нацыяналістых» і «ворагаў народу». Значная іх частка была рэгабілітаваная ўжо пасьмертна, а із астаўшыхся ў жывых рэгабілітаваныя тыя асобы, якія ў свой час не адказвалі характарам сваей творчасьці бальшавіцка-сталінскаму курсу, прызнанаму цяпер ня поўнасьцяй артадаксальным, або былі прыпадковымі ахвярамі бальшавіцка-сталінскага тэрору.

Пасьлясталінская фундамэнталізацыя праяўляецца й на самой рэгабілітацыі, якая не зьяўляецца ўва ўсіх дачыненьнях поўнай. Гэтак, прыкладам, Цішка Гартны (З. Жылуновіч) рэгабілітаваны толькі як пісьменьнік, але

---

226 Дунаев. Разрешение национального вопроса в СССР и дружба советских народов. «Партийная жизнь», Масква, 1947, № 19, б. 50.

227 Я. Скрыган. Думкі аб мове. «Літаратура і Мастацтва», 20. 2. 1957.

228 «Літаратура і Мастацтва», 8. 1. 1958.

229 Тамсама.

не як палітычны дзеяч.[230] І ў дачыненьні да зрэгабілітаваных пісьменьнікаў не забываюцца іхных важнейшых выступленьняў супраць неадкінутай цяпер, але й далей існуючай сталінскай лініі партыі ў мамэнт дакананьня іхных грахоў. Старшыня Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР — П. Броўка ў сваім дакладзе на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу 18—19-га сакавіка 1957 г., выражаючы сваё задаваленьне з прычыны рэгабілітацыі некаторых пісьменьнікаў, падчыркнуў аднак, што «мы не павінны забываць і на ідэялягічныя памылкі, зробленыя ў свой час некаторымі зь іх».[231]

Аднэй з важнейшых праблем, як бачым з прыведзеных вышэй прыкладаў, зьяўляецца ў Беларусі паранейшаму нацыянальная праблема, разьвязаньня якой бальшавікі, зь іхнымі цэнтралістычнымі тэндэнцыямі ў кірунку тварэньня й расшыраньня бальшавізаванай Расейскай імпэрыі, не змаглі правесьці на працягу свайго 40-гадовага панаваньня.

---

[230] Ст. Крушыніч. Рэгабілітацыя У. Дубоўкі. «Бацькаўшчына», № 14—15 (400—401), 1958.

[231] Тамсама.

*Ант. Адамовіч*

# *Афіцыйны савецкі Парнас беларускае літаратуры*

Напрыканцы леташняга году ў Менску выйшаў першы біяграфічны даведнік беларускіх пісьменьнікаў.[1] Для дасьледніка беларускае літаратуры гэта магло-б стацца падзеяй выдатнага гістарычнага значаньня. Дасюль бо біяграфічная інфармацыя пра беларускіх пісьменьнікаў была раськіданая па розных крыніцах гісторыі літаратуры, ня была зьбертая нікім у вадзіны даведнік, хоць задача стварэньня гэткага даведніка, «поўнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў», была пастаўленая ведамым гісторыкам беларускае літаратуры, акадэмікам Я. Карскім, яшчэ аж у 1922 г.[2]

Адылі, ад першага-ж позірку добра відаць, як далёка стаіць новае менскае выданьне ад разьвязаньня гэтае задачы, пастаўленае Карскім блізу сорак год таму. Сам загаловак ягоны — «Пісьменьнікі Савецкай Беларусі» — ужо паказвае на ягонае першае галоўнае абмежаньне ў вабсягу: адно пісьменьнікі, што друкаваліся ў Савецкай Беларусі, уваходзяць сюды, тымчасам як усе аўтары дасавецкага часу, або тыя, што ніколі не друкаваліся ў Савецкай Беларусі, хоць і былі ейнымі сучасьнікамі, пакінутыя вонках даведніка. Прыміж таго, ня ўсе нат прызнаныя клясыкі, або проста выдатнейшыя пісьменьнікі, падпадаюць пад гэткі абсяг: калі ўваходзяць сюды Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Зьмітрок Бядуля, дык затое Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Ядвігін Ш., Франьцішак Аляхновіч ды шмат іншых адпадаюць.

Падзагаловак выданьня — «Кароткі біяграфічны даведнік» — паказвае на ягонае наступнае абмежаньне супраць таго «поўнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў» акад. Карскага. Ды найпаважнейшае абмежаньне выяўляецца з асноўнае характэрнае асаблівасьці гэтага даведніка: афіцыйна аўтарызаваны кампэтэнтным дзяржаўным органам — Дзяржаўным выдавецтвам БССР — ён становіць сабою **афіцыйную савецкую публікацыю.** Ані на вокладцы, ані на тытульнай балоне няма ніякага ймя індывідуальнага аўта-

---

[1] Пісьменьнікі Савецкай Беларусі. Кароткі біяграфічны даведнік. Дзяржаўнае Выдавецтва БССР. Менск, 1959 г. 499 б.

[2] Е. Ф. К а р с к и й . Белорусы. Петраград, том III, выпуск 3, б. VIII.

ра ці аўтараў, апрача таго абазначэньня: «Дзяржаўнае выдавецтва БССР».[3] Прадмова (б.б. 3—7) таксама вылажаная ад імя таго-ж самага Дзяржаўнага выдавецтва. Наверх таго, прадмова гэтая выяўляе й наступную характэрную асаблівасьць выданьня, што абарачаецца найважнейшым абмежаньнем ягонага характару, — ягоную мэту «пазнаёміць чытачоў, бібліятэчных работнікаў зь біяграфіямі пісьменьнікаў рэспублікі й важнейшымі выданьнямі іх твораў» ды «служыць справе прапаганды лепшых твораў пісьменьнікаў Савецкай Беларусі».[4]

Гэткім парадкам, перад намі не навуковы даведнік з галіны гісторыі беларускае літаратуры, а перш-наперш кавалак савецкае прапаганды пра аўтараў і творы, афіцыйна ўважаныя за «важнейшыя» й «лепшыя». Таму й разглядаць, па магчымасьці ацанаваць дый ужываць яго даводзіцца як адлюстраваньне афіцыйнага савецкага гледзішча й ацэны літаратуры Савецкае Беларусі першым чынам і больш, чымся як крыніцу біяграфічнае інфармацыі пра беларускіх пісьменьнікаў. І, як будзе відаць, ён і выяўляе цімалую цікавасьць і вартаснасьць як афіцыйны праводнік па савецкім Парнасе беларускае літаратуры куды больш, чымся як біяграфічны даведнік пра беларускіх пісьменьнікаў.

У даведніку зьмешчаныя біяграфічныя нататкі пра 223 пісьменьнікаў Савецкае Беларусі з фотаздымкамі кожнага зь іх. Адылі, ня ўсе з гэтых пісьменьнікаў Савецкае Беларусі ўваходзяць да беларускае літаратуры: 22 зь іх, як зазначала пра кожнага зь іх — расейскія («рускія», паводля савецкае тэрміналёгіі, ужыванай у даведніку) і друкуюцца парасейску, а 8 адзначаныя як жыдоўскія («яўрэйскія», паводля тае-ж тэрміналёгіі) ды ніколі ня пісалі сваіх арыгінальных твораў пабеларуску. І гэтыя расейскія і жыдоўскія аўтары, хоць яны жывуць і друкуюцца ў Савецкай Беларусі, ня могуць залічацца да беларускае літаратуры ды вывучацца ейным гісторыкам ці дасьледнікам. Аднак, іхныя біяграфіі маюць пэўную ўскосную цікавасьць, праліваючы сьвятло на некаторыя мамэнты савецкае палітыкі. Што да расейскіх пісьменьнікаў, дык цікава, што ўсяго толькі 7 з 22 — чыстыя Расейцы з паходжаньня, тымчасам як 3 — Жыды, 3 — Украінцы й аж 9 Беларусаў.[5] У дваццатых-трыццатых гадох расейскіх пісьменьнікаў беларускага паходжаньня яшчэ ня было.

Біяграфіі жыдоўскіх пісьменьнікаў яшчэ больш сьветчаць пра савецкую палітыку. У дваццатых-трыццатых гадох на Беларусі было добрых колькі

---

[3] На адвароце тытульнае балоны дробным друкам падана: «Кароткія біяграфічныя даведкі склалі: аб празаіках — Я. Казека, аб паэтах — Р. Няхай, аб драматургах і крытыках — А. Есакоў. Ускосным пацьверджаньнем афіцыйнасьці выданьня можа быць і той факт, што дасюль на яго не зьявілася ніякіх крытычных водгукаў у савецкім друку.

[4] Пісьменьнікі Савецкай Беларусі, б. 7.

[5] Расейцы: Аляксандар Авечкін (з Ноўгараду), Барыс Бур'ян (з Масквы), Пётр Валкадаеў (з Куйбышава), Анатоль Іваноў (з Варонежа), Уладзімер Няфёд (з Растова), Вера Сурская (з Масквы) ды Пятро Шасьцерыкоў (з Курска). Жыды: Навум Кісьлік (з Масквы), Ільля Клаз (з Масквы) ды Яфім Садоўскі (зь Менску). Украінцы: Аляксандар Лазьнявой (зь Белгараду), Браніслаў Спрынчан (зь Кіравагpадзкай вобласьці) ды Іван Шапавалаў (з Харкаўшчыны). Беларусы: Юры Багушэвіч (з Воршы), Мікалай Гарулёў (зь Віцебску), Дзьмітры Кавалёў (з Гомелю), Фёдар Куляшоў (з Магілева), Вера Лютава (з Смаленску), Аляксандар Міронаў (з Воршы), Мікола Садковіч (з Воршы), Канстанцін Цітоў (з Бранску) ды Генадзі Шмань (зь Віцебску).

дзесяткоў жыдоўскіх пісьменьнікаў, цяпер-жа за выняткам усяго аднаго з васьмёх, паданых у даведніку як жыдоўскія (Ісака Платнера), усе яны паданыя як памерлыя. Як проста памерлыя паданыя прынамся 4 — і гэта папраўдзе найлепшыя ў сваёй групе — пра якіх добра ўсім ведама, што яны былі расстраляныя за часамі «яжоўшчыны» (Ізі Харык у 1937 ды Арон Юдэльсон у 1938 г.г.) або пасьлей, за антысэміцкай кампаніяй пачатку II сусьветнае вайны (Майсей Кульбак у 1940 ды Зэлік Аксельрод у 1941 г.г.). Апрача васьмёх пісьменьнікаў, паданых як «яўрэйскія», у даведніку знаходзім яшчэ чатырох жыдоўскіх пісьменьнікаў, колькі апошніх твораў якіх друкаваліся ўжо толькі парасейску ці пабеларуску (Цодзік Даўгапольскі, Лазар Кацовіч, Рыгор Рэлес ды Уры Фінкель), але гэтыя чатыры ўжо як «яўрэйскія» не падаюцца (Рэлес — адзіны жывы зь іх). Усе гэтыя дэталі толькі дапаўняюць і канкрэтызуюць і без таго добра ведамы ўсім агульны абраз «ліквідацыі» ўсяе жыдоўскае літаратуры ў Саветах.

Адкідаючы 22 расейскіх пісьменьнікаў, 8 паданых ды 4 не паданых як «яўрэйскія», маем у даведніку 189 пісьменьнікаў, што ўваходзяць да беларускае літаратуры. Гэтыя 189 прадстаўляюць пераважную бальшыню, ды ўсё-ж ня ўсіх чыста пісьменьнікаў Савецкае Беларусі. Нейкі лік ня толькі пачаткаўцаў (як, прыкладам, Генадзі Бураўкін, Кастусь Цьвірка, Юрась Сьвірка, Вера Вярба ды шмат іншых), але й літаратараў, што ўжо дзесяцігодзьдзямі друкуюцца бязупынна дасюль (як, прыкладам, Іллары Барашка або Лукаш Бэндэ) — не паданыя ў даведніку. Магчыма, што яны разглядаюцца нейкімі «трэйцярараднымі», — прынамся, цяжка знайсьці іншае абгрунтаваньне абмінаньню іх, хоць, з другога боку, толькі дзіву можна давацца, чаму адны меліся-б разглядацца як «трэйцярадныя», калі гэтак шмат зусім роўных ім пад кажным паглядам — улучэньнем у даведнік прызнаюцца ўжо перарослымі гэную «трэйцяраднасьць».

Тымчасам як «трэйцярадныя пісьменьнікі» пакідаюцца вонках даведніка, тры выразна «найпершараднейшыя» — Янка Купала, Якуб Колас ды Кандрат Крапіва — вылучаюцца з усіх і выносяцца на чало. Іхныя біяграфіі ў гэткім парадку пачынаюць даведнік, тым часам як усе рэшта йдуць за імі ўжо ў сьцісла альфабэтычным парадку. Відавочна што гэтая тройца ўзьнятая панад альфабэт таму, што цешыцца яна найвышэйшым становішчам у савецкай літартурнай гіерархіі, як узьведзеная ў ранг «народных» паэтаў і пісьменьнікаў афіцыйнымі ўрадавымі дэкрэтамі. Гэтак прынцып літаратурнае гіерархіі, «табэлі рангаў», выглядае першым падыходам да пісьменьнікаў Савецкае Беларусі ў афіцыйным даведніку пра іх, і гэта становіць яшчэ адну важную асноўную характэрную асаблівасьць гэтага даведніка.

Афіцыйны тытул «народнага паэты» быў устаноўлены ўрадам Савецкае Беларусі, як ведама, ужо даўно: Купала й Колас атрымалі яго яшчэ ў 1925 ды 1926 г.г., Крапіва дастаў падобны тытул «народнага пісьменьніка» ў 1956 г. Тытул гэты адпавядае тытулу «народнага артыстага» (ці «народнага мастака»), устаноўленага ў галіне тэатральнага (а таксама й выяўленскага) мастацтва. Аднак, да апошняга часу ў галіне літаратуры ня было рангу, што адпавядаў-бы тытулу «заслужанага артыстага» (ці «мастака»), устаноўленаму ў галіне мастацтва ўжо ці цеперся. І вось у разгляданым гэтта даведніку робіцца першая спроба ўвесьці нешта падобнае да гэткага тытулу ў форме стандартнае характарыстыкі «вядомы пісьменьнік», прыкладанае вельмі пасьлядоўна да сьцягу пісьменьнікаў з тых, што разьмешчаныя ў альфабэтычным парадку.

Гэтым новаўводжаным рангам «вядомага пісьменьніка» надзеленыя ўсяго 15 асобаў, прычым тры зь іх — Янка Брыль, Пятро Глебка й Іван Шамякін — як быццам-бы яшчэ вывышаныя — прынамся, вылучаныя зь іншых, бо яны — проста «вядомыя пісьменьнікі», тымчасам як іншыя дадаткова й абмежавальна клясыфікаваныя «вядомымі **беларускімі** пісьменьнікамі», за выняткам аднаго ізаляванага выпадку Алеся Якімовіча, паданага як «вядомы дзіцячы пісьменьнік».

Адбор «вядомых пісьменьнікаў» выглядае вельмі старанным і прадуманым. Пяцёх зь іх — Зьмітрок Бядуля, Адварды Самуйлёнак, Паўлюк Трус, Міхась Чарот ды Кузьма Чорны — адабраныя з агульнага ліку 45 пісьменьнікаў, памерлых ужо. Тры «вядомыя» — былыя сябры літаратурнага згуртаваньня «Узвышша» (Пятро Глебка, Зьмітрок Бядуля й Кузьма Чорны), шэсьць — былыя актывістыя калішняга «Маладняка»-БелАППу (Міхась Чарот, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Алесь Якімовіч ды Паўлюк Трус), тры «выйшлі ў людзі» ўжо ў Саюзе Савецкіх Пісьменьнікаў (Адварды Самуйлёнак, Пімен Панчанка ды Іван Шамякін), а яшчэ тры пачалі пісьменьнікамі калішняе Заходняе Беларусі й гэтак рэпрэзэнтуюць ейную літаратурную спадчыну (Максім Танк, Піліп Пестрак ды Янка Брыль). Гэтак усе гістарычна-значэнныя традыцыі ў літаратуры Савецкае Беларусі прадстаўленыя прапарцыянальна й постацямі, запраўды «вядомымі» зь іхных твораў і чынаў, што заўсёды найбліжэй зьбягаліся з афіцыйнаю савецкаю лініяй. Дарэчы, праводная дзявятка, што ўзначальвала савецкую беларускую літаратуру ў канцы трыццатых ды пачатку саракавых гадоў [6], увайшла ў поўным складзе ў вышэйшыя рангі даведніка: усе яны або ў «народных», або ў «вядомых» пісьменьніках.

Апрача рангаў «народных» і «вядомых», знаходзім у даведніку й яшчэ некаторыя стандартныя клясыфікацыі, што могуць прадстаўляць спробу ўвесьці яшчэ іншыя рангі сярод савецкіх беларускіх пісьменьнікаў. Гэтак, прыкладам, Канстанцыя Буйла й Янка Маўр клясыфікаваныя як «старэйшыя» (Маўр яшчэ з дадатковай спэцыфікацыяй «дзіцячага»), хоць гэтая ранга ня дадзеная іншым, ня менш «старэйшым» як векам, гэтак і літаратурным стажам (як, прыкладам, Янка Журба). Падобна й Рыгор Барадулін, Мікола Ваданосаў ды Аляксей Карпюк клясыфікаваныя як «маладыя», хоць, ізноў-жа, шмат іншых, ня менш маладых як векам, так стажам, ня маюць гэтае клясыфікацыі. Нарэшце, характарыстыка «дзіцячы пісьменьнік», ужытая ня толькі да ўспомненых ужо Янкі Маўра ды Алеся Якімовіча, але й яшчэ да дваёх (Ядзьвігі Баганскае й Івана Шуцько), можа да пэўнай меры таксама абазначаць рангу намінкай на абмежанасьць іхняе аўдыторыі ды сьціраванасьці.

Адылі, афіцыйны «табэль рангаў», тарнаваны ў даведніку, не абмежваецца да гэтых пазытыўных рангаў, ён улучае ў сябе яшчэ й ступені выразна нэгатыўнага характару. Дзесяць пісьменьнікаў маюць характарыстыкі, якія ў крыху зьінчаваных формулах прыгадваюць пра іхную ідэялягічную спракуджанасьць у мінулым ды гэткім парадкам вылучаюць іх у сваеасаблівую рангу, казаў той, «спракуджаных пісьменьнікаў». Праўда, ніводная з гэтых крыху зьінчаваных формулаў ня гучыць як войстрая нагана, а барждзэй як

[6] Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Пятро Глебка. — гл. Ант. Адамовіч, «Сорак год беларускае літаратуры ў БССР», «Беларускі Зборнік», кніга 10, Мюнхэн, 1959 г., б. 110.

пэўнае мэмэнто-напамінак на ўсякі выпадак, каб «чаго ня выйшла такога» й у будучыні. Апрача таго, бальшыня пісьменьнікаў, што раней звычайна нязьменна суправаджаліся падобнымі формуламі, у даведніку ўжо іх ня маюць (як, прыкладам, Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Канстанцыя Буйла ды некаторыя іншыя). Цікава, што Зьмітрок Бядуля аднак усё яшчэ мае гэткі напамінак на ранейшую спракуджанасьць, хоць і ў вельмі лагоднай форме ды адначасна з узвышэньнем у рангу «вядомага»; магчыма, што да гэтага нек спрычынілася ягонае сэміцкае, нефартуннае цяпер з савецкага гледзішча паходжаньне.

У межах самое рангі «спракуджаных‘ маем таксама пэўныя градацыі, выражаныя ў вадценьнях формулаў «спракуджанасьці». Гэтак, бальшыня пісьменьнікаў спракудзіліся на «памылках», але некаторыя — ужо на «хібах», некаторыя толькі «дапусьцілі» гэтыя пракуды, але ў бальшыні яны ўжо проста «мелі месца», самыя-ж пракуды бываюць часам толькі проста «памылкамі», але часьцей — «ідэйнымі памылкамі» (ці «хібамі»), ато й лагадней — «ідэялягічнымі памылкамі», або й зусім проста «памылкамі ідэялягічнага характару» толькі. Апрача таго, здараюцца й большыя ці меншыя абмежаньні-засьцярогі, а то й зусім усправядліўленьні.

Найлагаднейшая формула з максымумам засьцярогаў ды ўсправядліўленьняў ужытая да аднаго з найбольш хваленых сваім часам партыйных паэтаў, Андрэя Александровіча: «У складаных умовах клясавай барацьбы 20—30-х гадоў А. Александровіч дапусьціў паасобныя памылкі, за што ў свой час крытыкаваўся нашай грамадзкасьцю».[7] Менш засьцярогаў і ўжо ніякіх усправядліўленьняў «складанымі ўмовамі» ў формулах, ужытых да іншых былых партыйцаў ці кандыдатаў: Сымона Баранавых — «У паасобных творах («Матчын сын») пісьменьнік дапусьціў ідэйныя памылкі»,[8] Міхася Зарэцкага — «У некаторых творах М. Зарэцкі дапусьціў ідэйныя памылкі, за што ў свой час яго крытыкавала савецкая грамадзкасьць».[9] Найвайстрэйшая формула ўжытая да высокага калісь партыйца ды першага кароткавечнага «прэзыдэнта БССР» Цішкі Гартнага: «У сваёй творчай і грамадзкай дзейнасьці ён меў шэраг ідэйных і палітычных памылак, за што ў свой час крытыкаваўся савецкай грамадзкасьцю».[10]

Формулы, ужытыя да пісьменьнікаў, што ніколі ня былі ў партыі, лякані́чнейшыя й зь меншымі засьцярогамі, выразна абазначаючы наступны ступень ніжэй. Адзін Зьмітрок Бядуля мае тут крыху лагаднейшую й больш узасьцярожаную формулу, як ужо казалася: «У радзе яго твораў першых савецкіх год былі ідэйныя памылкі й чужыя ўплывы. Але камуністычная партыя дапамагла пісьменьніку да канца пераадолець гэтыя памылкі, цьвёрда стаць на шлях літаратуры сацыялістычнага рэалізму.»[11]

Далейшымі ступенямі спушчаюцца усё ніжэй і ніжэй: Алесь Дудар («У радзе твораў А. Дудара мелі месца памылкі ідэялягічнага характару»),[12] Максім Гарэцкі («У паасобных яго творах і літаратурных працах мелі месца

[7] Пісьменьнікі Савецкай Беларусі, б. 34.

[8] Тамсама, б. 68.

[9] Тамсама, б. 198.

[10] Тамсама, б. 139

[11] Тамсама, б. 95.

[12] Тамсама, б. 186.

ідэялягічныя памылкі»),[13] Язэп Пушча («У паасобных творах Я. Пушчы мелі месца ідэйныя памылкі»),[14] Максім Лужанін («У паасобных яго вершах 20-х гадоў мелі месца ідэйныя хібы»),[15] ды Ўладзімер Дубоўка («У некаторых творах паэта мелі месца ідэйныя хібы»).[16] Апрача іх, ёсьць яшчэ адзін паэта, што падыходзіць пад шапку «спракуджаных», але пастаўлены ўсё-ж на водшыбе ад іншых. Гэта — Ўладзімер Хадыка, якому прыпісаная зусім адменная й адзіночная ў даведніку формула мастацкае й моўнае, ды ўжо не ідэялягічнае спракуджанасьці: «Паэзіі Ул. Хадыкі першых год уласьцівы былі некаторыя фармалістычныя пошукі, адыход ад усталяваных моўных норм»[17]. Тым-жа часам іншыя паэты, што спракудзіліся былі на падобных «пошуках» і «адыходах» куды больш за Хадыку й паперадзе яго (як Уладзімер Дубоўка, прыкладам), ня маюць ніякіх напамінкаў падобнага характару; відаць, формулы ідэялягічнае спракуджанасьці, ужытыя да іх, разглядаюцца даволі моцнымі, каб трэ было яшчэ падмацоўваць іх нейкімі іншымі мэмэнто.

За выняткам Зьмітрака Бядулі й Максіма Лужаніна, рэшта «спракуджаных пісьменьнікаў» належыць да рэгабілітаваных пасталінскім часам. Аднак, кантыгент рэгабілітаваных беларускіх пісьменьнікаў, зьмешчаных у даведніку куды большы, чымся гэтыя дзесяць-адзінаццаць «спракуджаных», у яго уваходзіць агульным лікам 38 прозьвішчаў, так што 27 зь іх, як бачым, ад усякіх напамінкаў аб нейкай «спракуджанасьці» цалком вызваленыя, інакш кажучы, запраўды поўнасьцяй рэгабілітаваныя. Наагул-жа ўсе рэгабілітаваныя, як «спракуджаныя», так і гэтыя «ачышчаныя» ад спракуджанасьці поўнасьцяй рэгабілітаваныя, аніяк ня вылучаюцца ў даведніку й нат пра самы факт іхнага рэпрэсіяваньня ды наступнае рэгабілітацыі анічым анідзе не ўспамінаецца. Гады, перабытыя імі ў лягерах ці ссылках вонках літаратуры — па 20—25, ато й больш год у кажнага — падаюцца як простыя прагалы ў іхных біяграфіях бяз жаднае спробы нейкага тлумачэньня ці ўсправядліўленьня. Дык ніякае рангі «рэгабілітаваных» у даведніку няма, але затое ён даець цікавы матар'ял да вывучэньня ўсяе справы пасталінскае рэгабілітацыйнае кампаніі ў савецкай беларускай літаратуры.

Першым чынам, кідаецца ў вочы, што ня ўсе пісьменьнікі, пра якіх ведама з савецкага друку, як пра рэгабілітаваных з прыгадваньняў іхных прозьвішчаў, ато й з фактаў іхнага звароту ў літаратуру й літаратурную дзейнасьць, увайшлі ў даведнік. Магчыма, што некаторыя пакінутыя вонках яго як «трэйцярадныя» з тэй самай непасьлядоўнасьцяй, пра якую ўжо казалася (як, прыкладам, Сьцяпан Ліхадзіеўскі або Мікола Нікановіч). Аднак, калі нат дадаць колькі гэтых абмінутых да 38 улучаных у даведнік, дык вельмі лёгка налічыць прынамся гэтулькі сама беларускіх пісьменьнікаў савецкага часу, дасюль гэтак і не рэгабілітаваных.[18] Яшчэ вымаўнейшы

---

[13] Тамсама, б. 143.

[14] Тамсама, б. 355.

[15] Тамсама, б. 270.

[16] Тамсама, б. 182.

[17] Тамсама, б. 436.

[18] Вось, да прыкладу, колькі дзесяткоў пісьменьнікаў, дасюль не рэгабілітаваных: Адам Бабарэка, Уладзімер Жылка, Лукаш Калюга, Андрэй Мрый, Фэлікс Кунцэвіч, Леапольд Родзевіч, Сымон Хурсік, Алесь Салагуб, Паўлюк Шукайла, Макар Шалай, Алесь Гародня, Янка Нёманскі, Алесь Сянькевіч, Язэп Падабед, Натальля Вішнеўская, Міхась Дуброўскі, Аркадзь Лясны, Алесь Ляжневіч, Віктар Казлоўскі, Ізраіль Плаўнік, Уладзімер Прыбыткоўскі, Сяргей

факт, што бальшыня — 24 з агульнага ліку 38 — рэгабілітаваныя адно пасьмяротна,[19] а прынамся 10 зь іх найпраўдападабней былі сваім часам расстраляныя, а ня проста так сабе памерлі, як гэта падаець даведнік.[20]

Апрача ўстанаўленьня пісьменьніцкіх «рангаў» паводля апісанае вышэй афіцыйнае «табэлі рангаў», даведнік заўсёды старанна падае грамадзянскае становішча кажнага пісьменьніка. Найважнейшае тут, ведама, партыйнасьць. Сярод 189 беларускіх пісьменьнікаў у даведніку можна налічыць 85 партыйцаў, г. зн. каля 45%. Адно 20 зь іх ня маюць ніякіх удэкараваньняў — ордэнаў, знакоў, мэдаляў,[21] тымчасам як 20 беспартыйных удэкараваныя імі,[22] так што агулом у даведніку 85 удэкараваных — «ордэнаносцаў», акурат гэтулькі сама, колькі партыйцаў. Усе гэтыя лікі выдаюцца занадта «круглымі», каб быць чыста выпадковымі; барждэй, гэта вынік старэнна ўплянаванага адбору, зробленага адмыслова дзеля мэтаў афіцыйнага праводніка па савецкім Парнасе беларускае літаратуры.

Вельмі старэнна, адразу-ж па найпершых дадзеных даты й месца нараджэньня, падаецца для кажнага пісьменьніка ягонае «сацыяльнае паходжаньне», гэтак важнае для савецкага падыходу да літаратуры, ня кажучы ўжо пра важнасьць яго ў цэлым савецкім жыцьці. Адылі, дзеля жыцьцёвае важнасьці гэтых дадзеных заўсёды назіраецца тэндэнцыя больш або менш фальсыфікаваць іх, каб утаіць або «ашляхотніць» кажнае «сацыяльнае паходжаньне», што магло-б выглядаць на «буржуазнае». Гэтак і ў даведніку: усе пісьменьнікі аказваюцца «працоўнага паходжаньня», так што, прыкладам, бацька — начальнік станцыі абарачаецца ў «чыгуначнага рабочага» (як у выпадку Хвядоса Шынклера),[23] дзяк — у «селяніна» (у выпадку Максіма

---

Астрэйка, Платон Жарскі, Уладыслаў Дзяржынскі, Міхал Пятуховіч, Аляксандар Вазьнясенскі, Іван Замоцін, Фабіян Шантыр, Алесь Некрашэвіч, Пётра Хатулёў, Пімен Сідарэнка (Пеначкін), Міхайла Грамыка, Язэп Вазёрны, Сяргей Ракіта, Зяма Півавараў, Зьміцер Паваротны, Зьміцер Віталін, Юлі Дрэйзін, Мікола Байкоў, Лявон Цьвяткоў — тутака ўжо 40 прозьвішчаў, а далічаць яшчэ можна.

[19] Гэта Зьміцер Астапенка, Міхась Багун, Сымон Баранавых, Якаў Бранштэйн, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Уладыслаў Галубок, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Сяргей Дарожны, Анатоль Дзяркач, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Сымон Куніцкі, Юрка Лявонны, Валеры Маракоў, Барыс Мікуліч, Васіль Сташэўскі, Юлі Таўбін, Уладзімер Хадыка, Міхась Чарот, Васіль Шашалевіч.

[20] Гэта, праўдападобна, Міхась Багун, Якаў Бранштэйн, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Уладыслаў Галубок, Максім Гарэцкі, Сяргей Дарожны, Анатоль Дзяркач, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Васіль Сташэўскі ды Міхась Чарот.

[21] Гэта Міхась Блісьцінаў, Якаў Бранштэйн, Васіль Бурносаў, Яўген Васілёнак, Пятро Васілеўскі, Мікола Вішнеўскі, Платон Галавач, Цішка Гартны, Ігнат Дуброўскі, Міхась Зарэцкі, Мікола Засім, Янка Казека, Міхась Клімковіч, Іван Кудраўцаў, Міхась Ларчанка, Васіль Матэвушаў, Міхась Модэль, Рыгор Мурашка, Дзьмітры Палітыка, Мікола Хведаровіч.

[22] Гэта Янка Купала, Алесь Асіпенка, Алесь Астапенка, Анатоль Астрэйка, Янка Брыль, Канстанцыя Буйла, Зьміцер Бядуля, Антон Бялевіч, Рыгор Бярозкін, Мікола Ваданосаў, Кастусь Губарэвіч, Іосіф Дорскі, Уладзімер Карпаў, Алесь Махнач, Аркадзь Маўзон, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, Якуб Усікаў, Тарас Хадкевіч.

[23] Пісьменьнікі Савецкай Беларусі, б. 480.

Лужаніна),[24] гандляр — у «служачага» (у выпадку Алеся Кучара).[25] Таму дадзеныя пра «сацыяльнае паходжаньне», як яны даюцца ў даведніку, занадта няпэўныя, каб варта было выцягваць зь іх нейкія абагульненьні ці высновы.

Аднак, ня толькі біяграфічныя дадзеныя «сацыяльнага паходжаньня» фальсыфікуюцца ў даведніку, «падчырквающа» й некаторыя іншыя дадзеныя, што ў савецкіх абставінах могуць мець палітычна нявыгодны сэнс. Гэтак, прыкладам, Янка Брыль і Міхась Васілёк ніколі не ўцякалі зь нямецкага палону ў 1941 г., як гэта цьвердзіць даведнік,[26] а былі выпушчаныя Немцамі, як ляяльныя Беларусы. Янка Брыль нат тады — а не «пасьля Вялікай Айчыннай Вайны», як падае даведнік, пачаў друкаваць свае першыя апавяданьні, і то ў «Беларускай Газэце», што выходзіла ў Менску легальна пад нямецкай акупацыяй, усё гэта добра ведама тым, хто тады тамака быў. Аднак, гэткія факты нявыгодныя для біяграфіі савецкага пісьменьніка й таму яны проста замазваюцца. Такое-ж замазваньне, ато й проста «вымазваньне» робіцца й з назовамі пэўных твораў, уважаных за пракудныя ідэялягічна ці палітычна. Гэтак, прыкладам, Шашалевічава «Апраметная» падаецца пад назовам, пад якім яна была апублікаваная ўпяршыню — «Зруйнавана-ж цемра»,[27] але які зусім нязнаны шырокаму грамадзтву, некаторыя-ж «адыёзныя» творы Купалы, Зарэцкага й іншых не называюцца зусім (як, прыкладам, Купалаў зборнік «1918—1928», Зарэцкага «Голы зьвер», «Крывічы», Рамановіча п'еса «Вір» ды інш.)

Напару, аднак, пропускі ў даведніку здараюцца выразна дзеля няведаньня, а не з мэтаю фальсыфікацыі. Гэтак прапушчаныя, прыкладам, першы зборнік Александравіча й Вольнага «Камсамольская нота» (1924 г.), зборнік Вольнага «Чарнакудрая радасьць» (1926 г.), зборнік Дарожнага «Васільковая россып» (1929 г.), Шашалевічава п'еса «Рой» (1931 г.). Простым няведаньнем трэба тлумачыць і розныя бібліяграфічныя нясьцісласьці, нярэдкія ў даведніку. Гэтак, «Ціхая плынь» Максіма Гарэцкага (1930 г.) — толькі другое выданьне ягоных-жа «Ціхіх песьняў», адно пад іншым назовам (1926 г.), зусім прапушчаных у даведніку, а ягоны-ж «Жартаўлівы Пісарэвіч» (1928 г.) зусім ня «зборнік драматычных твораў пісьменьніка»,[28] а проста невялічкі твор у выглядзе драматызаваных сцэнаў, Дубоўкавы паэмы «Кругі» (1927, а не 1928 г.!) ды «Браніслава» (1929, а не 1928 г.!) ніколі ня выходзілі асобнымі выданьнямі,[29] аповесьць Бандарынай «Ой рана на Йвана» выйшла ня ў 1946, а ў 1956 г.[30] ды інш.

Найбольш пэўныя біяграфічныя дадзеныя ў даведніку — гэта даты й месцы падзеяў жыцьця. Карыстаючыся гэтымі датамі, можна дарысаваць абраз афіцыйнага Парнасу савецкага беларускае літаратуры, як ён выглядае з даведніка. І гэтак выходзіць, што больш за палавіну «парнасьнікаў» (108 з 189) — людзі ў сярэднім веку, народжаныя ў XX стагодзьдзі да рэвалюцыі 1917 г. Каля трацінны парнасьнікаў (61 з 189) нарадзілася ўжо па гэтай

---

[24] Тамсама, б. 269. Аднак, больш «спракуджанаму» й нежывому ўжо Міхасю Зарэцкаму дзякоўскае паходжаньне адзначана (б. 197).
[25] Тамсама, б. 259.
[26] Тамсама, б.б. 84, 111.
[27] Тамсама, б. 467.
[28] Тамсама, б. 143.
[29] Тамсама, б. 182.
[30] Тамсама, б. 64.

рэвалюцыі й гэтак прадстаўляюць сабою савецкае пакаленьне ў сьціслым сэньсе. З другога боку, усяго толькі 20 з 189 (каля 10%) народжаныя у XIX стагодзьдзі, а толькі 6 зь іх яшчэ жывуць.[31]

Адылі, усяго толькі 11 з 189 (каля 5%) пачалі друкавацца да рэвалюцыі, а толькі 2 зь іх дажылі да сяньня.[32] Найбольшы лік сяньняшніх «парнасьнікаў» (41 пісьменьнік) прыйшлі ў літаратуру паваеннымі гадамі канца Сталінскае эры — 1945—1953. Адно 6 пісьменьнікаў, што прыйшлі ў друк па Сталінавай сьмерці, дапушчаныя на гэты Парнас.[33] Даволі значная колькасьць пісьменьнікаў (33) пачалі друкавацца ў гадох рыхтаваньня й разгортаньня першае, «маладнякоўскае» рэвалюцыі ў беларускай літаратуры, 1920—1925. Адылі, калі прыгадаць сабе, што ў «Маладняку» сваім часам было да 500 і нат 1000 сяброў,[34] дык цяжкія страты тае рэвалюцыі робяцца навочнымі ды запраўды не патрабуюць ніякіх камэнтараў. Наступны ў вялічыні кантынгент пісьменьнікаў (29) прадстаўляе тых, што прыйшлі ў друк за часамі другое, анты-«маладнякоўскае» рэвалюцыі, у гадох 1926—1928. Апошні кантынгент больш-менш значнае вялічыні становяць 24 пісьменьнікі, што пачалі сваю літаратурную кар'еру гадамі сталінізацыйнае стабілізацыі літаратуры, 1936—1939. Адно «ідэялягічна вытрыманыя», хоць-бы сабе й мастацка ялавыя мелі тады доступ да літаратуры, дык і не вялікае дзіва, што яны лепш патрапілі захаваць свае месцы на савецкім Парнасе.

Да рэвалюцыі 1917 г. беларускія пісьменьнікі выходзілі бадай вылучна з былых Менскай ды Віленскай губэрняў за адзінкавымі толькі выняткамі, як Максім Гарэцкі з Магілеўшчыны або Янка Журба зь Віцебшчыны. На сяньняшнім савецкім Парнасе Меншчына—Віленшчына ўтрымвае адно каля палавіны ўсіх месцаў (85), тымчасам як паўночна-усходняя частка Савецкае Беларусі, былыя Магілеўская й Віцебская губэрні, сумежныя з РСФСР, бадай дараўноўваюцца — каля 70 пісьменьнікаў паходзяць адтуль (больш за 50 зь іх — з аднае толькі Магілеўшчыны). Каля 20 пісьменьнікаў паходзяць з паўдзённа-заходняе часткі Савецкае Беларусі (Палесьсе-Горадзеншчына). Вырасавалася колькі «літаратурных гняздовішчаў», як Вузьдзеншчына, адкуль паходзяць 10 пісьменьнікаў, Рудзеншчына, адкуль 7, Капыльшчына й Старобіншчына (па 6 з кажнае).[35]

Да рэвалюцыі вельміпераважная бальшыня беларускіх пісьменьнікаў друкавала свае творы пад псэўдонімамі, адзінкі толькі ўжывалі свае запраўдныя прозьвішчы (як Максім Багдановіч ды Максім Гарэцкі), некаторыя-ж мелі па колькі, ато й па шмат псэўдонімаў (як Якуб Колас, прыкладам). Акадэмік Карскі ўпіраў на першым месцы на патрэбу адзначэньня

---

[31] Гэта Крапіва, Буйла, Гурскі, Журба, Лынькоў ды Маўр.

[32] Гэта Буйла й Журба.

[33] Гэта Алесь Адамовіч, Лідзія Арабей, Алесь Асіпенка, Рыгор Барадулін, Уладзімер Караткевіч, Аляксей Карпюк.

[34] Гл. Ант. Адамовіч, «Сорак год беларускае літаратуры ў БССР», «Беларускі Зборнік», кніга 10, Мюнхэн, 1959 г., б.б. 102, 118 (зацемка 22).

[35] З Вузьдзеншчыны: Кандрат Крапіва, Лідзія Арабей, Сымон Баранавых, Антон Бялевіч, Пятро Глебка, Ільля Гурскі, Алесь Махнач, Алесь Пальчэўскі, Паўлюк Трус, Алесь Якімовіч. З Рудзеншчыны: Алесь Бачыла, Аркадзь Моркаўка, Макар Пасьлядовіч, Пятро Рунец, Уладзімер Хадыка, Міхась Чарот, Хвядос Шынклер. З Капыльшчыны: Сьцяпан Александровіч, Цішка Гартны, Алесь Гурло, Васіль Сташэўскі, Мікола Хведаровіч, Нічыпар Чарнушэвіч, Із Старобіншчыны: Іван Кудраўцаў, Аляксей Кулакоўскі, Максім Лужанін, Мікола Сяргіевіч, Аркадзь Чарнышэвіч, Рыгор Шкраба.

псэўдонімаў у праектаваным ім «поўным слоўніку беларускіх пісьменьнікаў».[36] Што цяперашні даведнік зусім не ўважае на гэны запавет Карскага, няма дзіва: усяго 35 з агульнага ліку 189 ягоных «парнасьнікаў» карыстаюцца псэўдонімамі, прыбраўшы іх сабе дарэвалюцыйным, у кажным разе дасталінскім часам. Сталінскімі, дый аж цяперашнімі часамі псэўдонімы ня ў модзе: «савецкая грамадзкасьць», хаваючы шмат фактаў, скрыва пазірае на хаваньне іх асобамі, у тым ліку й на хаваньне гэтых асобаў пад псэўдонімамі.

Затое мянушкі «па бацьку» незаводна падаюцца пры кажным, за асабліва ўводжаным цяпер у мову звычаем «большых братоў», і з даведніка лёгка даведацца нат самому пісьменьніку, які ён там Усьцінавіч (ато й Іўсьцінавіч), ці Дамінікавіч, ці мо Евелевіч, ато й зусім Хусейнавіч ці іншы які «бацькавіч». Усе собскія назовы, у тым ліку геаграфічныя, пэўна-ж, падаюцца ў зручнай для тых-жа «братоў» акцэнтуацыі (у Беларучах, а не ў Бяларучах, Радашковічы, а ня Радашкавічы й да г. п.). Наагул, ніякага таго «адыходу ад усталяваных моўных норм», выткнутых за ўсіх аднаму мала Богу духам вінаватаму нябожчыку.

Гэтак выглядае афіцыйны даведнік-праводнік па савецкім Парнасе беларускае літаратуры. Да агульнае характарыстыкі яго мо найлепш надавалася-б ходкае ў савецкім грамадзтве выслоўе: «Ня факт, а рэкляма». Яно бо тут за галоўны лёзунг і прынцып. Гэтым «прынцыпам» звыкла апэраваць «савецкая грамадзкасьць», даручаючы маніпуляваць фактамі, фальсыфікаваць, пэратасоўваць і падтасоўваць іх дзеля эфэкту «рэклямы»-прапаганды ананімным аўтарам афіцыйных даведных, ато і «дасьледных» «працаў».

---

[36] Гл. зацемку 2.

*М. Куліковіч*

# *Беларускі савецкі песенны фальклёр*

Пад савецкім песенным фальклёрам у СССР разумеецца тая навейшая частка вусна-паэтычнай і музычнай творчасьці народаў СССР, якая нарадзілася й адлюстроўвае рэчаіснасьць у часы савецкае ўлады.

Аднак, жадаючы падвесьці пад савецкі фальклёр моцную, трывалую й фундамэнтальную глебу, абаперціся на яе й гістарычную пасьлядоўнасьць, савецкія фальклярыстыя за ўсялякую цану шукаюць гэнэалягічных лініяў і вытокаў у фальклёрнай спадчыне. І на гэтым, на нашу думку, перш за ўсё й трэба крыху спыніцца, каб разгледзець тую базу, на якой грунтуецца ўся пабудова савецкага песеннага фальклёру. Лічыцца, што для апошняй асноўнымі вытокамі былі: рэвалюцыйная песьня й хвабрычная гарадзкая частушка.

Аб рэвалюцыйнай песьні, пераважна расейскага паходжаньня часоў першай расейскай рэвалюцыі, савецкія беларускія фальклярыстыя гавораць вельмі дадатня:

> «Вялікае значэньне дзеля разьвіцьця беларускага музычнага фальклёру мелі расейскія рэвалюцыйныя песьні, што заваявалі папулярнасьць пасьля здарэньняў 1905 в. Гэтакія песьні, як «Смело, товарищи, в ногу», «Мы кузнецы», «Варшавянка» і іншыя, пранікалі у самыя далёкія й глухія куткі Беларусі. Яны зрабілі значны ўплыў на беларускую народную мэлёдыку, яны-ж падрыхтавалі глебу дзеля росквіту народнай песьня-творчасьці савецкай эпохі».[1]

У гэтай, накінутай згары, дэклярацыі, апрача яе прапагандовага высілку, няма нічога запраўднага. Рэвалюцыйная песьня, дзе тэкст і музыка былі складзеныя азначанымі аўтарамі, наагул, ня можа лічыцца часткаю народнай творчасьці, у якой аднэй з самых важных рысаў зьяўляецца а н а н і м н а с ь ц ь, к а л е к т ы ў н а с ь ц ь т в о р ч а с ь ц і. Зьмест расейскай рэвалюцыйнай песьні меў на ўвазе заданьні р э в а л ю ц ы і с а ц ы я л ь н а й, у той час калі мэтаю народаў былой Расеі, у тым ліку й народу беларускага, была р э в а л ю ц ы я н а ц ы я н а л ь н а я, змаганьне за незалежнасьць, апрычонасьць, за нацыянальнае адраджэньне. Паводля тэкставага й музычнага выразу расейская рэвалюцыйная песьня была далёкай, навет, ад стылю й характару расейскай народнай творчасьці, не кажучы ўжо аб песьнях іншых народаў, для якіх пабудова расейскай рэвалюцыйнай песьні была аб-

---

[1] Г. Ц і т о в і ч. Нарыс «Народная музыка» ў брашуры: «Белорусская ССР», Масква, 1957, б. 26.

салютна іншародным целам. Паводля сваёй мастацкай вартасьці рэвалюцыйная расейская песьня зьяўляецца вельмі нізкай, мяшчанскай, пёрыстай паводля стылю, эклектычнай, беднай і прымітыўнай, што вызнаюць і самі расейскія музыкаведы. Цяжка сабе ўявіць, што падобны прадукт эпохі 1905 г. мог стацца глебаю, на якой штосьці магло, навет, зьявіцца, а ўжо зусім не «расьцьвісьці», тым больш сярод культур іншых народаў. Тут, наадварот, узоры расейскай рэвалюцыйнай песьні служылі толькі адмоўную службу, нясьлі з сабою чужыя й шкодныя ўплывы. Ды, гэта так у запраўднасьці й было. І не дарма прагрэсыўныя колы беларускай інтэлігенцыі ў пэрыяд 1905—1907 гг. распаўсюджвалі на нацыянальных гуртках свой нацыянальны беларускі рэпэртуар народных песьняў і вершаў. Дастаткова тут хаця-б прывесьці дзейнасьць тэатру І. Буйніцкага ды прыклады народных уражаньняў ад выступаў гэтага тэатру,[2] каб разьвеяць па ветру міт аб «папулярнасьці» на Беларусі расейскіх рэвалюцыйных песьняў. Калі іх і ведалі, дык толькі адзінкі, народ-жа іх ня ўспрыймаў, патрабуючы свайго, а ня чужога, арганічна яму неўласьцівага. Ні аб якім уплыве расейскай рэвалюцыйнай песьні на беларускі народны мэляс няма мовы таксама.

Хвабрычная, гарадзкая частушка (другая палова 19 ст.) таксама расейскага паходжаньня, навет у саміх расейскіх выканаўцаў не карысталася павагаю. Яе плямілі, называлі «вяртушкай», фальклярыстыя лічылі «отбросами западно-европейской культуры».[3] Толькі зь вялікаю нацяжкаю частушку можна аднесьці да народнае творчасьці, ды й то самай нізкай якасьці. Прымітыўныя, тапорныя, грубыя чатыры радкі вершавальнага тэксту, навет і самага рознага «надзённага» зьместу, заўсёды нязьменна суправаджае такі-ж прымітыўны, тапорны, грубы, мэханічны, штучна зроблены матыў. У славахвальнай дэклярацыі некаторых беларускіх музыкаведаў аб тым, што: «Беларуская частушка разьвілася пад дабратворным уплывам расейскай народнай творчасьці», . . . што бытуючыя частушачныя мэлёдыі на Беларусі «зьяўляюцца пераробкаю ведамых расейскіх узораў»,[4] мы больш бачым адмоўныя, чымся дадатнія бакі. Даводзіцца толькі дзівіцца, як такі нізкапробны жанр, як частушка, зусім чужы для Беларусі, стаўся таксама як і рэвалюцыйная расейская песьня глебаю й фундамантам для беларускага савецкага фальклёру? Ужо адна гэтая акалічнасьць можа надаць цану апошняму.

*

*     *

Як-жа праходзіла станаўленьне й разьвіцьцё гэтае савецкае народнае песьнятворчасьці?

Яе гісторыя пачынаецца з мэтаду й прыёмаў гэтак званага пераасэнсаваньня, прасьцей кажучы выкарыстаньня ўжо ведамых песенных і частушачных прыкладаў, ізноў-жа пераважна расейскага паходжаньня, на новы савецкі лад і манер. Паводля цьверджаньняў савецкіх беларускіх музыка-

[2] Варта толькі праглядзець №№ газэты «Наша Ніва» за 1906—1907 гг.

[3] Арбатский. Этюды по истории музыки. Нью-Ёрк, 1956.

[4] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 39.

ведаў распаўсюджаньне атрымалі на Беларусі пераасэнсаваньні зваротак (куплетаў) матроскай частушкі: «Яблачка»:

— Эй, яблачка,
Ты румянае . . .
Уцякаюць паны акаяныя!;[5]

песьняў «Смело мы в бой пойдем», «Расстрел коммунаров», «Из-за леса солнце всходит» і іншых.

Немалаважна зацеміць тут, што амаль-што ўсе песьні гэтай пачатковай пары станаўленьня мелі матывы далёка не першаклясныя, будаваліся галоўным чынам на мяшчанскіх расейскіх рамансах. Гэтак песьня «За ўладу саветаў» («Смело мы в бой пойдем») мела матывам расейскі раманс «Белой акации», песьня «Расстрел коммунаров» мела матывы расейскіх рамансаў «Чайка», «У камина», «Песня ямщика». Трапілі, праўда, іншы раз і свае беларускія добрыя песьні, як, прыкладам, папулярная «Чаму-ж мне ня пець», якая выглядала ў такім савецкім абліччы:

«Чаму-ж нам ня пець,
Чаму-ж ня гудзець,
Калі к лепшай долі
Наш народ ідзець!»[6]

Але гэтых выпадкаў было зусім мала, у васноўным савецкія пераасэнсаваныя песьні й частушкі станавілі сабою чужы, занесены на Беларусь матар'ял.

Зразумела будзе цяпер, чаму нацыянальна-сьведамыя людзі, што стаялі у 20-х гадох пры кіраўніцтве, ішлі супроць нізкаякаснага, штучнага савецкага фальклёру, бараніліся ад яго, незаўважалі.

Партыя і ўрад жорстка адпомсьцілі «буржуазным нацыяналістым» за тое, што яны «з намыслам не заўважалі ўсяго новага ў парэвалюцыйным быце Беларусаў».[7] Крывавы сацыялістычны наступ (у 30-х гадох) змусіў зьмяніць афіцыйную пазыцыю беларускіх этнаграфаў, фальклярыстых і музыкаведаў, змусіў вызнаць нарэшце савецкі фальклёр, ягоныя «дадатнія» якасьці, ягонае «прагрэсыўнае» значэньне, змусіў заняцца ягоным дасьледваньнем і распрацоўкаю, падвядзеньнем пад яго «навуковага» аспэкту.

Аднак ня толькі знаўцам беларускага песеннага фальклёру, але й простаму народу была ясна запраўдная вартасьць савецкай квазі-народнай песеннасьці, яе разрыў паміж тэкстамі й мэлёдыямі, спалучэньне мэханічнае ў ёй таго, што не спалучаецца, штучнасьць, заганнасьць яе складаньня. Што, апрача дыскрэдытацыі творчасьці могуць выклікацьператварэньні «Чаму-ж мне ня пець» — песьні вельмі тонкага, элегічна-сатырычнага гумару, дабрадушнай усьмешкі над сваёй доляй, — у песню-марш савецкага народу, што ідзе да «лепшай долі». Або песьня аб Леніне, што «асьвяціў» беларускаму селяніну дарогу, песьня якая складзена на матыў старой вясёлай беларускай песьні «Ой, зелена, зелена ў лузе трава, прыгожа ды малада ў мужа жана»?[8]

Тут мімаволі патрэбна прыйсьці з параўнаньнем із старой беларускай песьняй, дзе ў вадно цэлае спалучаліся мудра ўсе элемэнты слоўнай і музычнай выразнасьці, дзе яскрава ўставала мастацкая вобразная абагульненасьць, што вылучала народную беларускую песьню на недасяжную вышыню.

---

[5] Г. Цітовіч. Тамсама, б. 28.
[6] Тамсама.
[7] Тамсама, б. 27—28.
[8] Тамсама, б. 30.

*
* *

Здавалася-б, што ў іншых умовах, падобная савецкай, хілая, анэмічная, кульгавая прадукцыя, пабудаваная на пяску, мусіла-б хутка спыніць сваё непатрэбнае й шкоднае існаваньне, але ня тое зусім атрымоўваецца ў абставінах савецкага рэжыму. Згодна савецкай тэорыі: «толькі ў сацыялістычным грамадзтве ствараюцца ўмовы дзеля запраўднага свабоднага разьвіцьця народнай творчасьці»,[9] толькі кастрычніцкая рэвалюцыя «распрыгоніла духовыя сілы» народу.[10] Сьцьвердзіць гэтыя тэарэтычныя палажэньні, пераканаць у аб'еднаньні разам тэорыі й практыкі савецкага жыцьця, якраз і мусіць савецкі фальклёр ды асабліва новая савецкая песьня. Змаганьне кіраўніцтва за савецкі фальклёр — гэта змаганьне за самую савецкую ўладу, за палітыку партыі. Вось чаму існаваньне савецкага фальклёру мусіць быць дасягнута ўсімі сяродкамі, што знаходзяцца ў распараджэньні ўлады, як узнагародамі, гэтак і караю. Улада подыходзіць да гэтага пытаньня ў аспэкце дзяржаўным, салідна й моцна. У першую чаргу яна (ўлада) стварае арганізацыі й установы, што кіруюць справамі савецкага фальклёру й мабілізуе каля іх вялікую колькасьць тэарэтычна-навуковых і практычна-выканаўчых працаўнікоў. Галоўным заданьнем іх і зьяўляецца адшукваньне й стварэньне савецкай песеннай творчасьці. У 1957 г. у Менску паўстае новая ўстанова — Інстытут Мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі Навук БССР, на які ўжо ў першы год накладаецца абавязак выканаць навуковую праграму ў зьбіраньні фальклёру 2-ой сусьветнай вайны, у дасьледваньні шляхоў разьвіцьця беларускага тэатру ў пасьляваенных умовах і сабраць матар'ялы аб быце беларускага сялянства ў часе партызанскай вайны.[11]

З навуковых савецкіх установаў (Акадэмія Навук, фальклёрная сэкцыя навучальных арганізацыяў Кансэрваторыі, Тэатральнага Інстытуту, Дому Народнай Творчасьці) і ад працаўнікоў у гэтай галіне выходзіць шмат тэарэтычных прапановаў, мэтадычных інструкцыяў. Разгледзець некаторыя зь іх уяўляецца нам вельмі важным і паказальным. Гэтак, прыкладам, адзін зь беларускіх савецкіх музыкаведаў В. Елатаў уздымае пытаньне, што «калі да апошняга часу абавязковымі прыкметамі народнай творчасьці лічыліся яе вуснасьць, адсутнасьць аўтара й варыянтнасьць, то зараз жыцьцё ўносіць у гэтае становішча некаторыя карэктывы».[12] Карацей кажучы, Елатаў цяпер апраўдвае існаваньне пад шыльдаю савецкага фальклёру вершаў ды музыкі прафэсыяналаў, парушаючы самую аснову паняцьця аб народнасьці песеннай творчасьці.

Беларускі савецкі этнаграф М. Грынблят заклікае не абмяжоўвацца вывучэньнем фальклёру сельскіх мясцовасьцяў, а больш запісваць сучасную творчасьць гораду (?)[13]

Асаблівую энэргію ў навучаньні складаньня савецкага песеннага фальклёру праяўляе музыкавед Г. Цітовіч, — сучасны галава ўсіх беларускіх музычных фальклярыстых. Ён рэкамэндуе выкарыстоўваць ужо знаныя старыя мэлёдыі, да якіх «варта падаваць новыя тэксты ... аб сяньняшнім

---

[9] «Народное творчество», БСЭ, т. 29, 1954.
[10] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 27.
[11] «Зьвязда», 9. 7. 1957.
[12] «Літаратура і мастацтва», 8. 4. 1959.
[13] Тамсама.

жыцьці народу, аб партыі... Народная мэлёдыя (тады)... атрымае новае гучаньне, нібы ў другі раз народзіцца» (?).[14] Цітовіч поўнасьцяй згаджаецца з тым, што для беларускіх частушак пішуцца словы прафэсыянальнымі паэтамі,[15] што яны выконваюцца на расейскай мове,[16] што ў беларускіх новых песьнях адбіваецца моцны ўплыў расейскай і савецкай масавай песьні,[17] што музыка песень пішацца самадзейнымі кампазытарамі ды йдзе за калектыўную — народную.[18] Цітовіч пераконвае, што савецкі песенны беларускі фальклёр зьяўляецца найбольш прыгожым матар'ялам, што ён непараўнальна вышэй старой беларускай народнай песьнятворчасьці, што гэта запраўды «Песьні шчасьця».[19]

Сярод усіх навукоўцаў афіцыйна вызнаецца й падчыркваецца прагрэсыўнасьць лініі кірунку на расейскую песьню, дабратворнае й перадавое дзеяньне на беларускую песьню расейскіх уплываў.

Падобныя тэорыі й рэкамэндацыі стараюцца непахісна правесьці ў жыцьцё па ўсёй Беларусі Дамы Культуры, Дамы Народнай Творчасьці, клюбы, Народныя Дамы і праз сваіх супрацоўнікаў і кіраўнікоў гурткоў прымяніць іх у практыцы мастацкай самадзейнасьці. Такім чынам, хвальшаваньне фальклёру йдзе ад самой вяршыні да самых нізоў. Мы дазволім сабе прывесьці тут колькі фактаў з савецкага жыцьця новага фальклёру: 1) Новая песьня-танец «Лянок» мае ў васнове матыў расейскай дзіцячай песьні «Зяблик с юга прилетел», словы ў ёй бязумоўна прафэсыянальнага пяра.[20] 2) Песьня «На калгасным родным полі» — нішто іншае, як ведамая расейская полька «Пойдем, пойдем, ангел милый, польку танцевать со мной» (з рэпэртуару гэтак званага хору братоў Зайцавых);[21] 3) Песьня аб партызанцы Галіне зьяўляецца пераробкаю дарэвалюцыйных вершаў Я. Купала, а матывам для яе служыць песьня блатных бяспрызорнікаў «Позабыт позаброшен» (зь фільму «Пуцёўка ў жыцьцё»); [22] 4) старая папулярная беларуская народная песьня «Як пагнала бабуленька куранятак пасьвіць» прыстасавана цяпер (прафэсыяналамі — паэтам Русаком і музыкаведам Цітовічам) дзеля надзённых задачаў . . . «разьвіцьця птушкагадоўлі» (?) і выконваецца як новая савецкая народная песьня пад назовам: «На калгаснай птушкафэрме».[23] 5) Старая папулярная беларуская народная песьня «Чаму-ж мне ня пець» мае ўжо «тры нараджэньні»: першае законнае з часоў прыгону, другое — у часы ваеннага камунізму, калі яна ператварылася ў марш (аб гэтым сказана вышэй) і нарэшце, трэйці раз яна нарадзілася ў вапошнія гады, таксама дзеля надзённых задачаў, як новая савецкая «Песьня старшыні сельсавету» і гучыць цяпер:

«Чаму-ж мне ня пець,
Чаму ня гудзець,
Калі ў канцылярыі
Парадак ідзець?» (?)[24]

[14] Тамсама, 5. 4. 1958.
[15] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 39.
[16] Тамсама, б. 40.
[17] Тамсама, б. 41.
[18] Тамсама.
[19] «Песьні шчасьця» — сучасныя беларускія народныя песьні ў запісе Г. Цітовіча, Масква, 1950.
[20] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 33.
[21] Тамсама, б. 34.
[22] Тамсама, б. 37.
[23] «Полымя», № 2, 1960, б. 165.
[24] Тамсама.

У такім жабрацкім выглядзе зьяўляецца перад намі савецкі песенны фальклёр, які савецкія фальклярыстыя змушаны рэкамэндаваць, як «песьні шчасьця», як прагрэсыўныя й высокамастацкія вузоры народнай творчасьці (бяз удзелу самога народу).

*
* *

Можна толькі быць задаволеным, што на Беларусі падобнага фальклёру зусім мала. Тут ня было ні хвальшаваных Стальскіх, ні Джамбулаў,[25] ні асабліва актыўных складальнікаў новых, партыйных, парапагандовых песьняў. Фальклёрныя экспэдыцыі Акадэміі Навук БССР вяртаюцца з такімі вынікамі, дзе відаць, што савецкай новай песьні на Беларусі вельмі й вельмі мала. «Выявіць» такія песьні вельмі цяжка. Навукоўцы тлумачаць гэта тым, што «стварэньне народнай песьні . . . — працяглы працэс»,[26] тым самым ня лічачы, значыцца, гады савецкай улады дастатковым часам.

Некаторыя больш сьмелыя савецкія фальклярыстыя, якіх называюць «скептыкамі», наагул сьцьвярджаюць, што музычная народная творчасьць цяпер слабее.[27]

Ды й тэарэтыку савецкіх «песьняў шчасьця» Цітовічу даводзіцца прызнацца, што . . . «Колькасьць песьняў . . . што захаваліся з 20-х гадоў у сучасным быце народу — невялікая».[28]

Усю савецкую песеннасьць запаланіла й падмяніла сабою частушка-дрындушка, ды і то яўна прафэсіянальнага, ці паўпрафэсіянальнага складаньня. Беларускія фальклярыстыя павінны цяпер пераконваць, што «частушка у наш час — адзін з самых папулярных, самых распаўсюджаных жанраў паэтычна-песеннай творчасьці беларускага народу».[29] Заява гэтая толькі сьветчыць аб нізкай ступені мастацкасьці савецкіх падробак. Каб затушаваць падобнае становішча тэарэтыкі ўсе намаганьні свае накіравалі на тое, каб узьвялічыць жанр частушкі, зрабіць яго найбольш цэнным выяўленьнем народных думак і пачуцьцяў. Гэтак гавораць аб частушцы, як аб «традыцыйнай песеннай форме», што мае глыбокія карэньні ўва ўсім народным мастацтве,[30] што яе дамінуючае становішча ў пасьлякастрычніцкім фальклёры зусім апраўдана.[31] Частушка: «самы рухомы жанр народнай творчасьці»;[32] «калектыўная творчасьць ярчэй за ўсё праяўляецца ў стварэньні частушак».[33]

На Беларусі найбольш важна пераканаць грамадзкасьць, што частушка — гэта не чужароднае для беларускага народа цела, а жанр, што вышаў таксама й зь беларускай глебы. Нас пераконваюць, што «яшчэ да рэвалю-

---

[25] Разрэклямаваныя народныя ашугі Стальскі і Джамбул — песьняры сталінскай «сонечнай канстытуцыі» пісалі й сьпявалі толькі з «дапамогаю» маскоўскіх перакладчыкаў. На Беларусі гэтага ня было.

[26] «Літаратура і мастацтва», 20. 9. 1958.

[27] Тамсама.

[28] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 29.

[29] «Літаратура і мастацтва», 16. 12. 1959.

[30] «Частушка». МСЭ, т. 9, 1932.

[31] Соколов. Русский фольклор. Масква, 1941, б. 489.

[32] «Літаратура і мастацтва», 21. 1. 1959.

[33] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 38.

цыі беларускімі фалькларыстымі было выпушчана некалькі зборнікаў лірычных частушак».[34]

У прапагандыстыя беларускай частушкі залічаюцца Купала, Багдановіч, Колас, Крапіва й іншыя. Адным з галоўных прыёмаў аргумэнтацыі старадаўняга паходжаньня частушкі на Беларусі зьяўляецца наўмыснае ўпадабненьне яе да беларускіх папулярных у народзе прыпевак,[35] пераконваньне ў аналягічнасьці жанра частушкі і прыпеўкі, што, зразумела, ёсьць хвальшаваньнем беларускай прыпеўкі.[36] Найлепшым адказам на гэтыя наўмысна хлусьлівыя тэорыі можа быць прызнаньне таго-ж музыказнаўца Цітовіча, што: «беларуская частушка разьвілася пад добратворным уплывам рускай народнай творчасьці»,[37] што яе сама беларуская глеба не нараджала. Найбольш аб'ектыўныя й сьмелыя савецкія фалькларыстыя гавораць аб гэтай частушцы зусім праўдзівыя рэчы, але аб іх крыху далей.



Мы ўжо не аднойчы заўважалі, што за апошнія часы ў БССР даволі рухліваю робіцца навукова-аб'ектыўная думка, крытыка тэорыі й практыкі савецкага жыцьця ў розных галінах. Гэта цалкам датычыцца й да савецкай фалькларыстыкі і ў прыватнасьці да савецкай новай народнай песеннасьці. Увосені 1959 г. адзін з старэйшых беларускіх музыказнаўцаў Л. Мухарынская выступіла ў маскоўскім часапісе «Советская музыка» зь цікавым артыкулам «Воскресить традиции коллективного песнетворчества»,[38] дзе яна паддае жорскай крытыцы сучаснае становішча савецкага песеннага фальклёру й выкрывае «мэтады» ягонага насаджэньня. Мухарынская піша:

> «У новых песьнях (народных — М. К.) . . . усё радзей гучыць шырокая, працяглая песьня зь яе стрыманай і строгай манерай выкананьня. Усё часьцей наглядаецца тэндэнцыя зьмены запраўднай лірыкі, як выражэньня багацьця духоўнага сьвету асобы, няглыбокімі вершыкамі аб «мілёначку», або замалёўкаю любоўнай сцэнкі ў камэдыйных тонах . . . Справа ў тым, што прапаганда сучаснай песьні часьцей за ўсё — павярхоўная, абмежаваная: яна прадстаўляе нам песенны быт народу ў спрошчаным, зьбяднелым выглядзе . . . Мы моцна падтрымліваем і рэклямуем (песьні — М. К.), навет, калі іх мастацкія вартасьці ня вельмі вялікія . . . Калектыўны працэс стварэньня песень часта падмяняецца працай індывідуальнага аўтара . . . Ці можна ў гэтых выпадках гаварыць аб запраўднай мастацкасьці песеннай творчасьці, аб сутворчасьці (супрацоўніцтве) многіх невядомых сьпевакоў, што калектыўна шліфуюць форму верша або напеву? Чаму ў пасьляваенныя гады гэтак аслабела роля бязіменнай народнай творчасьці? . . . Няможна перакладаць на плечы самадзейных аўтараў клопат . . . аб складаньні новых песьняў, ігнаруючых магчымасьці запраўды масавай калектыўнай песьня-

[34] «Літаратура і мастацтва», 16. 12. 1959.
[35] Тамсама.
[36] Прыпеўка на Беларусі, як паказвае само слова, зьяўляецца ў васнове сваёй дадатковымі вершаванымі народнымі зваротамі да папулярных скокаў, ці, радзей, да асабліва добра ведамых мэлёдыяў; яна не парушае асноўнага мастацкага вобразу й стылю.
[37] Г. Цітовіч. Цытаваны нарыс, б. 39.
[38] «Советская музыка», № 9, 1959, б. 81—84.

творчасьці... Тэндэнцыя да «палегчанага» зьместу песень прыводзіць... да зьбядненьня, схэматычнага выражэньня,... аднатыпнай рытмікі (гэтак званыя «бадрачкі» — М. К.) і г. д..... У складальнікаў пераважаюць квадратныя памеры, ладавае разьвіцьцё абмежавана... Галоўная небясьпека не ў залішняй прыхільнасьці да казённай маршавасьці і частушачных шаблёнаў (значыцца яны ёсьць — М. К.), а... у імкненьні рэглямэнтаваць народнае мастацтва, падпарадкаваць ягоныя жывыя праяўленьні мёртваму стандарту, у падмене калектыўнай творчасьці — асабістай, што выдаецца ці рэдка за ўсёнародную... Ці не пара... уваскрэсіць запраўдныя традыцыі калектыўнай народнай песьнятворчасьці, што спраўдзіла сябе на працягу стагодзьдзяў... трэба... расьціць калектыўна ствараную песьню, а не падмяняць яе зьбяднелым аматарскім «сачыніцельствам».[39]

Зімою 1959 г. у газэце «Літаратура і мастацтва» паявіліся два артыкулы, якія разьвенчваюць галоўны жанр савецкай песеннасьці — частушку. Гэтак дырэктар Рэспубліканскага Дому народнай творчасьці П. Маргалік аўтарытэтна сьцьвярджае, што беларуская частушка:

> «часьцей за ўсё гучыць не з нацыянальнай мэлёдыкай, а расьпяваецца на матывы, запазычаныя ў кампазытараў Маслава, Радыгіна, Масаліцінава й іншых (гэта значыцца расейскіх — М. К.). Беларускую частушку не сьпяваюць на нацыянальныя матывы не таму, што ня хочуць, а таму што ўвогуле пакуль што яна (беларуская частушка — М. К.) ня створана» (падкрэсьлена мною — М. К.).[40]

Крытык І. Цішчанка ў сваім артыкуле, хоць і ня згодны з выснавамі Маргаліка, аднак і ён няможа ня прызнацца ў тым, што вершаваная частушка зьяўляецца часта «славесным хламам», у ёй «мастацкія сяродкі... банальныя, няўдалыя вобразы... аднастайнасьць частушачных мэлёдыяў».[41]

Цішчанка (мімаволі магчыма) яскрава малюе й наагул становішча ў БССР з новаю савецкаю песьняю. Ён кажа:

> «Аматары» народнай творчасьці як тапелец за саломінку хапаюцца за аджыўшыя мэлёдыі, спадзяючыся «ВЫратаваць» песьню, напаўняючы яе новым «зьместам». Як прыкрую з'яву даводзіцца адзначаць той факт, што і па сяньняшні дзень бытуюць куплеты «славутай» «Сямёнаўны», зь яе ўхарскім напевам, які народжаны ў мяшчанскім асяродзьдзі і нічога агульнага ня мае з традыцыйнай народнай песьняй».[42]

У часапісе «Полымя» за пачатак 1960 г. зьявіўся артыкул пісьменьніка й драматурга В. Віткі, у якім мы таксама знаходзім яскравыя радкі выкрываньня штучнага савецкага песеннага фальклёру.

> «Я заўсёды, — піша Вітка, — адчуваю прыкрасьць і крыўду, калі слухаю... прыдуркаватыя частушкі, песьні з гучнай назвай «народныя», але з такім заліхвацкім прысьвістам, уханьнем і іханьнем, што затыкаю вушы й згараю ад сораму... Крыўдна, што мы часта паказваем ня ўзоры народнага мастацтва, а пародыю на яго, зьдзек зь яго запраўднай прыгожасьці... Людзі... зьняславяць яго, зьняважаючы саміх сябе... Прафанацыя й падробка зрабілася манерай ня толькі эстрадных гастралёраў, а пранікае навет у такія

---

[39] Тамсама.
[40] Маргалік. «Увага масаваму жанру», «Літаратура і мастацтва» 25. 11. 1959.
[41] Цішчанка. «Жанр надзённай песьні», «Літаратура і мастацтва, 16. 12. 1959.
[42] Тамсама.

вядомыя творчыя калектывы, як наш народны хор . . . [43] А адкуль, скажыце, узялося такое ўбогае тварэньне, выпушчанае ў сьвет з мэтаю яўнай дыскрэдытацыі беларускай народнай песьні:

«Дзевушкі, ігдзе вы?
Тута, тута.
А маёй Марфуты
Ды нету тута?»[44]

Ня дзіўна, што некаторыя . . . сароміліся прызнавацца землякамі гэтай нахабнай самазванкі . . . Гэтак падчас абыходзяцца ў нас з народнай творчасьцю рамесьнікі і пераніцоўшчыкі . . . Мякка кажучы гэта ня творчасьць а паразытызм, які ніколі ня прыносіў людзям душэўнай радасьці».[45] (Падкрэсьлена ўсюды мною — М. К.).

Навет, самы злосны крытык зза мяжы ня скажа пра савецкі фальклёр гэтак жорстка й гнеўна. І ўсё гэта чыстая праўда!

Савецкі песенны фальклёр наагул ня можа лічыцца фальклёрам, творчасьцяй народу ўжо перш за ўсё таму, што ён робіцца не самім народам, не зьяўляецца народнай калектыўнай творчасьцяй, а арганізуецца зьверху й амаль што поўнасьцяй (навет і частушка) узьнікае пры дапамозе савецкіх прафэсыяналаў і напалову-прафэсыяналаў, падаецца як падробка, пераніцоўка, праўдзівей — як пародыя на запраўдную народную творчасьць. Мастацкая якасьць такіх, з дазволу сказаць, «твораў», звычайна й зьместам і музыкай, знаходзіцца на самым нізкім узроўні. Падобны квазі-фальклёр нічога супольнага ня мае з дарэвалюцыйным песенным фальклёрам. У БССР, гэта можна смела сказаць словамі дырэктара Дому Народнай творчасьці Маргаліка, ані савецкая беларуская песьня, ані частушка «наагул пакуль яшчэ ня створана».[46] Ужо больш сарака год сілком імкнуцца навязаць беларускі новы фальклёр, але зрабіць гэтага ня могуць ані партыя, ані ўлада. Фактычна савецкага беларускага песеннага фальклёру ня йснуе ў тым выглядзе, які вымагаецца ад яго навуковай фальклярыстыкай.

*
*   *

Нам тут хацелася, хоць каротка, зьвярнуць увагу на яшчэ важнае пытаньне: ці адлюстроўвае, навет у такім выглядзе, савецкі песенны фальклёр савецкую рэчаіснасьць, гістарычныя падзеі, думкі й настроі падсавецкага беларускага народу? Зьвернемся ізноў-жа да саміх савецкіх беларускіх крытыкаў. Вышэй названая Л. Мухарынская дае на гэтае пытаньне, хоць і крыху пабочны, але выразны адказ:

«Творчыя высілкі мы перасякаем «за непатрэбнасьць», ссылаючыся на недастатковую актуальнасьць тэмы, ці на . . . нясугучнасьць эмацыянальнага складу твору «сучасным патрабаваньням» . . . Замест творчай дапамогі . . . парапануюць апеку й адміністраваньне . . . У

---

[43] Справа йдзе аб Дзяржаўным Народным Хоры, які ўзначальваецца самым галоўным беларускім савецкім музыказнаўцам Г. Цітовічам, які «натхняе» іншых на падобныя прафанацыі беларускага фальклёру.

[44] Тут ідзе аб адным зь першых паваенных беларускіх кінафільмаў «Вясеньні вальс», дзе была дадзена вышэй названая сцэнка-частушка. Словы яе расейскія, прыстасаваная пад беларускі «стыль», матыў таксама чужы. У ёй зь беларускага — толькі пародыя, або насьмешка над народнай творчасьцяй.

[45] «Полымя», № 2, 1960, б. 165.

[46] «Літаратура і мастацтва», 25. 11. 1959.

вёсцы Залесьсе... для падрыхтоўкі да агляду... (самадзейнасьці — М. К.) былі вычыркнутыя з праграмы ўсе мясцовыя народныя песьні, як «аджыўшыя»... Мы сустракаемся з патрабаваньнямі адмовіцца ад выкананьня павольных песьняў, вычыркнуць з праграмы аглядаў усе мінорныя песьні... Часта адхіляюць з канцэртных праграм... песьні сумнага, або жалобна-драматычнага характару... У частушках ня хочуць мець надзённыя сатырычныя тэксты, якія зьмяшчаюць крытыку ў адрас брыгадзіра, ці старшыні калгасу... Гэтак складаецца добранадзейнае, прыпасаваньне мастацтва бязь цені супрацьлежнасьцяў, барацьбы, агарчэньняў, без сатырычнай вастрыні й хлёсткасьці... Супрацьпаказаны... посілкі рэглямэнтаваць народнае мастацтва»[47] (падчыркнута мною — М. К.).

З гэтай невялікай цытаты мы, аднак, можам вывесьці шмат чаго важнага й значнага для сябе. Савецкі песенны беларускі фальклёр (як і іншых народаў) арганізуецца самою савецкаю ўладаю. Фальклёр можа выглядаць толькі як адбітак «адзінства» народу з партыяй і ўладаю, таму што толькі такая «творчасьць» і прапускаецца савецкай кантроляй. Навет сатырычныя частушкі аб сваім калгасным брыгадзіры й старшыні выключаюцца з праграмаў. Што-ж тады можна казаць аб дапушчэньні крытыкі партыйных і ўрадавых вярхоў? Уладзе трэба скласьці ўражаньне й настрой бадзёрасьці, мужнасьці, весялосьці ў савецкім жыцьці — і з праграмаў вычырквaецца ўсё сумнае, працяглае, мінорнае. Вычырквaецца штучна, наперакор народным жаданьням. Дазваляецца толькі тое, што йдзе на карысьць палітычнай прапагандзе, казённай ідэялёгіі, партыйным заданьням. Значыцца аб ніякім запраўды самабытным песенным фальклёры, што адлюстроўвае народную душу,[48] ня можа тут быць і мовы.

Больш таго, у нас ёсьць усе дадзеныя сьцьвярджаць, што паміж народнымі творчымі выяўленьнямі й палітычна-прапагандовымі заданьнямі й мэтамі партыі й ураду ляжыць вялікая прорва. Паводля словаў той-жа Л. Мухарынскай запраўдная лірыка, як вобраз багацьця духовага сьвету народу, у афіцыйным савецкім фальклёры сталася зьмененай тэндэнцыйнай пошасьцяй. Нам думаецца, што нежаданьне народнага, калектыўнага, аднадушнага складаньня савецкіх песьняў галоўным чынам і тлумачыцца разрывам паміж інтарэсамі ўлады й народу.

З апошніх артыкулаў савецкіх беларускіх аўтараў можна вывесьці й яшчэ адну цікавую думку, што ў БССР (як, пэўна, і ў другіх рэспубліках) існуе песенны фальклёр ідэялёгічна варожы савецкай ўладзе, які йдзе ў разрэз з палітыкай партыі і ўраду. Гутарка пра практыкаваньне ў народзе сумных, гаротных песьняў, нясугучнасьць тэматыцы сучасным патрабаваньням мясцовых народных складаньняў — «аджыўшых», песьняў вострa крытычных пра балячкі савецкай улады, — усё гэта сьцьвярджае нашу думку й паказвае, што антысавецкі фальклёр знаходзіць ня толькі падысподнія, але й напалову легальныя плыні. Ці не зьяўляецца такі фальклёр запраўды самабытным выразам народнай душы, ці не адлюстроўвае ён праўдзіва й шчыра гістарычную рэчаіснасьць? Вельмі шкада, што дасьледваньне такога матар'ялу сустракае амаль што немаможныя цяжкасьці — вольная, свабодная, адкрытая народная думка й пачуцьцё ў

[47] «Советская музыка», № 9, 1959, б. 83—84.
[48] Песьню называюць заўсёды душою народу, і гэта правільна.

СССР немагчымы ў сваёй вонкавай праяве. Савецкія фалькларыстыя, музыкаведы афіцыйна ня могуць заняцца запісам і адшукваньнем падобнага фальклёру, ні тым болей ягонаю публікацыяй. Тым ня менш падобны матар'ял мае ў сабе вялікія патэнцыяльныя магчымасьці й гэтая вусная творчасьць падсавецкага народу чакае толькі свайго часу.

Даводзіцца толькі выказаць наш жаль, што ня гледзячы на факты народнага змаганьня з савецкаю ўладаю, якія існуюць і ў галіне песеннага фальклёру ды якія часта перацэньваюцца нашай замежнай крытыкай, афіцыйнае становішча нацыянальнай беларускай культуры залежыць і знаходзіцца ў бальшавіцкіх рукох. Паказальнай ілюстрацыяй да вышэй названага становішча можа служыць напад і разнос цэнтральнай маскоўскай крытыкай у газэце «Советская культура» артыкулу Л. Мухарынскай, які мы прыводзілі вышэй і ў якім музыкавед асьмеліўся сказаць праўду. «Советская культура» абвінавачвае Мухарынскую ў «надуманых супрацьстаўленьнях», «схаванай злосьці», у выказваньні няпраўды на самадзейных кампазытараў, абвінавачваньні іх у кар'ерызьме. Асабліва дастаецца Мухарынскай за праўду аб рэпэртуары народных выканаўцаў, адкуль вычыркваецца ўсё, што робіцца не па казённаму штампу бадзёрасьці, дзе ясна бачны націск і прымус кіраўніцтва, пагоня за кар'ерай кіраўнікоў самадзейнасьці. Газэта закідвае Мухарынскай:

> «Ёй не падабаецца бадзёры, жыцьцярадасны, аптымістычны характар народнай песьні, які яна ўсімі спосабамі трэтыруе і называе яго «казённай маршавасьцю» . . . Здаровы дух . . . абумоўлены . . . шчасьлівым жыцьцём нашага народу!»[49]

Паспрабуй фалькларысты, ці музыкавед пасьля такога наганяю яшчэ што напісаць, дык кар'ера будзе скончаная.

Навет афіцыйная крытыка ў савецкай дзяржаве мусіць быць у дазволеных ёй рамках.

Пакуль будзе існаваць савецкая ўлада — над усім будзе панаваць партыйная тэндэнцыя, весьціся ілжывыя размовы аб «песьнях шчасьця», што падмацоўваюцца воляй ці няволяй і беларускімі фалькларыстымі й музыкаведамі. Для нас, аднак, ясна бачны той сьляпы завулак, куды зайшоў беларускі песенны фальклёр.

[49] «Советская культура», 10. 12. 1959.

*С. Кабыш*

# Палесьсе й праблема мэльярацыі ў БССР

## I.

Беларусь у цяперашніх адміністрацыйных межах займае тэрыторыю 207,6 тыс. кв. км. і ляжыць у басэйнах сярэдняга цячэньня Дняпра й Дзьвіны, вярхоўнага цячэньня Нёману й Бугу. Абшырныя ўзгоркавыя ўзвышшы на тэрыторыі Беларусі чаргуюцца з плоскімі слабаўвагнутымі павышэньнямі, якія ў шматлікіх мясцох пераходзяць у абшырныя балотныя нізіны. Пад балотнымі нізінамі занята 3,6 млн. гэктараў, або 81% усяе плошчы балотаў. Рэшта 19% становяць сабой пераходныя й верхнія балоты, якія нярэдка выкарыстоўваюцца як выганы й пасьцьбішчы ды не перавышаюць 1 млн. га.[1]

Уся паўдзённая частка Беларусі занята абшырнай Палескай нізінай. Гэтая вялізарная пласкаватая ўпадзіна, прыпаднятая па краёх з поўначы й поўдня, займае 11,700 000 га. Абсалютныя вышыні ў Палесьсі не перавышаюць у паасобных мясцох 180—200 мэтраў над узроўнем мора, а ў блізні вусьця Прыпяці зьніжаюцца да 100—120 м.[2]

Палескую нізіну з захаду на ўсход перасякае рака Прыпяць, якая ўпадае ў Дняпро. У басэйне Прыпяці знаходзяцца шматлікія большыя й малыя рэкі, вазёры, суцэльныя вялізарныя балоты, затопленыя вадою. Балоты, лясы, пяшчаныя грады й узвышшы — звычайны ляндшафт Беларускага Палесься.

Як паказалі геалягічныя дасьледваньні, Палеская нізіна ляжыць на крэйдавых адкладах, што знаходзяцца на глыбіні 50—70 мэтраў. Гэтыя залежы выходзяць на краёх нізіны й каля Мозыра навет на паверхню. На крэйдавых адкладах залягаюць суцэльныя гліны й пяскі, якія не прапускаюць грунтавых водаў і яшчэ ў большай ступені садзейнічаюць забалочанасьці ў нізіне.

Даўжыня Прыпяці — 802 км. Нязначны нахіл рэчышча Прыпяці зьяўляецца прычынай шматлікіх загібаў, закругленьняў і петляў, што вельмі запавольвае цячэньне водаў. У простай лініі між вытокам і вусьцем Прыпяці ўсяго толькі 466 км. У Прыпяць упадае каля 400 рэк, зь якіх най-

[1] Торфяно-болотистые почвы БССР и их плодородие. Выд. Акадэміі навук БССР, Менск, 1958, б. 51.

[2] В. А. Михайловская. Флора Полесской низины. Менск, 1953, б. 9.

боль буйныя ўпадаюць з правага боку. Прытокі прыносяць рацэ масу вады, якую рака не пасьпявае адводзіць, што й зьяўляецца прычынай шырокіх разьліваў, асабліва восеняй і вясною. Тады Палесьсе ператвараецца ў суцэльнае вялізарнае возера. Шмат гадоў таму адзін падарожнік так апісваў Палесьсе:

«Вада, зараслі, дрэвы. Пустынна й бязьлюдна. Ні жыльля, ні чалавека, ні навет птушкі. Вада ўсюды. Мы плывем быццам нейкім бязьмежным балотам, зарослым лазою й вольхай; шырокая паласа вады, па якой мы рухаемся, гэта як быццам рашчышчаны ад зарасляў у балоце шлях для нашага параходу. Дрэвы, што нас абступаюць з абодвых бакоў, тырчаць з вады; між дрэвамі каля рэчышча блішчыць вада, і далей між галінаў таксама блішчыць вада; дзе дрэвы зьнікаюць, творачы пустую прастору, там таксама вада. Зямлі ня відаць. Вада гэтая ня ясная, не блакітная, а аддае цёмным бліскам сталі; відаць, перагніўшае на дне лісьце яшчэ больш узмацняе тут цёмны колер вады. Уздымаецца нейкае безнадзейнае пачуцьцё пры назіраньні гэтага малюнку; як быццам-бы мы заехалі кудысьці на скрай сьвету, куды не пранікае яшчэ чалавек, адкуль доўга, яшчэ ня выбрацца нам на сьвет Божы. І неяк лягчэй становіцца на душы, калі раптам дзе-небудзь з вады паказваецца бераг зялёнай сенажаці, пакрытай пнямі высечанага лесу ці пяшчаным узгоркам; позіркі накіроўваюцца да яго, быццам гэта нейкая маляўнічая скала.[3]

У басэйн Прыпяці ўваходзіць яшчэ значная колькасьць большых і меншых вазёраў. Бальшыня зь іх працякальныя, непасярэдня зьвязаныя з Прыпяцяй. Аднак ёсьць і замкнутыя вазёры. Самае буйнае зь іх — гэта Князь-возера (называлі яго й Жыд-возера). Савецкай уладзе абодва гэтыя назовы не спадабаліся й возера было перайменавана на Чырвонае. Гэтае цікавае возера (40 кв. км) ляжыць у паўночнай частцы Палесься. Яно ня зьвязана зь іншымі басэйнамі, толькі на поўначы ў яго ўпадае невялікая рэчка Яла. Ад старажытных часоў на возеры засталіся сваі, а на дне знойдзена шмат пабочных каменьняў. Усё гэта сьветчыць аб тым, што ў старажытныя часы на возеры йснавалі якіясьці пабудовы. Аб гэтым возеры й аб рэштках пабудоў існуе шмат легендаў, пераказаў і розных дапушчэньняў. Берагі гэтага возера абрасьлі чаротам і незаўважна пераходзяць у балоты. Да такога тыпу возёраў належаць таксама Выганоўскае, Баброўніцкае, Чорнае й іншыя драбнейшыя возёры Палесься.

Паводля клімату Палесьсе належыць да пераходнае паласы ад памяркоўнага прыморскага клімату Заходняе Эўропы да кантынэнтальнага на Ўсходзе. Палесьсе толькі ў нязначнай ступені розьніцца кліматам ад сумежных тэрыторыяў. Дажджоў тут выпадае ў чатыры разы больш, чымся сьнегу. У сярэднім сьнег трымаецца 87 дзён, а ў усходняй частцы (Васілевічы) — 100 дзён.[4]

Палесьсе — край пяшчана-балотных тэрыторыяў і сасновых лясоў. Сасновыя лясы растуць на пяшчаных узгорках з сухой пяшчанай глебай. З агульнай плошчы лясоў больш за 2 млн. га знаходзіцца пад сасной, гэта значыць — каля 58%. Амаль пароўнаму пашырана бяроза й вольха — па 15%. Пад дубам знаходзіцца 10% плошчы лясоў, а пад елкай толькі 1,7%.

---

[3] «Исторический вестник», 1900, 82 том, б. 223.
[4] В. П. Семенов. Россия. С.-Петербург, 1905, б. 25—27.

Цьвёрдыя пароды (граб, ясень, клён) займаюць вельмі нязначнае месца. Найбольш распаўсюджаны тып сасновых лясоў — гэта бор-брусьнічнік. Гэтыя бары ляжаць звычайна на плоскіх вяршынях узгоркаў. Бор-зялёнамошнік займае слабападзольныя пяшчаныя й супяшчаныя глебы на раўнінных плято. У гэтых лясох сустракаецца й бяроза. Бары-чарнічнікі ляжаць на сьхілах узгоркаў і паніжаных раўнінах. Глебы пад гэтымі барамі пяшчаныя й супяшчаныя, падзоліста-глеявыя з блізкімі грунтовымі водамі. Бары-чарнічнікі пакрытыя да 60% чарніцамі і часткова брусьніцамі.[5] Аднак-жа каштоўных лясных пародаў з буйнымі масывамі засталося мала. Яшчэ да рэвалюцыі яны былі значна зьнішчаныя. Гэтаму садзейнічалі сплаўныя рэкі й блізіня збыту драўніны на заходніх рынках. Але найбольш каштоўныя пароды дубу былі зьнішчаны пры савецкай уладзе ў пэрыяд пошукаў замежнае валюты.

Расьліннасьць сенажацяў дзеліцца на два віды: сенажаці паўсталыя пераважна на высеках і якія пакрыты малакаштоўнай асакой, што перамешваецца зь нізкарослымі хмызьнякамі ды травяніста-балотныя паплавы, што выкарыстоўваюцца для выпасаў і сенакосаў; гэтыя апошнія — гэта пераважна нізіны, пакрытыя даволі каштоўнай вольхай, эксплятацыя якое ў такіх мясцох бывае магчымай толькі зімою.

Вельмі-ж багаты жывёльны сьвет Палесься. Праўда, тут ужо рэдка сустракаюцца ласі, зьменшылася колькасьць дзікіх козаў, мядзьведзяў. У лясох водзяцца ваўкі, лісіцы, барсукі, куніцы, сустракаюцца й рысі. Глушцы, цецярукі, курапаткі, дразды, бязьлікая волькасьць дзікіх качак, чаплі, буслы й іншыя птушкі нясяляюць прасторы Палесься. У рэках і вазёрах водзяцца лешч, судак, шчупак, акунь, карась, лін, сом, сустракаецца зрэдку й сьцерлядзь.

Рэкі, вазёры, затокі й старыя рэчышчы зарастаюць асакой, чаротам і хмызьнякамі. Дно вадаёмаў пакрытае ўсемагчымымі водарасьлямі. Усё гэта расьце, ападае ў стаячую ваду, сотнямі й тысячамі гадоў гніе й садзейнічае стварэньню тарфянікаў розных пэрыядаў. Паводля багацьця торфу Палесьсе займае вылучнае палажэньне. Чыстымі тарфянікамі тут занята да 2,7 млн. гэктараў, што складае каля 30% усяе плошчы. Торф залягае ад 10 да 20 мэтраў таўшчыні й запасы яго налічваюць мільярды тонаў.

Мінэральныя багацьці Палесься поўнасьцяй яшчэ не дасьледаваныя. Вядома, што дагэтуль тут знойдзены буйныя залежы калійнай солі ў Старобінскім раёне. Для эксплятацыі гэтае каштоўнае мінэральнае сыравіны ўжо будуецца вялізарны камбінат. Месца будаўніцтва назвалі Салігорскам, да якога правялі 30-кілямэтравае чыгуначнае адгаліненьне ад Слуцку. Прадугледжваецца, што цераз год будуць атрыманыя першыя эшалёны калійных соляў. Работніцкі горад Салігорск разьлічаны на 30 тыс. чалавек.[6]

У паўночнай частцы Палесься знойдзены буйныя залежы граніту, запасы якога налічваюць да 9 млн. тонаў.[7] Нетры Палесься тояць яшчэ шмат багацьцяў. Відаць, у недалёкай будучыні будзе разьвязанае пытаньне аб дамэтнасьці здабываньня нафты. Пробныя нафта-вежы ўжо закладзеныя. Апрача гэтага, геалёгі прадугледжваюць, на аснове першапачатковых досьледаў, што Палеская нізіна мае багатыя, але глыбокія залежы каменнага вугля.

---

[5] В. А. Михайловская. Флора Полесской низины. Менск, 1953, б. 17.
[6] «Советская Белоруссия», 30. 8. 1959.
[7] БСЭ, т. 46, б. 23.

Галоўным заняткам жыхарства Палесься была жывёлагадоўля. Сяляне мелі дастаткова буйнае рагатае жывёлы, якой забясьпечваліся ня толькі собскія патрэбы, але й якая збывалася на рынках. Зямля не забясьпечвала жыхарства прадуктамі земляробскімі з прычыны нізкіх ураджаяў, вялікай адлегласьці да прыгодных земляў, што патрабавалі угнаеньняў. Цягавай сілай у сельскай гаспадарцы былі валы. Яны непатрабавальныя з гледзішча кармленьня — асака й салома былі кормамі для гэтых караблёў балотаў. Апрача звычайнага вядзеньня сельскае гаспадаркі сялянства Палесься мела значны заработак на лясных распрацоўках, вывазках і сплаве лесу ды пры смалярнях.

У дарэвалюцыйныя часы Палесьсе ўваходзіла ў Менскую губэрню й складала Пінскі, Мозырскі й значную частку Рэчыцкага павету. Рыскай умовай між РСФСР і Польшчай у 1921 г. Палесьсе было разьдзелена на дзьве часткі. Тэрыторыя на захад ад мястэчка Турава й далей на поўнач па рэках Случ і Морач адыйшлі да Польшчы. У межах БССР Палесьсе складала 14 раёнаў. Гэтыя раёны тварылі Палескую вобласьць з адміністрацыйным цэнтрам у Мозыры.

З далучэньнем Заходняе Беларусі ў 1939 г. да БССР была зарганізаваная Палеская вобласьць з цэнтрам у горадзе Пінску. Аднак-жа, пасьлей Палеская вобласьць была зьліквідаваная й амаль поўнасьцяй далучаная да Гомельскай вобласьці ў складзе 13 раёнаў. Пінская вобласьць у складзе 9 раёнаў таксама была зьліквідаваная і ўся ейная тэрыторыя была пераарганізаваная ў Берасьцейскую вобласьць.[8]

Разьдзел Палесься між дзьвёма вобласьцямі ня можа прынесьці карысьці гэтай тэрыторыі. Палесьсе — гэта асаблівы край, гэта край будучыні. З гэтае прычыны было-б куды больш мэтазгодным стварыць адну Палескую вобласьць. Раней ці пазьней Палеская нізіна будзе асушана й ператворана ў багатую й ураджайную вобласьць. Для гэтага патрабуецца адзінае адміністрацыйнае й гаспадарчае кіраўніцтва.

## II.

У дарэвалюцыйныя часы дзяржаўныя й абшарніцкія землі складалі палову ўсяе плошчы Палесься. Самыя горшыя землі належалі сялянству. Здавалася-б, што гэты закінуты край ня мае абсолютна ніякіх пэрспэктываў на стварэньне тут больш выгаднага й даходнага жыцьця. Аднак-жа, прадугледжваючы буйныя даходы зь лясоў і дзяржаўнай маемасьці, былая Расейская імпэрыя яшчэ да 1872 году распрацавала плян асушэньня дзяржаўных земляў на Палесьсі. Працы былі пачатыя ў 1873 годзе й праводзіліся да канца мінулага стагодзьдзя. Кіраўніцтва «Заходняй экспэдыцыі асушэньня балотаў» было даручана генэралу І. Жылінскаму. Перад пачаткам практычных працаў экспэдыцыя правяла даволі дакладнае й паважнае дасьледваньне Палесься. Генэралу Жылінскаму ўдалося зацікавіць і прыцягнуць да ўдзелу ў дасьледавальных працах буйных вучоных таго часу. Дасьледавальную працу кансультавалі акадэмікі Вясялоўскі, Міддэндорф, Эйхвальд, прафэсары Дакучаеў, Ваейкаў, Апокаў і іншыя, а таксама батанік-геаграф Танфільеў ды рад іншых вучоных.[9] Яшчэ ў 1895—

---

[8] «Ведомости Верховного Совета», № 1, 8. 1. 1954.

[9] Торфяно-болотные почвы БССР и их плодородие. Выд. Акадэміі навук БССР, Менск, 1958, б. 58.

1899 гг. Г. Танфільеў упяршыню ахарактарызаваў расьліннасьць балотаў і тарфянікаў Палесься.

Праўда, яшчэ да экспэдыцыі генэрала Жылінскага паасобныя абшарнікі прыватна пробвалі асушыць свае ўладаньні. Аднак-жа гэтыя спробы асаблівае ўдачы ня мелі, бо асушэньне балотаў патрабавала рэгуляваньня рэкаў, якія-б прыймалі ваду з асушаных плошчаў. Такія буйныя працы не заўсёды маглі праводзіць прыватныя асобы.

Асушальныя працы пад кіраўніцтвам генэрала Жылінскага мелі іншы характар. Праводзілася ня толькі асушэньне балотаў, але й рэгуляваньне рэк, пракладвалася сетка каналаў, якія адначасова прытарноўваліся для сплаўных мэтаў. Фактычна й асушэньне балотаў экспэдыцыяй за асноўную мэту мела значна панізіць кошты эксплятацыі лясных багацьцяў на дзяржаўных землях. Аб грандыёзнасьці працаў сьветчаць такія факты: на працягу 13 год вялося толькі выраўнаньне й умацаваньне берагоў Прыпяці; напрацягу ўсяе дзейнасьці экспэдыцыі было асушана каля 600 тыс. гэктараў палескіх балотаў і праведзена 4 817 км. розных каналаў. Уплыў асушальных працаў ген. Жылінскага адбіўся на плошчы 3 120 000 гэктараў. Асушэньне балот мела дабрадзейны ўплыў на больш чымся траціну ўсяе Палескае нізіны. Рост лясных багацьцяў значна палепшыўся, збольшыліся лесараспрацоўкі й сплаў, у выніку чаго збольшыліся заработкі мясцовага жахарства, асабліва ў мясцох раней недаступных. Збор сена на сенажацях ня толькі ўзрос, але й значна палепшылася якасьць сена. Пагалоўе буйнае рагатае жывёлы з 460 тысяч галоў збольшылася да 1 мільёна, а пагалоўе коней — з 130 тысяч да 380 тысяч.

На асушаных балотах у цяперашнім Васілевіцкім раёне Гомельскай вобласьці ў 1883 годзе паводля інструкцыі ген. Жылінскага была закладзена дасьледная дзялянка на плошчы дзьвёх дзесяцін. Пасьля асушэньня дзялянкі, яна была разьбіта на драбнейшыя часткі, што былі пакрытыя слоем пяску, якога на ўсю дзялянку было завезена 776,8 м$^3$. Пасьля на кажную дзесяціну было вывезена каля 100 тонаў угнаеньня. Падрыхтоўка дасьледнага поля вялася на працягу трох год. Збор ураджаю розных культураў на дасьледным полі перавысіў усялякія спадзяваньні: капуста дала на дзесяціну 1200 пудоў, буракі — 800 пудоў, бульба — 600—1000 пудоў, авёс — 100 пудоў і г. д. Такія культуры, як грэчка, ячмень, фасоля найчасьцей зусім не дасьпявалі, расьлі толькі ў сьцябло й плодаў не давалі.

Нажаль, ужо ў 1890 годзе дзялянка, якая дасягнула ў міжчасе 14 гэктараў, спыніла сваё йснаваньне.

У выніку асушальных працаў узрос кошт зямлі. Калі раней дзесяціна прадавалася за 4 рублі, дык пасьля асушальных працаў экспэдыцыі кошт дзесяціны зямлі на Палесьсі падняўся да 30 рублёў. Асушальныя працы, праведзеныя пад кіраўніцтвам ген. Жылінскага каштавалі 380—600 залатых рублёў. Кошт асушэньня аднае дзесяціны — 1 руб. 33 кап.[10]

На працягу ўсіх працаў экспэдыцыя часта сустракалася з рознымі цяжкасьцямі. Быў час, калі працы над рэгуляваньнем і выраўнаньнем Прыпяці былі зусім спыненыя. Рачное кіраўніцтва суднаходзтвам лічыла, што рэгуляваньне ракі зьменшыць воды прыпяцкага басэйну й асабліва Агінскага й Днепра-Бускага каналаў. Была й такая думка, што праводзіць мэльярацыйныя працы на Палесьсі няма сэнсу, бо вынікі мэльярацыі тут ня доўгатрывалыя: каналы зарастаюць, а асушаныя плошчы ў хуткім часе

[10] В. П. Семенов. Россия, б. 546.

induce ператвараюцца ў балоты. Пратэставалі супраць правядзеньня мэльярацыйных працаў і абшарнікі суседніх украінскіх чарназёмных вобласьцяў. Свае пратэсты яны матывавалі тым, што мэльярацыя Палесься выкліча засуху й зьменшыць ураджайнасьць на іхных землях. Яны асабліва баяліся, што асушанае Палесьсе станецца моцным канкурэнтам на хлебным рынку.

## III.

На былых асушальных працах на Палесьсі давялося спыніцца таму, каб паказаць, наколькі мэльярацыя была карыснай, як чалавек прымусіў прыроду служыць сабе. Здавалася-б, што ўсялякі дзяржаўны лад забавязаны ня толькі захаваць усе мэльярацыйныя ўладжаньні й пабудовы, але і ў самы кароткі тэрмін працягваць пачатую справу — ператварыць Палескую нізіну ў высокаўраджайную краіну. Аднак прамінула ўжо больш за 60 год з тых часоў, як была спынена праца экспэдыцыі ген. Жылінскага, а праблема асушэньня Палескае нізіны й да гэтага часу не разьвязана.

Цікава, што мэльярацыйныя працы праведзеныя экспэдыцыяй ген. Жылінскага савецкай прэсай замоўчваюцца. Як сябра-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, Качура цьвердзіць, што «у дарэвалюцыйны пэрыяд асноўныя масывы балот Беларусі заставаліся незакранутымі».[11]

Паводле дадзеных з 1939 і 1940 гадоў у мэльярацыі балотаў прыймала ўдзел больш за 100 тысяч калгасьнікаў. За ўсе даваенныя гады было асушана 271 тысяча гэктараў. У запраўднасьці перад вайной працавала над асушэньнем балотаў усяго толькі 19 малапрадуктыўных экскаватараў. З даваенных асушальных працаў даволі ўдала было праведзена толькі асушэньне балотаў над ракой Арэсай, прытокам Прыпяці. Тут у выніку асушэньня й асваеньня тарфяна-балотных глебаў, некаторыя калгасы значна павысілі ўраджай зернавых, канопляў, бульбы й сеяных траваў.

У сакавіку 1941 году саюзным урадам і кіраўніцтвам камуністычнай партыі была прынятая пастанова аб правядзеньні буйных мэльярацыйных працаў на тэрыторыі БССР і то пераважна ў Палескай нізіне. Асушэньне балотаў Палесься было разьлічана на 15 гадоў. Плянамі было прадугледжана асушыць больш за 4 млн. гэктараў балот. Асушаную плошчу прадугледжвалася на 60% выкарыстаць пад сенажаці й 40% пад пасевы сельскагаспадарчых культур. Згодна плянаў да 1947 году павінна было быць засеяна пад шматгадовымі травамі 531 тыс. га, збожжавымі культурамі — 203 тыс. га, канаплямі — 40 тыс. га, карняплодамі — 3 500 га, бульбай — 32 тыс. га, кок-сагызам — 25 тыс. га, сіласнымі культурамі — 24 тыс. га, аднагоднымі травамі — 17 тыс., цукравымі буракамі — 4 тыс. га і махоркай — 3 тыс. гэктараў.[12]

У сувязі з вайной мэльярацыйныя працы ня былі выкананыя. Амаль нічога ня было зроблена для асушэньня палескіх балотаў у часы панаваньня Польшчы ў Заходняй Беларусі. Праўда, польскі ўрад у 1928 годзе зарганізаваў адмысловае «Бюро мэльярацыі Палесься». Некалькі год гэтае бюро займалася падрыхтоўкай і дасьледваньнем балот. Быў таксама складзены плян асушэньня балотаў, але ў практыцы да часу далучэньня Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. ня было нічога зроблена.[13]

---

[11] «Экономика сельского хозяйства», № 7, 1959, б. 35.
[12] БСЭ — Союз Советских Социалистических Республик, Масква, 1947, б. 1829.
[13] C. Kasakov. The 1952 Plan for the Draining of the Pripet Marshes, New York, 1953.

У 1952 годзе на XIX зьезьдзе камуністычнай партыі пытаньне аб асушэньні Палесься йзноў было паднятае. Старшыня Дзяржплянy СССР М. Сабураў у сваім дакладзе на зьезьдзе заявіў:

> «Пятым пяцігадовым плянам прадугледжваецца значнае пашырэньне працаў над асушэньнем балотаў у Беларускай ССР, у першую чаргу ў раёнах Палескай нізіны».[14]

На гэным зьезьдзе цяперашні міністар вонкавага гандлю СССР Паталічаў, будучы тады сакратаром ЦК КП Беларусі, дзякваў «вялікаму Сталіну» за ягоныя клопаты аб беларускім народзе й адзначыўшы мудрасьць партыі сказаў:

> «Палеская праблема даўно хвалявала беларускі народ. Аднак разьвязаньне гэтае праблемы было зьвязанае з матар'яльнымі цяжкасьцямі ў справе гідратэхнічных уладжаньняў... мільёны гэктараў будуць здабытыя на карысьць чалавека. Вада будзе сабраная й ейная разбуральная сіла будзе ператворана ў электраэнэргію».[15]

Супраць добрых пажаданьняў Паталічава нічога нельга сказаць, толькі можна адцеміць, што прамінула ўжо пасьля гэтых хвасьлівых цьверджаньняў сем гадоў, а адчувальных вынікаў над асушэньнем балотаў не дасягнута.

Пасьля верасеньскага пленуму ЦК КПСС для падняцьця збожжавае гаспадаркі былі зацьверджаныя мерапрыемствы для эксплятацыі новых зямельных плошчаў. З гэтае прычыны й была прынятая пастанова аб асушэньні балотаў у Беларусі. Пры канцы пятай пяцігодкі ў 1954 годзе на асушальных працах працавала 20 машынна- і сенакосна-мэльярацыйных станцыяў ды 200 мэльярацыйных аддзелаў, якія былі зарганізаваныя пры існаваўшых у той час МТС. Асушальныя працы вяліся ў Прыпяцкім басэйне. На працягу 1954 году было асушана да 40 тысяч гэктараў тарфянікаў. Асушаныя й заселеныя плошчы далі багаты ўраджай. У некаторых мясцох пасевы збожжавых культураў далі да 180 пудоў збожжа з гэктару, па 350—400 пудоў бульбы, па 400 цэнтнараў з гэктару кармовых буракоў і па 500 цэнтнараў капусты.[16] Аднак жа, як піша «Праўда» з 21. 10. 1954 г., асушаныя землі ня выкарыстоўваюцца. Паводля дадзеных міністэрства мэльярацыі БССР мёртвым капіталам ляжаць больш за 190 тыс. гэктараў асушаных тарфянікаў. Падлічана, што ўраджай збожжавых культураў на гэтых асушаных тарфяніках мог-бы даць у год ня менш за 10 млн. пудоў збожжа.

Асноўнай прычынай нявыкарыстаньня тарфянікаў зьяўляецца няўменьне й навет нежаданьне зарганізаваць ахову й падтрыманьне гідратэхнічных уладжаньняў. Як вядома, тарфянікі патрабуюць мінэральных, асабліва калійных угнаеньняў, прывоз якіх у Беларусь абмежаваны. Зь недагляду асушаныя плошчы зарастаюць хмызьняком і ўраджайныя землі йзноў забалочваюцца.

Такім чынам праектаванае ў 1952 г. «разьвязаньне палескай праблемы» практычнага значаньня ня мела. А тымчасам выкарыстаньне забалочаных тэрыторыяў, якіх толькі ў самым Палесьсі налічваецца тры мільёны гэк-

[14] «Праўда», 10. 10. 1952.

[15] Тамсама, 7. 10. 1952.

[16] Тамсама, 21. 10. 1954.

тараў, магло-б прынесьці вялізарныя карысьці. Аб эфэктыўнасьці выкарыстаньня асушаных тарфянікаў сьветчаць наступныя дадзеныя:[17]

| Паказьнікі | Групы калгасаў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Тыя, што ня маюць тарфяных глебаў | Тыя, што маюць тарфяныя глебы да 30% плошчы пашні | да 50% плошчы пашні | да 75% плошчы пашні |
| 1. Ураджай сельскагаспадарчых культур з 1 га (ц): | | | | |
| а) збожжавыя | 6,0 | 8,8 | 9,3 | 13,7 |
| б) бульба | 63,5 | 104,0 | 122,4 | 162,5 |
| в) каноплі (валакно) | — | 2,9 | 3,3 | 6,4 |
| г) махорка | 38,1 | 24,1 | 38,5 | 58,4 |
| д) сена шматгадовых траваў | 10,2 | 23,1 | 26,4 | 40,1 |
| 2. На 100 га сельскагаспадарчых угодзьдзяў: | | | | |
| а) буйнае рагатае жывёлы | 11,0 | 16,0 | 17,0 | 21,0 |
| б) у тым ліку кароў | 5,0 | 6,7 | 7,3 | 8,3 |
| в) надоена малака (ц) | 44,0 | 97,2 | 132,9 | 234,0 |
| г) атрымана мяса ў жывой вазе (ц) | 8,2 | 14,9 | 19,1 | 41,6 |
| д) атрымана грашовых даходаў (тыс. руб.) | 23,6 | 66,0 | 75,3 | 177,5 |
| 3. Надоена малака на адну карову (кг) | 810,0 | 1373,0 | 1788,0 | 3022,0 |

У 1958 годзе было асушана 28 тысяч гэктараў балотаў, апрача гэтага на 42 тысячах гэктараў была адноўлена старая асушальная сетка. Праца праводзілася на 180 аб'ектах і ахапіла больш за 700 калгасаў і саўгасаў БССР. Паводля афіцыяльных дадзеных усе працы ў 1958 г. каштавалі 63 мільёны рублёў.

Аднак факты сьветчаць, што калгасы й саўгасы не выяўляюць асаблівых клопатаў і жаданьня выкарыстоўваць ураджайнасьць асушаных тарфянікаў. У сваім артыкуле «Эканамічная эфэктыўнасьць капіталаўкладаў у мэльярацыю» сябра-карэспандэнт Акадэміі навук БССР І. Качура цьвердзіць, што ў Беларусі цяпер асушана 505 тысяч гэктараў балотаў і забалочаных земляў. З гэтае колькасьці толькі 400 тысяч гэктараў асвоена для сельскагаспадарчага выкарыстаньня.[18]

Тымчасам дырэктар навукова-дасьледвальнага інстытуту мэльярацыі й воднае гаспадаркі Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР лічыць, што з агульнае колькасьці асушаных земляў «прыблізна 200 тысяч гэктараў выкарыстоўваецца неэфэктыўна». Апрача гэтага ў Беларусі налічваецца да 200 тысяч гэктараў тарфянікаў, асушальная сетка якіх патрабуе неад-

[17] «Экономика сельского хозяйства», № 7, 1959, б. 36.
[18] Тамсама.

кладнага капітальная рамонту, а на плошчы 100 тысяч гэктараў — старальнага ачышчэньня. Асабліва дрэнна выкарыстоўваюцца сяродкі, прызначаныя на капітальны рамонт каналаў. Толькі ў Любанскім раёне ў заплянаваных на рамонт у 1959 годзе 3,5 мільёнаў рублёў было асвоена ўсяго толькі 1,6 мільёнаў рублёў.[19]

Яшчэ больш пэсымістычныя вывады аб выкарыстоўваньні мэльярацыйных земляў у рэспубліцы зрабіў прэзыдэнт Беларускай Акадэміі сельскагаспадарчых навук І. Лупіновіч. У сваім дакладзе на аб'яднанай навуковай сэсіі Усесаюзнай і Беларускай акадэміяў сельскагаспадарчых навук ён цьвердзіў, што ў Беларусі пад сельскагаспадарчыя культуры выкарыстоўваецца ўсяго толькі 20—25% усіх асушаных земляў. Разрыў у тэрмінах між асушэньнем і асваеньнем мэльяраваных плошчаў прыносіць буйныя страты.[20]

Паводля афіцыяльных дадзеных у Беларусі цяпер налічваецца 250 тысяч гэктараў асушаных земляў, прыгодных для выкарыстаньня ў сельскай гаспадарцы. Тымчасам будаўніцтва водна-мэльярацыйнай сыстэмы праведзена ў тры разы больш. Такім чынам каля 500 тысяч гэктараў да гэтага часу не асвоена. Як цьвердзіць у сваім артыкуле кандыдат тэхнічных навук А. Тульпанаў, «ня гледзячы на вялізарную насычанасьць мэльярацыйных ворганаў мэханізмамі, даўжыня каналаў, якія штогоду выходзяць із строю, раўняецца прыблізна даўжыні нова будаваных каналаў».[21]

Вялізарны разрыў між асушэньнем і асваеньнем мэльяраваных плошчаў у значнай ступені тлумачыцца нізкай якасьцяй асушальных працаў. Машына-мэльярацыйныя станцыі зьяўляюцца дзяржаўнымі прадпрыемствамі й праводзяць працы ў калгасах на кантрактных умовах. Аднак-жа гэтыя станцыі не нясуць паважнае адказнасьці за нявыкананьне прынятых забавязаньняў. З гэтае прычыны працы вядуцца неакуратна й вельмі часта да канца не даводзяцца. Праводжаныя магістральныя каналы на балотах ня зьвязваюца міжсобку г. зв. кротавым дрэнажам. На асушаных плошчах нярэдка можна сустрэць дзялянкі, на якіх праведзены каналы, але адсутнічаюць вадапрыёмнікі. У такіх мясцох вясной і восеняй гэтыя дзялянкі заліваюцца вадой і пасевы палявых культураў не праводзяцца.

У шматлікіх калгасах і саўгасах не зарганізаваны сыстэматычны дагляд асушальнае сыстэмы, у выніку чаго каналы зарастаюць хмызьнякамі й ня могуць прыймаць лішняе вады. Разбурае каналы таксама й бяссыстэмнае пасьвеньне жывёлы. У выніку ўсяго гэтага мэльяраваныя плошчы трацяць сваё прызначаньне, бо ў дажджлівыя гады пасевы на іх вымакаюць.

Войстры недахоп мінэральных угнаеньняў зьяўляецца таксама буйнай перашкодай для асваеньня асушаных плошчаў. У Любанскім раёне на Палесьсі налічвалася 36 тысяч гэктараў мэльяраваных земляў. Тымчасам у 1959 г. на гэтую плошчу было завезена мінэральных угнаеньняў толькі 25% патрэбнае колькасьці.

Праводжаньне мэльярацыі ў Беларусі да 1955 г. ажыцьцяўлялася адкрытым дрэнажам. Гэты від асушэньня балот ня выклікае высокіх дрэнажных выдаткаў, аднак бяз сталага й уважнага догляду асушальнае сеткі, ён дзейнічае ня доўга. Іншая справа — закрыты дрэнаж. Закладзеныя

---

[19] «Звязда», 29. 10. 1959.
[20] «Сельское хозяйство», 19. 7. 1959.
[21] «Советская Белоруссия», 23. 9. 1959.

ў грунт ганчарныя трубкі захоўваюцца на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў. З гэтае прычыны ў савецкай прэсе было паднятае пытаньне аб правядзеньні асушэньня балотаў закрытым ганчарным дрэнажам у шырокіх памерах. У сувязі з гэтым у 1959 годзе было заплянавана правесьці асушэньне 10 тысяч гэктараў балотаў закрытым дрэнажам. Аднак-жа праграма працаў была выкананая толькі на 67,3%.[22]

Буйнай перашкодай для правядзеньня асушэньня балотаў у Беларусі закрытым дрэнажам зьяўляецца неналаджанасьць вытворчасьці ганчарных трубак. Гэтыя трубкі пакуль-што ў нязначнай колькасьці прадукуюцца толькі на трох чарапічна-цагельных прадпрыемствах. Ганчарныя трубкі выпускаюцца нізкае якасьці й высокае цаны. Недахоп трубак быў прычынай прымусовых прастояў экскаватараў.

Асушэньне балот ганчарным дрэнажам і асваеньне аднаго гэктару каштуе да 4 тысяч рублёў. Ня гледзячы на высокія кошты гэтага дрэнажу, даходнасьць асушанае плошчы збольшваецца на 20—30% у параўнаньні з плошчамі, асушанымі адкрытым дрэнажам.

Сямігадовым плянам прадугледжваецца асушыць у Беларусі да 700 тысяч гэктараў балот. Палова гэтае плошчы павінна быць асушана закрытым дрэнажам. Агульнае абыймо капітальных укладаў на ажыцьцяўленьне сямігадовага пляну мэльярацыі мае дасягнуць больш за адзін мільярд рублёў. Значная доля выдаткаў мае пакрывацца калгасамі.

Пакуль-што няма асноваў дапушчаць, што сямігадовы плян мэльярацыі ў Беларусі будзе выкананы й Палеская нізіна ўрэшце будзе ператворана ў багата-ўраджайныя палі й квітнеючыя высока-прадуктыўныя сенажаці. Як ведама, асушэньне балотаў прадугледжвалася ажыцьцявіць у пятай пяцігодцы. Пасьля гэтых намераў прамінула сем гадоў. Старыя амушальныя збудаваньні ў Беларусі разбураюцца, каналы зарастаюць хмызьняком, зь недахопу мінэральных угнаеньняў ураджайнасьць на тарфяніках зьніжаецца. Асноўная ўвага камуністычнага кіраўніцтва Масквы канцэнтруецца на цалінных землях Сібіру й Казахстану.

Для забясьпечаньня цалінных земляў сталай працоўнай сілай у сталіцы Беларусі ужо некалькі год існуе перасяленчая ўправа, якая мае ў вобласьцях і раёнах свае філіі. Пры актыўным садзеяньні камуністычнага кіраўніцтва перасяленчыя ўправы штогоду накіроўваюць у Сібір і Казахстан сотні эшалёнаў працаздольных сем'яў і моладзі. У першым годзе сямігодкі вываз працоўнай сілы зь Беларусі ня зьменшыўся, а значна збольшыўся. Скромныя пляны працаў над асушэньнем балотаў у рэспубліцы нявыкананыя, асыгнаваныя сяродкі засталіся нявыкарыстаныя. Усё гэта дае асновы лічыць, што інтарэсы беларускага народу і ў сямігодцы будуць складзеныя ў ахвяру асваеньня бязьлюдных стэпаў Сібіру й Казахстану.

[22] Тамсама.

*Рэцэнзія*

# *Беларускія прыказкі, прымаўкі й загадкі*

**Склаў Яўген Рапановіч. Выданьне «Дзяржаўнага выдавецтва БССР», у Менску 1958, бач. 378.**

Кніжка складаецца із «Замест уступу» й самога матар'ялу, менаванага ў яе назове.

У «Замест уступу» аўтар характарызуе прыказкі, прымаўкі й загадкі. Тут-жа ён зазначае, што «ў зборнік улучаны, апрача запісаных намі на тэрыторыі Маладзечанскай, Берасьцейскай, Горадзенскай вобласьцяў у 1950—1956 гадох, некаторыя лепшыя прыказкі, прымаўкі й загадкі з друкаваных зборнікаў» (бач. 8). А шкада, што сп. Рапановіч гэтак абмежыўся, дадаючы да чысьленых няпоўных зборнікаў менаваных народных твораў яшчэ адзін няпоўны, замет даць поўны іх збор.

Матар'ял свой Рапановіч разьдзяліў на гэткія тры часьці: дакастрычніцкія прыказкі й прымаўкі (бач. 9—280), пакастрычніцкія прыказкі й прымаўкі (бач. 281—318) і загадкі (бач. 319—369). Кажны з гэтых разьдзелаў мае падразьдзелы паводля тэмаў. Прыказкі й прымаўкі пададзены ў зборніку паводля тэматычна-альфабэтнага прынцыпу. У канцы кніжкі зьмешчаны кнігапіс беларускіх прыказкаў, прымавак і загадкаў — усяго 78 збораў. Кнігапіс ня зусім поўны.

Аўтар разгляданага зборніку не адзначыў, дзе які зь менаваных народных твораў ён запісаў або скуль яго выпісаў. Гэта зьмяншае навуковае значэньне ягонае працы.

Прыказкі, прымаўкі й загадкі тварыліся вякамі, у прыказках і прымаўках зьмешчана народная мудрасьць і дасьціпнасьць, у загадках адбілася назіральнасьць і кемнасьць нашага народу. Ад даўгога й частага ўжываньня прыказкі й прымаўкі склаліся ў кароткія ёмкія, красамоўныя формы зь вельмі багатым зьместам. Дзеля таго мы асабліва маем шанаваць менаваныя народныя творы нашыя й сьцерагчы іх ад засьмечаньня чужымі ўплывамі. Маючы гэта наўвеце, я й разгледжу ніжэй зборнік Яўгена Рапановіча.

### «Пакастрычніцкія прыказкі й прымаўкі»

Найперш нельга не адцеміць тэндэнцыйнасьці ў выбару да зборніка пакастрычніцкіх прыказак і прымавак. Кажны, што знае падсавецкае жыцьцё беларускага народу, ведае добра яго нэгатыўнае дачыненьне да камуністых і створанага імі савецкага ладу. Ведама таксама, што гэтыя дачыненьні ад-

біліся ў новых прыказках. Прыкладам: У нас так бывае, хто не працуе, той і мае, а хто працуе — здыхае; Вучыліся мае дзеці, каб сьвінаркамі мадзеці; Калісь жылі, сьлёзы лілі, а цяпер як і заплачаш, у НКВД паскачаш! Але ніводная з такіх прыказак ня лучыла да разгляданага зборніку. Затое ў разьдзеле «Пасьлякастрычніцкія прыказкі й прымаўкі» зьмешчана звыш палавіны прыказак і прымавак, што выхваляюць падсавецкае жыцьцё або заахвочваюць да камуністычных дачыненьняў. Няма сумлеву, што ўсе такія прыказкі й прымаўкі штучныя; яны не паўсталі сярод нашага народу, не пашырыліся сярод яго і ня прыняты ім (пра гэта гл. ніжэй пры разглядзе мовы «пакастрычніцкіх прыказак і прымавак»). Колькі прыкладаў: Да шчасьця й свабоды вядзе партыя народы (284);* Ні мяжы, ні краю калгасьнаму ўраджаю (299); Раней жыла — зрэб'е насіла, а як пайшла ў калгас — адзелася ў шоўк і атлас (301); Захопнікаў у Карэі і сонца не сагрэе (310). Меншая часьць прыказкаў і прымаўкаў, залічаных аўтарам да пакастрычніцкіх, ня мае спэцыфічных азнакаў савецкасьці. Прыкладам: Красна птушка пер'ем, а чалавек вучэньнем (295); Ці ёсьць, ці няма калі, а лён палі (306); Няхай так будзе, як кажуць людзі (300). Падобныя прыказі маглі паўстаць у кажным часе. Хіба бальшыня зь іх і паўстала за доўга да рэвалюцыі 1917 г. Пра некаторыя зь іх гэта можна сьцьвердзіць дакумэнтальна. Гэтак прыказка «Хаваецца ад работы, як сабака ад мух» (305) — сустракаецца ў вапавяданьнях К. Міцкевіча (Я. Коласа), надрукаваных перад першай сьветавай вайной. Прыказку «І чужому навучайся, ды свайго ня чурайся» (294) у яе украінскім варыянце ўжываў Т. Шаўчэнка. Яна, відавочна, даслоўна (але ня добра) перакладзена з украінскае. Пра гэта сьветча зваротны дзеяслоў «навучацца», каторага ў мове беларускай няма. У нас ёсьць толькі «навучаць», што знача ня «вучыць», але адказуе рас. «наставлять« (татулька навучае). Апрача таго, Беларусы кажуць «Вучыць, навучаць **чаго»,** а не **чаму.** Або ці не старая прыказка «Новы венік чыста мяце» (299), калі ня наша, дык расейская («Новая метла чисто метет»)? У прыказцы «Самі сябе б'ём, калі ня чыста косім і жнём» (302) ня цяжка пазнаць рас. «Сама себя раба б'ет, коли не чисто жнёт», перапробленую дзеля патрэбаў усялякімі спосабамі падганяць людзёў на савецкім прыгоне. Дыкжэ дзеля гэтых патрэбаў у разьдзеле пакастрычніцкіх прыказак і прымавак ёсьць вялікі іх працэнт чужых перарбленых і штучных, а, відавочна, каб павялічыць колькасьць пакастрычніцкай творчасьці дададзеныя сюды й прыказкі старшыя, з «кастрычнікам» нічагусенькі супольнага ня маючыя.

### Мова твораў разгляданага зборніка

У «Замест уступу» аўтар кажа, што «дыялектычныя формы мовы часам заменены літаратурнымі, асабліва там, дзе такая замена не мяняла значэньня прыказкі, прымаўкі або загадкі. Ці варта было, прыкладам, зьмяшчаць прыказку ў гэтай форме: «Каваль **куець** — жонка пяець, шавец шыіць — жонка выіць» . . . Дык «прыказка даецца ў літаратурнай форме: «Каваль куе — жонка пяе, шавец шые — жонка вые». Там-жа, дзе дыялектычная форма, а таксама запазычаныя словы зь іншых моваў патрэбныя дзеля захаваньня рытму або эмацыянальнага ахварбаваньня — там яны друкуюцца бязь зьменаў» (бач. 8). Дыкжэ адно там **мясцовыя** асаблівасьці

* Лікі паказуюць, на якой бачыне разгляданага зборніку надрукавана прыводжаная прыказка, прымаўка або загадка.

беларускае мовы ня сьцертыя аўтарам у зборніку, дзе гэтага вымагалася захаваньнем рытму. Што-ж да перанятых словаў і формаў зь іншых моваў, дык іх, як пабачым ніжэй, запраўды аўтар пакінуў усюдых.

Нельга казаць, адылі, што менаваная нівэляцiя мовы зроблена дзеля ўзгадненьня яе зь беларускай літаратурнай моваю. Мова беларускага друку ў БССР ня ёсьць беларускай моваю літаратурнай, але беларускаю моваю зрусыфікаванай маскоўскай «рэформаю» яе ў 1933 г. і новымі русыфікацыйнымі зьменамі, праведзенымі ў 1957 г. пад назовам «удакладненьні й частковыя зьмены існуючага беларускага правапісу»[1]. Дык аўтар замяніў мясцовыя асаблівасьці згодна із зрусыфікаванай моваю беларускай, ужыванай, маскоўскай прынукаю, у беларускім друку БССР.

У колькіх прыпадках аўтар у сваіх заменах мясцовых рысаў перайшоў нат вымаганьні дэкрэтаванае русыфікацыі. Адцемлю іх. У мове беларускай, за выняткам вельмі абмежаванай мясцовасьці, ужываецца займя **кажны.** Як сьветчаць памяткі, у гэтай-жа форме (з **а** й **н**) менаванае займя ўжывалася ўвесь час у мінуласьці. Ужываецца яно й цяпер у новай беларускай літаратурнай мове. Тым часам ў зборніку знаходзім толькі форму **кожны** (з **о**) гэтага займені (ужыта 64 разы!). Ясна, што аўтар сыстэматычна зьмяніў **кажны** на **кожны.**

Таксама ў мове літаратурнай, ад яе пачатку, ад лічніка **адна** ўжываецца ў прызначальным, снадзіўным і мясцовых склонах адз. л. форма **аднэй** (дам аднэй, буду з аднэй, у ваднэй). Гэтая-ж форма вылучна ўжываецца у дыялекце сярэднім, што лёг ў васнову нашае літаратурнае мовы, у дыялекце віленска-ашмянскім, у сумежных із гэтымі дыялектамі гаворках паўднёва-заходняга дыялекту і ў цэлым паўночным (накш паўночна-ўсходнім). Але ў зборніку ёсьць толькі форма **адной** у менаваных склонах, а таксама ў склоне другім замест **аднае.** Ведама, што тут форма **аднэй** была заменена формаю **адной** (22 разы). Што форма **аднэй** ня мае ў сваім пахаджэньню нічагусенькі супольнага з моваю польскаю, у каторай ёсьць **еднэй,** паказвае тое, што форма аднэй ужываецца на прасторах тэрыторыяльна далёкіх ад мовы польскае, наадварот, на пагранiччу з мовай польскай ёсьць толькі **адной.**

У зборніку стрэлася форма «сьмяяўся» (68) замест «сьміяўся» (у неазначальніку і ў мінулым часе ў васнове гэтага дзеяслова ёсьць і — сьміяцца, сьміяўся, а аснова цяперашняга часу было **ѣ**, з чаго не пад націскам **я** — сьмяюся, сьмяешся ігд.).

Слова «чорт» стрэлася ў зобрніку ў залежных склонах адз. л. з націскам на **о** зам. на канчатку (чорта, чорту на бач. 12, 19 і інш. зам. чарта, чарту ігд.). Няправільны націск тут не вымагаўся рытмам. **Двум**а (рукамі) зам. **дзьвюм**а хіба абмылка друку.

### Расейскія прыказкі ў зборніку

Расейскія прыказкі й прымаўкі заносяцца да Беларусаў расейскай школаю, рас. войскам і рас. ўрадамі і — што ў канцы тое самае — болей-меней зрусыфікаванымі адзінкамі з паміж самых Беларусаў. Расейскія прыказкі й прымаўкі, адылі, ня сталіся собскасьцяй мовы беларускай; яны перайма-

[1] Гл. разклад іх: Я. Станкевіч — Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР, бач. 81—96 (Беларускі зборнік, выдаваны Інстытутам Вывучэньня СССР, кн. 2-ая, у Мюнхэне 1955), Яго-ж — Некаторыя новыя зьмены беларускае норматыўнае граматыкі й правапісу ў Беларускай ССР, б. 153—163, а таксама «Белорусский словарь», б. 164—171 — абодва ў кн. 7-ай таго ж зборніка.

юцца інтэлігентнымі адзінкамі, найчасьцей кніжнай дарогаю, і застаюцца ў ужываньню адзінак.

Як пазнаць чужыя прыказкі й прымаўкі ў больш-менш беларускай мове? Калі чужамоўныя рысы іх ня могуць, без узрушэньня рытму, быць заменены словамі або формамі беларускімі, дык прыказка або прымаўка напэўна занесеная да Беларусі з чужыны. Гэта азнака неабмыльная, бо, першае, такімі чужымі словамі або формамі не маглі быць заменены словы беларускія таго-ж значэньня, у прыказках або прымаўках **беларускіх,** а, другое, Беларусы-ж самы не маглі тварыць іх з рысамі пярэчачымі сваей мове. Кіруючыся гэтай азнакаю, я й пералічу ўсе расейскія прыказкі й прымаўкі зборніка Рапановічавага.

1. Закон, што **дышла,** куды павярнуў, туды й вышла (15) — дышаль *.
2. За **палушку** цягаюць, як **лягушку** (16) — паў граша, жабу.
3. Хваліў сабака **воўка,** што круціць хвастом **лоўка** (26 — ваўка, вёртка, хіжа.
4. Хоць вялікая фігура, ды **дура** (26) — дурная. Беларуская прыказка гэтага значэньня: Вырас да неба, а дурань, як трэба. Ар.**)
5. Чорнага **кабяля** ня вымыеш на бяла (28) — цюцьку.
6. Восеньню і ў **кошкі ляпёшкі,** і ў вераб'я піва (33) — у ката, перапечкі.
7. За **кукіш** пірага ня купіш (37) — за дулю, хвігу. Блр.- За пяць пальцаў ня купіш.
8. Там і **непаладкі,** дзе **недастаткі** (48) — нярад, нястача.
9. Поп **бледны,** як пятак **медны** (65) — бляды, мядзяны.
10. У папа чорт у **падкладцы,** а сатана ў **заплатцы** (69) — у подбіўцы, у лапіку.
11. Была, **што** чырвоная **роза,** а стала, **што** белая бяроза (73) — рожа, як.
12. **Пасьпяшыш** — людзей насьмяшыш (99) — пасьпяшаеся. Блр.: Пасьпех — людзям на сьмех. Ар., Іг., Вк. (ЛБ. 5911).
13. **Беражыся,** баба, будзе табе **ўхаба** (118) — сьцеражыся, каўдобіна.
14. Хто за **правае дзела** стаіць, той усягды **пабядзіць** (136) — справядлівую справу, пераможа.
15. Адзін **балтае,** а другі, **на вус матае** (137) — лапоча, меле; запамінае, мяркуе.
16. За морам валы **дарам** (143) — дарма. Блр.: На Падольлю пірагі на кольлю, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі. Вк. (ЛБ. 5533); Там добра, дзе нас няма. Ар.
17. Сьмех **дураку, што** рот на баку (155) — дурню, як.
18. Сьмех без прычыны — **прызнак дурачыны** (155) — пазнака дурня.
19. **Цяпло** касьцей ня ломіць (175) — цепль, цяплосьць; а паблр. «цяпло» — агонь (але не сьвяціць). Пр. рас. «Пар костей не ломит». Блр.: Ад цяплосьці не баляць косьці. НСБ. 123, яна ж і ў Рапановіча на бач. 163.
20. Наш Іван не балван, што паймаў, то ў **карман** (203) — кішэня.
21. Па адзежы **страчаюць,** па **вуму правàжаюць** (208) — пераймаюць, розуму, прапушчаюць.

---

*) Падчыркнены русыцызмы; лікі паказваюць бачыну ў зборніку Рапановічавым, пасьля лікаў падаю пераклад русыцызмаў на беларускую мову.

**) Скарачэньні гл. у канцы артыкулу.

22. Што заслужыш, тое й **палучыш** (217) — адзержыш.
23. Без тапара ня **плотнік,** без **лапаты** не агароднік (217) цесьля, рыдлёўкі
24. Дзе лёгкая, **прыбыль,** там цяжкая гібель (219) — прыбытак.
25. Зьеж **почку:** возьмеш папову **дочку** (221) — нырку, дачку.
26. Конікі ня **кролікі: што месяц** ня выводзяцца (224) — трусы, што месяца.
27. Улетку кожны **кусьцік** начавацъ пусьціць (232) — кусток.
28. Баран **баранам,** а рогі **дарам** (235) — бараном, дарма.
29. **Зраўняў** муху **са сланом** (251) — прыраўнаваў муху да сланя.
30. Куды конь з капытам, туды й рак **з кляшнёй** (256) — з клюшняй. Блр.: I жук, і жаба, і чорт, і баба. Вк.
31. Ні к сялу, ні к **гораду** (264) — к месту. Блр.: Ні сюды, ні туды, мае мілыя дуды.
32. Станавога кучара кум (270). Апрача супольнага з моваю расейскай «кум», нічога ў гэтай прыказцы беларускага няма. Блр.: Стрэчнай бабкі родны Хведар; Пень гарэў, а чорт ногі грэў, іскра пала й радня стала. Дз.
33. У каго хлеб зь мякінкай, а ў каго пірог **з начынкай** (65) — з накрыпкаю нядзяваны.
34. Наш брат багат: капусту лапцям **хлябае,** бо лыжак ня мае (43) — сёрбае. Капусту ляпцям хлябае — гэта благі пераклад рас. прыказкі «Лаптем щи хлебать».
35. Раз украў — навек славу **замараў** (124) — запэцкаў.
36. Лепш дзесяць разоў цяжка хварэць, як адзін раз лёгка **памярэць** (168) — памерці.
37. Кот **мурлыча,** дзяцей кліча (256) — курныкае.
38. У ціхім віры чэрці **водзяцца** (273) — вядуцца. Ці можа быць ціхі вір? (вір — рас. водоворот або **омут** з такім-жа рухам вады, а калі **«омут»** ціхі, дык гэта паблр. — яма (у раццэ, возеру). Прыказка ёсьць благім перакладам рас. «В тихом омуте черти водятся». Адказуючыя ёй прыказкі беларускія ёсьць у Рапановіча гэткія: Ціхая сьвіньня глыбака рые (216); Ціхая вада берагі падмывае (216); Хто ціха ходзіць, той густа месіць (276).

Калі якой прыказкі або прымаўкі ў нас уперад ня было, але была яна ў нашых суседзяў, тады гістарычна сьцьвярджаем, што яна чужая, не зважаючы на тое, што мова яе можа быць чыстая беларуская або із заганамі, каторыя можна аддаліць без узрушэньня рытму. Лёгка гэта кідаецца ў вочы асабліва тады, калі ў нас ёсьць прыказка або прымаўка таго-ж значэньня, але іншая формаю. Сюды належаць наступныя расейскія прыказкі й прымаўкі, зьмешчаныя ў зборніку Рапановічавым.

39. Галоднай куме хлеб на вуме (33). Блр.: Што каму на ўме, той тое даўбе. АР.
40. Кончыў дзела — гуляй сьмела (97).
41. **На злодзеі** шапка гарыць (122) — на злодзею. Блр.: Хто парасё ўкраў, таму ў вушшу пішчыць. Войш., Сл. Вк. (Л. 5846); яна-ж у форме «Хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць» у Рапановіча на бач. 126.
42. Сем раз адмер, адзін раз адрэж (231) Блр.: Дзесяць раз мер і то ня вер. Вк. (ЛБ. 4913).

43. Што летам нагой капнеш, то зімой рукой хапнеш (234). — Улетку, копнеш, узімку, хопнеш. Прыказка рас. або вельмі зрусыфікаваная. Блр.: Што ўлетку ножкаю коп, то ўзімку губкаю хоп. Ар.

44. Ня сунь **носа** ў чужое проса (239) — носу. Блр.: Калі ня п'юць, то й ня дзякуй. Ар.; Дай спакой рэчы такой, то суседзкая справа. Вк. (ЛБ. 5617).

45. Першы блін комам (266). Блр.: Першы блін сабаку. Ар.

46. Прапаў, як **швед** пад Палтавай (267) — Швэд.

47. Блізка локаць, ды ня ўкусіш (189). Блр.: Смачны жабе арэх, але зубоў Бог ня даў. Л. Бачыць карова, што на повеці салома. НСБ. 13. Бачыць вока, але ляжыць высока. Вк. (ЛБ. 8824).

48. Найшла каса на камень (203). Блр.: Чорт на паганага напаў. Ар.

49. Каб **знаў,** дзе паваліцся, саломкі падаслаў-бы (233) — ведаў. Блр.: Калі-б веданьне, дзе паваліцся, валей-бы там сеў. Укропава Мл.

50. Не за год Масква пастаўлена (228). Перарobленая рас. «Не в один год Масква строилась.» Блр.: Не за дзень Вільня станавілася.

51. Дзе дровы сякуць, там і трэскі **ляцяць** (219) — лятуць. Блр.: Дзе п'юць, там і льлюць. Ар.

### Прыказкі польскія

1. Злазь **з даху** і ня псуй **гонту** (251) — із страхі, гонтаў.
2. Перад Богам **кленчыць**, а людзей **менчыць** (65) — клякае, мучае.

### Штучныя пакастрычніцкія прыказкі й прымаўкі

Пра штучнасьць прыказак і прымавак пакастрычніцкіх сьветчаць такія іх русыцызмы, якія без узрушэньня рытму нельга замяніць словамі або формамі беларускімі.

1. **Беражом** нашы граніцы, як вачэй **зяніцы** (283) — сьцеражэм, зрэнкі.
2. Войска **краснае** прышло — нам свабоду **прынясло** (284) — чырвонае, прынесла.
3. Для **кавалерыста** конь — **клад:** ён яму **друг** і брат (284) — кавалерыстаму, (або коньніку), скарб, прыяцель.
4. Мы калгасным ураджаем усіх **ворагаў пужаем** (286) — варагоў палохаем, лякаем, бо пужаюць толькі жывёлу, асабліва птушкі.
5. Хваліўся пан, хваліўся ды **на штыку ачуціўся** (288) — на штыку апынуўся.
6. Як з **пушкі грохнулі,** — паны ў вакопах вохнулі (289) — з граматы, грукнулі.
7. Бровы **калясом,** а **сопкі** пад **насом (291)** — колам, сaплякі, кад носам.
8. Ленін — ген**ій** дваццатага века: **з раба** стварыў **чалавека** (286) — гені, веку, зь нявольніка.
9. Дзе гноям сьмярдзіць, там і радзіць (297) — родзе.
10. Дзе дысцыпліна й **чотка задача,** там посьпех і ўдача (292) — выразьліваe заданьне, посьпех.
11. За памылку даюць па **затылку** (293) — абмылку, па патыліцы.

12. Добрая жняя не бядуе, што загон шырокі (293). І благая не бядуе, бо жнуць не загонамі, а постацямі. Хто склаў гэтую прыказку, той ня бачыў жніва.
13. Мы й бяз Бога **устроілі,** што ўраджай патроілі (297) — наснудзілі.
14. Не крапі**длам машы,** а хлеб пашы (298) — крапілам махай.
15. Рай і **ад** трэба таму, хто багат (301) — пекла.
16. У ворыве **агрэхі** — у кішэні **прарэхі** (303) — узрэхі, дзіры.
17. У калгасе язык не **ўзачот:** хто працуе, таму і **пачот** (304) — не залічаецца, пашана.
18. Выцерпіш беды — сустрэнеш сьвята **пабеды** (308) — перамогі.
19. Дай **фашысту** нажом пад **рабро** — зробіш людзём дабро (309) — фашыстаму, пад скабу.
20. З фашы**стам** ідзі і камень за пазухай нясі (311) — з фашыстым.
Перароблена зь беларускае прыказкі «З Маскалём дружы, а камень за пазухай дзяржы».
21. Лавіць авец і фашыст маладзец, а як зловяць **падляца** — ён сам, як аўца (312) — нягодніка. Перароблена з прыказкі: «Маладзец проці авец, а супроці малайца і сам аўца.» Дубейкаўскі.

### Русыцызмы ў зборніку

Як было зацемлена вышэй, пры выданьню зборніка Рапановічавага, былі сьцертыя ў ім правінцыялізмы, але пакінены русыцызмы. Ніжэй я пералічу адно тыя русыцызмы, каторых замена беларускімі словамі альбо хормамі ня ўзрушала рытму твору.

**Расейскія словы.** Адпомсьцім (193). Русыцызм, бо зроблены подле рас. отомстіть. Блр. помсьцім. **Адсталых** б'юць (290) —асталых. На дзень **адстанеш** — за тыдзень не дагоніш (297) — астанешся. **Апетыт** прыходзіць **у час** яды (244) — ахвота да яды, у часе. **Атрад** (318) — адзьдзел. **Лепей** сена **ахапак,** чым саломы воз (296) — валей, бярэма, чымся. Круці жорны пільна, будзе табе **Вільна** (97) — Вільня.
Я запісаў: Працуй пільне, будзе дома Вільня. Воблака (253) — булак, болка, балачына. Вопыт (289) — дазнаньне. Воран (13) — крумкач, груган. Вум (177) — розум. Высь (210) — выш. Вясеньні (182) — веснавы, вяснушчы. Галошы (41) — галёшы. **Глотку** дзярэ (291) — горла. Грыўна (41) — грыўня. Гусыня (328) — гуска. У **даяркі** малако ў руццэ, а ў каровы на **языку** (303) — у дойкі, на языццэ. Дамашні (124, 328, у назове падразьдзелу) — хатні. Днём (105, 357) — удзень. Свая губа ня **дура** і знае што прымае (241) — ня дурная. Дзьвярная ручка (341, у вадгадцы) — клямка. Жаднасьць (313) — прагавітасьць, гальлівасьць. З **жыру** і сабака шалее (16) — рас. жир — бел. тук, але тут валей **ад сытасьці.** У Дубейкаўскага, (212), ёсьць гэткая, хіба лепшая, прыказка: Сытай куме юр на ўме. **За** сольлю (192), **за** дрыўмі езьдзіць (259) — па соль, па дровы. І мядзьведзю кальцо ў губу **запраўляюць** (16) — медзьвядзю, колца, зацягваюць. За**рубі** сабе на носе (250) — Зацем сабе на носе. Пархв. зьвёзд (182) — зораў, зьвездаў (заст.). **Зімняя** ночка (222) — зімовая. **Знае** Мікіта, каму каптан пашыты (251) — Даўно **знае** наш народ, што толькі праца поўніць рот (292) — ведае. Кажнадзённа (285) — кажны дзень, кажнага дня, што дня. «Кажнадзённа» русыцызм, бо зроблена паводля рас. ежедневно, хоць «кажнадзенны» ў нас ёсьць. **Кальцо** на пальцы (322, у вадгадцы) —

жуковіна, пярсьцёнак. Калясо (150 і 329 у вадгадцы) — кола, каток. А на б. 321 зборніка добра сказана «колы ў калёсах». Калёсікі (366) — колцы. Калі **карман** сухі, то і суд глухі (17) — карман — кішаня, але тут знача капшук. Набіваў сабе **карман** (300) — кішаню. Не гані каня **кнутом,** а гані аўсом (227) — пугаю, але тут **дубцом.** Грошы **копіць** (51) — зьбірае. Красьненькая (347) — чырвоненькая. **Крупінка** золата (295) — драбочак. Кукіш (271) — дуля. **Лакомы** кус 283) — ласы. Лодыр (368) — абібока. У добрага **трактарыста любы** трактар добры (303) — трактарыстага; які любя, які хоця, абы які. Масьленіца (319) — масьлянка. За сто работ бярэцца, **а ні адна** не ўдаецца (143) — ніводная. Мачок (271) — маўчанка. Сэрца не на **месьце** (270) — не на месцу. Мізінец (329) — мезінец. Муравей (369) — мурашка. **Начная** зязюля перакукуе дзённую (81) — ночная. Мой запіс: Ночная зязюля дзенную перакукуе. Войш. Недарам гаворыцца (298) — недарма кажацца. Ноччу (325) — ночы. «Ноччу»-ж ёсьць крыху зьбеларусчанае рас. ночью». Лез Прусак на **палаці** (312) — на пол. Паліняла (228) — палінала. Калгасную **пасеку беражы** ад двуногіх **мядзьведзяў** (294) — пшчэльню сьцеражы, медзьвядзёў. Пасьледняя (150, 298) — апошняя. Пасловіца (179) — прыказь, прыказка. Пасуда чыстату любіць (240) — судзьдзе чысьціню. Чорт **чорта** пазнаў і на **пір** пазваў (216) — чарта, чэсьць. Мае запісы й выпісы: Чорт чарта пазнаў і на піва пазваў. Войш. Свой свайго пазнаў і на піва пазваў. Вк. Ск., Сл. (ЛБ. 7798); Ар. Чорт лапці падраў пакуль пару дабраў. Барн. Савосы госьцяць у самосах. НкП, 152. Повар (249) — кухар. Прачка (224) — мыцьцёха. Прыраўняў сьвіньню к каню (267) — прыраўнаваў. Прысьпічыць (105) — закарцець, прыперці. Гора **прысыпляе,** а дабро абуджае (34) — соне, прысаняе. «Прысыпляць» блр.-рас. сымбіоз: блр. «пры» (з пры-саніць) і рас. «плять» (з у-сыплять). Пустамеля (153) — млён, пустамлён. Ён мне ў **пячонкі** ўеўся (195) — печані. А «пячонка» — печанае мяса. Рабочы (318) — работнік. Ня кручан — не рамень (181 і ў вадгадцы — 340) — рэмень. Рукаў (71) — рукаво. Тры браты на адным кані па белым полі едуць (пальцы й **ручка**) (327) — пяро з асадкаю. **Самае лёгкае** ня ёсьць **самае добрае** (231) — найлягчэйшае, найлепшае. У самай ціхай (273) — у найцішэйшай. **Саскі** ў каровы (354, у вадгадцы) — цыцкі. Саставіў (160) — склаў. Сашнікі (321) — нарогі. **Сьмякалка** пра запас (313) — кемнасьць на. Совесьць (187, 301) — сумленьне, каторае ёсьць і ў зборніку на бб. 304, 318. Сокала (206) — сакала. Соплі (146) — сaплякі. **Сочны** — сакавы, сакаўны, сакавіты. Сьпяшы (19) — барзьдзі, сьпяшайся. Незалежна ад русызмаў не на месцу ўжытае слова **прылады** (328, у назове падразьдзелу) зам. скадзівы, снадзі, бо блр. **прылада** адказуе рас. «приспособление». Стальная (325) сталяная. Без станка тчэ (344) — без красён. **Столькі** нагаварыў (146) — толькі. Гарох стручыст (357) — стручны. Стучыць (354) — стукае. Атаўка — сену прыбаўка, ды ня **сумеў** скасіць Саўка (92) — узумеў, патрапіў. Маю я, адылі, запіс гэтае прыказкі з **умеў.** М. І гаршкі з гаршкамі ў печы **страчаюцца** (222) — сустракаюцца, спатыкаюцца. Няма **сьцярні** бяз коласа (299) — жнеўніка, іржышча. Тарчыць (332) — тырчыць. Топай (88, 269) — тупай. **Уход** каля зямлі (296) — дагляд (зямлі). Камень з поля **убярэш** (295) — зьбярэш. Убраць — рас. нарядить. Храбрасьць (214) — адвага. Храбры (209) — адважны, харобры (заст.). Лягчэй адрэзаць, **чым** надтачыць (226) — чымся. Вераб'ю **чырыкаць** (210) — чыркаць. Шаг (93) — сіг, сігень. **Шагам** ісьці (48) — ступой. Зашагалі (292) — засігалі. Шыварат — навыварат (101) — наадварот. Шыпіць (278) — сіпіць. Шыш (148) —дуля, хвіга. Штык (289, 313) — штых. Шчот (36) — лічба. На яблыні (149) — на яблыне (бо яблыня). Пад прыпечкам **рубяжы,** хто ведае, не кажы (пацеркі на шыі) — драбязы.

**Расейскія формы.** Ад калгаса (299) — ад калгасу. Ня пускай да воза, да **калхоза** (298) — возу, калхозу. І ў зборніку ёсьць ля возу, ля калхозу (306). У страха вочы вялікія (213) — у страху. Цяжкасьцяй (300) — цяжкасьцяў. Любві (296) — любові, любасьці. Ляці на гітлярат (310) — на гітляранят (як гусянят). Адзін другога думкі ведаюць (321) — адзін аднаго. На дзевяці шагах (336) — на дзевяцёх. Адна матка дванаццаць сыноў мае (328) — дванаццацёх. Ляцяць (153) — лятуць. Ва ўладзе (25) — у ўладзе. Ва ўсіх (43) — у ўсіх. Ва мне (50) — ува мне. Ва ўсе бакі (336) — на ўсе бакі. Вакол (333, у вадгадцы) — вокал. Воўка (246) — ваўка, што ёсьць і ў зборніку на б. 246. Дарованае (234) — дараванае. У ліпавым кусьце (340) — ліповым. Лапці плясьці (141) — плесьці; з такім жа націскам ёсьць гэтая форма і ў зборніку на бач. 166. Сышоўся (112) — зышоўся. Гара з гарой ня сходзіцца, а чалавек з чалавекам сойдзецца (219) — зыйдзецца. Я запісаў: Гара з гарой ня зыйдзецца, а чалавек з чалавекам зыйдзецца. Ар. Цюрма (218) — турма, што ёсьць і ў зборніку на бач. 288.

**Сынтаксычныя рысы расейскія.** У мове беларускай назовы асобаў ніякага й жаноцкага роду маюць у прымальным (вінавальным, адказуе на пытаньні каго — што?) склоне множнага ліку форму аднолькавую із склонам назоўным. Гэтыя-ж формы ёсьцека і ў творах зборніку Рапановічавага. Прыкл.: Гадаваў воўк дзеці, а не з кім старэці (73); Гадавала сава дзеці, ды няма на што глядзеці (73); І на тым сьвеце водзяць дзеўкі дзеці (252); Даў Бог **дзеці,** ды няма дзе дзеці (75); Гадуй **дочкі,** а сам хадзі без сарочкі (73). Але гэтулькі-ж, калі ня болей, у зборніку Рапановічавым ёсьць формаў расейскіх ад назоваў асобаў ніякага й жаноцкага роду ў менаваным склоне мн. л. Вось яны: Багатаму чорт **дзяцей** калыша (12); квас **дзяцей паеў (39);** Курця **дзяцей** зьбірае, а квас разганяе (41); І сава сваіх **дзяцей** хваліць (78).

Таксама ў мове беларускай назовы жывёлы ўсіх радоў маюць у прымальным склоне мн. л. форму аднолькавую із склонам назоўным. Часткова ёсьць гэта і ў разгляданым збронiку. Прыкл.: Пайшоў у рай **авечкі** пасьвіць (170); Пастух **авечкі** штодзень лічыць, а такі воўк бярэ (229); Не з тваім носам **мышы** лавіць (204). Але побач форма расейская: Не з сваей галавой **ракаў** лавіць (204). І на іншых мясцох сустракаюцца формы расейскія: Цягаў воўк **авечак** — пацягнулі й ваўка (28); Холадна ў хаце, хоць **ваўкоў** ганяй (51); Добра паны гандлявалі: слугі на **сабак** мянялі (15) і інш.

Пад уплывам рас. **или,** што ўжываецца й там, дзе блр. **ці,** і там, дзе блр. **або, альбо,** стрэлася ці ў значэньню **або.** У рэзгінях носяць сена каровам **ці** коням (157, ужыта аўтарам). **Ці** ужываецца, калі два або колькі складоў проказі ўзаемна сябе вылучаюць. Прыкл. Ці п'яны, ці дурны, ці ашалелы. **Або, альбо** ўжываецца, калі такога вылучэньня няма. Прыкл.: Прыдзі ў панядзелак або ў сыботу. Знач. няма розьніцы, каторага з гэтых дзён прыдзеш.

На бач. 343, у назове падразьдзелу ёсьць **жывёлы** зам. **жывёла,** бо гэта слова ня мае мн. л.

Надта кідаецца ў вочы частае ўжываньне **ды** ў значэньню злуча **але,** тым часам **але** ў значэньню злуча надта рэдка сустракаецца ў зборніку Рапановічавым. Прыкл.: Смачны жабе арэх, **ды** зубоў Бог ня даў (270); гэтая прыказка запісана у мяне гэтак: Смачны жабе арэх, **але** зубоў Бог ня даў. М. Такое рэдкае ўжываньне **але,** а частае ўжываньне замест яго **ды** ёсьць таксама рас. уплывам, бо ў мове рас. ёсьць злуч **да.**

Ня трэба думаць, што ўсе менаваныя русыцызмы ёсьць у беларускай народнай або ў літаратурнай мове: у ваднэй і ў другой іх і дваццатай часьці няма. Лучылі яны ў друк пры запісаваньню. Калі запісаваньнік, знаючы

мову расейскую, ня знаў беларускай, а гэтак найчасьцей бывала, — дык, зразумеўшы значэньне прыказкі або прымаўкі і недачуўшы слова беларускага, замест яго пісаў расейскае. А бывала й так, што тыя «простыя» Беларусы, у каторых народныя творы запісвалі, чуючы, што запісаваньнік гавора парасейску, тарнаваліся да яго, русыфікуючы, колькі маглі, сваю мову. Запісваючым-жа здавалася, што яны чуюць чыстую беларускую мову. Не без таго, што некаторыя запісаваньнікі сьведама ўводзілі русыцызмы. Наколькі ў даным прыпадку была праведзена сьведамая русыфікацыя выдавецтвам (бо ў БССР гэтак бывае) або рэдактарам, або аўтарам, цяжка сказаць, ня ведаючы, якія творы былі беспасярэдна запісаны з вуснаў народу, а якія й скуль былі выпісаны, ды месца-ж запісаў ведама надта агульна («заходняя Беларусь»). Тое, што русыцызмы былі сьведама памешчаны ў разгляданым зборніку, насоўвае вялікае падазрэньне, што прынамся ладная часьць іх была сьведама ўнесена пры рэдагаваньню.

**Правапісным** русыцызмам ёсьць пісаньне **еш** (заг. лад ад ем — есьці), значыцца із **ш** зам. із **ж.** Што тут ёсьць **ж,** сьветча таксама слова «ежа».

Трэба зацеміць, што найчасьцей русыцызмы сустракаюцца ў пакастрычніцкіх прыказках і прымаўках. Прычына, відавочна, тая, што яны ў вялікай бальшыні штучныя. У загадках-жа, можна сказаць, русыцызмы ёсьць блізу толькі ў вадгадках і ў падразьдзеле пятым (тэхніка), дзе маем загадкі пра камбайны і пад., відаць, таксама штучныя.

### Палянізмы

Чаму той не кавалер, хто **загарак** мае (160) — гадзіньнік.

**Жычлівага** ў няшчасьці пазнаеш (195) — зычлівага. **Упартая** каза — ваўку сьнеданьне (213) — упорная. Дзе сваё вока недабача, там **ворак** плача (229) — мех, мяшок, мяшэчак, капшук, каліта. Людзей ня турбуй (256) — не парушай.

### Варыянты

Мо ня лішне будзе прывесьці да некаторых беларускіх твораў, зьмешчаных у зборніку Рапановічавым, запісаныя або выпісаныя мною варыянты.

Бабіных ігруш ня руш; свае трасі і бабе нясі (109) — Ня руш бабіных ігруш; свае трасі і бабе нясі.

Наш Васіль на работу бязь сіл, а клёцкі за чатырох жарэ (122) — Наш Васіль на работу нясіл (336). «А клёцкі за чатырох жарэ», не належа да прыказкі. Гэта, відавочна, дадана пры канкрэтным прыпадку.

Рукі залатыя, ды горла ўсё **пажрала** (124) — пажэрла. Мой запіс: Ручкі залатыя, але горла смаляное. Ар.

Што ў цьвярозага на **вуму,** тое ў п'янага на **языку** (127) — на уме, на языццэ. Ар. Лепей у сваіх людзях з голаду памерці, чым на чужыне золата зьбіраць (133) — Валей у сваіх людзёх з голаду ўміраць, як у чужых золата зьбіраць. Дубейкаўскі.

Мякка сьцеле, ды **цьвёрда** спаць (148) — мулка. На вуснах мёд, а на сэрцы лёд. Іг.

Перад сабой кінеш — за сабой знойдзеш (209) — Кінь перад сабой — знойдзеш за сабой. Ар.

Усе бабры дабры, адна выдра ліхая (213) — Усе бабры дабры, адна выдра — ліха яе бяры. НСБ, 17.

Дзе няняк многа, там дзіця бяз носа (220) — Дзе няняк многа, там дзіця бязнога. Іг.

Не да парасят сьвіньні, калі яе **на агонь цягнуць** (261) — смаляць. Дубейкаўскі.

На беднага Макара ўсе шышкі **сыплюцца** (258) — валяцца.

Не далёка ідаць, ды далёка дыбаць (261) — Відаць, але далёка дыбаць. Ар.

Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца (вішня, 355) — Чырвоны колер, вінны смак, каменна сэрца, чаму так? Ар.

**Што можна сказаць пра разгледжаную кніжку Рапановічаву як цэласьць?**

Адно можна сказаць — у ёй маем дарагое каменьне каторага часьць зьмешана з брудам, а з другой часьці й самі каменьчыкі забрудзянелыя. Хто будзе карыстацца ёю някрытычна, той і сам забрудзяніцца; хто ўзумее выбраць або ачысьціць дарагія каменьчыкі, той скарыстае.

Дзе прычына, што так сталася, і дзе наагул прычына таго, што гэтак часта робіцца зь іншымі беларускімі скарбамі ў БССР? Першая прычына ў тым, што Беларусь паняволена Масквою, каторая беспасярэдна і праз свае агентуры ў Беларусі праводзе нішчэньне ўсяго беларускага. Але не бязь віны й аўтар.

З бальшынёй іншых выданьняў у БССР яшчэ гарэй. Зь іх адна шкода. Масква беларускім коштам сыстэматычна шкодзе народу беларускаму.

**Праф. Я. Станкевіч**

## СКАРАЧЭНЬНІ

Ар. — Сяло Арляняты Крэўскае вол. Ашмянскага пав.
Барн. — Баранавіцкі пав.
блр. — беларуская.
Вк. — Ваўкавыскі пав.
Войш. — Сяло Войштавічы Вішнеўскае вол., Валожынскага пав.
Дубейкаўскі — Kvietka Vitan —Lavon Vitan — Dubiejkauski, u Niu Jorku 1954.
Іг. — Ігуменскі пав.
Л. Б. — M. Federowski — Lud Białoruski, IV, u Varšavie 1935.
М. — Менскі пав.
НКП — Н. Никифоровскій (Записки С—З Отд. имп. рус. геогр. о-ва кн. 2, 1911).
НСБ — Сборник белорусских пословиц, составил І. І. Носович, у Пецярбурзе 1874.
НСл. — Слоўнік Насовічаў.
Пархв. — Пархвенава ля Докшыцаў Вялейскага пав.
пр. — прыраўнуй.
Ск. — Сакольскі пав.
Сл. — Слонімскі пав.
Укропава Мл. — Сяло Укропава Маладзечанскага пав.

## ЗЬМЕСТ



## CONTENTS

БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ ІНСТЫТУТУ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР

## I. ПЭРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **«Беларускі Зборнік»,** | кніга | 1, | 1955, | 162 | бач. |
| | „ | 2, | 1955, | 202 | „ |
| | „ | 3, | 1955, | 202 | „ |
| | „ | 4, | 1956, | 197 | „ |
| | „ | 5, | 1956, | 199 | „ |
| | „ | 6, | 1956, | 177 | „ |
| | „ | 7, | 1957, | 173 | „ |
| | „ | 8, | 1957, | 178 | „ |
| | „ | 9, | 1958, | 180 | „ |
| | „ | 10, | 1959, | 205 | „ |
| | „ | 11, | 1959, | 144 | „ |
| **„Belorussian Review“,** | No. | 1, | 1955, | 136 | p. |
| | No. | 2, | 1956, | 146 | „ |
| | No. | 3, | 1956, | 166 | „ |
| | No. | 4, | 1957, | 176 | „ |
| | No. | 5, | 1957, | 142 | „ |
| | No. | 6, | 1958, | 134 | „ |
| | No. | 7, | 1959, | 148 | „ |
| | No. | 8, | 1960, | 112 | „ |

## II. МАНАГРАФІІ

1. Н. Недасек. Большевизм на путях установления контроля над Белоруссией, 1954, 68 бач.
2. Мікола Волаціч. Беларускае народнае ткацтва й яго зьнішчэньне бальшавікамі, 1955, 200 уач.

3. Ант. Адамовіч. Якуб Колас у супраціве саветызацыі, 1955, 62 бач.

4. Ян Станкевіч. Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі, 1956, 185 бач.

5. Н. Недасек. Большевизм в революционном движении Белоруссии, 1956, 152 бач.

6. Мікола Куліковіч. Беларуская савецкая опэра, 1957, 126 бач.

7. Г. Няміга. Інстытут Беларускай Культуры — Беларуская Акадэмія Навук — Акадэмія Навук Беларускай ССР, 1957, 162 бач.

8. Ул. Глыбінны. Доля беларускай культуры пад Саветамі, 1958, 162 бач.

9. Ant. Adamovich. Opposition to Sovietization in Belorussian Literature (1917—1957), 1958, 204 pp.

10. Ul. Hlybinny. Vierzig Jahre Weissruthenischer Kultur unter den Sowjets, 1959, 145 S.